# Ад падання да рамана

ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ ЧЭШСКАЙ ПРОЗЫ
XIX — ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XX СТАГОДДЗЯ



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# *Ад падання да рамана*

---

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ ЧЭШСКАЙ ПРОЗЫ XIX — ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XX СТАГОДДЗЯ

ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК
ДЛЯ СТУДЭНТАЎ
ФІЛАЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА

Мінск
«Выдавецкі цэнтр БДУ»
2010

УДК 821.162.3.09"8/19"-3(0.75.8)
ББК 83.3(4Чех)я73
А28

Складальнік, перакладчык з чэшскай мовы і аўтар каментарыяў
Н. Б. Рашэтнікава

Рэкамендавана
Вучоным саветам філалагічнага факультэта
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта
4 лютага 2010 г., пратакол № 4

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук, праф. *Л. Д. Сінькова;*
д-р філал. навук, праф. *Г. К. Тычко*

**Ад падання** да рамана. Выбраныя творы чэшскай прозы XIX —
А28 першай паловы XX стагоддзя : вучэб. дапам. / склад., пер. с чэш. мовы, аўт. камент. Н. Б. Рашэтнікава. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2010. — 163 с.
ISBN 978-985-476-778-9.

Вучэбны дапаможнік утрымлівае асноўныя звесткі пра чэшскую прозу XIX — першай паловы XX стагоддзяў, біяграфічныя звесткі і агляд творчасці выдатных чэшскіх пісьменнікаў, мастацкія творы ў перакладзе на беларускую мову.
Адрасуецца выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў, а таксама ўсім, хто цікавіцца прыгожым пісьменствам чэшскага народа.

**УДК 821.162.3.09"8/19"-3(0.75.8)**
**ББК 83.3(4Чех)я73**

**ISBN 978-985-476-778-9**

# ПРАДМОВА

Вучэбны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў створаны згодна з праграмай курса "Гісторыя чэшскай літаратуры". У ім змешчаны сістэматызаваныя звесткі пра развіццё чэшскай прозы ў XIX — першай палове XX стагоддзя.

Дапаможнік складаецца з аглядавага артыкула (дзе чэшская проза разглядаецца як самабытнае нацыянальнае мастацкае слова на фоне культурна-гістарычнага працэсу), хрэстаматыйнай часткі — мастацкіх тэкстаў, а таксама каментара. Перад кожным тэкстам даюцца асноўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, вызначаецца месца канкрэтнага твора ў творчасці мастака слова.

Адбіраючы тэксты для перакладу, аўтар-складальнік і перакладчык імкнуўся паказаць жанравую і тэматычную разнастайнасць прозы ў чэшскай літаратуры XIX — першай паловы XX стагоддзя, ад падання і легенды да рамана.

У вучэбным дапаможніку ў перакладзе на беларускую мову прадстаўлены вяршынныя дасягненні чэшскай літаратуры, значэнне якіх у стварэнні нацыянальнай традыцыі ў развіцці празаічных жанраў нельга пераацаніць.

# ЧЭШСКАЯ ПРОЗА ХІХ-ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ ХХ СТАГОДДЗЯ

Своеасаблівасць развіцця прозы ў чэшскай літаратуры XIX стагоддзя праявілася ў тым, што мастацкія творы на нацыянальнай мове з'явіліся ў друку прыкладна ў адзін час з перакладамі на чэшскую мову. Значны ўнёсак у гэтым кірунку належаў выдатнаму паэту і філолагу Ёзафу Юнгману (1773—1847). Аўтар пяцітомнага "Чэшска-нямецкага слоўніка" (1834—1839), "Гісторыі чэшскай літаратуры" (1825) пераклаў на родную мову "Страчаны рай" Мільтана, "Аталу" Шатабрыяна, "Ленору" Бюргера. Ідэалам Юнгмана была літаратура, якая адпавядала высокім мастацкім патрабаванням, ён называў яе "класікай" і марыў пра з'яўленне нацыянальнай класічнай літаратуры. Асаблівае значэнне меў пераклад аповесці Шатабрыяна "Атала", асноўны пафас якой быў скіраваны на адраджэнне манархіі, скасаванай падчас Вялікай французскай рэвалюцыі, і каталіцкай веры. Юнгман-перакладчык імкнуўся глыбока перадаць ідэйны змест твора Шатабрыяна, своеасаблівасць мастацкіх сродкаў выразнасці, такіх як рытмічнасць інтанацыі, слоў і вобразаў, што нагадвалі стыль Бібліі.

У хуткім часе пасля з'яўлення друку "Аталы" Шатабрыяна ў перакладзе Юнгмана быў надрукаваны раман Ёзэфа Лінды "Світанне над паганскім светам" (1818). Падзеі ў творы адбываюцца ў часы змены паганства хрысціянствам. Язычніцкі і хрысціянскі светы адлюстраваны мастаком слова як вялікія каштоўнасці, дзе язычнік Балеслаў увасабляе славянскую самабытнасць, а хрысціянскі князь Вацлаў IV — маральныя каштоўнасці. Твор Ёзэфа Лінды засведчыў сталасць айчыннай мовы, майстэрства пісьменніка, які шырока выкарыстаў у рамане жанр песні, а таксама звярнуўся да старославянскай мовы.

Гістарычную тэматыку, якую распачаў у чэшскай прозе Ёзэф Лінда, працягнуў у першай палове XIX стагоддзя Вацлаў Клімент Кліцпера аповесцю "Точнік" (назва замка каля горада Жэбрак). Кліцпер у сваім творы таксама звярнуўся да перыяду праўлення Вацлава IV. Узорам для прозы пісьменніка (Кліцпера — вядомы драматург) былі раманы англічаніна Вальтэра Скота. Англійскай прозай XVIII стагоддзя, у прыватнасці творчасцю С. Рычардсона, захапляўся Францішак Ярамір Рубеш (1814—1853). У сваіх навелах "Пан амануэнсіс у правінцыі, або Падарожжа за навелай" (1842), "Гарфеніца" (1849) пісьменнік звяртаўся да праблем чалавечай асобы, асвятляў стасункі паміж людзьмі, дакладна апісваў побыт.

Да трыццаітых гадоў XIX стагоддзя паэзія мела перавагу перад прозай. Але калі ў цэнтры ўвагі мастацкага слова стаў чалавек як асоба, мастацкая проза ўзвысілася і стала поруч з паэзіяй. Гэта наглядна праявілася ў творчасці Ёзэфа Каетана Тыла (1808—1856) і Карэла Гінэка Махі (1810—1856). Характэрнай асаблівасцю чэшскай прозы XIX стагоддзя з'яўляецца той факт, што выдатныя празаікі былі выдатнымі паэтамі і драматургамі (Маха, Нэруда, Галек, Чэт, Зэер). Ёзэф Каетан Тыл распачаў у чэшскай літаратуры жанры апавядання і аповесці. Творы аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў рамантызму ў чэшскай літаратуры былі прасякнуты пафасам патрыятызму.

Так, у рамане "Апошні чэх" (1845) пісьменнік стварыў вобраз патрыёта, якога любіць і шануе народ. Для гэтага твора Тыла, як і для іншых, характэрна ідэалізацыя вобраза-персанажа, адлюстраванне ўнутранай барацьбы ў душы героя (напрыклад, паміж пачуццём абавязку і пачуццём кахання).

Эпоху рамантызму ў чэшскай літаратуры XIX стагоддзя нельга сёння ўявіць без творчасці Карэла Гінэка Маха, які пашырыў жанравую палітру ў прозе, стварыўшы ў чэшскай літаратуры аповесць-эцюд, творы ў форме дзённіка. Пісьменніка захапляла гістарычная тэматыка, і ён задумаў стварыць тэтралогію пра гусіцкую эпоху. Аповесць "Кршываклад" (1834) з'явілася першай закончанай часткай цыкла твораў пад агульнай назвай "Кат". Апавяданне "Віясіл Віясіловіч" таксама прымыкае да гэтай гістарычнай эпохі. Падзеі ў творы адбываюцца ў 1422 годзе, калі чэхі прынялі рашэнне каранаваць на чэшскі трон аднаго з літоўскіх князей, які прыйшоў на дапамогу пражанам. Проза Карэла Гінэка Махі з'явілася адной з мастацкіх вяршынь у чэшскім прыгожым пісьменстве.

Значны след у чэшскай прозе пакінуў Карэл Сабіна (1813—1877), вядомы літаратуразнаўца і літаратурны крытык, аўтар лібрэта оперы Бедржыха Сметаны "Прададаная нявеста". Вялікай папулярнасцю ў чытачоў карысталася аповесць "Магільшчык", створаная празаікам-рамантыкам.

Карэл Гаўлічак Бароўскі (1821—1856), выдатны паэт і публіцыст, распрацоўваў у чэшскай прозе публіцыстычныя жанры, такія як фельетон, нарыс, падарожныя нататкі і інш. Проза пісьменніка вылучалася глыбокай аналітычнасцю і сацыяльнай завостранасцю. Падарожныя нататкі "Карціны з Расіі", дзе адлюстраваліся ўражанні Карэла Гаўлічка Бароўскага ад наведвання Расіі (1843—1844), напоўнены гумарам, іроніяй і сарказмам.

Пяру выдатнага фалькларыста, этнографа, паэта і празаіка Карэла Яраміра Эрбэна (1811—1870) належыць вяршыннае дасягненне чэшскай літаратуры ў галіне паэзіі — паэтычны зборнік "Кветкі" ("Kytyce"), выдадзены ў 1853 годзе. Адна з асноўных прац Эрбэна-фалькларыста — гэта "Народныя чэшскія песні", якія выходзілі ў трох частках (з 1842 па 1845 гады). У 1870 годзе Карэл Ярамір Эрбэн збіраўся выдаць кнігу чэшскіх казак (асобныя творы выйшлі з друку раней). Акрамя збору і апрацоўкі народных казак Эрбэн пісаў казкі. Яго казкі, глыбокія па сэнсу, яркія і па-мастацку вобразныя, могуць успрымацца як прыпавесці.

Цэнтральнае месца ў чэшскай прозе XIX стагоддзя займае творчасць Бажэны Немцавай (1820—1862). Яна аўтар шматлікіх аповесцей, нарысаў, падарожных нататак, казак. Вялікае значэнне мае эпісталярная спадчына пісьменніцы. Бажэна Немцава распачала свой творчы шлях у галіне прозы з літаратурнай апрацоўкі народных казак, са стварэння нарысаў, якія пазней увайшлі ў кнігі "Карціны з ваколіц Дамажліц" (1845—1847), "З Дамажліц" (1847), "Лісты з Францішкавых Лазняў" (1846). Тры асноўныя тэмы, што хвалююць чэшскіх пісьменнікаў у гэты перыяд, знайшлі адлюстраванне ў творчасці Бажэны Немцавай: лёс нацыі, маральнае здароўе народа, сацыяльная няроўнасць і неад'емнае ад яе пытанне пра справядлівыя

грамадскія ўзаемаадносіны. Менавіта гэтыя тэмы адлюстраваны ў аповесцях "Барунка", "Разарка", "Карла", "Бедныя людзі", рамане "Вёска ў гарах" і інш.

У 1855 годзе з друку выйшла аповесць "Бабуля" — вяршыннае дасягненне ў творчасці Бажэны Немцавай. Гэты твор з'яўляецца патрыятычным эпасам чэшскага народа, у ім адлюстравана тое найбольш значнае і існае, што вызначае ментальнасць нацыі.

Развіццё прозы ў чэшскай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя звязана з імем Яна Нэруды (1834—1891), выдатнага паэта, празаіка і публіцыста. Жанравая палітра прозы пісьменніка дастаткова шырокая: эсэ, замалёўкі, нарысы, фельетоны, апавяданні, аповесці. Ян Нэруда распрацаваў у чэшскай літаратуры жанр раманета. Поспех Нэрудзе-празаіку прынеслі зборнікі "Арабескі" (1864) і "Маластранскія апавяданні" (1878), дзе аўтар звярнуўся да амаль не кранутай у нацыянальнай літаратуры тэмы горада.

Поруч з Янам Нэрудай з вялікім поспехам працаваў у галіне прозы Віцезслаў Галек (1835—1874). Апавяданні і аповесці Галека былі прысвечаны жыццю чэшскай вёскі з усімі характэрнымі для яе сацыяльнымі супярэчнасцямі і канфліктамі. Як у паэзіі (В. Галек — выдатны паэт і публіцыст), так і ў прозе аўтар праводзіць чырвонай ніткай думку пра тое, што для чалавека найлепшым з'яўляецца сувязь з прыродай, жыццё на ўлонні прыроды. Калі парушаецца гармонія ва ўзаемадачыненнях чалавека і прыроды, то гэта вядзе да разбурэння маралі, знішчае чалавека ў чалавеку. Такая логіка развіцця падзей у апавяданнях і аповесцях "Музыкантава Лідушка" (1861), "Наш дзядуля" (1863), "У маёнтку і ў хаце" (1871) і інш.

Да тэмы вёскі звярталася вядомы аўтар апавяданняў, гумарэсак, нарысаў і раманаў Караліна Светла (1830—1899). Папулярнасць у чытачоў пісьменніцы прынёс "Вясковы раман" (1867) і жартоўная гумарэска "Губічка" (1871), сюжэт якой лёг у аснову лібрэта оперы Б. Сметаны. Стваральніцай чэшскага вясковага рамана называў Ян Нэруда Караліну Светлу і сцвярджаў, што пасля Бажэны Немцавай не было ў чэшскай літаратуры такога пісьменніка, які б так ярка намаляваў вобраз свайго сучасніка ў драматычны момант яго жыцця.

Караліна Светла нарадзілася ў Празе і шэраг твораў прысвяціла дарагому яе сэрцу гораду. Гэта раманы "Першая чэшка" (1861), "Каралева званочкаў" (1872) і акрамя іх апавяданні, нарысы і ўспаміны.

Творчасць выдатнага паэта і празаіка Сватаплука Чэха (1848—1908) — новая старонка ў развіцці чэшскай прозы XIX стагоддзя. Распачаў празаік сваю творчасць з фельетонаў, гумарэсак і арабесак. Лепшыя празаічныя творы Сватаплука Чэха — фантастычныя аповесці "Падарожжа пана Броўчка на Месяц" (1878), "Новае эпахальнае падарожжа пана Броўчка — на гэты раз у XV стагоддзе" (1889), дзе сучаснасць спалучана з эпохай гусіцтва. Пазней тыпізаваны вобраз малога чалавека пісьменнік скарыстаў у крытычнай літаратуры ("Разнастайныя шляхі па Чэхіі ў творах Мацея Броўчка і яго паплечнікаў" (1891), "Мацей Броўчык на выставе"(1892)). Вылучаецца ў творчасці Сватаплука Чэха яго аўтабіяграфічная проза, дзе аўтар звярнуўся да гадоў дзяцінства і юнацтва.

Сапраўдным паэтам Шумавы, цудоўнай мясцовасці на паўднёвым захадзе Чэхіі, быў Карэл Клостэрман (1848—1923). Вядомасць пісьменніку прынеслі апавяданні, раманы, мемуары, хоць ён актыўна працаваў і ў публіцыстыцы, ствараў бліскучыя фельетоны, падарожныя нататкі, нарысы. Вялікім поспехам у чытачоў карысталіся раманы К. Клостэрмана "У свеце лясной самоты" (1892), "У шумаўскім раі" (1893).

Якуб Арбес (1840—1914) вызначыўся ў чэшскай літаратуры, працуючы ў жанры раманета. Назву жанра празаічнага твора сярэдняй формы (каля 100 старонак) прыдумаў Ян Нэруда, калі ў сваім выдавецтве ў 1873 годзе збіраўся надрукаваць "Святога Хаверыуса" Арбеса. Сюжэт раманета сваёй напружанасцю і таямнічасцю ў нечым нагадваў творы амерыканскага пісьменніка Эдгара По. У сваёй далейшай творчасці Якуб Арбес развіваў вызначаны жанр. Да ліку лепшых раманета пісьменніка можна аднесці "Шэравокага дэмана" (1873), "Святога Ксаверыя" (1873), "Мозг Ньютона" (1877). Паспяхова Якуб Арбес працаваў у розных публіцыстычных жанрах.

Юліус Зэер (1841—1901), паэт, празаік, драматург, перакладчык захапляўся антычнай міфалогіяй, Бібліяй, культурай Усходу. Адсюль своеасаблівая тэматыка яго твораў, якія вызначаюцца глыбінёй і вастрынёй пастаўленай праблемы, шырынёй асацыяцый, філасафічнасцю і псіхалагізмам. Трыпціх "Тры легенды пра ўкрыжаванне", раманы "Онупрэй Чарнышоў", "Раман пра вернае сяброўства Аміса і Аміла", "Ян Марыя Плойгар" прынеслі празаіку заслужаную вядомасць і славу.

Майстрам жанра гістарычнага рамана ў чэшскай літаратуры XIX стагоддзя з'явіўся Алоіс Ірасек (1851—1930). Пісьменнік стварыў шэраг гістарычных раманаў, дзе адлюстраваны розныя перыяды гісторыі чэшскага народа. Папулярнасць Ірасеку прынеслі гістарычныя хронікі "Паміж плынямі" (1887—1890), "Супраць усіх" (1893), а таксама кніга "Даўнія чэшскія легенды і паданні", у якой змешчаны мастацкія апрацоўкі міфаў, легенд і паданняў, а таксама арыгінальныя творы пісьменніка.

Развіццю прыгожага пісьменства чэшскага народа ў першай палове XX стагоддзя садзейнічала агульная атмасфера ў палітычным, сацыяльным і культурным жыцці краіны. У 1918 годзе ўзнікла Чэхаславацкая рэспубліка. Магчыма таму перыяд з 1918 года па 1938 год лічыцца найбольш паспяховым у далейшым станаўленні нацыянальнай чэшскай літаратуры, якая дасягнула ў XIX стагоддзі сусветнага ўзроўню. Ужо на пераломе стагоддзяў адбыліся падзеі, якія паўплывалі на паскоранае развіццё літаратуры і культуры. У 1890 годзе распачала працу Акадэмія навук і мастацтва, адкрылася філармонія, дзе першы канцэрт дырыжыраваў Антанін Дворжак. У Празе ў гэты час жыў і тварыў французскі скульптар Аўгуст Радэн. З друку выходзіць манументальны навуковы слоўнік Ота (1908), распачынае працу самастойны чэшскі універсітэт, дзе працуюць выдатныя навукоўцы, у тым ліку і філосаф, сацыёлаг Т. Г. Масарык.

Перыяд 1918—1938 завяршае эпоху нацыянальнага адраджэння, якая распачалася ў пачатку XX стагоддзя і прайшла праз усё стагоддзе, фактычна ад Маха да маніфеста чэшскага авангарду.

У чэшскай прозе першай паловы XX стагоддзя асаблівае месца належыць раману. Сярод твораў гэтага жанру вылучаюцца раманы Геды Вчэлічка, Карэла Новага, Івана Ольбрахта, Карэла Конрада, Уладзіслава Ванчуры, Марыі Пуйманавай, Марыі Маёравай і інш. Празаікі імкнуліся на шырокім гістарычным матэрыяле асэнсаваць шлях, што прайшоў народ, узняць праблемы дня сённяшняга. Вялікія эпічныя творы вызначаліся жанравай і стылістычнай разнастайнасцю. Сярод іх рэалістычныя творы і авангардныя, напрыклад, трылогія Марыі Пуйманавай (1893—1958), першы раман з якой напісаны пад уплывам творчасці Марселя Пруста.

Сатырычны раман Яраслава Гашака (1883—1923) "Прыгоды ўдалага ваяра Швейка падчас сусветнай вайны" (1921) — гэта і сатыра, і эпапея, і містыфікацыя. Яраслаў Гашак працаваў над сваім творам на працягу двух гадоў, будучы цяжка хворым, але так і не завяршыў раман.

Вяршынным дасягненнем чэшскай прозы ў жанры рамана з'яўляецца твор Карэла Чапека "Вайна з саламандрамі" (1936), дзе грамадскі і палітычны пафас спалучаны з сацыяльна-фантастычнай сатырай.

Такім чынам, выдатныя празаікі XX стагоддзя паспяхова ўмацоўвалі і развівалі традыцыі чэшскай літаратуры XIX стагоддзя, вызначаючы перспектывы яе развіцця.

## КАРЭЛ ГІНЭК МАХА
## (1810—1836)

Паэт, празаік, драматург

Карэл Гінэк Маха, выдатны мастак слова, пачынальнік рамантызму ў чэшскай літаратуры, заставаўся рамантыкам, як сведчаць сучаснікі творцы, не толькі ў прыгожым пісьменстве, але і ў жыцці.

Маленства і юнацтва Карэла Гінэка Махі прайшло ў Празе, дзе ён нарадзіўся 16 лістапада 1810 года. Ён вывучаў філасофію, служыў акторам у аматарскім тэатры Ёзафа Каэтана Тыла, працаваў адвакатам у Літамержыцах.

Карэл Гінэк Маха захапляўся гісторыяй свайго края, любіў падарожжы, з задавальненнем наведваў замкі і грады.

Пісаць пачаў падчас навучання ў гімназіі, першыя вершы датуюцца 1829 годам. Самы значны лірычны твор — ліра-эпічная паэма “Май” (1835) — створаны пад уплывам творчасці выдатнага англійскага паэта-рамантыка Джорджа Гордана Байрана.

Сярод празаічных твораў вылучаецца адзіны раман творцы “Цыганы” (1835), аповесці і апавяданні на гістарычную тэму. Аповесць “Кршываклад” (1834) з’яўляецца першай часткай задуманай аўтарам тэтралогіі, дзея якой адбываецца ў эпоху Вацлава VI. Менавіта гэты час адлюстраваны і ў апавяданні “Віясіл Віясіловіч”. На жаль, заўчасная смерць творцы (падчас эпідэміі халеры) не дала магчымасці Карэлу Гінэку Маху здзейсніць задуманае. Шмат засталося накідаў, незавершаных твораў.

## Віясіл Віясіловіч

Не плачце па памерлым і не шкадуйце яго, але абавязкова плачце па тым, хто памірае, бо ён ужо не вернецца, каб паглядзець на зямлю, дзе нарадзіўся. Калі ён пакідае радзіму, то не вернецца болей, а на месцы, якое ён успрыме ўсёй душой, ён памрэ.

*З прарока Ерамія*

Сілай народа ўзноўлены,
Крывёй кожны меч напоены,
Толькі калі кроў пралілася дарэмна,
Не зможаш меч дастаць з ножнаў ніколі.

*Чэшскі Аляксандр*

### I

Пасля смерці караля Вацлава IV у Чэхіі пачаліся жудасныя міжусобныя баі, і кроў пралілася не толькі за веру, прычынаю вайны быў і запавет караля. Адны хацелі бачыць каралём Зігмунда, брата Вацлава, другія — Карыбута, брата князя літоўскага, а былі і такія, хто зусім не хацеў мець аніякага караля і лічыў, што вольны народ не павінен падпарадкоўвацца каралю. Па ўсёй краіне, адтуль, дзе бярэ свой пачатак Влтава, аж да Крканошскіх гор чуўся страшны голас вайны, і чэшская зямля, нібы Медэя, ганарылася варожасцю сваіх дзяцей, і не было начы, каб не ўзвілося да неба рудое полымя пажару, і не мела значэння, што гарыць, манастыр або вёска ці цэлы горад — усё, падпаленае ворагам, ператваралася ў попел.

Перыяд ліхалецця распачаўся ў 1419 годзе і доўжыўся аж да 1436. Менавіта ў гэты час князь Карыбут прыехаў у Прагу разам са сваім ахоўнікам і братам, маладым Віясілам Віясіловічам, па запрашэнні жыхароў Прагі і прывёў з сабой 5000 літоўскіх вояроў, пасля чаго разам з жыхарамі розных чэшскіх гарадоў усе сабраліся на плошчы ў Празе, каб каранаваць караля. З гэтым не пагадзілася чэшская арыстакратыя, і калі народ супраць волі дваранства паспрабаваў абраць караля, арыстакраты ўзялі чэшскую карону разам з іншымі сімваламі каралеўскай улады ў Карлаў Тэйн, і тут распачалася вайна дваран з гараджанамі пад кіраўніцтвам Гедвіка і літоўскімі ваярамі пад кіраўніцтвам Карыбута і яго ахоўніка і брата Віясіла.

Было гэта ў 1422 годзе. Гучна прывітала зязюля ў цёмным лесе пад Карлавым Тэйнам цудоўную раніцу, велічна ўзышло сонца над гарамі, і Карлаў Тэйн асвятліўся светла-ружовым ззяннем, ранішняя пара ахутала мясцовую раку Бяроўнку, і ў дзікіх чародах праносіліся над цёмнымі вяршынямі гор, рассякаючы паветра моцнымі крыламі і гучна клічучы адзін аднаго, крумкачы, чулліва і цудоўна звінелі спевы чорных драздоў, усхваляючы раніцу. У гэты час два жыхары Прагі, якія былі ў аблозе вакол Карлава Тэйна, ляжалі пад разгалістым дубам у вялікім лесе. Яны адпачывалі пасля бою і размаўлялі.

— Павер мне, — сказаў першы, высокі барадаты мужчына, якога звалі Гара, — я так стаміўся знаходзіцца тут і ведаць, што кожную хвіліну рызыкую жыццём. І дзеля чаго? Таму, што хочам, каб Карыбут стаў каралём, але не маем кароны, каб яго каранаваць. Ён не можа быць каралём без каранацыі, і мы ўжо дастаткова доўга безвынікова тут здабываем яму ўладу. Калі ў яго ёсць жаданне стаць каралём, то няхай сядзіць у аблозе і здабывае сабе карону, а мы правільна зробім, калі вернемся дадому, да свайго закінутага рамяства.

На гэтыя словы другі, што, выціраючы свой меч, пільна азіраўся па баках, адказаў:

— Не трэба вагацца, калі мы аднойчы прынялі рашэнне, дык чаму цяпер павінны ад яго адмовіцца? Нельга адвяргаць чалавека, якога ўсе падтрымалі і абралі, нават жанчыны менш легкадумныя. Яшчэ вытрымаем некалькі атак, як учора, і калі Віясіл будзе гэтак жа мужна ваяваць, то Карлаў Тэйн схіліць перад Карыбутам сваю фанабэрлівую галаву і зразумее, што не можа быць каранаваным.

*Гара:* Калі мы будзем гэтак жа мужна абараняцца, як учора, то я ўпэўнены, што нас пасля кожнай атакі стане менш намнога, як і ўчора. Хацеў бы даведацца я, хто гэтая дзяўчына, што так смела распачала бой? Яна так упэўнена выйшла са сваёй праcткай, і ніводзін камень, пушчаны са зброі, не праляцеў міма, нават Віясілу ўвесь час даводзілася выгінацца, і ён, як я заўважыў, за ёю назіраў. Ён яе пакінуў без увагі толькі ля першай лініі бастыёна і з немалымі намаганнямі прымусіў адступіць да града, дзе яна саступіла сваё месца нейкаму незнаёмаму рыцару, хоць мог засячы яе сваім мячом. У хуткім часе яна з'явілася ля другой вежы, дзе знаходзіцца калодзеж, і заставалася там да таго часу, калі мы вымушаны былі адступіць, пасля таго як забілі некалькі вартавых.

На гэта другі, невысокі, каржакаваты мужчына з чорнай барадой на бледным твары:

— Гэта дачка Вілема з Басковіц, які знаходзіцца цяпер у замку, але ваюе яна, бо бацька стары і брацъ удзел у баі не можа. Яна смелая і дапякае нас добра, шчыра кажу, — яго чорныя вочы пад глыбокімі чорнымі бровамі запаліліся агнём. — Скажу табе яшчэ, што ўчора або яна апошняй пайшла з крэпаснай сцяны, або я з атакі апошнім вярнуўся, але ў наступную атаку я пайду толькі, каб на яе паглядзець, а калі ўбачу, то прымушу яе хавацца. І потым... Або я, або яна. Гэта табе кажа Гедвік!

Ён сціснуў меч у цвёрдых руках і, узняўшы вочы да неба, доўга стаяў, нібы паўтараў пра сябе словы сваёй страшнай клятвы. Гэта быў Ян Гедвік, кіраўнік пражан, які з зайздрасцю глядзеў на славутых ваяроў Віясіла і Іагану, дачку Басковіца, і не мог пражыць, што імя дзяўчыны ўзвысілася над яго імем.

— А потым, — звярнуўся ён зноў да свайго знаёмца, — калі яна загіне, доўга нам град супраціўляцца не будзе, бо яна з'яўляецца душой тых, хто знаходзіцца ў аблозе, і без яе град даўно быў бы ў нашых руках. Калі я загіну, то не дазваляйце сябе запалохаць, бо, як мне здалося, шмат прыпасаў град не

мае, і, знясіленыя голадам, яны будуць вымушаны аддаць град. А калі я памыляюся, то паабяцай мне (бо калі я загіну, то кіраўніком пражан будзеш ты, за выключэннем аднаго выпадку, калі ты загінеш раней за мяне), што дачакаешся зімы, якая ўжо недалёка.

Без слоў Гара падаў яму руку, і доўга яны так стаялі, кожны думаючы пра сваё.

Праз хвіліну Гара зноў пачаў размову:

— А калі загіне Карыбут? А раптам ён загіне раней за цябе?

*Гедвік:* Калі ён загіне, то тады мы адсюль пойдзем. Калі ён загіне пасля мяне, то пахавайце яго ў глыбіні лесу побач са мной, там, дзе на усход расце пяць дубоў, а потым спакой знойдуць у зямлі тыя, хто прыйшоў сюды па карону, бо даражэйшым за карону ў свеце з'яўляецца — мір.

Зноў на хвіліну ўсталявалася цішыня, і толькі ўдалечыні звінеў дрозд і зязюля клікала сябе з глыбіні лесу.

*Гара:* Сонца ўжо высока, мабыць, ужо каля сямі гадзін, трэба вяртацца на свае месца, бо невядома, ці прыйдзецца сёння ісці ў атаку да таго, пакуль не будзе праведзена разведка мясцовасці.

*Гедвік:* Так, учора пралілося шмат крыві, і неабходна, каб нашы людзі адпачылі, бо столькі начэй не мелі зусім, а за той час, як мы тут, не было дня, калі б можна было адпачыць. Паслухай, мне здалося, што нехта ідзе сюды.

Праз хвіліну пачуліся хуткія крокі і хруст кустоў, праз якія нехта ішоў, галіны разгарнуліся і з іх выйшаў Пракоп Оцік.

*Гедвік:* Што цябе прывяло сюды, Оцік? Можа, нешта здарылася ў аблозе або ты тут апынуўся выпадкова?

*Оцік:* Я шукаў вас, мне неабходна вам нешта паведаміць. Як толькі сонца ўзнялося высока, выйшлі тыя, хто знаходзіцца ў градзе, і павесілі на браме белы сцяг.

*Гедвік:* Ці не хочуць яны здаць град?

*Оцік:* Князь Карыбут паслаў мяне спытаць, што ім трэба, і я яму прынёс адказ, што яны хочуць перапынку, каб да іх маглі без пагрозы для жыцця прыйсці людзі. Тыя, хто прыйдзе, просяць сем дзён, каб дайсці.

*Гедвік* (*хутка і рэзка*): Значыць, ім дазволілі без майго ведама?

*Оцік:* Не, проста Карыбут адказаў, што раней хоча параіцца з табой, таму мяне і паслалі да вас, ведаючы, што вас тут у аблозе двое, таму Гедвік можа вярнуцца.

*Гедвік:* Застанься пакуль тут, я хутка да вас вярнуся.

Пайшоў.

Оцік сеў пад дубам побач з Гарой, выцягнуў бутэльку віна, ведаючы, што Гедвік хутка не вернецца. Ён пачаў рыхтаваць сняданак, на які Гару доўга запрашаць не прыйшлося.

*Оцік:* Веру, што тут, у аблозе, ніхто з сабой усё не носіць так, як гэта раблю я. Як толькі падумаю, што трэба паснедаць, дык мяне заўсёды некуды клічуць, таму і не маю хвіліны, каб паесці. Вось чаму заўсёды ўсё з сабой вымушаны мець, гэта мае правіла, і калі ёсць магчымасць, то снедаю, абедаю або вячэраю, бо бываюць дні, калі ўсё ем разам.

*Гара:* Віно ў цябе выдатнае. Дзе ты яго тут, у аблозе, дастаў?

*Оцік:* Нібыта не ведаеш, што я гандлюю віном. Цяпер не тут, а ў Празе, і таму мне з дома часта яго дасылаюць, бо ведаюць, што я не магу без віна, як рыба без вады.

У той час, калі Гара і Оцік размаўлялі, Гедвік набліжаўся да месца, дзе была аблога, здалёк ён бачыў Карлаў Тэйн, і з нейкім прыглушаным болем прамаўляў сам сабе:

— О колькі мы нарабілі памылак, бо лепш было б каранаваць свайго караля, чым насуперак свайму каранаваць іншага!

Ён напрасткі дайшоў да аблогі, увайшоў у княжацкі шацёр, дзе сядзелі Карыбут, Віясіл і сем візіцёраў з Карлава Тэйна. Карыбут, саракагадовы мужчына паважнай знешнасці, у дарагім убранні сядзеў пасярод шатра, за ім стаяў яго ахоўнік, малады Віясіл, высокі і моцны юнак, ён крыху сагнуўся, бо абапіраўся на меч, чорныя кучаравыя валасы абрамлялі яго твар, блакітныя вочы гарэлі цёмным агнём і глядзелі на аднаго візіцёра, які сядзеў у шлеме. Віясіл пазнаў яго адразу і не спускаў вачэй. З-пад шлема візіцёра выбіваліся русыя валасы, а вочы яго свяціліся промнямі яснага сонца. Ён здаваўся надзвычай маладым.

Пасля нядоўгіх перамоў перамір'е на сем дзён было заключана, і візіцёры накіраваліся ў град у суправаджэнні маладога Віясіла. Па дарозе Віясіл наблізіўся да візіцёра ў шлеме і зрабіў спробу сарваць шлем з яго галавы, але той ухапіўся за шлем абедзвюма рукамі са здзіўляючай хуткасцю і даў зразумець без слоў, што сарваць не ўдасца. Калі Віясіл вярнуўся ў шацёр, візіцёры дайшлі да града.

З таго часу Віясіл адчуў, што з ім адбываецца нешта незразумелае, і з сумам пазіраў на бераг хуткай Бяроўнкі.

На гэта была прычына. Віясіл у Празе закахаўся ў простую дзяўчыну, якая ўбачыла ў ім простага хлопца і таксама яго пакахала. У хуткім часе дзяўчына даведалася, што ён не звычайны юнак, а брат і ахоўнік князя Карыбута, абранага каралём Чэхіі, і, не маючы бацькоў, яна пайшла ў кляштар каля Збраслава, дзе ўжо знаходзілася адна яе сваячка, у кляштары дзяўчына прыняла пострыг, каб спрадвек служыць Богу.

Даведаўся пра гэта Віясіл, стаў часта туды ездзіць, шукаючы магчымасць яе вярнуць, аднак пра што прасіла яго Багдана (так звалася дзяўчына), ніхто не ведаў. І нават калі яна прыняла пострыг, ён працягваў туды ездзіць, каб толькі яе ўбачыць, але яму рэдка шчасціла. Адбывалася ўсё гэта ў адзін і той жа час, калі ішла барацьба за чэшскую карону. Аднойчы Віясіл вярнуўся з кляштара да аблогі, дзе брат паведаміў яму, што ў градзе адбудуцца ўрачыстасці і што ён разам з Гедвікам і некалькімі гараджанамі запрошаны туды. У багатым убранні яны прабылі там аж да ночы. Было а дзевятай гадзіне вечара, калі Іагана запрасіла Віясіла на крапасную сцяну. Над гарамі ўжо ўзышоў месяц, і дзяўчына са спачуваннем глядзела на бледны твар Віясіла. Вакол панавала цішыня, у аблозе не чулася галасоў, удалечыні шумела Бяроўнка. У хатах, сям-там раскіданых па раўніне, свяціліся вокны.

Віясіл і Іагана разам падышлі да студні ў вежы, не сказаўшы ні слова, і толькі тут яна, нягледзячы на тое, што ёй цяжка было пачаць размову, сказала:

— Віясіл, я не хачу далей захоўваць тайну пра тое, як Вы мне дарагі. Я давала Вам гэта зразумець, але дарэмна. Не думайце, што я ўбачыла Вас сёння ўпершыню. Не. Ужо з таго дня, як Вы з'явіліся ў Празе, і я ўбачыла Вас, я закахалася, і цяпер я сустрэла Вас перад Карлавым Тэйнам, убачыла, наколькі Вы мужны і смелы чалавек, і пакахала Вас яшчэ гарачэй, усёй сілай сваёй душы. Мяне спецыяльна пераапранулі ў юнака, калі нашы візіцёры былі ў вас, юнак са шлемам на галаве — гэта я. Мяне з маленства навучалі ваеннай справе, але маё пачуццё да вас не дае мне сілы для змагання, паколькі я ў Вас закахалася, цяпер ведайце, што неразумная дзяўчына раскрыла вам сваё сэрца. Віясіл! — пры гэтых словах яна ўкленчыла перад ім. — Не грэбуйце мною, не адвяргайце мяне, бо я не магу жыць без Вас, а дзень, калі скончыцца Ваша жыццё, будзе і маім апошнім днём. Без Вас у мяне нічога не будзе, мой стары бацька пасля нашай паразы ляжа ў халодную дамавіну, маю маці даўно забілі, я не памятаю яе, а калі Вы ад мяне адмовіцеся, то нікога я ніколі не пакахаю.

Са здзіўленнем доўга глядзеў на яе Віясіл, не мог нават слова сказаць, але пасля апамятаўся, бо ўбачыў, што яна стаіць, укленчыўшы, таму сказаў:

— Што Вы такое гаворыце, дзяўчына? Калі ласка, устаньце з кален! Калі б нехта ўбачыў, як Вы ўкленчылі перада мной, што ён падумаў бы пра Вас.

Яна не паварушылася і сказала:

— Не, я не падымуся, пакуль не пачую ад Вас адказу. У Вашых руках мой лёс, маё шчасце залежыць ад Вас, я назаўсёды застануся няшчаснай, калі Вы ад мяне адмовіцеся.

— Хай будзе так, — сказаў нарэшце Віясіл, — Вы змушаеце мяне сказаць Вам праўду. Мілая паненка, я не магу Вас кахаць, таму што…

Іагана хутка апамяталася, паглядзела на яго дзікунскім поглядам і гучна сказала:

— Значыць я дарэмна прыніжалася перад Вамі, дарэмна зганьбіла сама сябе дачка Басковіца!

Праз хвіліну яна ўзяла сябе ў рукі, але вочы яе палалі гневам.

— А чаму, калі маю права ведаць, Вы мяне адвяргаеце?

Яны доўга хадзілі па крапаснай сцяне, Віясіл расказаў ёй пра Багдану і скончыў так:

— Па маёй віне яна зрабілася няшчаснай. Я, мой падман былі прычынаю яе няшчасця, з-за мяне яна назаўсёды зачынілася ў кляштарных мурах, з-за мяне яна выліла рэкі слёз. Я зрэдку магу яе ўбачыць, хоць кахаю яе так, як і раней, і маё каханне да яе знікне разам з маім жыццём.

Яны спыніліся перад безданню, дзе паміж скал з грукатам ляцеў лясны ручай, бледны месяц не мог ахапіць сваім святлом бездань. Сашчапіўшы рукі, Іагана некаторы час глядзела ў неба, раптам страшная думка мільганула ў яе галаве, і яна, схапіўшы Віясіла за руку, звярнулася да яго:

— Калі ты адмаўляешся ад мяне, дык прымі разам са мной смерць!

І яна хацела разам з ім скочыць у бездань. Віясіл, які раней спахапіўся, затрымаў яе сваёй моцнай рукой і са здзіўленнем звярнуўся да яе:

— Дзяўчына!

Яна вырвалася з ягоных рук і пачала рваць на сабе валасы, потым пабегла да града з крыкам:

— Прыніжаная, кінутая! — аж пакуль паміж скал не пачула рэха.

У хуткім часе пасля гэтага здарэння Віясіл з ахоўнікам і пражанамі пайшоў з града.

Апоўначы бура ў грудзях Іаганы сціхла. Месяц схаваўся за чорнымі хмарамі. Іагана хадзіла па градзе шэрай ноччу, і гарачыя слёзы цяклі па яе твары. Яна ўвайшла ў капліцу. Паўсюль панавала святая цішыня, памалу дагарала лампада перад выявай Маці Божай. Праз высокае акно было бачна, як месяц глядзіць праз разарваныя аблокі, удалечыні шумела Бяроўнка, у кустах пад акном салавей спяваў песню кахання. Укленчыўшы перад алтаром, Іагана малілася:

— Абаронца засмучоных і пакрыўджаных, аблегчы сэрца маё, ты толькі зможаш ачысціць мяне, шэрыя хмары закрылі сонца майго жыцця, ясны месяц, асвятлі мае цяжкія дні. Слава мая знікла сёння, як у спякотны дзень залатое сонца, і як на падарожнага ў цёмным лесе, калі надыходзіць ноч, валяцца на мяне няшчасці са страшнай сілай. Прыніжана я тым, каго кахаю, бо не ўмею хаваць сваё пачуццё, адсюль усе мае няшчасці. О, я так рана страціла сваю маці, якая магла б навучыць мяне жыццю, дзень яе смерці быў першым днём майго няшчасця. Я буду помсціць за несправядлівасць, якой ахутана маё жыццё, за смерць маёй маці ворагам маёй маці.

Яна змоўкла. Устала, падышла да акна і ўбачыла, як удалечыні, за вяршынямі гор, пачынае днець; страшная думка ўзнікла ў яе, што, калі Багдана памрэ, то сэрца ягонае звернецца да яе, Іаганы. Яна не ведала толькі, як выйсці з града незаўважанай і апынуцца ля муроў кляштара. А калі Багдана з'явіцца ля акна, як яна пачула пра гэта ад Віясіла, то яна яе заб'е. З лукам і стрэламі Іагана спусцілася з крапаснай сцяны града, разумеючы, што зноў паднімецца сюды па вяроўцы наступнай ноччу з дапамогай слугі. Слуга потым яшчэ доўга стаяў на крапаснай сцяне і назіраў за тым, як Іагана знікла ў лесе.

## II

У духмяным маі,
у шырокім гаі
салаўі спяваюць.
Зачыні краты,
цёмная ноч!
Я не баюся самоты.

*І.І. Марэк*

Скончылася навальніца, зашумеў дождж, заззяла яснае сонца, са сцяны кляштара данёсся гук, што мінуў поўдзень. Кветкі, што ўвабралі ў сябе вільгаць дажджу, духмяна запахлі, здалёк даносіўся ціхі шолах гаю, залатым

бляскам адлівала Бяроўнка, што працякала каля сцен кляштара. Побач з магілай на кляштарных могілках сядзеў Віясіл і цярпліва пазіраў у вокны сваёй каханай, чакаючы, калі ў акне пакажацца яе твар. Ён сядзеў доўга, абапершыся на свой меч. Малады ціс распасцёр над ім свой цень, на дрэве гучна спяваў малады птах, часам ён змаўкаў, і тады гучаў ужо з кустоў бэзу, што цягнуліся ўгару пад вокнамі Багданы, спеў другога птаха, як адказ першаму. Прагучаў голас з двара, адчынілася акно Багданы, і яна падышла да акна. Не жадаючы, каб яе ўбачылі, яна закрыла твар вэлюмам і ціха малілася. Чорная вопратка падкрэслівала бледнасць твару, яна ўжо не магла любавацца пейзажам, ад бясконцых слёз згас яе позірк. Блакітныя вочы нічога не бачылі. Абапершыся на магільны помнік, Віясіл глядзеў не адрываючыся ўгару, і ад вялікага гора па твары ягоным цяклі слёзы. І ён маліўся таксама, і Бог пачуў іх малітвы, таму змоўк плач. Праз некаторы час пачала Багдана гучна сама з сабой размаўляць, разумеючы, што ніхто яе не чуе:

— Дзе ты, той, пра каго я супраць сваёй волі ў малітвах заўсёды прамаўляю, ці ўспамінаеш часам няшчасную Багдану, якую калісь кахаў? Ах, каб яшчэ аднойчы цябе ўбачыць! Але дарэмныя мае мары і туга, нічога больш у маім жыцці не будзе! Дарэмна для мяне пачынаюцца дзень і ноч, не для мяне квітнеюць кветкі, згас бляск маіх вачэй, у іх назаўжды пасялілася ноч. О, каб ты ведаў, якая я няшчасная… Каб я толькі магла даведацца, Божа, ці кахае мяне той, хто таксама няшчасны, але калі б ён ведаў мой лёс, то быў бы яшчэ больш няшчасным, чым цяпер. Спадзяюся, што Бог не будзе доўжыць маё няшчасце далей, бо адчуваю, што ў хуткім часе засну спрадвечным сном, бо не магу над прычынай свайго няшчасця болей плакаць, высахла крыніца маіх слёз.

З вежы зноў пачуўся звон.

— Чуеш, мяне клічуць да малітвы. О, зрабі так, Божа ўсемагутны, каб звон гэты, што кліча мяне да малітвы, паклікаў мяне і да смерці. Маім апошнім словам, з якім я звярнулася б да свету, было б “дабранач”…

Віясіл больш не мог стрымліваць сябе, ён укленчыў, схіліў галаву да зямлі і паклікаў:

— Багдана!

І ў гэты момант са сцяны кляштара ўзвілася страла і глыбока праццяла Багдане правы бок, тая, крычучы ад болю, павалілася. Віясіл, галава якога была схілена ўніз, не бачыў стралы і вырашыў, што дзяўчына ўскрыкнула таму, што пачула сваё імя, ён падняўся з кален і пайшоў, кажучы самому сабе:

– Я пакрыўдзіў яе, праз мяне яна такая няшчасная!

А ў гэты момант Іагана, якая выстраліла з лука ў Багдану, хутка праз лес вярнулася на крапасную сцяну града. Сёстры знайшлі Багдану смяротна параненай і паклалі яе на ложак. Дзяўчына вырашыла, што яе параніў Віясіл, таму яна, перамагаючы боль, сказала:

— Я гэтага не заслужыла!

Клапатліва даглядалі сёстры Багдану цэлую ноч, таму не заснула няшчасная спрадвечным сном…

Зноў прывітала зязюля раніцу над Карлавым Тэйнам, але сонца на гэты раз узышло не яснае, а крывавае, нібы сімвал новага дня.

Войска пражан падрыхтавалася да бою, нарыхтавалі лучыны для агню і іншую зброю, каб захапіць град. Наперадзе войска стаў Гедвік, які цэлую ноч хадзіў па лесе, бо не мог заснуць перад боем. Ён нагадаў сваім людзям пра стрыманасць, даручыў, каб высокую сцяну закідалі агнём. Потым з Гарой зноў накіраваўся ў лес, каб там дачакацца дзевятай гадзіны, на якую была прызначана атака.

З сумам шумелі над імі сосны і высокія елкі, вецер выў у лесе, як нявеста на труне свайго каханага. Прыгнечаны Гедвік доўга маўчаў, ды і Гара не сказаў ніводнага слова, аж пакуль не пачаў Гедвік:

— У мяне такое прадчуванне, што з апошняй атакі я ўжо не вярнуся, і адзінае, што я хачу, каб раней дачка Басковіца загінула ад маёй рукі, якая разам з Віясілам вызначылася ў мінулы раз. Я яе ўжо за тое ненавіджу, што яна з'яўляецца дачкой жонкі Басковіца, якая, як ты ведаеш, мною пагарджала і не пайшла за мяне замуж. Над маёй труной ніхто плакаць не будзе, бо не маю ні дзяцей, ні жонкі. Калі я загіну, то хацеў бы, каб за мяне адпомсцілі і не адышлі ад Карлава Тэйна раней, чым загіне Іагана.

Калі Гара паабяцаў яму гэта, яны вярнуліся да войска.

Пачалася атака, загучалі трубы, і пачуўся лязгат мячоў, агонь лётаў над градам, і падпалена была не толькі высокая вежа.

Гедвік ішоў у атаку, выглядаючы то тут, то там Іагану. Яму доўга не ўдавалася яе знайсці, але нарэшце ён убачыў яе на крапасной сцяне. Ён хутка схапіў лук са стрэламі і стаў па скале паднімацца, а паколькі ахоўнікі Іаганы яго не ўбачылі, ён узлез на крапасную сцяну. З дзікім рыкам ён кінуўся на Іагану, і пачаўся страшны бой, бо дзяўчына гэтак жа добра валодала мячом, як і іншай зброяй. Яна ўпэўнена наступала, Гедвік упэўнена абараняўся, са здзіўленнем глядзелі ваяры на гэты паядынак. Раптам з рукі Гедвіка выпаў меч і паляцеў у бездань між скал, а, апынуўшыся на зямлі, разляцеўся на кавалкі. Гедвік, узяты ў палон, не хацеў ісці ў град, не хацеў, каб яго закавалі ў кайданы, таму рваўся з рук аховы Іаганы, як раз'юшаны тур:

— Не трэба захоўваць мне жыццё, ведайце, што перад вамі самы закляты ваш вораг, а вы і не дзяўчына і не мужчына, вы ганьбіце сваіх бацькоў, падпаразаная мячом, ваша смерць была б маім подзвігам і вашай ганьбай, дык чаму вы мяне шкадуеце?

Ніяк не ўспрыняўшы яго словы, Іагана даручыла ахоўнікам весці Гедвіка да града. Тады ён зноў звярнуўся да яе:

— Не радуйцеся маёй пагібелі, бо ведайце, што за мяне адпомсцяць, у хуткім часе будзе знішчана гэта гордая вежа і будзе пахаваны ў развалінах град, так загадаў я!

На гэта Іагана хутка адказала:

— Вы хочаце мяне прынізіць, але будзеце прыніжаны самі. Вы загадалі спаліць агнём град, а я загадваю: звяжыце яго мацней, як кіраўніка тых, хто хацеў аддаць чэшскую карону свайму Карыбуту. Вазьмі саламяную карону

і трымай яе. Прывяжыце яго да высокага дрэва і хай вісіць пад дахам вежы, можа яго ваяры больш не будуць кідаць агонь у бок вежы.

Так і зрабілі. Прывязалі Гедвіка да высесанага з дрэва слупа і павесілі яго пад дахам вежы, на галаву надзелі карону з саломы, пад ім звінелі зброяй ваяры і чуліся крыкі, але запаленыя смаляныя лучыны перасталі кідаць у бок вежы. Гедвік крычаў моцным голасам:

— Не шкадуйце мяне, паліце вежу, кідайце ў гэты бок агонь, для мяне будзе радасцю, калі разам са мной будзе знішчана вежа!

Аднак ваяры яго не чулі за звонам мячоў і крыкамі тых, хто змагаўся, дарэмна ён спрабаваў развязаць рукі.

На вежу паднялася Іагана, якая здзекліва пакланілася Гедвіку і сказала, што нарэшце ён дасягнуў адпаведнай яму вышыні. А пад імі лязгалі мячы, чуліся крыкі, у нейкі момант яму пашчасціла вызваліць адну руку, ён выхапіў свой кінжал і закрычаў:

— Ведай, дзяўчына, што я вораг тваёй маці, якая мной пагарджала!

Потым ён перарэзаў вяроўкі, якімі быў прывязаны, і скочыў у бездань паміж скаламі.

Іагана напалохалася, а ўнізе пад вежай сціхлі крыкі і грукат, атака была скончана.

# БАЖЭНА НЕМЦАВА
## (1820—1862)

Паэтка, празаік, публіцыст, фалькларыст

Бажэна Немцава — найярчэйшая зорка на небасхіле чэшскага прыгожага пісьменства. Яе творы абуджалі нацыянальную свядомасць, дапамагалі народу зразумець гістарычную значнасць сваёй Айчыны. У самыя змрочныя часы чэхі знаходзілі ў іх маральную сілу, што дапамагала выстаяць і перамагчы.

У чэшскую літаратуру Бажэна Немцава (у дзявоцтве Барбара Панклава) прыйшла ў 40-я гады XIX стагоддзя, якія характарызаваліся нарастаннем вызваленчага руху, а асноўны этап творчасці супаў з перыядам рэакцыі. Першай публікацыяй пісьменніцы быў верш “Чэшскім жанчынам”, надрукаваны ў 1842 годзе ў часопісе “Květy”. Пазней Бажэна Немцава яшчэ неаднойчы звернецца да паэзіі, але асноўнымі жанрамі яе творчасці стануць легенда, паданне, казка, нарыс, апавяданне, аповесць. Творы яе прымаюць з захапленнем чытачы і калегі па пяру. Першая кніга “Народныя казкі і легенды” выйшла ў дзвюх частках адпаведна ў 1845 і 1847 гадах.

Бажэна Немцава з сям’ёй часта пераязджала з аднаго месца ў другое, бо так патрабавала служба яе мужа, чыноўніка фінансавай інспекцыі Ёзафа Немца. Адсюль і тэматыка кнігі “Карціны дамажліцкіх ваколіц” (1845), “Лісты з Францішкавых Лазняў” (1846), “З Дамажліц” (1847).

Сапраўдным мастацкім узлётам пісьменніцы былі апавяданні і аповесці, створаныя ў 50-я гады: “Барунка”, “Разарка”, “Сёстры”, “Карла”, “Горная вёска”, “У замку і ў падзамчышчы”, “Бедныя людзі”, “Дзіўная Бара”, “Добры чалавек” і інш.

Вядучай ідэяй культурнага жыцця чэшскага народа перыяду нацыянальнага адраджэння была думка пра адзінства народа — этнічнае, гістарычнае, духоўнае. Менавіта гэтай ідэяй прасякнута аповесць Бажэны Немцавай “Бабуля” (1855).

## Прынц Баяя

Малады кароль вымушаны быў разлучыцца з жонкай і паехаць на вайну. У хуткім часе пасля гэтага каралева нарадзіла блізнятак, двух сыноў. Радаваліся людзі ва ўсёй краіне, але не ўсе верылі. Адразу адправілі да караля пасланцоў, каб перадалі радасную навіну.

Хлопцы былі здаровымі і раслі, як быкі. Толькі той, што быў на некалькі імгненняў старэйшы, быў мацнейшым за другога. І так было і пазней, калі яны падраслі. Старэйшы быў заўсёды ў двары, бегаў, скакаў і бавіўся з конікам, які быў такім жа маладым, як і ён. Другі любіў скакаць па мяккіх дыванах, хадзіць, трымаючыся за маці, і нікуды не хадзіў, толькі з маці ў сад. І таму каралева першаму не спрыяла, а малодшы стаў яе ўлюбёнцам.

Хлопцам было па сем гадоў, калі кароль вярнуўся з вайны і з невыказнай радасцю прытуліў да грудзей маці і дзяцей.

— Каторы з іх старэйшы, а каторы малодшы? — пытаўся бацька ў каралевы. Тая падумала, што муж пытаецца таму, каб ведаць, хто з сыноў можа стаць наступным каралём і назвала свайго ўлюбёнца старэйшым.

Кароль любіў сваіх дзяцей аднолькава, але калі яны сталі юнакамі, пачуў старэйшы, што наступным каралём будзе малодшы. І было яму так крыўдна, такім мярзотным стала жыццё, што ён марыў паехаць з дома ў вялікі свет. Аднойчы пра свой боль і крыўду ён паведаміў коніку і сказаў, што хацеў бы сысці з дома.

І адказаў яму конь чалавечым голасам:

— Калі табе не падабаецца быць дома, то ідзі ў свет, але без бацькоўскага дазволу не рабі ні крока. Раю табе нічога не браць з сабой і не садзіцца на іншага каня. Тады табе пашчасціць.

Прынц здзівіўся, што конь гаворыць чалавечым голасам, і запытаўся ў яго, як гэта магчыма.

Конік яму адказаў:

— Пра гэта ў мяне не пытайся. Я хачу быць тваім ахоўнікам і дарадцам, пакуль ты мяне слухаць будзеш.

Прынц пакляўся коніку, што заўсёды будзе слухаць яго парады, і пайшоў у замак запытацца ў бацькі, ці можна яму паехаць у свет. Калі ён абвясціў бацькам сваё жаданне, то бацька не хацеў даваць яму дазволу, а маці дазволіла адразу. Аднак прынц ад свайго намеру не адмовіўся, і нарэшце бацька свой дазвол даў.

Тут жа пачалі рыхтаваць слуг і коней прынцу ў дарогу. Але прынц быў іншай думкі і сказаў бацьку:

— Навошта, бацька, мне столькі коней і людзей? Я вазьму трохі грошай і паеду на сваім малым коніку ў свет сам.

Прыйшлося зноў прасіць бацьку, каб ён гэта дазволіў. У рэшце рэшт усё было ў дарогу падрыхтавана, конь чакаў асядланы ля брамы, а на ганку развітваўся прынц са сваімі бацькамі і братам. Усе горка плакалі, і ў апошнія

хвіліны стала і маці тужліва, што сваё дзіця выпраўляе ў свет. І загадала прынцу, каб праз год прыехаў дадому, або хоць даслаў пра сябе вестку.

Праз нейкую гадзіну ехаў ён на коніку па шырокім полі далёка за сталіцай. І хто б мог падумаць, што семнаццацігадовы конь можа быць такім хуткім! Той конь не састарэў, таму што не быў ён звычайным канём. Скуру меў гладкую, нібы аксаміт, ногі ў яго былі, як струны, а хуткі ён быў, нібы сарна.

Дарога ішла наперад, ехаў па ёй прынц доўга, але не ведаў, куды конік яго нясе. Раптам ён убачыў вежы прыгожага горада. Тут конік звярнуў з дарогі і пайшоў па полі да скалы, што стаяла побач з прыгожым ляском. Калі конь падышоў да гэтага месца, то ударыў нагой па скале, тая адчынілася, і яны заехалі ўнутр. Гэта была прыгожая зручная стайня.

— Цяпер пакінь мяне тут, — сказаў конік прынцу, — а сам ідзі ў каралеўскі двор. Ты павінен прыкінуцца нямым. Кароль прыме цябе на службу, але сачы, каб нічога не сказаць. Калі табе будзе нешта патрэбна, то прыйдзі да скалы, тройчы пастукай, і скала адчыніцца.

Прынц падумаў:

— Мой конік настолькі разумны, ён заўсёды ведае, як мне дапамагчы.

Прынц узяў сваю вопратку і пайшоў. Дайшоўшы да горада, што быў недалёка ад скалы, ён з'явіўся перад каралём. Калі кароль убачыў, што хлопец нямы, пашкадаваў яго і пакінуў у сябе. Хутка кароль зразумеў, што хлопец многае ўмее. Калі нешта трэба было зрабіць у замку, то той усяму мог даць рады і цэлы дзень бегаў па замку.

Калі каралю спатрэбіўся пісар, то не было нікога лепшага за новага слугу. Усім ён падабаўся. Але быў нямы і на ўсе пытанні адказваў толькі "баяя", так і атрымаў прынц імя Баяя, і ніхто інача яго і не называў.

У караля было тры дачкі, адна прыгажэйшая за другую. Старэйшая звалася Здабенай, сярэдняя — Будзінкай, а малодшая — Славенай. Гэтыя тры дзяўчыны любілі таварыства Баяя, і яму дазволена было быць з імі цэлы дзень. Ён заўсёды быў нямым, твар у яго быў страшэнна бледным, а адно вока яго было завязана. Ці мог кароль нават падумаць, што ён спадабаецца хоць адной з прынцэс.

Прынцэсы тым не менш яго любілі. І ён усюды павінен быў быць з імі. Ён звіваў ім вяночкі, прыносіў кветкі, закручваў залатыя ніці, маляваў птахаў і разнастайныя кветкі для вышывання, і гэта ім падабалася.

Нядоўга знаходзіўся Баяя пры двары. Аднойчы раніцай зайшоў ён у залу, дзе кароль снедаў і ўбачыў, што той сядзіць зажурыўшыся. І запытаўся Баяя ў караля жэстам, што здарылася.

Кароль на яго сумна паглядзеў і сказаў:

— Мілы хлопец, чаму ты ў мяне пытаешся? Ці ты не ведаеш, якія няшчасці нам пагражаюць і што яны здарацца праз тры дні?

Баяя пакруціў галавой, што не ведае, і на яго твары адбіўся надзвычайны страх. Тады кароль яму растлумачыў:

— Скажу табе, што дапамагчы ты нам не можаш. У мінулым годзе сюды прыляцелі тры драконы. Адзін — дзевяцігаловы, другі — васемнаццацігаловы,

трэці — дваццацісямігаловы. Людзі ў горадзе настолькі напалохаліся, што ад страху валасы на галаве ўставалі. Народ пахаваўся, бо баяўся за сваё жыццё. Паступова знікла ўся жывёла, бо мусілі аддаць усю тым пачварам, каб не елі гараджан. І тым не менш шмат людзей драконы пажэрлі.

Не мог я больш бачыць гэтае гора і загадаў прывесці ў каралеўскі двор чараўніцу, каб растлумачыла мне, як вызваліць краіну ад гэтых пачвар. Але ж якая бяда! Сказала чараўніца, што я павінен аддаць пачварам сваіх трох дачок, якія тады толькі расцвіталі. Калі падрастуць, то няхай будуць аддадзены як ахвяры тым тром пачварам. Каралева пасля гэтага нечуванага прысуду з гора памерла, але дочкі пра гэта не даведаліся.

З той хвіліны, як драконы пакінулі каралеўства, некалькі гадоў ніхто іх не бачыў і не чуў. Аж пакуль учора не прыбег пастух зусім не ў сабе, бо ўбачыў драконаў на той жа самай скале, дзе былі раней, і сказаў, што гэтак жа жудасна равуць, як калісьці. Я, няшчасны бацька, заўтра павінен аддаць першае сваё дзіця як ахвяру за сваю краіну, паслязаўтра другое, а потым трэцяе, пасля ад гора памру і я.

Так бедаваў няшчасны кароль і рваў на галаве валасы.

З засмучаным тварам пайшоў Баяя да прынцэс, бо іх смерць яго прыводзіла ў жах! У чорных сукенках, з тварамі, нібы з белага мармуру, сядзелі яны адна каля адной і жаласна плакалі, што іх маладое жыццё скончыцца так страшна.

Баяя пачаў іх суцяшаць і абнадзеіў, што, пэўна, знойдзецца нейкі вызваліцель. Няшчасныя прынцэсы слухалі яго і не пераставалі ліць слёзы. Сумятня і скруха былі ва ўсім горадзе, бо кожны жыхар паважаў каралеўскую сям'ю. Горад, як і замак, былі абцягнуты чорным сукном.

Баяя тайком паспяшаўся з горада праз поле да скалы, дзе знаходзіўся конік. Калі тройчы пастукаў, скала адчынілася і ён увайшоў. Ён пагладзіў бліскучую грыву коніка, пацалаваў яго ў белую пляму і сказаў:

— Мілы конік! Я прыйшоў да цябе за парадай, і калі мне дапаможаш, то буду назаўсёды шчаслівым.

І расказаў коніку пра ўсё, што адбывалася ў замку.

— Я пра гэта ведаю, — адказаў конік, — таму я цябе сюды і прывёз, каб ты прынцэсам дапамог. Прыходзь сюды заўтра раніцай, і я табе скажу, што трэба зрабіць.

Узрадаваны, пабег Баяя да замка, і былі б непрыемнасці, каб нехта яго ўбачыў вясёлым, але, на шчасце, нікога ён не сустрэў. Цэлы дзень не выходзіў ён з пакояў прынцэс, разважаючы, як іх крыху пацешыць, але яму нічога не прыходзіла ў галаву.

На наступны дзень раніцай яшчэ да світання ён быў ля скалы. Конік яго прывітаў і сказаў:

— Сёння пакладзі пад маю кармушку камень, і тое, што знойдзеш, вазьмі.

Баяя ахвотна яго паслухаў і дастаў з дзіры, якая была схавана пад каменем, вялікую скрыню. Конік сказаў яму, каб адкрыў яе, і калі Баяя гэта зрабіў, то дастаў са скрыні тры прыгожыя ўборы, меч і аброць для каня.

Адзін убор быў чырвоны, вышыты серабром і брыльянтамі, і да яго даваўся шлем з бліскучай сталі, упрыгожаны белым і чырвоным султанам. Другі быў цалкам белы, вышыты золатам, а даспехі і шлем залатыя, султан белы. Трэці ўбор быў светла-блакітны, багата вышыты серабром, брыльянтамі і жэмчугам, з белым і блакітным султанам на шлеме. Да трох убораў прыкладаўся адзін меч, рукаятка якога была ўпрыгожана дарагім каменем, які свяціўся, як і аброць каня.

— Гэтыя тры ўборы твае, але найперш апранай чырвоны.

Баяя апрануўся, прычапіў збоку меч, і аброць надзеў каню праз галаву.

— Я кажу табе, што ты не павінен баяцца і злазіць з мяне. Толькі сячы галовы тым пачварам і давярай свайму мячу, — так загадваў конік, калі выязджаў са скалы.

А ў замку было сумнае развітанне, і натоўп людзей праводзіў бедную Здабену з горада. Калі былі недалёка ад месца, дзе прыносілася ахвяра, прынцэса злезла з каня, а калі ўбачыла, што трэба ісці да скалы, страціла прытомнасць і павалілася на зямлю.

Тут людзі ўбачылі, што ляціць конь, а на ім сядзіць рыцар з чырвоным і белым султанам. Калі пад'ехаў да іх, загадаў, каб народ расступіўся, прынцэсу забралі, а яго пакінулі тут аднаго. Можна ўявіць, з якой радасцю той загад выканалі! Але прынцэса не хацела вяртацца ў замак, ёй хацелася назіраць за паядынкам.

Тут скала затрэслася і адчынілася і дзевяцігаловы дракон вылез з яе і агледзеўся па баках, шукаючы ахвяру. Да яго падскочыў Баяя на коніку, выцягнуў меч і адным махам ссек тры галавы. Дракон выгінаўся, пляваўся агнём і кідаўся на рыцара так, каб атрута да яго даляцела, але прынц на гэта не зважаў, сек да таго часу, пакуль усе дзевяць галоў не адсек. Астатняе дарабіў конік капытамі.

Калі дракон загінуў, прынц павярнуўся і паехаў туды, адкуль прыехаў. Са здзіўленне сачыла за ім Здабена, пакуль не прыгадала, што бацька будзе чакаць, таму хутка вярнулася ў замак з прыдворнымі.

Ці можна апісаць радасць бацькі, які ўбачыў дачку жывой, і радасць сясцёр, у якіх узнікла надзея, што таксама будуць мець вызваліцеля. Баяя таксама прыбег да іх і заклікаў прынцэс, каб верылі ў тое, што Бог ім пашле выратавальніка. І нягледзячы на страх, прынцэсы сталі весялейшымі і размаўлялі з Баяя.

На другі дзень вывелі Будзінку. Як і напярэдадні з сястрой, тое адбылося і з ёю. Як толькі прыехалі на месца, то ўбачылі рыцара з белым султанам, праз некалькі хвілін васемнаццацігаловы дракон быў пераможаны, пасля чаго пачвара здохла. Пасля бою рыцар з'ехаў, як і папярэдне. Калі прынцэса вярнулася ў замак, усе шкадавалі, што не маглі мужнаму рыцару выказаць сваю ўдзячнасць.

— Я ведаю, сёстры, — сказала Славена, калі ўсе сабраліся разам, — вы рыцара не прасілі, каб вас абараніў. Але я да яго звярнуся і буду вельмі спадзявацца, што пойдзе са мной і абароніць.

— Чаму ты смяешся, Баяя? — спытала Здабена, калі ўбачыла, што нямы ўсміхнуўся. Але Баяя пачаў скакаць па пакоі, даючы ўсім зразумець, што ўзрадаваны за таго рыцара.

— Вар'ят, тут яго няма, — заўважыла Здабена.

На трэці дзень павезлі Славену, і на гэты раз з дачкой паехаў сам кароль. Сэрца небаракі цяжка загрукала, калі яна прыгадала, што будзе аддадзена дракону, калі вызваліцель не прыедзе. У гэтую хвіліну пачула радасны крык, што рыцар едзе.

Так, як і першых двух драконаў, забіў Баяя і трэцяга, таму што і ён, і конь не адчувалі стомы.

Пасля бою падышлі да яго кароль і Славена і папрасілі рыцара, каб пайшоў з імі ў замак. Але ён ні за што не згаджаўся. Славена стала перад ім на калені і прасіла так настойліва, так горача, што ў прынца сэрца застукала ў грудзях. У гэты момант конік рвануў з месца, і рыцар знік з вачэй.

Сумная ад таго, што не можа свайго вызваліцеля ўзнагародзіць, вярнулася Славена з бацькам дадому. Усе спадзяваліся, што прывядуць рыцара, але надзея не спраўдзілася.

Цяпер усе былі шчаслівыя! Але гэта не працягвалася доўга, бо зноў прыйшла бяда. Аднойчы кароль атрымаў ад другога караля выклік на вайну. Ён гэтага надзвычай баяўся, бо ведаў, што сусед нашмат мацнейшы.

Адразу ж кароль напісаў абвесткі, і пасланцы развезлі іх ва ўсе бакі краіны, каб князі і вялікія паны збіраліся на каралеўскі двор. З вялікай хуткасцю з'ехаліся ў каралеўскі палац паны. Кароль паведаміў ім, наколькі цяжкая сітуацыя і прасіў дапамагчы. Самым мужным з іх ён паабяцаў шлюб са сваімі дочкамі. Хто б ад такога адмовіўся? Усе паабяцалі, што ў вызначаны дзень з'явяцца разам са сваім войскам.

І вось надышоў час бою, і кароль сам хацеў весці сваё войска ў поле. Напярэдадні прыехалі князі са сваімі коннікамі ў вялікай колькасці. Кароль развітаўся з дочкамі, што праводзілі яго з плачам, загадаў Баяя, каб за ўсім назіраў і пад гукі труб паскакаў у бой.

Баяя выконваў каралеўскі загад, каб усё было дагледжана, але найперш імкнуўся, каб прынцэсам не было сумна, і з радасцю ім дагаджаў.

Раптам ён паведаміў прынцэсам, што захварэў, але не хоча звяртацца да лекара па дапамогу і пойдзе сам па карэнні, якія яго лепш за ўсе лекі вылечаць. Прынцэсы вырашылі, што ён звар'яцеў, і адпусцілі яго.

Але ён не пайшоў па траву, бо захварэў ён ад светлых вачэй прыгожай Славены. Баяя пайшоў да свайго коніка, каб параіцца з ім, ці трэба каралю дапамога на вайне. Конік яго прывітаў, параіў яму апрануць белы ўбор, узяць меч і асядлаць яго, бо трэба ехаць у бой. Баяя яго за гэта пацалаваў.

Вайна доўжылася шмат дзён, каралеўскае войска аслабела і не магло адужаць моцныя сілы ворага. Галоўны бой, дзе вырашалася, хто пераможа, павінен быў адбыцца на наступны дзень. Цэлую ноч кароль даваў загады і накіраваў пасланцоў да дачок з указаннем, што рабіць, калі ён вайну праіграе.

Раніцай ваяры паспадзяваліся на літасць Бога і пашыхтаваліся. У вызначаны момант загучалі фанфары, зазвінела зброя, паляцелі стрэлы, крыкі і грукат чуліся па ўсёў раўніне. Тут узнік паміж варожымі войскамі юнак у белым уборы, залатым шлеме з белым султтанам. Ён сядзеў на малым кані, а ў руцэ трымаў велізарны меч. І так удала сек ворага мячом, што ўсе вырашылі, што гэта не хто іншы, як злы дух, які іх малоціць калом. Тут апамяталася і каралеўскае войска і далучылася да мужнага героя. У хуткім часе вораг адступіў, а калі белы рыцар забіў іх правадара, дык пабеглі, як статак без пастуха. Белы рыцар быў трохі паранены, і кроў афарбавала яго белы убор. Калі кароль гэта ўбачыў, то саскочыў з каня, адарваў ад свайго плашча кавалак тканіны і сам перавязаў рыцару рану. Потым папрасіў яго, каб пайшоў за ім у шацёр. Але рыцар яму падзякаваў, падштурхнуў каня і знік з вачэй. Кароль ад таго, што ўжо ў чацвёрты раз з'ехаў рыцар, ледзь не плакаў, бо быў надзвычай удзячны таму за дапамогу. Кароль і яго войска вярнуліся з перамогай дадому і прывезлі незлічоную здабычу. Радасна віталі іх жыхары горада, а ў замку былі наладжаны розныя ўрачыстасці і баляванне.

— Ну, мой даглядчык! — звярнуўся кароль да Баяя, — як ты сачыў за домам, калі нас тут не было?

Баяя кіўнуў, што добра, але прынцэсы зарагаталі, а Славена сказала:

— Я павінна табе, бацька, паскардзіцца на твайго кіраўніка гаспадаркай, таму што быў непаслухмяны! Ён пачаў стагнаць, што захварэў, лекар хацеў даць яму добрыя лекі, але той адмовіўся і сказаў, што пойдзе па нейкія карэнні. Пайшоў, не было яго два дні, а вярнуўся кульгавым і больш слабым, чым раней.

Кароль павярнуўся да Баяя, а той усміхаўся і паказаў на пяты, што нічога не здарылася. Калі прынцэсы пачулі, што іх вызваліцель зноў бацьку дапамог, то былі незадаволены тым, што павінны стаць жонкамі князёў. Спадзяваліся, што адна з іх пабярэцца з рыцарам. Але ніводная з іх не ведала, ці прыгожы ён, бо твар рыцара ніхто з іх не бачыў. Але кожная малявала яго, як анёла.

Кароль быў у роспачы ад таго, што не мог вызначыць лепшых. Усе ў баі бралі ўдзел, і кожны з князёў дапамагаў яму, што было моцы. Каму з іх аддаць дачку? І прыдумаў нешта, каб усім дагадзіць.

Кароль выйшаў да князёў і сказаў:

— Дарагія сябры! Я вам абяцаў, што калі вы дапаможаце мне ў вайне, то я аддам за вас сваіх трох дачок. Вы ўсе мне верна служылі, і таму я хачу зрабіць так, каб нікога не пакрыўдзіць. Станьце ў шарэнгу, кожная з маіх дачок кіне залаты яблык. Да каго яблык дакоціцца, той і стане мужам прынцэсы. Ці задаволены вы маім рашэннем?

Усе адказалі, што так. Кароль азнаёміў са сваім рашэннем прынцэс, і тыя вымушаны былі пагадзіцца, каб не ганьбіць бацьку. Яны святочна прыбраліся, кожная ўзяла ў руку залаты яблык і пайшла на балкон, пад якім стаялі князі і паны. Сярод тых, хто назіраў, ля жаніхоў стаў Баяя.

Раней за ўсіх кінула яблык Здабена. Ён каціўся, каціўся і пакаціўся да ног Баяя. Але той адышоў, і яблык пакаціўся да аднаго прыгожага князя, які ад радасці нават з шарэнгі выйшаў.

Наступнай кідала Будзінка, і яблык, як і папярэдні, пакаціўся да ног Баяя. Але ён зноў лёгка адскочыў, і яблык пакаціўся роўна да прыгожага пана, які зрабіў рух наперад і з надзеяй паглядзеў на прыгожую нявесту.

Потым кідала Славена. Але на гэты раз Баяя не адышоў. Ён з радасцю падняў яблык і пабег нагару, там ён стаў на калені перад прынцэсай і пацалаваў яе руку. Але яна вырвала руку і пабегла ў свае пакоі, дзе горка плакала, што павінна пайсці замуж за нямога.

Кароль раззлаваўся, князі былі незадаволеныя, але так здарылася і змяніць нічога нельга. Пазней было баляванне, а пасля балявання быў наладжаны рыцарскі турнір, дзе магла вызначыць пераможцу адна з нявест.

Падчас балявання Славена сядзела, нібы хворая, і не прамовіла нават слова. Жаніха Баяя ніхто не бачыў, і кароль падумаў, што той уцёк, калі ўбачыў яго разгневаным. Усе бедную нявесту шкадавалі і хацелі яе трошкі развесяліць. Таму і папрасілі яе, каб яна на турніры вызначыла пераможцу.

Славена нарэшце пагадзілася. І вось сядзяць паны каля парэнчаў, змагаюцца рыцары, і адзін другога перамагае. І аб'яўляе вяшчальнік, што за агароджай сядзіць рыцар на малым кані і хоча, каб яму дазволілі удзельнічаць у турніры. Кароль кіўнуў, што дазваляе.

На пляцоўцы з'явіўся рыцар у блакітным з серабром уборы, сярэбраным шлеме з белым і блакітным султанам. Прынцэсы ўскрыкнулі, калі пазналі постаць і каня свайго вызваліцеля. Рыцар пакланіўся панам і пачаў біцца з князямі. Але колькі іх было, ён усіх перамог і стаў адзіным пераможцам.

Славена спусцілася да яго з залатым поясам. Рыцар стаў перад ёй на калена, і яна павесіла яму на шыю пояс, які сама вышывала. Рукі яе дрыжалі, а твар гарэў. Яна не разумела, ці гэта сонца так паліць, ці вогненны пагляд прыгожага рыцара. Славена апусціла вочы і пачула салодкія словы: “Прыгожая нявеста, сёння ты будзеш маёй”.

Кароль і абедзьве сястры спусціліся ўніз, каб затрымаць рыцара і аддзячыць яму. Але той пацалаваў Славене руку і знік. А яна засталася стаяць, думаючы пра тое, што пачула.

Зноў было баляванне, і толькі Славена сядзела ў сваім пакоі і не хацела ісці да гасцей.

Свяціў месяц, і ад скалы конік апошні раз вёз свайго гаспадара. Калі пад'ехалі да замка, Баяя саскочыў з каня, пацалаваў яго ў шыю, у пляму, пасля чаго конік знік з вачэй. З цяжкім сэрцам развітаўся наш рыцар з верным сябрам, але наперадзе яго чакала салодкая ўзнагарода.

Задуменная сядзела Славена і думала, што рыцар наўрад ці прыедзе. Тут адчыніліся дзверы і служанка сказала, што Баяя хоча пагаварыць з прынцэсай. Славена не адказала, але яе галава апусцілася на падушку. Раптам яе нехта ўзяў за руку, яна ўзняла галаву і ўбачыла перад сабой прыгожага героя, свайго вызваліцеля.

— Ты так угневана на свайго жаніха, што ад яго хаваешся?

— Чаму ты ў мяне пра гэта пытаешся, калі не з'яўляешся маім жаніхом? — прашаптала Славена.

— Я, паненка, стаю перад табой, нямы Баяя, які прызначаны табе ў мужы, я ад смерці вызваліў цябе і тваіх сясцёр, а бацьку твайму дапамог перамагчы ворага. Я твой жаніх!

Тое, што Славена на яго не ўгневалася, можа кожны пацвердзіць. Праз нейкую хвіліну адчыніліся дзверы святочнай залы і ў яе ўвайшлі Славена з рыцарам у белым касцюме і залатым шлеме. Яна прадставіла рыцара бацьку, як свайго жаніха, якога той ведаў раней, як нямога Баяя!

Бацька радаваўся, госці дзівіліся, а сёстры глядзелі на ўсе вочы. Цяпер распачалася сапраўдная весялосць, госці пілі за здароўе маладых аж да раніцы.

Пасля вяселля паехаў Баяя са сваёй Славенай да бацькоў. Але спалохаўся, калі ўбачыў, што цэлы горад зацягнуты чорным сукном. Спытаўся, што гэта азначае, і пачуў, што памёр малады кароль.

Ён паспяшаўся ў замак, каб парадаваць бацькоў. Сапраўды толькі яму магло пашчасціць, бо бацькі лічылі яго памерлым, так як доўгі час нічога пра яго не чулі.

Цяпер у замку пасялілася радасць, чорнае сукно прыбралі, а замест яго ў горадзе павесілі чырвонае. Баяя стаў каралём у сваім каралеўстве і са сваёй жонкай жыў шчасліва аж да смерці.

## ЯН НЭРУДА
## (1834—1891)

Паэт, празаік, публіцыст

Ян Нэруда — выдатны мастак слова, тэарэтык мастацтва, публіцыст. Нарадзіўся творца ў Празе, і з раёнам горада Мала Страна звязана яго жыццё.

Ян Нэруда вывучаў права, філасофію, але захапіўшыся журналістыкай, назаўсёды абраў гэту прафесію.

Пісьменнік увайшоў у чэшскую літаратуру ў 50-я гады XIX стагоддзя, калі ў краіне панавала рэакцыя. Увайшоў як аўтар паэтычнага зборніка "Магільныя кветкі" (1858), пазней з друку выйшаў шэраг кніг паэзіі Яна Нэруды: "Касмічныя песні" (1878), "Балады і рамансы" (1883), "Простыя матывы" (1883), "Песні Велікоднай пятніцы" (1896).

Першая кніга прозы "Арабескі" ўбачыла свет ў 1864 годзе. У яе ўвайшлі творы розных жанраў: фельетоны, нарысы, легенды, апавяданні ў форме дзённіка і лістоў. Да "Арабесак" у хуткім часе далучылася кніга кароткіх псіхалагічных эцюдаў "Розныя людзі" (1871). Вяршыняй нэрудаўскай прозы з'яўляюцца "Маластранскія апавяданні і аповесці" (1878), якія гісторыкі літаратуры лічаць лепшымі ўзорамі чэшскай прозы XIX стагоддзя. Нэруда пісаў "Маластранскія апавяданні і аповесці" пасля смерці маці, калі перасяліўся на новае месца жыхарства ў Празе. Гэта кніга навеяна ўспамінамі маленства і юнацтва, у ёй мастак слова пісаў пра тое, што добра ведаў і любіў. Менавіта таму гэта кніга — класіка чэшскай прозы, якая дала імпульс для стварэння выдатных кніг Яраслава Гашака, Карэла Чапека і інш.

## Як пан Ворэл абкурыў сваю люльку

16 лютага тысяча васемсот саракавога года адчыніў пан Ворэл сваю краму па продажы круп і мукі ў доме "Ля зялёнага анёла".

— Да, Poldi hörst[1], — сказала пані сотнікава, што жыла на паверх вышэй за нас, сваёй незамужняй дачцэ, якая ішла на кірмаш і ўжо стаяла ў калідоры, — манкі купі ў гэтага новага, трэба пакаштаваць.

Многія легкадумныя людзі, магчыма, вырашаць, што адкрыццё новай крамы не было нейкай значнай падзеяй. Я такому недапечанаму сказаў бы толькі: "Ты, няшчасны!" — або толькі пацiснуў бы плячыма і нічога б не сказаў. Калі б правінцыял, які дваццаць гадоў не быў у Празе і праз Страгоўскую браму дайшоў бы да Аструговай вуліцы, то знайшоў бы гандляра на тым жа самым месца, дзе той і быў дваццаць гадоў таму, пекар знаходзіўся б пад той жа шыльдай, і кожны дробны купец там жа. Калісьці ўсё мела сваё вызначанае месца, і адчыніць раптам краму па продажы мукі і круп там, дзе раней быў іншы продаж, выглядала б настолькі недарэчна, што пра гэта ніхто б і не падумаў. Крама пераходзіла ў спадчыну ад бацькі да сына, а калі б раптам перайшла да нейкага гандляра, які пераехаў з Прагі або з правінцыі, то мясцовыя жыхары глядзелі б на яго, як на чужынца, за выключэннем выпадку, калі б падпарадкаваўся нейкім чынам ранейшаму парадку і не выдумляў навацый. Пан Ворэл быў не толькі чужым для іх чалавекам, ён адчыніў краму па продажы мукі і круп у доме "Ля зялёнага анёла", дзе раней зусім не было аніякай крамы, і дзеля гэтага разбурыў сцяну на першым паверсе будынка, каб быў выхад на вуліцу. Раней там знаходзілася толькі скляпеністае акно, ля якога з раніцы да вечара сядзела пані Станькава з малітоўнікам і з зялёным казырком над вачыма, і кожны, хто праходзіў каля дома, мог яе бачыць. Старую ўдаву адвезлі чатыры гады назад на могілкі ў Кашырне і цяпер — мы маем краму! Гандляр мукой і крупамі на Аструговай вуліцы заўсёды быў адзін, і гэтага ўсім было дастаткова. Дык навошта другі? Калі людзі яшчэ мелі грошы, то прызапашвалі муку і крупы проста з млына. Магчыма, пан Ворэл думаў: "Нічога, справа пойдзе!" Магчыма, любуючыся сабой, уяўляў, што ён, малады і прыгожы хлопец, з круглым тварам, бліскучымі блакітнымі вачыма, зграбны, нібы дзяўчына, да таго ж нежанаты, таму гаспадыні абавязкова да яго пойдуць. Але дзіва не адбылося.

Прайшло ўжо амаль чвэрць года, як пан Ворэл перабраўся на Аструговую вуліцу аднекуль з правінцыі. Пра яго нічога не ведалі, акрамя таго, што ён сын млынара, пэўна, ён сам расказаў бы пра сябе болей і ахвотна, але ў яго не пыталіся. Старажылы глядзелі на яго з пагардай, бо ён быў для іх чужы. Увечары пан Ворэл сядзеў у карчме "Жоўты дом" з куфлем піва на рагу стала каля печкі і заўсёды самотна. Іншыя наведвальнікі яго не ўспрымалі, мабыць, толькі ківалі галавой, калі ён сам з імі вітаўся. Хто заходзіў у карчму пазней за яго, глядзеў на пана Ворэла так, нібы гэты

[1] Паслухай, Польдзі (ням.)

незнаёмы чалавек тут упершыню, калі ж ён заходзіў пазней, то размова адразу сціхала. Так і здарылася ўчора, пана Ворэла ніхто не ўспрымаў, а між тым там ладзілася ўрачыстасць! Святкаваў пан Ярмарка, паштовы служачы, сярэбранае вяселле. Гэты пан Ярмарка да сёння быў старым халасцяком, але 18 лютага дваццаць пяць гадоў назад ён мог ажаніцца. Яго нявеста памерла за дзень да вяселля, і пан Ярмарка з таго часу ні пра які шлюб больш не думаў, застаўся верным сваёй нявесце і да ўчарашняга дня ён сапраўды сур'ёзна казаў пра сярэбранае вяселле. Яго суседзі, добрыя людзі, не бачылі ў гэтым нічога асаблівага, і калі пад канец звычайнага добрага падпітку пан Ярмарка паставіў тры бутэлькі "мельніцкага", яны ўспрынялі гэта з радасцю. Кілішкі пераходзілі ад аднаго да другога (у гаспадыні было толькі дзве чаркі для віна), але ніводная не трапіла да пана Ворэла. А між тым у пана Ворэла сёння была новая люлька, аздобленая серабром, і набыў ён яе таму, каб быць падобным да суседа.

16 лютага, а шостай гадзіне раніцы, адчыніў пан Ворэл сваю краму ў доме "Ля зялёнага анёла". Ужо ўчора тут усё было добра падрыхтавана, крама ззяла белізною пасля рамонту. На прылаўках і ў раскрытых мяхах мука была бялейшая за толькі што пабеленую сцяну, а бліскучы гарох быў жаўцейшы за посуд апельсінавага колеру. Суседзі і суседкі, што праходзілі каля крамы, уважліва зазіралі ўнутр, а некаторыя нават вярталіся, каб паглядзець яшчэ раз. Але ў краму ніхто не ўвайшоў.

— Яны ўсё роўна прыйдуць, — сказаў пан Ворэл, апрануты ў кароткую шэрую камізэльку і белыя суконныя штаны, а сёмай гадзіне.

— Толькі б нехта зрабіў пачын першым, — сказаў ён а восьмай гадзіне і запаліў сваю новую люльку, пусціўшы клубы дыму.

А дзевятай ён падышоў да дзвярэй і акінуў поглядам вуліцу, ці не ідзе нарэшце той першы, хто зробіць пачын. Якраз па вуліцы ішла дачка сотніка, панна Палдынка. Палдынка, кругленькая невысокая паненка з шырокімі плячыма і сцёгнамі, выглядала старэйшай за свае дваццаць гадоў.

Пра яе ўжо чатыры разы казалі, што пойдзе замуж, але яе светлыя вочы заўсёды мелі выраз абыякавасці, стомленасці, як у жанчын, якія носяць каптур занадта доўга. Яна хадзіла, перавальваючыся з боку на бок, і было пры гэтым у яе хадзе нешта асаблівае. Маючы адпаведныя намеры, панна Палдынка заўсёды спатыкалася і пры гэтым падцягвала сукенку, нібыта на яе наступала. Мне гэтая яе хада нагадвала доўгі эпічны верш, дзе кожная страфа мае аднолькавую колькасць стоп. Позірк гандляра спыніўся на панне Палдынцы.

Паненка падышла з кошыкам у руцэ аж да дзвярэй крамы. Яна ўзняла вочы, нібы нешта яе здзівіла, потым спатыкнулася аб прыступку і стала ў дзвярах. Так і стаяла, прыціснуўшы насоўку да носа. Пан Ворэл перад гэтым доўга курыў, і ў краме было накурана.

— Цалую ручкі. Што жадаеце? — спытаў яе з гатоўнасцю пан Ворэл, зрабіўшы два крокі назад і паклаўшы люльку на прылавак.

— Два жэйдлікі[2] манкі сярэдняга памолу, — загадала панна Палдынка і напалову высунулася з крамы.

Пан Ворэл замітусіўся. Ён адмераў два жэйдлікі манкі, дадаў яшчэ палову і высыпаў усё ў папяровы пакет. Пры гэтым ён размаўляў з пакупнікам.

— Вы будзеце, далікатная паненка, вельмі задаволеная, — казаў ён, запінаючыся ад хвалявання, — так… трымайце, калі ласка!

— А ці не шмат? — запытала ў яго панна Палдынка з нейкім стрыманым дыханнем і высмаркалася ў насоўку.

— Чатыры крэйцары. Так! Цалую ручкі! Калі пачын робіць прыгожая паненка, то значыць, што буду мець шчасце!

Панна Палдынка паглядзела на яго халодна, вырачыўшы вочы. Вось які гэты новы гандляр! Ён усцешыцца, калі да яго прыйдзе па закупкі дачка мылавара рудая Анута. Яна не адказала і пайшла з крамы.

Пан Ворэл паціраў рукі. Ён выглянуў на вуліцу, і яго позірк спыніўся на пане Вайцішку, жабраку. Адзін момант, і пан Вайцішак са сваім блакітным капелюшом у руцэ ўжо стаяў ля дзвярэй.

— Тут ёсць добры чалавек, — сказаў яму пан Ворэл дабрачынна, — прыходзьце сюды кожную сераду.

Пан Вайцішак усміхнуўся, падзякаваў і пайшоў. Пан Ворэл зноў пацёр рукі і падумаў: "Мне здалося, што дастаткова на некага ўважліва паглядзець, дык ён абавязкова зойдзе ў краму. Так, справа пойдзе!"

А ў гэты час каля дома "Ля глыбокага склепа" стаяла сотнікава панна Палдынка і апавядала жонцы саветніка пані Кдаековай: "Ён там так накурыў, што ўсё нібы копчанае". А калі зварылі з манкі суп і паставілі на стол, то панна Палдынка ўпэўнена заявіла, што "адчувае пах тытуню" і паклала лыжку.

Да вечара ўсе суседзі сказалі, што ў краме пана Ворэла ўсё прапахла тытунём, мука, нібыта палёная, а крупы — копчаныя. І ўжо не называлі пана Ворэла ніяк інакш, як толькі "копчаны гандляр". Лёс яго быў вырашаны.

Пан Ворэл нічога не прадчуваў. Ну быў першы дзень няўдалым, нічога. Другі, трэці — ну яшчэ не страчана надзея! Напрыканцы тыдня ў яго не было нават двух залатых выручкі — гэта чорт ведае што!

І так працягвалася далей. З суседзяў не зайшоў ніхто, часам у краму мог заблукаць правінцыял. Дакладна заходзіў толькі пан Вайцішак. Адзіным суцяшэннем для пана Ворэла была яго люлька. Чым агідней быў яго настрой, тым большыя клубы дыму выляталі з яго вуснаў.

Твар пана Ворэла стаў бледным, лоб зморшчыўся, а люлька з дня на дзень рабілася больш чырвонай і бліскучэла ад абкурвання.

Паліцэйскія з Аструговай вуліцы аднойчы зазірнулі ў краму, каб паглядзець на гэтага нястомнага курыльшчыка з люлькай у вуснах, які толькі аднойчы выйшаў на вуліцу! У прыватнасці адзін з іх, невысокі пан Новак, невядома што даў бы, каб змог прымусіць гандляра выкінуць люльку.

---

[2] Жэйдлік — бляшаная конаўка (каля 0,5 літра).

Паліцэйскія інстынктыўна адчулі непрыязь суседзяў да чужынца. Але пан Ворэл сядзеў у дрэнным настроі за прылаўкам і нават не зварухнуўся.

Крама занепадала і рабілася занядбанай. Праз пяць месяцаў пана Ворэла пачалі наведваць сумніўныя людзі, яўрэі. Пасля кожнага наведвання пан Ворэл прычыняў шкляныя дзверы крамы. Суседзі пачалі з упэўненасцю казаць, што Мала Страна ўбачыць банкрота. “Нехта аднойчы прадасць краму яўрэю!”

Да дня святога Гавэла ўжо сказалі, што пан Ворэл будзе выязджаць, а домаўладальнік краму перабудуе ў кватэру. Нарэшце, за дзень да ад’езду, крама была шчыльна зачыненая.

На наступны дзень перад зачыненай крамай пана Ворэла з дзевяці раніцы аж да вечара было поўна народу. Казалі, што пан домаўладальнік нідзе не мог знайсці пана Ворэла. Калі дзверы крамы вымушаны былі ўзламаць, на вуліцу паляцела драўляная лава, а пад столлю вісеў няшчасны гандляр, што павесіўся на круку.

А дзесятай гадзіне прыйшла судовая камісія і ўвайшла ў краму праз дом. Яны знялі самазабойцу, дапамагаў ім паліцэйскі камісар з Малай Страны, пан Умюль.

Ён залез у кішэнь камізэлькі нябожчыка і выцягнуў адтуль люльку. Патрымаў яе на святле і сказаў: “Я такую выдатна раскураную люльку яшчэ не бачыў, паглядзіце!”

## ЯКУБ АРБЕС
## (1840—1914)

Празаік, публіцыст

Якуб Арбес нарадзіўся ў вядомым раёне Прагі, які мае назву Сміхаў. Навучаўся тэхнічным навукам, але навучанне не скончыў. Сваё першае і апошняе месца працы знаёшоў у газеце. Доўгі час супрацоўнічаў у рэдакцыі "Народніх лістаў", потым перайшоў на вольны хлеб пісьменніка.

Чэшскую прозу Якуб Арбес узбагаціў сваім раманета. Гэты жанр адкрыў у нацыянальнай літаратуры Ян Нэруда, які далучыў свой твор "Лумірл" (1873) да вядомага твора Арбеса "Святы Ксаверый" (1873) і падкрэсліў, што жанр раманета не можа мець болей за 100 старонак.

Якуб Арбес задумаў стварыць цыкл раманаў пра жыццё народа ў 1-й палове XIX стагоддзя, але напісаў толькі першы раман з цыкла.

## **Шэравокі дэман**
### ***раманета***

> Боскасць стварыла на гэтым свеце шмат каштоўнасцей, але, мабыць, найважнейшай каштоўнасцю з'яўляецца жанчына. Дзе няма жанчыны, там няма шчасця.
>
> Жанчына прыносіць гора, калі яна кахае або ненавідзіць. Мала існуе ў свеце такога, чаго не змагла б адолець жанчына. Яна ніколі не выкажа тое, што схавана ў сэрцы, а што выкажа, то праўдай не з'яўляецца, а пра тое, што зробіць, нікому не скажа.
>
> *Даўняе індыйскае выслоўе*

Як жаночая напышлівасць, халодны і няветлівы лістападаўскі вечар апусціўся над Прагай.

На пустых вуліцах дзьме востры, пранізлівы вецер, гонячы перад сабой кроплі дробнага дажджу. У імгненне ён затуліцца ў цемры, застогне і засычыць, лязгаючы ліхтарамі, так моцна на іх націскаючы, што полымя ў ліхтарах імкліва загайдаецца, незаўважна знікаючы, а ледзьве бачныя ў імгле палоскі святла то інтэнсіўна загарацца на вільготным бруку, то тут жа згаснуць, утвараючы ў імгле сілуэты правільных шасціграннікаў або іншыя геаметрычныя фігуры.

Уначы амаль бязлюдная Мала Страна пусцее больш, чым звычайна. На вуліцах цемра. Толькі то тут, то там яшчэ гараць самотныя ліхтары, цьмянага і мігатлівага святла якіх ледзь хапае на тое, каб асвятліць некалькі крокаў.

На Святамікулашскай вежы прабіла адзінаццаць, калі ад Каменнага маста на Лазенскую вуліцу павярнула высокая мужчынская постаць. Напэўна, мужчына нёс пад пахай нешта дастаткова цяжкае, але тым не менш ішоў паспешліва. Часам праз два-тры крокі спыняўся, уважліва азіраўся вакол сябе і калі бачыў, што нікога няма, клаў ношу побач з сабой на зямлю, каб адпачыць.

Ён ніколі не спыняўся каля асветленага ліхтара або паблізу яго, а заўсёды толькі на адлегласці, дзе панавала цемра.

Калі здаралася, што мужчынская постаць набліжалася да ліхтара, то пераходзіла заўсёды на адлегласці дваццаці-трыццаці крокаў ад яго праз вуліцу, каб трапіць на супрацьлеглы тратуар і быць ад святла як мага далей.

Твар мужчыны нельга было распазнаць. Шырокі, глыбока на вочы нацягнуты капялюш, узняты каўнер паліто не дазвалялі ўбачыць твар і тады, калі на вуліцах было святлей, і мужчына з асцярожнасцю пазбягаў святла, баязліва яго абыходзячы.

Ён прайшоўся Лазенскай вуліцай, завярнуў на Мальтэзскую плошчу, потым праз аркі накіраваўся да палаца Насціцова.

У аркадзе, дзе панавала непраглядная цемра, нечакана пачуліся аддаленыя крокі, якія набліжаліся.

Мужчына схаваў рукі назад і асцярожна стаў пасярэдзіне аркады, схаваўшыся за слуп, чакаючы, што той, хто ідзе яму насустрач, пройдзе.

Прыглушаны гук крокаў заціх якраз каля слупа, за якім стаяў мужчына са сваёй ношай (хутчэй за ўсё чалавекам у аркадзе, які шукаў сабе прытулак у непагадзь, быў паліцэйскі).

Мужчына за слупам шчыльней прыціснуўся да сцяны, каб святло ад ліхтара на рагу, побач з палацам Насціцова, якое прасочвалася ў аркаду, не ўтварала аніякага ценю.

Праз хвіліну ў аркадзе зноў загучалі размераныя крокі, і калі яны сталі цішэй, у адно імгненне постаць, якая прыціскалася да сцяны за слупам, накіравалася са сваёй ношай далей, да Насціцова палаца.

Тут яна завярнула да Аўезду і паспешліва пайшла да Аўездскай брамы.

Калі зварочвала на рагу на меншую вуліцу, то заўсёды ўглядалася надзвычай напружана ўдалечыню, нібы імкнулася зразумець, ці не ідзе нехта насустрач. Яна часта азіралася ўважліва назад, ці не ідзе хто за ёй следам.

Аднак перад ёй і пасля яе вуліцы былі пустымі, яна не сустрэла па дарозе аніводнай жывой душы.

Калі падышла да Маластранскага арсеналу, то павярнула на рагу на вуліцу Збройніцкую, цяпер Вышаградскую, і праз некалькі крокаў спынілася перад старым домам з вузкім франтонам, з двума вокнамі і з вялікай чорнай брамай.

Тут яна паклала свой груз на зямлю каля сябе, каб адпачыць.

Праз некалькі імгненняў яна выцягнула з кішэні ключ і асцярожна, каб у замку не заела, уставіла яго ў дзірку замка і яшчэ асцярожней павярнула. Дзверы расчыніліся, і ключ у замку не зарыпеў і не завяз. Памалу і без шуму прыадчыніліся дзверы брамы, і, узняўшы ношу з зямлі, яна ўвайшла. Потым асцярожна зачыніла дзверы і на дыбачках пайшла па дарожцы праз вузкі дворык да малых адчыненых дзвярэй у будынку з правага боку.

Увайшоўшы ў пярэдні пакой, постаць зноў спынілася. Адразу пачулася чырканне запалкай, але запалка не загарэлася. Чырканне паўтарылася, і праз хвіліну быў асветлены пярэдні пакой жоўтым святлом васкавой свечкі.

Мужчына з ношай пад пахай спыніўся перад трухлявымі вытаптанымі драўлянымі прыступкамі.

Ён хвіліну ўважліва паслухаў, потым памалу і асцярожна пачаў паднімацца па прыступках. Пры кожным кроку прыступкі жалобна рыпелі і хісталіся, мужчына спыняўся, уважліва прыслухоўваючыся, і некалькі імгненняў стаяў.

Нарэшце ён трапіў у квадратную, выкладзеную керамічнай пліткай вітальню на першым паверсе.

Сцены вітальні былі закопчаныя, фарба месцамі аблуплена. Нізкая столь амаль без тынку, і тут і там тырчэлі вырваныя старыя дошкі. З аднаго боку вузкае акенца выходзіла ў двор.

Насупраць лесвіцы вісеў на сцяне або дакладней абапіраўся на сцяну ад падлогі да столі чорны надтрэснуты драўляны крыж з выявай Хрыста амаль у поўны рост.

Гэтая разьбярская работа была выканана надзвычай прымітыўна. Твар Хрыста ў брудным жоўтым святле закопчанай свечкі меў замест незямнога выразу цярпення і пакуты выраз упарты, здзічэлы, які з'яўляецца на тварах мярзотнікаў, жорсткіх і грубых людзей, калі іх душы ахоплівае нейкая бессаромная жарсць.

Голае, пагрызенае часам тут і там цела Хрыста было агідна скрыўлена, нібы цела калекі, які выставіў свае хворыя канечнасці на агляд.

З ран збоку, паміж распасцёртымі рукамі і крыжам, а таксама з прабітых іржавым цвіком ног цякла чорная кроў, нібы вугаль. Вялікія, размазаныя кроплі крыві з тых ран, дзе была надзета карона з цёрну, былі на худым целе і на запалых скронях падобнымі на язвы, агідныя плямы, якія застаюцца на целе чалавека пасля маравой язвы.

Мужчына з ношай, апынуўшыся ў вітальні, спыніўся, азірнуўшыся спачатку вакол сябе, а потым зноў уважліва прыслухаўся.

Вакол панавала мёртвая цішыня. Толькі часам акенца страсаў вецер; у цемры пачуўся грукат, нібы ссыпалі арэхі, потым зноў можна было толькі пачуць глухі, аднастайны, аддалены грукат аж пакуль зноў не стала ціха, нібы ў труне.

Праз хвіліну мужчына зрабіў некалькі крокаў і ўзняў свечку вышэй, каб асвяціць лепей вітальню, потым азірнуўся вакол сябе.

З аднаго боку вітальні двое старых дзвярэй было замкнёна. Насупраць іх былі трэція дзверы, таксама замкнёныя. Каля іх драўляныя, закопчаныя, старадаўнія прыступкі вялі да зямлі, як гэта часта бывае ў старадаўніх дамах, дзе дзверы размяшчаюцца ў столі.

У астатнім вітальня была амаль пустой, толькі ў адным куце знаходзілася нешта з хатняга ўжытку і ля парэнчаў стаяў невялікі чорны драўляны куфар.

Таемны наведнік, не чуючы нідзе нават шоргату, капнуў крыху воску на парэнчы і прыляпіў запаленую свечку, потым паставіў ношу каля куфра, адсунуў трохі назад капялюш і расшпіліў паліто.

Святло падала яму непасрэдна на твар і асвятляла ўсю яго постаць.

Гэта быў высокі, худы, трыццацігадовы мужчына, з шырокімі, хутчэй своеасаблівымі, чым правільнымі рысамі твару, з цёмнымі барадою і вусамі.

Яго лоб, наколькі можна было яго бачыць пад капелюшом, быў у зморшчках, цёмныя вочы гарэлі хваляваннем, што выклікала ў ім нейкі чуллівы водбліск смутку. Мяккія, аднак цвёрда сціснутыя вусны дадавалі твару выраз халодны і строгі, ажно да агіднай жорсткасці.

Як толькі ён паклаў ношу на зямлю, ён рэзка сагнуўся і, укленчыўшы на адно калена, нахіліўся да куфра, адчыніў яго памалу і асцярожна зазірнуў. Святло закопчанай свечкі на парэнчах трапіла ўнутр куфра і асвятліла ў ім — голую мёртвую дзяўчынку.

Яна ляжала на цёмнай, засцеленай на дне куфра хустцы з воўны, нібы спакойна драмала. Белае цельца было незвычайна худзенькім, тоненькія ручкі нябожчыцы былі складзены крыжам на грудзях і звязаныя вузкай пурпуровай стужкай.

Галоўка з рэдкімі, колеру крыла вароны, валасамі, якія блішчэлі, нібы шаўковыя, на запалым цемечку, была схілена на грудзі, што надавала тонкаму пяшчотнаму твару пры ўсёй сваёй дзіцячай нявызначанасці пэўныя рысы, поўныя невыразна мілай упартасці.

Прыгожа акрэслены лоб быў гладкім і чыстым, павекі з тонкімі блакітнымі жылкамі былі прыўзнятыя, і з-пад густых цёмных веек блішчэлі на белым зрэнкі, нібы дзве дробныя чорныя жамчужыны.

Вузенькія, сціснутыя рукі былі да гэтага часу яшчэ свежыя, нібы пакрытыя расой бутоны ружы.

Укленчыўшы, мужчына глядзеў у куфар на тонкія рысы прыгожай нябожчыцы.

Ён доўга пазіраў без хвалявання, і ў душы яго вірыліся сумныя пачуцці і горкія ўспаміны; твар яго паступова спахмурнеў, лоб яшчэ болей пакрыўся зморшчкамі, вусны яшчэ мацней сціснуліся, а з цёмных вачэй памалу пацяклі слёзы па збялелым твары…

Потым ён рэзка адвярнуўся ад нябожчыцы, прыкрыў павекі і схіліўся над ёю, як чалавек, якога падчас цяжкай хваробы пачынаюць пакідаць сілы.

Галавой ён абапёрся на правую руку, якую міжволі паклаў на крышку куфра, і доўга сядзеў без руху, вочы ён зажмурыў, а на твары яго яшчэ доўга бачны былі сляды ўнутранай барацьбы і хваравітага раздражнення.

У хуткім часе дагарэла свечка на парэнчах лесвіцы, і ў вітальні пасялілася абсалютная цемра.

Некаторы час панавала магільная цішыня. Раптоўна падзьмуў звонку рэзкі вецер і, націснуўшы з усёй сілы на акенца, так яго затрос, што яно насцеж расчынілася, і вецер завіхрыўся па ўсёй вітальні.

Паток ветру быў настолькі моцны і нечаканы, што паваліў крыж з Хрыстом, які быў абаперты аб сцяну, і ён з грукатам паляцеў на зямлю.

Мужчына над куфрам узняў галаву. Вакол была непраглядная цемра і толькі халодны подых ветру авяваў яго разгарачаныя скроні. Ён хацеў падняцца, але не ўстаў і толькі змяніў паставу каля куфра.

У той жа момант зарыпелі адны з нізкіх дзвярэй, слабы прамень жоўтага святла ўзнік у вітальні, і на парозе каля адчыненых дзвярэй з'явілася жаночая постаць у беласнежнай начной кашулі.

Гэта была дваццацігадовая хударлявая дзяўчына. Няспанне, клопаты і смутак адбіліся на яе бледным, але па-ранейшаму свежым і напоўненым надзвычайнай прыгажосцю Усходу, з характэрнай для гэтага рэгіёну смуглай скурай, твары. Выраз твару быў незвычайна задуменным.

Яе распушчаныя чорныя валасы акружалі твар, а налітыя крывёй бялкі вачэй дадавалі твару дзіўны выраз вясталкі; яе мяккія, гарачыя вусны пурпуровага колеру, на якіх, здавалася, захаваліся гарачыя, абпальваючыя пацалункі, і поўныя, напалову прыкрытыя начным адзеннем грудзі, хутчэй стваралі вобраз жанчыны, створанай для жыцця і раскошы, чым для пакуты.

Яна трымала ў адной руцэ лямпу, а ў другой — недашытую дзіцячую белую кашулю, і некалькі імгненняў нерухома стаяла ля дзвярэй, без страху пазіраючы на мужчыну, які схіліўся над куфрам.

Зрабіўшы некалькі крокаў наперад, яна паставіла лямпу на парэнчы менавіта туды, дзе раней была васкавая свечка, і бліжэй падышла да мужчыны.

Той не ўзняўся з зямлі, а на яго твары адбілася спроба адвесці нейкую цяжкую думку, потым ён моўчкі паглядзеў у млявы задуменны твар дзяўчыны, што стаяла побач, і, нахіліўшыся да яго, пазірала таксама моўчкі, але з выразам нецярпення, нібы хацела зразумець, што яе чакае, радасць або смутак.

Без слоў мужчына зноў прыўзняў крышку куфра.

— Падніміся! — прастагнала дзяўчына, закрываючы адной рукой твар.

Аднак тут жа нахілілася да куфра, абняла памерлую дзяўчынку і пачала нястрымна цалаваць яе белы, як снег, лоб.

— Не магу, не магу развітацца! — усхліпвала яна прыглушаным голасам.

Ля куфра яшчэ стаяў, укленчыўшы на адно калена, мужчына, але ён нічога не сказаў, а разгарнуў цёмную матэрыю, у якую было загорнута тое, што ён прынёс з сабой.

Там была чорная драўляная труна. Мужчына ўзняў вечка. У труне знаходзілася іншая труна з шкляным вечкам, дзе сярод свежых руж і мірту ляжала памерлае дзіця ў белай кашульцы.

Дзяўчына, якая абдымала нябожчыцу, уважліва паглядзела ў труну і прашаптала няшчыра з радасным здзіўленнем:

— Божа! Якое падабенства!

— Доўга нельга марудзіць, — нагадаў мужчына глухім голасам. — Ужо хутка поўнач і да раніцы трэба паспець.

Потым закрыў зноў ціха куфар і труну, рэзка падняўся, узяў труну і лямпу і ўвайшоў у пакой, дзе незадоўга да гэтага была дзяўчына.

Дзяўчына з памерлым дзіцем, працягваючы яго цалаваць у лоб, механічна пайшла за ім і памалу, асцярожна зачыніла дзверы.

Вітальня зноў засталася пустой, і толькі вецер штурхаў адчыненае акно ўнутр, жаласна і сумна віхурачыся.

У пакоі, куды ўвайшлі мужчына з дзяўчынай і іх дзіцем, закрытае шторай акно выходзіла ў двор суседняга дома, і там было светла аж да раніцы.

Вакол панавала цішыня, але калі б нехта ўважлівы за гэтым акном назіраў, то па мільгаючых ценях даведаўся б, што ў пакоі не спяць, а калі б нехта ўважлівы прыслухаўся з суседняга двара або вітальні, то пачуў бы не толькі грукат ветру, але і асаблівы, у прыватных дамах не характэрны шум.

Здавалася, што часам нехта рэзка круціць ручкай, потым ішла паўза, і можна было пачуць нейкі прыглушаны грукат, нібы паветра праходзіла праз вузкую адтуліну ў вялікую прастору, што паўтаралася праз дзесяць-пятнаццаць хвілін, і так было да самай раніцы, калі таямнічы мужчына яшчэ на світанку пакінуў пакой і дом, гэтак жа асцярожна і абачліва, як і прыйшоў.

Потым усё сціхла ў пакоі, і нішто не парушала гэтую цішыню.

Прайшла палова дня, пакуль дзверы пакоя адчынілі.

Цікаўныя суседкі падыходзілі некалькі разоў да дзвярэй і прыслухоўваліся, потым адна з іх пастукала, калі ж ніхто не азваўся, то чакалі аж да другой паловы дня.

За некалькі хвілін да дзвюх гадзін папаўдні дзверы, нарэшце, расчыніліся.

У пакоі акрамя ложка, стала, малой шафы і трох крэслаў не было іншай мэблі, стол ад сцяны быў адсунуты на сярэдзіну пакоя, і на стале ў чорнай труне ляжала ў белай кашульцы памерлае дзіця. Труна была прыкрыта паўпразрыстай белай матэрыяй, і таму нябожчыцу можна было ўбачыць толькі нібы праз густую імглу.

Ля вакна сядзела маладая жанчына са збялелым тварам і схіленай галавой. У задуменным выразе твару можна было ўбачыць глыбокі, але ціхі рэлігійны пакорлівы смутак.

У хуткім часе пакой напоўніўся суседкамі з дзецьмі рознага ўзросту, якія сталі вакол стала і моўчкі чакалі прыходу святара.

Роўна а другой гадзіне папаўдні прыйшоў святар з храму Дзевы Марыі Прачыстай з касцёльным вартаўнікам.

Гэта быў мужчына з грубым, абпаленым тварам, на якім амаль без перапынку ўзнікала ўсмешка, якая ад прыроды была непрыветлівай, рабіла твар хутчэй агідным, чым прыемным.

Касцёльны вартаўнік быў карлікам з велізарнай галавой і з цяжкавызначальным выразам пустога ідыятызму на твары.

Яны прыйшлі і праз некалькі хвілін распачалі царкоўны абрад.

Было прамоўлена некалькі лацінскіх слоў, сэнс якіх быў вядомы толькі святару, потым святар акрапіў нябожчыцу ў труне святой вадой і памаліўся, як належала, тройчы паўтарыўшы “Ойча наш”.

Пасля выканання абраду абодва атрымалі за сваю “працу” дзве таксы адмеранага ганарару і гэтак жа важна, як прыйшлі, так і пайшлі.

Незадоўга да таго, як пакой абязлюдзеў, да труны падышоў незнаёмы мужчына ў чорным адзенні, які чакаў ля дзвярэй; ён узяўся за вечка, паклаў яго на труну і забіў цвікі, потым узяў труну і панёс яе па прыступках, а затым праз двор дома, туды, дзе чакаў заказаны катафалк.

Труну паставілі каля перагародкі наперадзе якраз за кучарам, у катафалку размясціліся тры суседкі з чатырма дзецьмі, а мужчына, які труну нёс, ускочыў на козлы каля вазніцы.

Вазніца сцебануў коней, і катафалк загрукатаў па бруку, дастаткова хутка праехаў праз Аўезд і Сміхаў да могілак.

Маладая збялелая жанчына, што сядзела, схіліўшы галаву, ля акна, на працягу ўсяго царкоўнага абраду ані схамянулася, і не варухнулася нават тады, калі незнаёмы мужчына труну забіваў, не ўзняла галаву, каб апошні раз паглядзець на твар свайго памерлага дзіцяці.

Нябожчыцу забралі і павезлі, а маці засталася ў бедным пакоі сядзець самотна.

І як гэта бывае звычайна, пра пахаванне дзіцяці забыліся праз некалькі дзён, а нехта і праз некалькі гадзін.

Пакой, у якім жыла маці, быў зачынены на працягу цэлага дня, як і перад гэтым. І так здарылася, што суседкі, якія наогул з негаваркой, задумлівай, маладой маці па-сапраўднаму не размаўлялі, праз некалькі дзён нават і не звярнулі ўвагу, што дзверы пакоя больш не адчыняліся, іншымі словамі, ніхто ў пакой не заходзіў.

Магчыма, так доўжылася б і далей, калі б іх спакой не парушыў нечаканы выпадак.

Праз пятнаццаць дзён пасля пахавання ў доме з'явілася камісія, якая складалася з рады крымінальнага суда, двух сведкаў і пісара.

Яны запыталіся, у якой кватэры памерла дзіця, увайшлі ў вітальню з прыбітым укрыжаваннем, пастукалі ў дзверы пакоя, а калі ніхто не азваўся, паклікалі ўмельца па замках і дзверы адчынілі.

У пакоі нікога не было, нават з першага погляду было бачна, што тут ніхто не жыў ужо некалькі дзён.

Стаяла толькі трухлявая старая мэбля, што належала суседцы, у якой здымала пакой маладая маці памерлай дзяўчынкі, даўно тут ніхто не прыбіраў, і ўсё было пакрыта тонкім слоем пылу.

Пры далейшым аглядзе высновы рабіліся з дробязей, пра якія забыліся былыя жыхары, гаворка ішла пра гравюры і скульптуру, пра кнігі на розных мовах, што чыталі жыхары пакоя, і іншыя рэчы, якія сведчылі пра густ і адукаванасць, а значыць жыхарка пакоя не была шаснаццацігадовай служанкай Марыяй Кучэравай з Прагі, як было напісана ў дакуменце, што атрымалі ад суседкі. Суседка і выказала свае падазрэнні паліцыі.

У доўгім пратаколе, які быў складзены судовай камісіяй адразу пасля агляду, увага была звернута на наступныя важныя падрабязнасці справы:

Недзе за год перад гэтым — у жніўні — падышла да дворніка маладая жанчына, якая шукала малую кватэру ў наём.

Дворнік накіраваў яе да ўдавы Ганны Вабаржылавай, у якой быў вольны пакой, яшчэ зусім нядаўна тут жылі два студэнты, якія паехалі на вакацыі.

Удава, на якую маладая жанчына зрабіла ўражанне "ветлівай дзяўчыны", здала ёй пакой і была сваёй кватаранткай цалкам задаволеная.

Яна атрымала ад дзяўчыны дакумент, які пазней паказала паліцыі і прыгадала, што жыла дзяўчына ручной працай, а ўсе іншыя суседкі засведчылі, што гэта праўда.

Дзяўчына была ціхай і прыстойнай, амаль нікуды не хадзіла, нікому нічога не казала, ніякіх праблем з ёй не было, яна жыла толькі сваёй працай, гэта бачылі ўсе, хто з ёй меў нейкія стасункі.

Апраналася яна проста, але надзвычай чыста. Знаёмых і сяброў у яе не было, як здавалася суседзям, і толькі адна суседка засведчыла, што выпадкова бачыла, як яе наведаў два-тры разы нейкі чыста апрануты малады мужчына з барадой і вусамі.

Так і жыла дзяўчына нейкі час, нават і блізка нічога не мянялася.

Аднойчы наведала яе ўдава Вабаржылава і надзвычай здзівілася, убачыўшы, што дзяўчына хутка стане маці.

Яна не сказала пра гэта нікому, але праз некаторы час змены ўбачылі і іншыя суседкі і казалі так, як у падобных выпадках бывае: блудніца; з гэтага моманту суседкі больш дзяўчыну не хацелі бачыць, не было ніводнай, якая б яе пашкадавала.

Праз некалькі месяцаў дзяўчына сапраўды стала маці, і дзіцятка, прыгожая дзяўчынка, было пахрышчана без усялякага шуму ў храме Дзевы Марыі Прачыстай.

Маладая маці клапацілася пра сваё дзіця надзвычай добра, але нягледзячы на гэта дзіця захварэла праз некаторы час на запаленне лёгкіх.

Паклікалі лекара. Аднак лячэнне не дапамагло — дзіця памерла; і калі мясцовы лекар агледзеў нябожчыцу, яе пахавалі згодна з каталіцкім абрадам на могілках.

Усё, пра што тут сказана, пацвердзілі ўсе суседкі і былі гатовыя пацвердзіць гэта нават пад прысягай.

Між тым судовая камісія на гэтым справу не скончыла.

Найперш неабходна было дзяўчыну апісаць; калі апісанне было зроблена, яго параўналі з партрэтам у дакуменце і сведкі звярнулі ўвагу, што апісанні не супадаюць.

Прычына, што ніхто раней не звярнуў на гэта ўвагу, была яснай, як божы дзень: удава Вабаржылава, якая не ўмела чытаць, нават не зірнула на дакумент служанкі, адсюль і няўвага да партрэта.

Цяпер судовая камісія разглядала, што адбылося пасля смерці дзіцяці і перад яго пахаваннем.

Доўга не мог ніхто з запрошаных гэта прыгадаць, аж пакуль адна суседка не сказала, што, калі яна выйшла з дому ў дзень пахавання (якраз быў памінальны дзень), было вельмі рана, і яна ўбачыла, што ў вітальні на падлозе ляжала скінутае ўкрыжаванне, было насцеж расчынена акно, а на драўляных парэнчах лесвіцы застаўся агарак васкавой свечкі.

Усё гэта было занесена ў пратакол, але судовая камісія на гэтым не заспакоілася, асабліва таму, што ніхто з запрошаных жыхароў дома не мог нічога больш расказаць.

Адзін з членаў камісіі, які заўважыў, што адзінае акно пакоя выходзіць на суседні двор, прапанаваў, што трэба паслухаць таксама жыхароў суседняга дома, што і зрабілі.

Аднак ніхто не мог прыгадаць, што адбывалася ў пакоі ў першы і другі дзень, тым больш у першую і другую ноч напярэдадні памінальнага дня.

Толькі адна старая, якую слухалі апошняй, распавяла сваім дрыжачым голасам, што акно яе ўнучкі, у якой яна жыве, якраз насупраць акна пакоя і яна добра памятае, што ў ноч перад памінальным днём (яна не магла заснуць) бачыла праз апушчаныя шторы, што ў пакоі мітусяцца два дарослыя чалавекі амаль цэлую ноч і што адтуль далятае часам нейкі дзіўны гук, нібы нехта паварочвае ручкай і адразу пасля гэтага чуецца скрыгатанне ветру, а потым раптам змаўкае. Судовая камісія, зразумеўшы, што ад запрошаных сведкаў нічога немагчыма даведацца, вырашыла яшчэ раз надзвычай уважліва агледзець пакой.

Аднак не знайшла нічога, што магло яе задаволіць, толькі пісар убачыў у куце за печкай некалькі кавалкаў ад шкляной банкі з гладкімі краямі, потым нейкую старую ручку, некалькі малых балтоў і сапсаваны поршань, і пасля стараннага агляду адзін з членаў камісіі заявіў, што гэта хутчэй рэшта ад разбітай вакуумнай помпы.

Якім чынам рэшткі такога прыбора трапілі ў пакой, судовая камісія высветліць не магла, прычына, магчыма, была ў тым, што раней у пакоі жылі студэнты…

Судовы пратакол быў куды больш шырокім і падрабязным.

Менавіта такі спосаб падачы матэрыялу, дзе пытанні чаргаваліся з адказамі, не даваў магчымасці зразумець, чаму судовая камісія з'явілася ў гэтай кватэры і чым гэта было выклікана.

Дазнанне камісіяй таго, што зусім нядаўна знікла жыхарка гэтай кватэры, і яна не была той асобай, якой належаў дакумент, прадстаўлены паліцыі, сваёй таямнічасцю яшчэ больш рабіла следства складаным і цяжкім.

Пасля афармлення і падпісання пратаколу кватэра, якая была агледжана камісіяй, была запячатана ёю важна і цырымонна, а сама камісія як прыйшла, так і пакінула дом.

Цікаўнасць суседзяў не была задаволена. Таму не трэба здзіўляцца, што адна з найбольш адважных суседак, бачачы, што пажылы пісар, які выказаў нерашуча свае падазрэнні, зрабіў некалькі крокаў за судовай камісіяй, дакладна ў той момант, калі камісія выйшла за браму, а пісар адзін застаўся ў двары, хутка да яго падышла і найлагоднейшым голасам спытала, чаму ўласна камісія прыйшла і што імкнуліся адшукаць.

Пісар спыніўся і, прыклаўшы сухенькі палец да свайго носа на пергаментным твары, агледзеў субяседніцу ўважліва з галавы да ног, потым важна і цырымонна прыцішаным голасам заўважыў:

— Дзяржаўная тайна.

Аднак адразу схамянуўся, прыгадаўшы, што могуць і не маючыя адносін да справы людзі нешта сказаць такое, што хоць часткова дапаможа следству, дадаў з інтанацыяй надзвычай важнага даверу:

— Але магу вам нешта паведаімць, бо бачу, што вы прыстойны чалавек.

І нахіліўшыся трохі да яе, сказаў таямніча:

— Дзіця, якое тут памерла два тыдні таму, не было пахавана.

Жанчына паглядзела здзіўлена пісару проста ў вочы, а потым пачала хутка казаць:

— Але ж гэта немагчыма! Я сама на ўласныя вочы бачыла, як труну закрылі і цвікі забілі. Я кажу, што гэта немагчыма! Пра гэта павінна была ведаць найперш я, бо ехала ў катафалку на могілкі і там на ўласныя вочы бачыла, як магільшчык паклаў труну ў магілу і магілу засыпаў…

— Нічога не магу сказаць, як гэта здарылася, — адказаў пісар, падыходзячы да брамы, дзе паміж іншым сказаў трохі болей, — але ёсць доказы, што памерлае тут дзіця пахавана не было.

— Але ж скажыце мне тады, як гэта магла шаноўная камісія высветліць, калі магіла засыпана? — спытала жанчына наіўна і з цікаўнасцю, бо пэўна не першая пыталася пра гэта.

— Як? Гэта высветлена, — адказаў пісар і магчыма ўжо выйшаў бы на шлях праўдзівага раскрыцця дзяржаўнай тайны, каб, падышоўшы да брамы, не ўбачыў, што члены камісіі ўжо садзяцца ў экіпаж.

Пакінуўшы цікаўную суседку без адказу, ён паспешліва, наколькі гэта мог зрабіць пажылы чалавек, падсеў у першым экіпажы на козлы да вазніцы, паўтарыў таму загад рады земскага суда, куды трэба ехаць, і абодва экіпажы накіраваліся да могілак.

На могілках камісія аглядала найперш наноў выкапаную магілу нумар 65 у дзіцячым аддзяленні, пасля чаго пратакол папоўнілі назіраннямі на могілках.

Магільшчык прадыктаваў да пратакола па сутнасці наступнае:

— Учора ўвечары я сказаў аднаму з падзёншчыкаў, які мне часам дапамагае, каб ён раскапаў у дзіцячым аддзяленні даўнішнюю магілу пад нумарам 56.

Падзёншчык быў падпіўшы, і пакуль дайшоў да месца, то паблытаў нумар і пачаў раскопваць магілу нумар 65.

П'яны стан, вячэрняе змярканне і снег, які перад гэтым некалькі дзён падаў і быў вышэй за чаравікі, былі прычынай, што падзёншчык, капаючы, не звярнуў увагі на больш рыхлую гліну, чым тая, што бывае ў даўнішніх магіл, і выкапаў з амаль новай труной.

Потым ён з сілай стукнуў матыгай па труне. Матыга прашыла вечка, вечка адразу адвалілася.

Падзёнчык зазірнуў у адкрытую труну і, прыгледзеўшыся больш уважліва, убачыў, што ў ёй замест нябожчыцы ў белай кашульцы ляжыць акружаная міртам і ружамі васковая фігура.

Перапалоханы ён пабег да мяне, каб мне гэта паведаміць, я пазней пераканаўся ў праўдзівасці яго слоў і з раніцы пераказаў гэта ў паліцыі.

Пратакол допыту падзёншчыка пісаўся вельмі марудна, бо той часта адпіраўся, адмаўляўся ад сваіх слоў.

Нягледзячы на тое, што судовая камісія атрымала пацверджанне, што прычынаю таго здарэння была памылка, падзёншчык доўга блытаўся, бо ўпершыню ён стаяў перад намеснікам старшыні суда. Аднак і гэты аповед здаўся камісіі дастатковым. Выканаўшы сваю задачу, судовая камісія пакінула могілкі.

Хоць працягвалася і далей судовае дазнанне і паліцэйскі вышук, справа засталася абсалютна нявырашанай.

Хто з нас, пастарэлых і пасівелых, выкрэсліўшых каханне з надзённага жыцця, не прыгадае ў самоце час, калі маладыя нашы душы ўпершыню апанавала пачуццё нейкага салодкага нявольніцтва і незадаволенасці, нейкай бязмэтнай і беспрадметнай тугі?

Ні ў кога асабліва гэты душэўны стан не працягваецца доўга.

Шмат калі адна ўсмешка, адзін пагляд альбо іншая акалічнасць выклікаюць тужлівы настрой; у адных гэта доўжыцца гадамі, а ёсць людзі (гэта рэдкая парода), якія не могуць ад гэтага пачуцця пазбавіцца ўсё жыццё...

Я выхоўваўся амаль выключна ў жаночым асяроддзі, але не магу пахваліцца, што быў пазбаўлены гэтых ілюзій.

Памятаю яшчэ добра той час, хоць не магу яго не прыгадваць ніяк інакш, як са спачуваннем і пагардай. Дзіўлюся, як гэта можна, што для мяне погляд прыгожых вачэй і салодкая ўсмешка на прывабным твары значылі болей, чым самыя дакладныя доказы логікі. Як мажліва, што пяшчотны шэпт і далікатны дотык тонкай ручкі больш моцна і трывала адгукаліся ў маёй душы, чым самае разумнае слова самага гарачага абаронцы людскіх правоў, які выступіў супраць заняволення народа, супраць бессаромнага нахабства тых, хто выкарыстоўвае безабаронную слабасць на карысць патрэбам паскудных эгаістычных асоб з прывілеямі.

Праўда ў тым, што гэты салодкі падман, гэта неразуменне жыццёвай мэты доўгі час не маглі абараніць ад засмечвання ўяўлення пра жыццё нерэалістычнымі планамі; яны кіравалі мной да таго часу, пакуль я не ўбачыў дастаткова позна, што жыццё маё замест таго, каб рухацца адзінай плынню наперад, расцяклося на розныя ручайкі, якія паступова губляюцца і знікаюць у пяску ідэалістычных памылак.

У той час, калі эратычная песня была для мяне канонам для ўсіх пачынанняў і імкненняў, асабліва калі бліскучая, зграбная, як маладыя змеі на санцапёку, іграючая тысячамі фарбаў, і як салодкі грэх прывабная песня нешчаслівага Альфрэда дэ Мюсэ захоплівала маладую душу чарамі, што не маюць слоў; у гэты час я адчуваў сябе агідней часцей, чым гэта патрэбна, я глядзеў у кнігу перад сабой і нічога не бачыў, адным словам, у гэты перыяд я больш адчуваў, марыў і думаў, чым узважваў і працаваў.

З аднаго боку, гэты душэўны стан доўга не змяняўся менавіта таму, што жыў я ў ціхай самотнай студэнцкай мансардзе з чалавекам, які быў на некалькі гадоў старэйшым за мяне, які цалкам пасталеў, з чалавекам здольным, уважлівым, свядомым і ўсім, што прыгожае і добрае, захопленым, хоць да ўсяго, што тычыцца кахання, так мне здалося, абсалютна індыферэнтным.

Жылі мы з ім разам некалькі гадоў. Прыяцель, скончыўшы вывучаць правазнаўства, стаў аўскультантам, потым ад'юнктам у Ц.К. земскага, інакш крымінальнага, суда і праз год пасля завяршэння навучання быў (як ён і хацеў), прыняты ў якасці адваката ў пражскі дзяржаўны суд.

Пасаду і прафесію сваю прыяцель не любіў, і часта казаў, што проста немагчыма, каб нехта выступаў у якасці грамадскага абвінаваўцы.

Таму і выконваў свае так званыя "абавязкі" больш свядома, чым іншыя яго калегі, але не праходзіў ніводзін тыдзень, каб яму кіраўнікі або калегі не паказалі перад судом, калі не было магчымасці правесці як след доследы і сабраць доказы па справе, што можна атрымаць скаргу, ці — як калісьці

сказаў адзін з яго калегаў — цярпі, бо няма наогул годных грамадскіх абвінаваўцаў.

Членам дзяржаўнага суда і дзяржаўным адвакатам мой прыяцель стаў, як і многія, супраць сваёй волі.

Калі ён вучыўся, то не меў дастатковых сродкаў для існавання, адсюль немагчымасць ухіліцца ад пасады і пакорліва пагадзіцца з першым вызваленым гняздзечкам, таму і быў пазбаўлены ад матэрыяльных праблем. Ён ведаў, што не ўваходзіць у тое кола людзей, з якімі працаваў, і яны заўсёды будуць ім незадаволены, але жалезнаю рукою прымусіў сябе стрымлівацца.

Са сваім светапоглядам, палітычнымі і грамадскімі прынцыпамі ён уваходзіў у кола крайніх радыкалаў.

Свае думкі і планы пра перабудову ён раскрываў толькі зрэдку; але калі гэта адбывалася, то слова яго набывала незвычайную сілу, і чалавек, які гэта чуў, разумеў, што гэты мужчына мае ўсе здольнасці, каб узняць сцяг сапраўднага ваяра, але час мінае ў падрыхтоўцы да вялікага вырашальнага бою супраць палітычнага і сацыяльнага ўціску.

Ва ўсім іншым быў прыяцель чалавекам звычайным; ён любіў прыроду і шмат пра яе ведаў, любіў жыццё і яго асалоду, і бываў, як і ў студэнцкія гады, вясёлым і здаваўся бесклапотным.

Пасля таго як апошнія вакацыі ён правёў у паездцы па Шумаве, з ім адбылася незвычайная змена. Ён стаў засмучаным і маўклівым.

Цяпер ён зрэдку і заўсёды толькі на кароткі час затрымліваўся дома, ніколі нічога не чытаў, і амаль зусім не вучыўся.

Тлумачу прычыну гэтай змены своеасаблівасцю працы і імкненнем прыяцеля затрымацца на атрыманым месцы; я зрабіў спробу ўзняць настрой прыяцеля, але ўсе мае намаганні былі дарэмнымі.

Засмучанасць прыяцеля між тым узрастала, і праз некалькі месяцаў я ўбачыў, што ён дзіўна, але моцна захварэў.

Так жылі мы два гады.

Здымалі мы ўвесь час адну мансарду, але мець стасункі, як і раней, не маглі, пра гэта не магло быць і гаворкі, бо маўклівы, увесь час сумны прыяцель зрэдку затрымліваўся дома, і мог ён быць кім хочаш, толькі не прыемным спадарожнікам.

Пазней, калі мне пачало здавацца, што прычына куды больш спакайнейшая і весялейшая, ён вярнуўся дахаты позна ўначы і, не звяртаючы ўвагу на тое, што я сплю, пачаў хутка збіраць рэчы, каб пайсці.

Абуджаны грукатам, я спытаў яго пра прычыну.

— Мушу паехаць, мабыць, на некалькі тыдняў, — адказаў прыяцель.

— Куды і чаму так хутка? — запытаў я.

— Куды пайду, яшчэ не ведаю сам, а прычынаю з'яўляецца мая гарачая кроў.

— Як гэта? — спытаўся я зноў.

— Здарылася такое, што ніколі яшчэ не было ні з адным дзяржаўным адвакатам, — адказаў таварыш. — Я — здраднік дзяржавы.

— Здраднік дзяржавы? — запытаўся я здзіўлена, хоць для чалавека радыкальных поглядаў і цвёрдых прынцыпаў, якім і быў прыяцель, у гэтым не было нічога дзіўнага.

— Растлумачу ўсё ў некалькіх словах, — адказаў прыяцель і працягнуў: —Як ведаеш, у мінулы чацвер было свята святой Маркеты і сёння, у нядзелю, вядомае свята "Зоркі".

Я доўга хадзіў самотны сярод натоўпу, аж пакуль на аддаленым месцы недалёка ад знакамітага летняга палаца прылёг у адзіноце пад велізарнай хвояй на траву.

Народ весяліўся: танцавалі, спявалі, дэкламавалі, і ў хуткім часе вакол спяваючых утварыўся вялікі натоўп цікаўных гледачоў і слухачоў.

Некаторыя навучэнцы выразна прачыталі знакамітыя вершы, а адзін з іх прывітаў народ імправізаванай прамовай.

Але што сказаць далей? Ты ведаеш мае прынцыпы і разумееш, што я забыўся, што такое яднанне з людзьмі можа мець наступствы, дык вось, я звярнуўся да народа таксама.

Я прыгадаў бой на Белай Гары, пра яго прычыну і наступствы, я рэзка выступіў супраць улады і кіруючай дынастыі.

Народ прыйшоў ад маёй прамовы ў захапленне, але я пасля свайго выступу стаў здраднікам дзяржавы.

У натоўпе знаходзіўся паліцэйскі агент, які пачаў за мной сачыць; але я змог ад яго пазбавіцца, і цяпер мне трэба пакінуць Прагу, каб паліцыя забылася пра мяне.

Я сёння напішу яшчэ неабходныя лісты, каб мой ад'езд на кароткі час растлумачыць. Я ўпэўнены, што калі мне будзе патрэбна ад цябе дапамога, ты мне не адмовіш. Ці не праўда?

Я даў слова.

Яшчэ на світанку сябар пакінуў Прагу, а я, адаслаўшы яго лісты, застаўся ў мансардзе адзін.

Павінен прызнацца, што пасля ад'езду прыяцеля я засумаваў па-сапраўднаму, а пазней мне стала надзвычай цяжка, амаль невыносна.

Таму не трэба здзіўляцца, што я адчуў патрэбу змяніць нейкім чынам сваё жыццё.

У хуткім часе мне дапамог шчаслівы выпадак. Праз чатырнаццаць дзён пасля ад'езду прыяцеля, я вярнуўся дахаты ўвечары з доўгага шпацыру і знайшоў у сябе на стале два лісты, якія мне прынёс дваровы.

Адкрыўшы першы, я прачытаў:

"*Мілы хлопча!*

*Я пішу табе толькі некалькі слоў, спадзеючыся, што ты маю просьбу выканаеш.*

*Я не бачыў цябе шмат гадоў і часта па табе сумаваў. Апошні раз я бачыў худое дзіця, а цяпер, я думаю, што ты сапраўдны стаў хлопец.*

*Хацеў бы зноў з табой сустрэцца, таму запрашаю цябе на некалькі дзён, або тыдняў — як ты пажадаеш — да сябе, або лепш сказаць да нас.*

*Магчыма, ты ўжо ведаеш, што я ажаніўся не так даўно, і маладой жонцы ў нашай самоце трохі сумна.*

*Яна б хацела з табой пазнаёміцца. Таму прыедзь, як мага хутчэй, і пераканаешся, што таварыства маёй жонкі і маё не будзе табе цяжкім пасля жыцця ў вялікім горадзе.*

*Твой дзядзька Роберт."*

Часткова дзядзька не памыляўся.

Я быў статным хлопцам, але пра нейкую дзядзькаву прыхільнасць да сябе ніколі не ведаў.

Не быў я з ім знаёмы і толькі памятаў, што даўно, калі я яшчэ быў малым, маіх бацькоў наведаў мой дзядзька, мужчына незвычайна высокага росту і строгага выгляду, маўклівы і рэзкі. Больш я пра яго нічога не ведаў, але пазней прыгадаў, што калісьці мімаходзь чуў, што ён багаты і дзівак.

Тым не менш яго запрашэнне ў той момант было мне патрэбна, таму як толькі я дачытаў ліст, дык адразу вырашыў, што наведаю дзядзьку ў хуткім часе.

Адкрыўшы другі ліст, я прачытаў наступныя словы:

*"Шаноўны пан!*

*Цяпер або ў бліжэйшы час Вы атрымаеце ліст ад свайго дзядзькі Роберта, які запрашае Вас на нейкі перыяд да сябе ў госці.*

*Прабачце, што незнаёмы, але чалавек, які да Вас ставіцца з увагай і дабрынёй, я папярэджваю Вас, што, калі Вы прымеце яго запрашэнне і прыедзеце, дык вельмі пашкадуеце пра гэта.*

*Дзядзька Ваш нядаўна ажаніўся, і нягледзячы на тое, што ўжо стары, знайшоў сабе прыяцельку па жыццю маладую, якой мог быць хутчэй бацькам, чым мужам, і яна яго жыццё сваімі прыхамацямі зрабіла невыносным і працягвае з яго здзекавацца.*

*Калі Вы прымеце запрашэнне дзядзькі, дык можа здарыцца, што страціце родных і знаёмых, тое, што прывязвала Вас да дзядзькі, і вернецеся як чалавек, які праклінае момант, калі ўзнікла думка прыняць запрашэнне паважанага і пачцівага, але безразважнага дзядзькі.*

*Калі Вы даражыце сяброўствам Вашага дзядзькі, то не наведвайце яго ніколі, таму што гэта надзвычай небяспечна!*

*Пазней, праз некалькі месяцаў, запрашэнне, дасланае Вам, нічога не будзе значыць."*

Ліст незнаёмага "прыяцеля" не быў падпісаны. "Прыяцель" нічога не ведаў пра маё стаўленне да дзядзькі Роберта, таму сэнс ананімнага ліста быў зразумелы: зрабіць усё, каб я не прыняў запрашэння дзядзькі.

І менавіта таму, я адразу вырашыў, што дзядзьку наведаю, бо не мог я ад сваёй задумы быць адвернуты нейкім, тым больш ананімным лістом, дзе мне між радкоў пагражалі, што я магу вярнуцца ад дзядзькі, "як чалавек, які праклінае гэты момант" і г.д.

Ліст гэты выклікаў у мяне цікаўнасць і меў уздзеянне супрацьлеглае.

Страсянуўшы горда галавой, я разагнаў усе непаразуменні здаровай думкай, што я вольны чалавек і заўсёды магу вярнуцца, калі пра ўсё даведаюся, і пачаў збірацца ў дарогу.

Не трэба казаць, што я быў сабраны ў хуткім часе. Не ўзяў я з сабой нічога, акрамя зборніка вершаў Альфрэда дэ Мюсэ і невялікі пісталет.

Я ненадоўга задрамаў і прачнуўся на світанні, і калі першыя промні сонца асвятлілі маю мансарду, я ехаў ужо па дарозе на Плзень, цешачыся надзеяй, што шматлікія гарачыя, агнявыя песні Мюсэ будуць мне пацехай у дарозе, якую я з-за недахопу грошай павінен буду прайсці пешкі.

Але я памыляўся.

Хто калі-небудзь прайшоў з Прагі ў Плзень у надзвычай гарачы дзень пешкі за шаснаццаць гадзін, той пацвердзіць, калі скажу, што на працягу ўсяго шляху пра "пацеху" ад вершаў Мюсэ нават не прыгадаў і дайшоў нарэшце да Плзня ўначы і быў настолькі стомлены, што для мяне просты адпачынак быў куды мілейшы за самыя прыгожыя вершы геніяльнага паэта.

На наступны дзень на досвітку выйшаў я з Плзня і накіраваўся на паўднёвы захад. Да дзядзькі, чый маёнтак знаходзіўся аж на мяжы з Баварыяй, ішоў я ажно дзесяць гадзін.

Спачатку ішоў я па шырокай дарозе, а пасля паўдня выйшаў я да самотнай гаспадаркі, дзе дарога разышлася ў тры бакі.

Мне нічога не заставалася, як толькі зайсці ў карчму і запытацца пра далейшы шлях.

Я зайшоў у карчму, дзе акрамя карчмара не было ніводнай жывой душы, замовіў сабе піва і, сеўшы за вялікі стол, падпёр рукой галаву.

Хвіліну я разважаў.

Я прыгадаў ліст ад звар'яцелага незнаёмага і раптам адчуў, што пацiху перамагае думка аб тым, што малавядомага дзядзьку наогул не трэба наведваць.

Падстаў для такой думкі ў мяне не было ніякіх, але на працягу ўсёй дарогі мне было маркотна, і супакойвала толькі тое, што да сустрэчы яшчэ ёсць час.

Ад разваг мяне адарваў грукат экіпажа, які праязджаў паўз мяне, калі я спыніўся на некалькі хвілін перад карчмой.

Карчмар памалу выйшаў з карчмы, фурман нешта крыкнуў гаспадару, ускочыў хутка ў карчму і спалохана агледзеўся навокал.

Гэта быў пяцідзесяцігадовы пачварны, але яшчэ статны мужчына велізарнага росту.

Шыі і ілба не было зусім; рудыя ўскудлачаныя валасы звісалі аж да з'едлівых глыбока запалых вачэй, што гарэлі нейкім шкадлівым усмешлівым агнём.

Вусоў у яго не было, барада нібы зраслася з шыяю, і нос, асабліва ў пераноссі, быў незвычайна шырокі. Крокі пачварнага рудога, хуткія і ўпэўненыя, былі падобныя на хісткі крок маракоў.

Агідны выгляд рудога зрабіў на мяне такое ўражанне, што я міжволі адвярнуўся і паглядзеў праз акно на дарогу, дзе стаяў лёгкі элегантны экіпаж,

у які былі ўпрэжаны два вялікія вараныя кані, палюбавацца на якіх было б прыемна кожнаму знаўцу з радасцю і любоўю.

Руды хутка прайшоў праз пакой і выйшаў гэтак жа хутка, як і ўвайшоў, потым ён выйшаў з карчмы, і калі я зірнуў зноў, ён ужо сядзеў на козлах.

Заўважыў я яшчэ, як гэты пачварны чалавек уважліва паглядзеў на сваю далонь, і мне здалося, што ў руцэ ён трымаў нейкі партрэт.

Потым сціснуў пальцы, гукнуў на коней, і экіпаж стрымгалоў знік у тым кірунку, адкуль зусім нядаўна з'явіўся.

На некалькі імгненняў я зноў застаўся ў самоце, аж пакуль не ўвайшоў гаспадар, які прынёс кубак піва.

Паставіўшы кубак перада мной, ён сеў за мой стол, і, як гэта прынята ў падобных людзей, пачаў распытваць, адкуль я, куды накіроўваюся і чаму, ды так нецярпліва, нібы ад маіх адказаў залежала ратаванне яго сям'і.

Замест адказаў на цэлы шэраг пытанняў, я запытаўся, як далёка да месца, куды я накіроўваюся і ў які бок мне трэба ісці.

— Ах, дык Вы накіроўваецеся да "чорнага Роберта"? — запытаў карчмар яшчэ раней, чым я скончыў. — Чаму Вы не сказалі раней?

— Як гэта?

— Вы што не ведаеце, што чалавек усё павінен рабіць у свой час, а не тады, калі позна? Хвіліну назад я адказаў бы на Ваша пытанне, а цяпер позна.

Падняўшыся, ён падышоў да акна, паглядзеў у той бок, куды на вараных конях паехаў руды.

Праз хвіліну ён прамармытаў:

— Так, так, ужо позна, ужо яго не дагоніце.

— Дык, пэўна, той пачварны чалавек і ёсць "чорны Роберт"? — спытаў я з недаверам, бо ніяк не мог паставіць эпітэт "чорны" побач з "пачварным чалавекам".

— О не, не — не быў, — пралепятаў карчмар. — Але гэта быў экіпаж Роберта і яго фурман. І калі б Вы сказалі раней, то ён бы адвёз Вас… — Але пачакайце! — дадаў, нібы нейкая шчаслівая думка прыйшла яму ў галаву. — Цяпер экіпаж паедзе нагару хутчэй памалу, дык калі Вы паспяшаецеся, то зможаце дагнаць. Вы пойдзеце сярэдняй з трох дарог, раз'езджаных вазамі, аж пакуль не дойдзеце да другога перакрыжавання, потым павернеце направа і ўбачыце экіпаж… Так, так! Яго Вы дагоніце толькі тады, калі пойдзеце хутка!…

Я ўсхапіўся.

Паклаўшы на стол удвая болей дробных грошай, чым каштавала піва, я выйшаў з карчмы і пайшоў у патрэбным кірунку.

Экіпаж я ўбачыў на добра ўезджанай палявой дарозе. Ён ехаў памалу, але не даехаў пакуль ні да аднаго з узгоркаў, і мне здалося, што я ў хуткім часе змагу яго дагнаць, калі пайду следам.

Я прыгадаў параду карчмара і хутка зразумеў, што экіпаж не зможа мяне абагнаць, нават калі паедзе хутчэй.

Прайшоўшы добры кавалак дарогі, я пачакаў, пакуль экіпаж праедзе першы ўзгорак, які быў бачны з карчмы.

Такім чынам я чакаў пачварнага чалавека, які павінен быў мяне дагнаць.

Калі так і здарылася, я "прагаласаваў", сказаў, хто я і куды іду.

Праз колькі часу я ўжо сядзеў у экіпажы і вараныя несліся па раўніне. Некаторы час ехалі мы шалёна, пакуль дарога не пайшла ўгару і коні замарудзілі ход; толькі цяпер я заўважыў, што коні нечым напалоханыя.

Так мы ехалі амаль гадзіну з розным тэмпам ад спакойнага ходу да алюру, здавалася, што коньмі кіруе малады, здаровы і надзвычай умелы фурман.

Руды сядзеў на козлах, як статуя.

Ён не глядзеў ні ўправа, ні ўлева, тым больш не азіраўся назад. Ён уважліва сачыў за коньмі, як і трэба рабіць таму, хто даглядае коней, займаецца і жыве толькі сваёй працай.

За ўвесь час, пакуль мы ехалі, фурман не сказаў ніводнага слова. Я маўчаў таксама. Пазней гэтае маўчанне мне абрыдла.

— Ці далёка яшчэ? — запытаўся я.

— Далёка, — раздражнёна адказаў фурман.

— А ці будзем увечары на месцы?

— Магчыма.

— Як гэта? Вы што не ведаеце дарогі?

Фурман маўчаў, але праз хвіліну адказаў, нібы сябе перамог:

— Гм, як гэта не ведаю!?

— Не ведаеце, як доўга коні будуць ехаць?

— Цяжка адказаць, бывае па-рознаму.

— І ваш пан церпіць такіх коней?

— Гэта не яго.

— А чые?

— Гэтых коней купіла пані, — быў адказ.

— Але заўсёды цяжка здагадацца па конях, якія яны, — выказаў я сваю думку, паказаўшы, што ў такіх рэчах разбіраюся дрэнна.

— Гэта толькі здаецца.

— Чаму ж не выкарыстоўваеце іншых коней?

— Пані не хоча.

— Чаму? — запытаўся я з націскам.

— Не ведаю.

— А ці не можаце Вы яе папярэдзіць, што можа здарыцца нейкае няшчасце?

— Магу, але не маю смеласці.

— Магчыма, пані злая?

— Не, але цвёрдагаловая.

— А раптам здарыцца нейкае няшчасце?

— Не здарыцца!

— Чаму Вы так лічыце? — працягваў я пытацца.

— Таму што займаюся коньмі толькі я.

— І Вы ўпэўнены, што з Вамі нічога не здарыцца?

— Упэўнены.

— А няшчасце не залежыць ад волі вазніцы.

— Згодны, але коні не будуць яго прычынай, пакуль імі буду кіраваць я.

— З цяжкасцю верыцца, — сказаў я недаверліва, бачачы, што размаўляю з чалавекам, які спадзяецца толькі на свой спрыт, каб яго трохі падражніць.

— Я вас пераканаю, — адказаў коратка фурман.

Між тым за размовай мы падняліся на ўзгорак, пасля чаго дарога пайшла па раўніне.

Руды не змяніў паставы, толькі слаба прыцмокнуў.

Вараныя да гэтага моманту напружыліся і ляцелі, як віхур.

Цяпер [redacted] ўбачыў, што яны пайшлі цішэй.

— Магу спыніцца? — спытаўся рэзка праз пяць хвілін руды.

— Спыніцеся, — адказаў я.

Руды зноў, не змяніўшы паставы, толькі прыцмокнуў, але цяпер трохі цішэй.

Усе ў пене коні зноў напружыліся, і пакуль я далічыў да дзесяці, спыніліся, стрыгучы вушамі і трасучы грывамі.

— Выдатна! — пахваліў я спрыт фурмана і выключную дрэсуру коней.

Фурман на гэта нічога не адказаў, нібы пахвала была сама па сабе зразумелай, і, павярнуўшыся да мяне, запытаў:

— Ці маеце нейкую зброю?

— Так. Але навошта?

— Цяпер паедзем праз лес. У ім надзвычай небяспечна.

— У мяне пісталет. Паказаць?

— Пакажыце! — папрасіў фурман з цікаўнасцю.

Я аддаў яму пісталет, які ўзяў з сабой на ўсякі выпадак.

Руды ўважліва яго агледзеў.

— Ці зараджаны? — спытаў праз хвіліну, і, калі я пацвердзіў, дадаў: — Гэта пустое, ён нам аніяк бы не дапамог.

Потым ён кінуў пісталет далёка ў поле, па якім мы ехалі.

— Чаму Вы выкінулі? — запытаўся я здзіўлена, хоць мяне гэты ўчынак напалохаў.

— Таму што маю ў экіпажы некалькі зараджаных рэвальвераў. Памацайце рукой схованку справа або злева каля сядзення. Я іх паклаў туды, бо не хачу трымаць нешта такое ў доме.

— Чаму?

— Пані не любіць бачыць нешта, што вызначаецца нечым новым, больш зручным, карысным.

— Зноў пані! — задумаўся я, пачуўшы словы рудога, якія характарызавалі яго, як чалавека нашмат разумнейшага, чым здавалася на першы погляд.

Я выцягнуў са схованкі адзін з рэвальвераў і агледзеў яго. Між тым мы распачалі з рудым размову пра пані, пра якую я чуў увесь час і пра якую хацеў бы даведацца некаторыя падрабязнасці да сустрэчы.

Але руды, які пасля таго, як выкінуў мой пісталет, даў знак коням бегчы рыссю, ні на адно маё пытанне не адказаў ні словам, ні жэстам.

Я хацеў распачаць размову пра дзядзьку, але на сваё пытанне я таксама не пачуў адказу.

Руды глядзеў без перапынку перад сабой на дышаль паміж коней і зацята маўчаў.

Трымаючы рэвальвер у руцэ, я абапёрся зручна на сценку экіпажа і разважаў пра людзей, да якіх ехаў, і распачаў праз іх слугу набываць нейкае ўяўленне.

Наравісты фурман размаўляў толькі тады, калі яму падабалася, і ў далейшым за ўсю дарогу не сказаў ніводнага слова.

Амаль праз палову гадзіны, як і казаў фурман, мы пад'ехалі да ляска; аднак гэты лес не выклікаў пачуцця страху, нават здалося, што ў ім больш бяспекі, чым на вуліцы вялікага горада, якую ахоўвае паліцыя.

Паездка праз лес працягвалася дастаткова доўга, потым мы зноў выехалі на больш зручную дарогу, раз'езджаную вазамі, і праз некаторы час, так мне здалося, на казённую трасу.

Я прыгадаў, што калісьці дома чуў пра маёнтак дзядзькі, пабудаваны самотна сярод лесу, і што да яго некалькі міль вядуць толькі дрэнныя разбітыя дарогі або сцяжынкі.

Я ўжо больш не хацеў ні пра што пытацца ў фурмана і сядзеў моўчкі.

Праз некаторы час я заўважыў, што мы едзем па знаёмай дарозе.

Я ўбачыў удалечыні нейкі знаёмы ўзгорак і на ім белыя дамы прыгожай вёсачкі, потым зноў па дарозе невялікія пасадкі таполі, зноў самотныя хібары пасярод невялікіх садоў, і не прайшло і пяці хвілін, як я зразумеў, што мы едзем па дарозе, па якой я раніцай ішоў пешкі ад Плзня, едзем у кірунку адваротным, гэта значыць да Плзня.

Не хаваючы незадавальнення я звярнуўся да фурмана:

— Пэўна Вы п'яны?

Руды, павярнуўшы да мяне свой мярзотны твар, прагугніў нібыта пра сябе:

— Я п'яны! Ніколі не быў і не буду.

— Дык куды едзеце?

— У Плзень, — адказаў абыякава і халодна фурман.

— Я хачу трапіць да дзядзькі.

— А ■ цяпер еду ў Плзень!

— Хто Вас паслаў?

— Пані, — звонка, халодна і спакойна ён адказаў.

— Праклятая пані! — падумаў я, але ўголас дадаў: — Значыць пані ў Плзні?

— Не.

— Дык, пэўна, нехта з вашых мясцін?

— Таксама не.

— Тады навошта Вы едзеце?

— Пані загадала.

Халодныя адказы слугі мяне распалілі. Ён ведаў, калі я садзіўся ў экіпаж, што я хачу трапіць да дзядзькі, а вязе мяне супраць маёй волі назад у Плзень!

Разгарачаны я рэзка заявіў:

— Цяпер паслухайце мяне! Калі ў цябе, старога хлапца, няма ніякіх спраў у Плзні, то я загадваю табе ехаць дахаты!

— Не паеду! — пачуў я свавольны адказ.

— І тым не менш я цябе прымушу, — сказаў я і навёў рэвальвер, які ўвесь час трымаў у руцэ, на фурмана.

Руды, які напалову павярнуў да мяне твар, убачыўшы мае рухі, сказаў са штучным адценнем дакору:

— Калі трымаеце зброю, то трэба слухацца.

Потым павярнуўшыся да коней, сцебануў іх, і яны шалёна, нібы дзікія, панесліся па раўніне, па добра ўезджанай дарозе — назад.

У хуткім часе я ўбачыў, як прамільгнуў маёнтак, куды накіроўваўся экіпаж дзядзькі, потым мы зноў ехалі па дарозе праз поле і праз паўгадзіны даехалі да лесу.

За ўсю дарогу мы не перакінуліся ніводным словам.

Паводзіны фурмана падаліся мне надзвычай дзіўнымі, і я не мог іх ніяк зразумець, але з пакорлівасцю чакаў, што некалі наша падарожжа скончыцца.

Дарога праз лес станавілася ўсё больш цяжкай. Яна была камяністай, уся ў выбоінах, то рэзка ішла ўгару, то рэзка ўніз і кожны раз паварочвала вакол нейкай скалы.

Мне ўжо не хацелася аглядаць мясцовасць. Толькі часам, калі мы падніmaліся на нейкі высокі ўзгорак, я бачыў перад сабой вяршаліны соснаў і непадалёк на адлегласці цёмна-сінія абрысы шумаўскіх гор.

Было надзвычай горача.

У паветры стаяла незвычайная духата, і ветрык, які часам з'яўляўся, хутчэй апаляў, чым асвяжаў.

Мы ехалі ў кірунку на захад, па абодва бакі дарогі раслі высокія дрэвы, і таму на паваротах, калі дарога вяла вакол скалы, часам траплялі ў цень.

Промні сонца пранікалі ў экіпаж, асабліва, калі мы з'язджалі з узгорка, і траплялі фурману і мне проста ў твар і палілі.

Я ўсё пераносіў куды больш цярпліва, чым сам думаў, асабліва, калі зірнуў праз малое акенца ў экіпажы назад на дарогу і ўбачыў, што на ўсходзе над даляглядам пачалі з'яўляцца сівыя хмары, якія неслі навальніцу.

Хмары з усходу ніколі не марудзяць.

Праз некаторы час усё неба зацягнула хмарамі, часам здавалася, што чуюцца глухія грымоты і пачаўся дождж.

Сонца яшчэ свяціла, але не было памылкі, што ўсё будзе зацягнута хмарамі і навальніца ахопіць усё наваколле.

У момант, калі вецер, які папярэднічае навальніцы, упершыню рэзка ўзняў клубы пылу і панёс іх наперад, наш экіпаж падняўся на вяршыню ўзгорка, з якой можна было ўбачыць усю мясцовасць перад намі.

Я бачыў проста перад сабой шырокую ў яркай зеляніне шумаўскую раўніну, якую з абодвух бакоў акружаў высокі густы чорны лес, якім зараслі вяршыні.

Удалечыні бялеў сярод свежай зеляніны маёнтак, а непадалёк ад яго блішчэў у промнях сонца амаль аранжавы шырокі ручай, які вірыўся сярод лугоў і знікаў, нібы залатыя кучары, у цёмнай лагчыне, што ўздымалася аж да аблокаў, як і стромкія, вільготныя горы.

Ледзьве я агледзеў наваколле, як хмары на захадзе закрылі сонца, і ўсё навокал імгненна спахмурнела і набыло рысы пагрозлівай строгасці.

Яркая зеляніна набыла сумную шэрасць, і лясы, якімі параслі горы і якія зусім нядаўна, здавалася, з усмешкай віталі кожнага, цяпер нібы зморшчыліся і набылі мярзотны выгляд.

Рэзкая перамена ў прыродзе не магла не закрануць мяне, у маёй душы ўзмацніўся нейкі неспакой, і ён нарастаў тым больш, чым бліжэй насоўвалася навальніца.

Маланка і грымоты глухім рэхам адбіліся ў далёкіх гарах, у хуткім часе яны паўтарыліся бліжэй, пачаўся праліўны дождж, і навальніца выбухнула проста над намі.

Дарога праз узгорак была прамой, і коні беглі рыссю наперад.

Але калі мы дасягнулі вяршыні і пачалі спускацца ўніз, фурман адпусціў лейцы і вараныя, нібы віхар, паляцелі з узгорка. Неспакой мой пачаў пераходзіць у страх. Навальніца грымела над намі, а фурман гнаў коней з усёй моцы наперад.

— Едзьце спакайней! — звярнуўся я да фурмана.

Руды, напалову павярнуўшыся, зірнуў на мяне, і замест адказу, усміхнуўшыся, сцебануў коней пугай.

Вараныя ляцелі яшчэ шпарчэй па шырокай дарозе, на якую мы выехалі. Вецер енчыў і жаласна выў, у лесе чулася патрэскванне і лёскат дрэў, якія выгіналіся і качаліся. Маланка шугала за маланкай, а грымоты станавіліся мацнейшымі.

Не сумняваючыся, што мог бы патрабаваць, каб фурман ехаў больш павольна, праз некалькі секунд я паўтарыў сваю просьбу з большым націскам, чым у першы раз, але незвычайная з'ява нечакана звярнула на сябе ўсю маю ўвагу.

Дарога, па якой мы ехалі, была незвычайна доўгай і роўнай, і цяжка было зразумець, дзе яна скончыцца або паверне. Выглянуўшы з экіпажа, я ўбачыў, нягледзячы на прыцемак, на краі дарогі некалькі цёмных жаночых абрысаў, якія імкліва набліжаліся да нас.

Я прыўзняўся, каб лепей разгледзець абрысы. Але толькі я гэта зрабіў, як убачыў насупраць нас жанчыну з цэлай зграяй чорных сабак.

Яны беглі пасярод дарогі, здавалася, хутчэй за вараных. Беглі ў два і тры рады, з высунутымі языкамі і пенай на пысах, з якіх тырчэлі беласнежныя іклы.

Дабегшы да вараных, яны імгнення расступіліся. Экіпаж паляцеў далей, і праз хвіліну я ўбачыў жахлівых сабак, якія рыссю беглі побач з коньмі, па тры з кожнага боку, шчыльна адзін за адным.

Беглі моўчкі ў адным тэмпе з варанымі, як жахлівы эскорт.

— Што гэта значыць? — спытаўся я.

Фурман зноў напалову да мяне павярнуўся і вакол яго агідных вуснаў зайграла нешта падобнае на крывую ўсмешку.

Не адказаў.

Зноў бліснула маланка, а потым пачуліся грымоты. Вараныя заіржалі і ўзнялі ўгару галовы, а фурман працягваў сцябаць іх пугай, і цалкам у пене коні ляцелі па дарозе яшчэ хутчэй.

— Ці не паедзеш, хлопча, спакайней?! — крыкнуў я рудому рэзка і патрабавальна.

На твары рудога нічога не адбілася. Ён зноў напалову павярнуўся да мяне і неяк грэбліва паглядзеў, крывая ўсмешка з'явілася на вуснах, і ён узняў пугу.

Ад такіх яго паводзінаў кроў прыліла да майго твару, і я, не ведаючы, што раблю, узняў руку, у якой да гэтага часу трымаў рэвальвер, і, навёўшы зброю на фурмана, грозна на яго прыкрыкнуў:

— Ты будзеш слухаць мяне ці не?

Руды ўбачыў зброю і пачуў словы, але нягледзячы на гэта ўзняў пугу і двойчы сцебануў коней, а потым скрозь зубы працадзіў:

— Не паслухаюся!

Фатальнае слова было сказана з адценнем амаль д'ябальскай пагарды.

Я націснуў на спуск і пачуўся стрэл. У той момант я не зразумеў, ці дасягнула куля мэты, але страляў я з такой блізкай адлегласці, што памыліцца было нельга: руды зваліўся з козлаў.

Коні ляцелі рыссю далей.

Я азірнуўся назад. Руды ляжаў на зямлі, а зграя чорных сабак стаяла вакол яго і скуголіла.

Больш я нічога не бачыў, бо не страціў сілы духу і спрабаваў дацягнуцца да лейцаў, што выпалі з рук фурмана. Але гэта, нягледзячы на ўсе намаганні, не атрымалася. Коні, якіх цяпер ніхто не стрымліваў, ляцелі наперад, цягнучы лейцы па зямлі, у шалёным тэмпе.

Жудасная гэтая язда доўжылася пяць хвілін.

Экіпаж праехаў па лагчыне да раўніны і цяпер ехаў па добра ўезджанай дарозе каля лесу, трохі спакайней, але ўсё ж небяспечна хутка.

Навальніца працягвала грукатаць над наваколлем. Вецер спяваў сваю жудасную песню, з лесу чулася патрэскванне, а з неба ліў праліўны дождж.

Нечакана я пачуў за сабой праз грукат навальніцы і тарахценне экіпажа конскі тупат. Азірнуўшыся назад я ўбачыў удалечыні за экіпажам конніка, які скакаў галопам. Праз некалькі імгненняў я разгледзеў доўгую ў складкі сукенку.

Гэта быў не коннік, а жанчына ў чорным касцюме для выездкі з шэрым капелюшом на галаве. Яна ехала рыссю па цяжкай дарозе так хутка, наколькі хапала сілы і паветра вараным і ў хуткім часе дагнала экіпаж.

— Божа мой! У Вас няма фурмана? — запытала гучным альтам, скачучы хвіліну каля карэты.

Потым яна імкліва сагнулася да аброці правага прыпражнога каня, схапіла лейцы, пусціла коней імчацца далей, а сама кінула лейцы мне.

— Тузайце коней ў тры разы мацней! — дадала.

А калі зразумела, што я паслухаў яе парады, ляснула пугай свайго каня і паехала далей.

Коні, запрэжаныя ў экіпаж, пры першым тузанні лейцамі, пабеглі цішэй, а пасля трэцяга, разам з наймацнейшым супраціўленнем, праз некаторы час спыніліся.

Перад сабой я бачыў толькі жанчыну-вершніка, якая імчалася ўдалечыню.

Нічога не разумеючы, я па прыкладзе рудога фурмана сціснуў пальцы.

Коні зноў пабеглі рыссю.

Жанчына-вершнік ехала перада мной не так хутка, як раней, і павярнула з дарогі каля лесу на дарогу праз лес.

Я бачыў, як мільгацела сярод дрэў яе постаць у чорным складкаватым адзенні, то знікаючы, то з'яўляючыся зноў. І чым больш яна знікала ў лесе, тым больш мне здавалася, што я павінен, нягледзячы ні на што, дагнаць яе і яшчэ раз уважліва паглядзець. Мяне ахапіла незразумелае пачуццё, якое прымушала гнаць коней хутчэй наперад.

Я сціснуў пальцы зноў. Коні пабеглі галопам, а я не спускаў вачэй з мільгаючай паміж дрэвамі постаці жанчыны-вершніка, ехаў за ёю, аж пакуль не зразумеў, што, кіруючы зусім незнаёмымі коньмі, магу апынуцца ў вялікай небяспецы.

Дзіўнае, незразумелае пачуццё, якое мяне ахапіла, стрымлівала ўсе рэфлексы. Бяздумна я імчаўся разам з коньмі наўздагон.

Праз некаторы час коні без кіроўцы павярнулі на дарогу ў лес і пабеглі галопам па лесе.

Праз хвіліну я ўбачыў удалечыні паміж дрэў мільгаючую постаць жанчыны-вершніка. Раптам мне здалося, што я яе згублю, што яна знікне ў лясным гушчары…

Я прыўзняўся і пагнаў коней. І ў гэты момант мяне зачапіла галінка дрэва. Рана аказалася глыбокай і я вымушаны быў зноў сесці ў экіпаж.

Я адчуваў, як кроў цячэ па скронях, чуў глухі грукат ветру і тупат коней, якія паступова знікалі.

Я хацеў яшчэ раз прыўзняцца, але не змог.

Што рабілася далей, не ведаю, бо я страціў прытомнасць.

***

Спакойны ветрык павеяў у пакой праз адчыненае акно моцным пахам бальзаміну.

Апрытомнеўшы, я ўбачыў, што ляжу распрануты ў чужым пакоі і на чужым ложку.

Дзе я знаходзіўся і як тут апынуўся, я не ведаў.

Пачуваўся я слабым, так, нібы страціў на кароткі час прытомнасць, галава мая была перавязана вільготнай тканінай, але рану на галаве я не адчуваў.

Прыўзняўшыся на ложку, я разгледзеўся вакол сябе.

Я знаходзіўся ў простым невялікім чыста выбеленым пакоі казарменнага тыпу.

Мэблі тут было вельмі мала: ложак, на якім я ляжаў, два сталы, куфар, лава і некалькі крэслаў. Мэбля не была паліраванай, але толькі добра выгабляванай.

Можна хутчэй нагадаць, чым аднесці да своеасаблівасці інтэр'еру, што на сценах былі развешаны карціны, на якіх адлюстраваны баі і эпізоды з жыцця ваяроў. Я адразу пазнаў карціны бою з нядаўняга часу, потым выявы з мадзьярскага паўстання 1849 года і эскізы падзей у Празе ў 1848 годзе.

Пасярод пакоя стаяў вялікі стол і каля яго на двух крэслах ляжала мноства часопісаў рознага фармату.

На стале была раскладзена вялікая карта, у якую было прымацавана шмат шпілек з рознакаляровымі сцяжкамі, якія выкарыстоўваюцца стратэгамі бою, а таксама шматлікімі аматарамі ваеннага мастацтва, якія доўгі час праводзяць, гуляючы ў стратэгаў.

Нахіліўшыся над сталом да мяне павярнуў твар пажылы чалавек, якому, на першы погляд, можна было даць шэсцьдзесят гадоў; ён быў высокі, срэбравалосы, з атлетычнай постаццю, з моцна вылепленымі грудзьмі і шырокімі плячыма.

Яго суровы, надзвычай загарэлы твар быў зарослы густымі белымі, як снег, вусамі і барадой, што надавала твару шляхецкі выгляд.

Стоячы ля карты, ён трымаў у правай руцэ шпільку з ружовым сцяжком, і шукаў месца, куды яе прымацаваць.

Праз хвіліну, адклаўшы ўбок шпільку, ён сказаў ціхім голасам сам сабе:

— Гэта немагчыма! Ужо прайшло столькі дзён пасля бою, а да сёння нельга скласці поўнае ўяўленне пра тое, што адбывалася падчас яго.

Некалькі імгненняў стары стаяў, нахіліўшыся над картай, у роздуме, потым рэзка павярнуўся і паглядзеў на мяне.

Я ўбачыў твар своеасаблівы і надзвычай цікавы. На ім пры поглядзе на мяне адбілася нейкае мілае здзіўленне, але потым густа зарослыя сівыя яго бровы над вачыма, з якіх ляцелі іскры, зноў апусціліся, нібы стары заглушыў у сабе гнеў.

Не спускаючы з мяне вачэй, стары хутка падышоў да майго ложка і, падаўшы мне правую руку, паклаў левую мне на галаву.

— Чаму ты нам не напісаў, што прыедзеш? — запытаў тонам дабрадушнай вымовы. — Мы б маглі пра цябе паклапаціцца, а то ты трапіў да нас спосабам вельмі негасцінным.

— Я хацеў вас здзівіць, — адказаў я, пазнаўшы па некалькіх словах у старым свайго дзядзьку. Так, перада мной стаяў ён.

— Табе гэтая нечаканасць магла каштаваць жыцця, — працягваў стары. — Коні ўсе ў пене прыцягнулі ўчора пад вечар экіпаж без фурмана, твой твар быў акрываўлены, а ты — беспрытомны. Рэгіна напалохалася жудасна. Я ніколі не бачыў яе настолькі расчуленай. Калі я агледзеў рану і растлумачыў, што яна неглыбокая, то яна засмяялася зласліва, як звычайна бывае, калі некага надзвычай жорстка караюць.

— Значыць, я ў вас ад учарашняга вечара? — запытаўся я.

— Так, і ўвесь час ты вельмі неспакойна спіш, — адказаў дзядзька. — Калі ты ачуняў, то размаўляў з намі разумна, і ў хуткім часе заснуў. А цяпер, мабыць не памятаеш, што расказаў нам пра ўсе свае прыгоды. Але цяпер, пэўна, адчуваеш сябе добра, ці не так?

Я пацвердзіў, што не адчуваю болю і слабасці.

— Прабач, што мы пакінулі цябе ў гэтай непрыветнай казарме, — працягваў дзядзька. — Мы не хацелі цябе турбаваць. А цяпер Рэгіна загадала, каб падрыхтавалі тры зімовыя пакоі, і я думаю, што ты будзеш імі задаволены.

— Я спадзяюся, што вы мне даруеце, — адказаў я на дзядзькаву ветлівасць. — Найперш за тое, што вас патурбаваў, аднак я буду часта Вас адрываць ад працы так, як зрабіў гэта, дзядзька, за хвіліну да гэтага.

— Гэта так! — засмяяўся дзядзька. — Заўсёды гэта толькі гульня. Я быў ваяром; таму не здзіўляйся, што мяне і сёння цікавіць нейкі бой, асабліва пасля таго, як скончыўся наш паход у Паўночную Італію, дзе некалькі гадоў назад я знаходзіўся з палком доўгі час. Так, я хацеў прааналізаваць колішнюю ўжо бітву каля Магенты, дзе загінула шмат маіх былых паплечнікаў і сяброў, але аказаць супраціўленне было немагчыма.

— Як доўга Вы былі ў войску, дзядзька? — запытаў я.

— Амаль чвэрць стагоддзя.

— Служылі ў розных палках або ў адным?

— Толькі ў адным: я быў грэнадзёрам. Пасля таго, як мы здалі Arthura Görgege ля Вілагосы я пайшоў у адстаўку. У чэрвені 1848 года я быў сотнікам падчас аблогі ў Празе.

Апошнюю фразу дзядзька прамовіў з нейкім адценнем горычы ў голасе і замаўчаў.

— Прафесія ваяра ганаровая для кожнага, — сказаў я праз хвіліну з наіўнай бяздумнасцю для таго, каб размова працягвалася.

— Зусім не ганаровая, за ўвесь час я не адчуў ніякага задавальнення, — адказаў дзядзька. — Прафесія гэта куды менш ганаровая, чым звычайна прынята яе ацэньваць.

— Але гонар, воінская слава! — кажу я яшчэ больш наіўна, чым перад гэтым.

— Слава! Слава! — паўтарае манатонна дзядзька. — Толькі дым! Да таго ж яшчэ дым, які зрэдку ахутае чалавека, і той у гэтым дыме будзе

рызыкаваць сваім жыццём. А гонар! Праўдаю ёсць баязлівасць у абароне ганебнага, але геройства ў баі ад вякоў ацэньваецца вышэй за бязлітаснасць.

Ці не праява зверства ў тым, што чалавек забівае чалавека? Перачытай толькі некаторыя заклікі палкаводцаў, што паднімалі ў бой сваіх ваяроў. Перачытай уважліва, параўнай з непрадузятымі гісторыямі і пераканаешся, што гэта лухта і падман!

У гісторыю ўнесены негаснучыя імёны герояў, а бацькі і педагогі з гонарам прамаўляюць моладзі іх, як "узор" служэння Айчыне. Чаго ж здзіўляцца, што душы маладых людзей узгадавалі ў сабе гэты атрутны зародак і з тугою мараць пра подзвіг.

Толькі ў адным выпадку бой з'яўляецца справядлівым, гэта калі мы абараняемся.

Свет так любіць бой і гераізм за страту чалавечнасці. Я так доўга жыў у атмасферы ілжы, што сёння магу засведчыць, як сам па сваёй віне страціў шматлікія магчымасці ў жыцці. Толькі навошта казаць пра тое, што само сябе выкрывае.

Пэўна, дзядзька нешта значнае прыгадаў. Было зразумела, што толькі дакрануўся да тэмы і неяк мімаходзь, якую не любіў узнімаць.

Дзядзька пачаў мяне цікавіць, бо з тых слоў я зразумеў, што перада мной не стары ваяка са звычайнымі поглядамі, а мужчына, які невысока ацэньвае ваенныя заслугі і славу, і хутчэй шкадуе, чым выхваляецца, што калісьці крыважэрна кідаўся на свайго бліжняга.

Як толькі я адказаў, дзверы памалу расчыніліся і ў пакой увайшла сямідзесяцігадовая старая.

— Я пачула размову, — сказала яна, — і вырашыла, што калі малады пан прачнуўся, то запрашу яго на чай.

Наблізіўшыся да майго ложка, яна падала нешта ў белым малым кубку. Я меланхалічна ўзяў пададзены мне кубак і ўважліва зірнуўшы на старую, здзівіўся яе незвычайнай пачварнасці.

Цела яе было жудасна перакручана з гарбом наперад, а ззаду знявечана.

Зморшчаны брудны жоўты твар яе выглядаў як цёмная пляма, нізкі лоб, плоскі, амаль нябачны нос на шырокім твары, шырокія губы, бледныя і пасінелыя, вусны глыбока запаўшыя, але да сёння бліскучыя вочы — такім чынам гэты выгляд выклікаў у мяне пачуццё агіды.

Старая паглядзела прама, горка ўсміхнулася, і пасля гэтага твар яе набыў асаблівы выраз, дзе былі і прыветлівасць і непрыветлівасць.

Ад дзядзькі таксама не ўдалося схаваць сваё ўражанне ад зморшчанай старой.

— Не маем дапамогі, мілы хлопча! — сказаў ён, калі яна пайшла. — У нас ты павінен звыкнуцца з нейкай эксцэнтрычнасцю. Старая, якую ты бачыў, не апошняя пачвара, з якой ты сустрэнешся. "Пачварны з выгляду чалавек заўсёды няшчасны, — калісьці сказала Рэгіна. — Ад яго кожны адвернецца, кожны ім грэбуе, а многія яшчэ і ненавідзяць. Але паводзіны іншых для нас нічога не значаць!" Гэтых некалькі слоў было для мяне

дастаткова. Гэта азначала, што думка іншых не павінна нас цікавіць, і ўсе агідныя знешне людзі з наваколля перасяліліся паступова ў наш дом.

— Такім чынам вы арганізавалі асаблівы прытулак для скалечаных людзей? — запытаўся я.

— Ні ў якім разе! Яны жывуць з намі пад адным дахам і працуюць у полі, у лесе, па дому, як хто можа. Дабрачыннасці тут няма ніякай, бо кожны з іх працуе з большай адказнасцю, чым чалавек здаровы і шчаслівы. Я разумею твае адносіны да падобных людзей, але я ўжо адчуў, што як толькі ты з імі звыкнешся, яны не будуць цябе раздражняць.

Я павінен быў сказаць дзядзьку праўду, бо не мог пазбавіцца ад уражання, якое зрабіў на мяне першы пачварны чалавек з тых, хто жыве ў доме.

— Я думаю, што было б лепш, — працягваў дзядзька, — калі б мы выйшлі на прыроду. Я пакіну цябе на некалькі хвілін аднаго.

Пасля гэтых слоў, не чакаючы адказу, ён выйшаў з пакоя.

Выпіўшы адным глытком кубак яшчэ гарачага чаю, які я ўвесь гэты час трымаў у руцэ, я пачаў апранацца.

Я быў гатовы трохі раней, чым вярнуўся дзядзька.

Дзядзька расчыніў праз хвіліну дзверы і кіўнуў мне, каб я ішоў за ім.

Мы выйшлі па вузкім, добра асветленым калідоры да высокіх, насцеж расчыненых дзвярэй, ад якіх дзесяць каменных прыступак вялі да шырокай, невысокай сцяны, якой быў абгароджаны двор.

Ужо ля дзвярэй погляд на наваколле незвычайна асвяжаў. Маёнтак дзядзькі знаходзіўся ў цудоўнай шырокай раўніне, пасярод якой віўся па ярка-зялёным лузе невялікі ручай. Высокія, парослыя лесам узгоркі ўздымаліся ўдалечыні да аблокаў, а лес рассцілаўся тут і там і ў раўніне і па нізіне.

Двор быў выбрукаваны, але амаль пусты, толькі месцамі стаялі або ляжалі гаспадарчыя прылады.

Зграя вялікіх чорных сабак, з якімі я ўчора пазнаёміўся, ляжалі ў цені каля сцяны ў адным з кутоў двара. Ледзьве сабакі ўбачылі, што дзядзька выходзіць з дому, як адразу падхапіліся і падбеглі, абступіўшы з абодвух бакоў прыступкі, што вялі ў двор, і, не спускаючы з нас вачэй скалілі свае белыя, як снег, іклы.

— Праклятыя сабакі! — звярнуўся я да дзядзькі. — Учора яны нагналі на мяне страху.

— А між тым няма больш нявінных і адначасова добрых вартаўнікоў, чым звяры гэтай пароды, — адказаў дзядзька. — Дрэсіроўка ў іх выдатная і руды фурман, які цябе ўчора вёз, за сваю настойлівую і напружаную працу заслугоўвае…

— Божа мой, што з ім здарылася? — перапыніў я раптоўна дзядзьку, прыгадаўшы свой учарашні ўчынак.

— Не турбуйся! — сказаў дзядзька. — Паглядзі на дом для слуг і зразумееш! — пры гэтым ён паказаў рукой назад.

Азірнуўшыся, я ўбачыў доўгі нізкі дом, а з аднаго акна на нас пазіраў агідны твар рудога з велізарнай люлькай у роце.

Руды глядзеў з алімпійскім спакоем самага шчаслівага флегматыка, і толькі калі зразумеў, што я на яго гляджу, усміхнуўся з нейкай своеасаблівай даверлівай грымасай, нібы хацеў сказаць: "Ага! Я зноў Вас бачу!"

— Не магу зразумець, — звярнуўся я зноў да дзядзькі, — чаму гэты хлопец супраць маёй волі хацеў мяне зноў адвезці ў Плзень.

— Сапраўднай прычыны таксама не бачу, — прагучаў халодны і прадуманы адказ дзядзькі, — але можаш быць пэўны, што надзвычай важнай прычыны не было.

— Адначасова таксама не разумею, чаму Вы вітаеце гасцей такім варварскім спосабам — зграяй чорных сабак.

— Не дзівіся! — адказаў дзядзька, усміхнуўшыся. — Мы жывем самотна; часта амаль месяц можам не бачыць чужога чалавека, таму няма нічога дзіўнага ў тым, як бавім час. Аднак дрэсіроўка гэтых сабак не была пустой забавай. Паглядзі з двара на наваколле і ўбачыш, што на адлегласці паўгадзіны язды бачны разнастайныя дарогі і сцежкі, што вядуць да маёнтка.

Калі нехта пешкі або ў экіпажы набліжаецца да нашага маёнтка на вызначаную дыстанцыю, сабакі здалёк бачаць і бягуць насустрач, каб правесці яго да нас. Калі ж ён па дарозе паверне назад, то сабакі стаяць і чакаюць, пакуль не знікне. Таму немагчыма, каб удзень да нас нехта па дарозе або па сцяжынцы дабраўся незаўважаны, можна ў маёнтак трапіць толькі праз густы непраходны лес; але і тут ля маёнтка прывітае кожнага раз'юшаны брэх.

Уначы, калі сабакі лётаюць па лясах вакол маёнтка, да нас не наблізіцца ніхто. Сабакі ўдзень ніколі не брэшуць, пакуль чужынец ад маёнтка знаходзіцца далёка, але калі робіць спробу трапіць у двор, брэшуць, нібы ашалелыя, і не змоўкнуць, пакуль хто-небудзь з нашых людзей не прыкрыкне на іх. Уначы яны пачынаюць брахаць на значнай адлегласці ад маёнтка, і калі пераканаюцца, што ідзе да нас, то прывядуць яго сюды, як і ўдзень, толькі са страшэнным брэхам.

Да сённяшняга дня яшчэ ніколі не здаралася, каб яны на некага кінуліся без загаду; яны, як я ўжо казаў, прайшлі спецыяльную падрыхтоўку і кідаюцца на чужынцаў толькі, калі нам рэальна пагражаюць. Трэба дадаць, што за ўвесь час, што мы трымаем гэтых сабак, не здарылася нічога такога, каб нам трэба было ад некага бараніцца. Калі б мы былі вымушаны так зрабіць, то няма сумнення, што наш вораг быў бы разарваны на часткі.

Між тым мы памалу прайшлі праз двор да брамы. Чорныя сабакі да гэтага часу стаялі каля прыступак ля выхаду з дома, застыўшыя, як статуі.

— Можа, мне іх паклікаць, каб яны нас суправаджалі? — запытаўся дзядзька праз хвіліну.

— Не трэба, дзядзька, — адказаў я, — я не пачуваюся добра ў іх таварыстве.

— Веру, але будзе лепей, калі яны з табой бліжэй пазнаёмяцца, — цвёрда сказаў дзядзька і пляснуў у далоні.

Сабакі моўчкі падбеглі да нас і сталі непадалёк, чакаючы далейшага загаду.

Дзядзька, не звяртаючы ўвагі на сабак, выйшаў за браму, а я за ім. Сабакі пабеглі за намі на пэўнай адлегласці.

Перад намі доўга цягнулася цянітая алея старых ліп і па абодва бакі пачынаўся вялікі парк, які акаляў маёнтак дзядзькі.

Мы ўвайшлі ў парк і спыніліся ў адной з альтанак.

На стале ўжо стаяла ежа. Старая, якую я зусім нядаўна бачыў у дзядзькавым доме, чакала нас ля ўваходу.

Я з'еў трохі дзічыны і запіў некалькімі кілішкамі добрага венгерскага віна пасля дастаткова доўгага перапынку і незвычайнага апетыту.

Толькі праз паўгадзіны мы пайшлі далей. Дзядзька павёў мяне праз парк і раўніну, паказаў свае лясы, свае палі, свае лугі, наогул усё, што называў сваім, і пазабавіў мяне дастаткова прыемным аповедам пра некаторыя характэрныя падрабязнасці ваеннага жыцця.

Я ўбачыў перад сабой значнага, трохі меланхалічнага мужчыну з незвычайна моцнай воляй.

Ён быў задаволены, што ні ад каго не залежыць; спакой і свабода асобы, што імкнецца жыць самотна, зрабілі з дзядзькі чалавека, які не хацеў, каб вольнасць іншага была нечым абмежавана.

Маёнтак свой дзядзька набыў з асцярожнасцю, але ўдала. Ён не імкнуўся да таго, каб побыт у ім быў надзвычай камфортным.

Стаіцызм, але заўсёды свежая думка і свабодныя погляды рабілі з яго прыемнага суразмоўцу. Мне нават здалося, што ў маладосці ён быў дзіваком і азартным чалавекам, а цяпер праз многія гады стаў добра валодаць сваімі страсцямі і знешнім іх праяўленнем, калі была ў гэтым патрэба.

Наогул, дзядзька зрабіў на мяне ўражанне вельмі прыемнае.

Толькі адна ягоная рыса здалася мне таямнічай і з паводзінамі і прынцыпамі дзядзькі ніяк не гарманіравала.

Ён прынцыпова выступаў супраць вайны наогул, супраць праліцця крыві, высока не ацэньваў геройства, з усмешкай казаў пра гераізм, як пра праяву звярынага інстынкту.

Але калі апавядаў пра бой, вочы яго свяціліся незвычайным агнём, лоб пакрываўся зморшчкамі, рука сутаргава сціскалася ў кулак, і кожны жэст сведчыў пра тое, што гэта мужчына, які прыйшоў да адмаўлення вайны прынцыпова, але па сваім характары гвалтаўнік.

Розум і разважлівасць ваявалі ў ім з прыродай або выхаваннем. Гэта быў ваяр, і ад сваёй ваяўнічасці ён не адмовіўся нават праз многія гады, калі з перакананнем выступаў супраць нечага, і гэта было настолькі глыбока ў яго натуры, што толькі з вялікім напружаннем можна было адолець. Такім чынам, я пераканаўся, што дзядзька, цяпер такі стрыманы, з'яўляецца чалавекам, які можа пад уздзеяннем гневу або ў момант хвалявання пусціць кулю ў лоб нявіннаму чалавеку.

Было ўжо шэсць гадзін па абедзе, калі мы вярталіся праз парк назад.

Сабакі, якія суправаджалі нас па дарозе, увесь час нейк нясмела беглі за намі. За ўвесь час ніхто з іх не падаў голас, не завыў, не апярэдзіў нас і ўвесь час чакалі ад дзядзькі загаду.

Дзядзька, здавалася, зусім забыўся пра іх і не звяртаў на сабак ніякай увагі.

Калі мы ўвайшлі ў двор, я ўважліва разгледзеў будынак.

Дом быў аднапавярховы, задняя яго частка абапіралася аб лысую, непрыступную скалу, якая высока ўздымалася над дахам будынка.

У двары нікога не было, як і тады, калі мы з яго пайшлі. Толькі там, дзе жылі слугі, было гучна і весела: адтуль чуліся спевы пад гармонік.

— Нашы хлопцы вярнуліся з працы, — растлумачыў дзядзька. — Ты не хочаш пазнаёміцца з імі?

Прапанова дзядзькі мне не спадабалася, але я нічога не адказаў.

Мы ўвайшлі ў дом, дзе жылі слугі. Я ўбачыў вялікі, чысты, падобны да залы пакой, напоўнены трыццаццю асобамі абодвух палоў і рознага ўзросту, ад старых да немаўлят.

Каля дзесяці іх сядзела за вялікім круглым сталом ля поўным місак. Ля аднаго акна стаяла група людзей вакол маладога худога хлопца з гармонікам у руках, астатнія стварылі трэцюю групу, якая сядзела ля вялікай печы або на нізкіх лавах або на зямлі і слухала апавяданне пажылога мужчыны, які, абапёршыся спінай на сцяну, размахваў рукамі, нібы расказваючы пра нейкую бойку.

Агледзеўшыся вакол, я задрыжаў; бо ніколі яшчэ не бачыў столькі палохаючай агіднасці і столькі пачвар разам.

У кожнага з іх быў нейкі фізічны недахоп або гэта было жудаснае страхоцце; тут былі і немаўляты, іх дзеці, здаровыя. Карціна ўражвала: ля акна сядзіць на нізкай лаве аднарукая маці і на калене калыша дзіця, а на агідным твары незразумелы выраз.

Калі мы ўвайшлі, ніхто на нас не звярнуў увагі, ніхто нас не прывітаў; ні спеў, ні гукі гармоніка не сціхлі.

Дзядзька казаў праўду! Чалавек павінен да гэтых людзей паступова прывыкнуць, каб яму яны не перашкаджалі. Мне яны ў той момант не толькі перашкаджалі, але і проста адпуджвалі.

Толькі аднойчы зірнуўшы вакол сябе, я пакінуў дом слуг так хутка, як і ўвайшоў, дзядзька пайшоў за мной.

— Нічым не магу дапамагчы, ты павінен прывыкнуць! — сказаў дзядзька, калі мы зноў апынуліся ў двары.

— Не турбуйся, дзядзька! — адказаў я. — Бачу, што адразу немагчыма, але паступова я звыкнуся з Вашымі дзівацтвамі.

— Шкада толькі, — працягваў дзядзька, — што мусіш прывыкаць сам. Бо я павінен у Плзні наладзіць свае справы і паеду яшчэ сёння. Можа, там я затрымаюся на цэлы тыдзень, а, можа, і болей. Ты будзеш бавіць час, як зможаш. На шчасце, тут ёсць Рэгіна.

Між тым мы падышлі да ўваходу ў дом.

— Цяпер я пакажу табе падрыхтаваныя для цябе пакоі, — сказаў дзядзька, паднімаючыся па прыступках у дом, я ішоў за ім.

Калідор на першым паверсе быў яшчэ святлейшы, чым унізе, і выкладзены белым мармурам.

Некалькі вялікіх даўніх карцін, на якіх былі адлюстраваны сцэны з грэчаскай і рымскай міфалогіі, упрыгожвалі белыя, як снег, сцены і дадавалі калідору пахмурны выгляд, але свежыя высокія экзатычныя кветкі па абодва бакі калідора, дзе быў выхад у элегантныя галерэі, з якіх можна было аглядаць наваколле, мірылі з непрыветным калідорам.

У калідоры было толькі двое дзвярэй, направа і налева.

Дзядзька адчыніў дзверы з правага боку і сказаў:

— Гэта твае пакоі!

Зазірнуўшы праз адчыненыя дзверы, я ўбачыў некалькі элегантна і прыгожа абстаўленых пакояў.

— Калі ты захочаш пагаварыць з Рэгінай, — працягнуў дзядзька, — то трэба адчыніць дзверы злева.

Потым ён гэтыя дзверы адчыніў.

Я ўбачыў малы пусты вестыбюль, адну сцяну якога ўтварала прамая скала, у якой былі высечаны прыступкі, што вялі ўгару — да нейкага калідора ў скале.

— Сёння мне надзвычай важна паехаць, — сказаў дзядзька, падаючы мне руку.

— А чаму ты мяне з Рэгінай не пазнаёміш?

— Не трэба, гэта ў нас не прынята, — адказаў дзядзька і, сціснуўшы мне па-прыяцельску руку, пакінуў мяне аднаго.

Хвіліну я вагаўся, а потым хутка ўвайшоў у вестыбюль і, падняўшыся па прыступках ўгару, апынуўся ў вузкім, высокім, высечаным у скале калідоры.

Падлога ў ім была пакрыта цяжкім дываном і святло прасочвалася ўнутр праз столь, пакрытую тонкім зялёным шклом, з-за чаго калідор набываў асабліва казачны выгляд.

Як толькі я ўвайшоў, мне стала па-марознаму холадна. Мне здалося, што я апынуўся раптам у вестыбюлі крыштальнага палаца русалкі.

Я зрабіў некалькі крокаў наперад, іх не было чуваць на цяжкім дыване. Я пайшоў далей і ўбачыў праз некаторы час, што калідор закругляецца і завяршаецца адчыненымі дзвярыма.

Прайшоўшы калідор, я апынуўся ў выдатна аздобленым пакоі. Прыгажосць у пакоі, куды святло таксама прасочвалася праз столь, надзвычай ураджвала.

У пакоі нікога не было. Прыадчыненыя дзверы вялі ў іншы пакой, таксама элегантна і прыгожа абстаўлены. І ў ім нікога не было.

Я хацеў прайсці і ў трэці пакой, але каля дзвярэй міжволі спыніўся.

На падлозе, на шыкоўным каштоўным персідскім дыване ляжала маладая жанчына, апранутая ў муслінавае складкаватае адзенне бледна-ружовага колеру. Яна абапіралася на левую руку і такім чынам была

прыўзняўшыся; галава яе схілілася да грудзей і было не зразумела, ці то жанчына задумалася, ці то спіць.

Цяжкі дыван на падлозе і сонечныя прамяні, што прасочваліся ў пакой скрозь столь непасрэдна перад жанчынай, былі прычынай таго, што яна мяне адразу не заўважыла.

Не могучы адвесці свайго погляду ад незвычайнай з'явы, я застаўся стаяць у дзвярах.

Гэта жанчына была дэманічна прывабнай, нібы грэх. Твар нагадваў смуглую красу Усходу, скура яе была светла-карычневага колеру, тонкая, амаль празрыстая.

Некалькі імгненняў яна ляжала нерухома. З-пад складкаватага адзення выглядала худая, заружавелая, босая ножка; муслінавая сукенка расхінулася, і мяккія грудзі былі амаль непрыкрытыя. Распушчаныя валасы колеру вароны, падзеленыя на дзве пасмы, сплывалі па шыі на грудзі, дадаючы прапарцыянальна пабудаванаму светламу целу чароўны выгляд, а твару хвалюючую павабнасць.

Нечакана яна ўздрыгнула рэзка і страсна. Грудзі ўзняліся, нібы жанчыну раптоўна ўразілі і ўсхвалявалі, правая ручка прыціснулася да грудзей, і мне здалося, што нават пазногці сутаргава сціснуліся і сталі белымі, вострым болем праціяла грудзі.

Салодкія, дыхаючыя раскошай вусны былі напалову адкрытыя, нібы бутоны ружы, але было бачна, што на іх грала горкая хваравітая ўсмешка.

Яна ў імгненне ўзняла галаву і паглядзела на мяне.

Шэрыя з ізумрудным бляскам вочы заіскрыліся, і ў іх мільганула дэманічная ўпартая маланка.

Я адчуў, што перада мной зусім не анёл, а чароўнасць, якая выражана ў неадольнай абаяльнасці распуснай істоты.

Я хацеў нешта сказаць, але голасу не было. Чароўная жанчына, ускочыўшы лёгка, нібы газель, падляцела да мяне і, абняўшы правай рукой маю шыю, пачала мяне горача цалаваць.

Пажадлівая прыгажосць распуснай жанчыны і яе прагныя, палымяныя пацалункі надзвычай мяне ўсхвалявалі.

Я адчуваў, што кроў прыліла да майго твару і ў мяне ўзмацнілася невыразнае словамі пачуццё страху.

Распушчаныя валасы жанчыны, што мяне цалавала, датыкаліся да майго твару, і я адчуваў, нібы да мяне дакранаецца гнуткая тыгрыца, якая будзіць жаданне.

Міжволі я абняў рукамі худое цела прывабнай жанчыны. Кроў закіпела ў маіх жылах і менавіта так жа горача і страсна я адказваў на пацалункі чароўнай незнаёмкі.

Усё працягвалася толькі некалькі імгненняў.

Жанчына, што мяне цалавала, раптам рэзка адсунулася, нібы апамяталася, і зрабіўшы крок назад, горда ўзняла галаву, адгарнула валасы колеру воранавага крыла і, прыкрыўшы напалову адкрытыя грудзі, паглядзела ў мае вочы дапытліва, напалову прыветна, напалову строга.

Выраз яе твару, які яшчэ за хвіліну да гэтага выказваў страсную пажаданасць, быў задуменны, хутчэй сумны, нібы раптоўна яе падманулі салодкім успамінам.

— Прабач, дзядзька! — сказала яна праз хвіліну сімпатычным альтам, і голас яе быў ўсхваляваны. — Прабач, што я цябе так прывітала! Я была ўся ва ўспамінах перад тым, як ты з'явіўся… Растлумачыць усё табе я не магу, але ты мне і не паверыў бы, аднак, я ўпэўнена, што ты мне прабачыш.

Салодкая ўсмешка пры гэтых словах асвятліла яе задумлівы твар, нібы нямая просьба.

— Жанчыны нястрыманыя і страсныя, як я, — працягвала яна, не чакаючы майго адказу, — часта пераходзяць ад адной экстравагантнасці да другой. Раптоўнае захапленне і хваляванне ў хуткім часе ператвараюцца ў абыякавасць, замест цеплыні і шчырасці, якую прагнеш мець, сустракаеш у наступны момант холад, які адштурхоўвае. Але паведамлю табе яшчэ нешта, я ўпэўнена, што ты мне прабачыш, калі скажу, што ты з'яўляешся самым блізкім сябрам адзінага мужчыны, якога я кахала…

— Якога Вы кахалі, цётка? — перапыніў яе я, падкрэсліўшы слова "кахала". — Чаму ж цяпер не кахаеце?

— Ціха! — сказала цётка прыглушаным голасам і з гарэзлівай усмешкай. — Хто ж мог спадзявацца, што першым жаданнем дзядзькі будзе высветліць і ацаніць каханне разбэшчанай цёткі да яго, так ці не? Пэўна, нешта падобнае трэба ў зародку знішчыць! Найперш я не дазволю, каб мне нехта выкаў і называў мяне цёткай! Мяне клічуць Рэгінай, а Рэгіне тыкаюць!

Апошнія словы яна вымавіла з такой мілай рашучасцю, што я ёй прабачыў не толькі тое, што адбылося, але і гэты раптоўны пераход у няпростай размове.

Рэгіна, якая ўжо цалкам узяла сябе ў рукі, паказала мне месца побач з сабой на канапе.

Адчуваючы незвычайную перавагу гэтай дзіўнай жанчыны, я нясмела сеў каля яе і пачаў адказваць на яе пытанні. І такім чынам паступова паміж намі ўзнікла жывая размова, якая, магчыма, большасць людзей не зацікавіла б, але мяне, які лічыў сябе для Рэгіны незнаёмым чалавекам, вельмі значная.

Убачыў я ў маладой, дваццаціпяцігадовай цётцы жанчыну надзвычай адукаваную. Тэмперамент яе я не мог у працэсе размовы дакладна раскрыць, але мне здалося, што тут змагаюцца сангвінік з меланхолікам.

Экстравагантнасць, якую я бачыў ва ўсім, што тычылася Рэгіны, была толькі ў знешніх праявах яе асобы, а само разуменне Рэгінай свету здзіўляла сваёй дакладнасцю і яснасцю.

Часта з шэрагу яе фраз выходзіла, што погляды завостраны да экстэмізму, але тут жа адно слова або выраз сведчылі пра адваротнае, што яе думка не з'яўляецца нейкай прымхай, а смелай і разважлівай высновай.

Ад жанчын з самастойнымі поглядамі і падобнай адукацыяй Рэгіна значна адрознівалася.

Адразу яна здалася мне жанчынай з мужчынскімі поглядамі, але пазней я ўбачыў яе наіўную непасрэднасць, якую яна не хавала, шчырасць

і страснасць, якія нагадвалі ёй правы і абавязкі жанчыны і маці, і ўсё разам давала мне ўяўленне пра жанчыну надзвычай цікавую.

Радасць і сум праяўляліся ў ёй непасрэдна і шчыра. Не было пачуцця, якое яна хавала б або стрымлівала, не было думкі, якую яна замоўчвала б, а казала толькі тое, што патрэбна, каб нешта сказаць.

Упершыню ў сваім жыцці я сустрэў жанчыну, у якой былі сэрца і розум, з сардэчнай цеплынёй, калі каханне або сяброўства ўсхвалявалі сэрца, але таксама з халоднай ганарыстасцю, калі грудзі ўздымаюцца ад справядлівага гневу ад дурнога ўчынку. Жанчына з такімі душой і сэрцам умее як горача кахаць, так страсна і ненавідзець…

Своеасаблівымі былі і яе адносіны да так званага “жаночага пытання”.

— Я не з’яўляюся кампетэнтнай у гэтым пытанні, — заўважыла яна, калі падчас размовы я мімаходзь прамовіў слова “эмансіпацыя”, — не магу дакладна судзіць, бо з моманту, калі я пачала самастойна думаць, не была нікім аспрэчана. Я была і цяпер застаюся абсалютна свабоднай, але ведаю таксама, што была выхавана і жыву менавіта так, дзякуючы свабодзе. Інакш я была б залежнай у большай або меншай ступені ад мужчыны, і была б звязана з ім каханнем, сяброўствам або умоўнасцю.

Я не здзіўляюся, што паўсюль, дзе муж абмяжоўвае правы жонкі, або, наадварот, жонка абмяжоўвае правы мужа, абмежаваныя імкнуцца парваць путы. Такія ўзаемаадносіны маюць свае карані ў грамадстве, і ў сваёй аснове не зменяцца датуль, пакуль не зменіцца само грамадства. Але памыляецца той, хто лічыць эмансіпаваную жанчыну хімерай. Трэба, каб многія зразумелі, што сёння існуюць тысячы эмансіпаваных жанчын. Жонка беднага чалавека заўсёды эмансіпаваная. Яна выконвае такую ж працу, як і мужчына, як і ён працуе ў поце твару свайго, прычым працуе часта на цяжкай працы, бо вымушана саступіць мужчыне лепшую. Чаму тады трэба забараняць жанчыне змагацца за сваё існаванне, калі яна адчувае ў сабе сілу і здольнасць да цяжкага, пакутлівага бою?

Я хацеў, як гэта звычайна характэрна для моладзі, запярэчыць, але ці можна пярэчыць маладой прывабнай жанчыне, якія разважае пра роўнасць і свабоду?

Надзвычай мяне здзівіла, што Рэгіна нашмат лепей зразумела мае асобасныя погляды і погляды на сям’ю, чым дзядзька Роберт, намнога лепш, чым мае самыя блізкія сябры.

Яна зразумела мой характар, схільнасці, а таксама прыхамаці. Яна ведала, з якой цікавасцю я навучаюся, як я праводжу вольны час, чым мяне можна напалохаць і ўгнявіць, ведала таксама, што кожны чэшскі студэнт піша вершы, і звыш таго адзначыла, што лёгка і хутка я пішу вершы, а цяжка і пакутліва пішу прозу, такім чынам гэта дзіўная жанчына цікавілася мной болей, чым хто іншы.

— Скажы, калі ласка, Рэгіна, адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — запытаўся я, калі яна з прывабным нахабствам раскрыла адну з маіх найбольш таямнічых схільнасцей, страсным захапленнем лагаметрычна-трыганаметрычнымі табліцамі.

— Няўжо ты не разумееш, што я гэта ведаю? — спытала Рэгіна з усмешкай.

— Праўда, я павінен быў зразумець, што такія падрабязнасці з'яўляюцца доказам…

— Таго, што я ведаю! — умяшалася Рэгіна.

— А таксама ведаеш Прагу, — дадаў я.

— Прагу! Прагу! — паўтарыла нечакана Рэгіна ціхім голасам і цень або сум міжволі прабеглі па яе светлым твары.

Мы памаўчалі.

Праз хвіліну Рэгіна паднялася з канапы і ўзяла з туалетнага століка побач невялікую кнігу.

— Ці ведаеш гэта? — запытала яна, паказваючы на кнігу.

— Ведаю, — адказаў я, памятаючы свае рэчы, вершы Альфрэда дэ Мюсэ.

— Я знайшла яе ўчора ў экіпажы, калі цябе, акрываўленага, аднеслі ў дом, — працягвала цётка. — А цяпер я яе табе вяртаю.

— У гэты момант, калі мне нагадалі ўчарашні дзень, я пазнаў у Рэгіне жанчыну-вершніка, што дагнала мяне ўчора ў лесе, а пазней міжволі стала прычынай маёй бяды.

— Рэгіна! — ускрыкнуў я.

Твар Рэгіны злёгку заружавеў.

— Прабач, дзядзька, што я падрыхтавала табе такую негасцінную сустрэчу, — сказала яна мякка і ўмольна. — Я паслала экіпаж насустрач і дала фурману строгі загад, каб ён адвёз цябе назад у Плзень…

— Ты што ведала, што я вас наведаю? — перапыніў я нечаканае прызнанне цёткі.

— Безумоўна, у мяне была важная прычына, каб ты не прыехаў на запрашэнне.

— Чаму ж ты мне не напісала, што не жадаеш мяне бачыць? — спытаў я важна і нават з нейкім дакорам.

— Калі ты ўжо быў у Плзні і па дарозе да нас, было позна, — адказала Рэгіна. — Але ў Празе ты атрымаў дзіўны ліст!

— Гэты ананімны допіс незнаёмага сябра ад цябе, Рэгіна?

— Так, але ж ты сам бачыш, што ён не меў ніякага ўздзеяння.

— У такім разе я не бачу іншага выйсця, акрамя таго, што трэба мне адсюль паехаць, — сказаў я праз хвіліну.

— Не, не! — адказала Рэгіна хутка. — Цяпер, калі мы ўбачыліся, гэта зусім дарэмна.

- Я павінен прызнацца, што не разумею, — нагадаў я нерашуча, — А калі б я гэтаму фурману ў парыве гневу разбіў галаву?

— О, я пра гэта зусім не турбавалася, — адказала цётка. — Я ведаю фурмана і разумела, што ён скарыстае ўсе магчымыя сродкі бяспекі. Ці ж ён не выкінуў твой зараджаны пісталет і не паказаў табе рэвальверы ў экіпажы? Ні адзін з рэвальвераў не быў па-сапраўднаму зараджаны…

— Але магло нешта здарыцца, што мела б вельмі непрыемныя вынікі.

— Мне прыйшло гэта ў галаву, — дадала Рэгіна, — і таму я выехала падчас навальніцы насустрач. У лесе я ехала побач з вамі на невялікай адлегласці. Пачуўшы пазней стрэл з рэвальвера, я зразумела, што нешта здарылася і што патрэбна мая прысутнасць. Я паехала хутчэй і ўбачыла, што фурман ляжыць на дарозе і не толькі жывы, але і здаровы, таму я паехала за табой, дагнала экіпаж. Што было далей, ты ведаеш.

— Пэўна я зусім не да месца, Рэгіна, — сказаў я са значэннем, — а таму мне трэба неадкладна паехаць адсюль.

— Сёння ты не знойдзеш дарогі адсюль сам, — дадала цётка з усмешкай. — Сёння я цябе адсюль не пушчу!

— Тады хоць скажы мне прычыну, — націснуў я на прыгожую жанчыну. Яе словы заўсёды мяне надзвычай здзіўлялі і ўражвалі.

Рэгіна пакруціла адмоўна галавой, але не адказала.

— Калі ты не хочаш назваць прычыну, — працягваў я, не разумеючы відавочнае нежаданне цёткі прызнацца, — то хоць скажы, як ты даведалася пра тое, што я прыеду да вас?

— Твая цікаўнасць, дзядзька, пачынае мяне абцяжарваць, — адказала цётка, з жартоўным асуджэннем. — Але для таго, каб ты не думаў, што я няўмольная, нешта скажу. Пазаўчора позна ўвечары ты дайшоў да Плзня і не памятаеш, хто пытаўся ў цябе ў гасцініцы пра тое, куды ты накіроўваешся?

— Памятаю. Маладая дзяўчына спытала ў мяне пра гэта мімаходзь…

— А ці не здзівіла цябе, што ў чужым горадзе незнаёмая дзяўчына пытаецца ў цябе, калі ты пакінеш Плзень?

— Калі я дзяўчыне адказаў, дык зусім не звярнуў на гэта увагі, але пазней…

— Ну вось, — перапыніла мяне цётка. — Дзяўчына выконвала просьбу аднаго з тваіх і маіх прыяцеляў(=знаёмых), якога ты выпадкова сустрэў у Плзні. Прыяцель (=знаёмы) той адразу паведаміў пра твае планы мне. Гэта сапраўдны дзівак.

З гэтымі словамі Рэгіна ўзнялася і, дастаўшы з невялікай скрынкі на туалетным століку маленькі аркуш паперы, падала яго мне са словамі: “Калі ласка, чытай!”

Я ўзяў паперу і прачытаў наступнае:

“Дарагая Рэгіна!

Пражскі дзядзька накіроўваецца да вас сапраўды пагасцяваць; цяпер ён знаходзіцца ў Плзні, а заўтра пойдзе далей. Калі ласка, зрабі ўсё, каб ён не трапіў да вас. Прычына надзвычай сур’ёзная; растлумачу праз два-тры дні пры сустрэчы.”

— Ведаеш почырк? — спытала Рэгіна, сядаючы зноў на канапу, калі я прачытаў допіс.

Хвіліну я ўважліва даследаваў почырк. Мне здалося, што я нешта падобнае ўжо бачыў, але дзе, не мог прыгадаць.

— Не ведаю, — адказаў я. Але, Божа мой, якую прычыну мог указаць мой незнаёмы прыяцель, каб растлумачыць, чаму я не павінен наведаць вас?

— Добра, што не ведаеш почырк, — сказала цётка. — Значыць у цябе застанецца цікаўнасць, калі я не скажу табе ні прычыну, ні імя прыяцеля.

— Як ты магла, Рэгіна, паслаць мне насустрач фурмана, які мяне не ведаў? — запытаўся я, не звярнуўшы ўвагу на яе разуменне маёй цікаўнасці.

— Вельмі лёгка, — пачуў адказ.

Ізноў пацягнулася цётка да століка і нешта мне падала.

Я пазнаў свой фотаздымак.

— У фурмана было з сабой гэта, — растлумачыла цётка.

Цяпер я прыгадаў, што агідны фурман, спыніўшы карэту ля карчмы, дзе я адпачываў па дарозе да дзядзькі, уважліва глядзеў на далонь. Пэўна глядзеў на мой фотаздымак і ўважліва азіраўся, ці не ўбачыць ён чалавека, якога яму трэба было спаткаць.

— Хто табе даў мой фотаздымак? — запытаў я праз хвіліну. — І чаму ты адразу ж з лістом дзядзькі накіравала мне ананімны допіс, каб я не прыязджаў да вас у госці?

— Цяпер не атрымаеш адказ, бо не магу сказаць, — сказала Рэгіна. — Але для таго, каб ты не казаў, што я зусім ачарсцвела, нагадаю табе нешта. Роберт зусім нядаўна прыгадаў, што напіша табе, каб ты нас наведаў. Ён мне гэта сказаў, і я пагадзілася. Пазней я падумала, што будзе лепей, калі ты да нас завітаеш пазней — падчас непрытомнасці Роберта…

— Што ты падумала? — перапытаў я Рэгіну.

— Менавіта так, як я сказала. Роберт збіраецца ў бліжэйшы час у доўгатэрміновую паездку і гэты перыяд здаўся мне найбольш здатным для гасцявання. Калі Роберт муж жорсткі, рэзкі і запальчывы…

— Не турбуйся, Рэгіна! Я не збіраюся яму нічога перадаваць…

— Я веру, але Роберт не чакае выпадку…

Апошнія словы выклікалі ў маёй душы холад. Я ўбачыў, што знаходжуся ў таварыстве жанчыны, якая іграе са мной, як віхура са слабым сцяблом.

Пры ўсёй сваёй стрыманасці я не мог пазбавіцца пачуцця нейкай залежнасці. Усе мае намаганні, каб даведацца пра нешта праўдападобнае і ў далейшым арыентавацца ў сітуацыі, засталіся марнымі. Рэгіна ўхілялася заўсёды, прыкрываючыся словамі і жартамі. Або проста адмаўляючыся адказваць.

Я заўважыў, што яна радуецца маёй разгубленасці, і таму замаўчаў.

Аднак Рэгіна не дала мне шмат часу для роздуму. Устаўшы, яна сказала, як ласкавая гаспадыня:

— Ці не было б лепш, каб мы разам пайшлі з гэтых цесных скальных сцен?

Я моўчкі падняўся з канапы, паказаўшы, што гатовы пайсці.

— Ты, пэўна, злуешся на мяне, дзядзька? — спытала Рэгіна, узняўшы на мяне свае вялікія шэрыя вочы.

Погляд той быў больш красамоўны, чым самая зацікаўленая просьба.

— Злуюся? Гэта немагчыма, Рэгіна! — адказаў я амаль супраць сваёй волі.

— Але ж я бачу, што ты спахмурнеў!

— Твае вочы мяне абяззброілі.

— Мае вочы? Гэта немагчыма, дзядзька! — парадзіруючы мае словы, Рэгіна зазірнула мне ў вочы.

Я хацеў усміхнуцца, але выразныя вочы Рэгіны мяне сапраўды абяззброілі.

Моўчкі я падаў ёй руку, і гэтая надзвычай вабная жанчына прачытала на маім твары, што перамагла.

— Пачакай толькі некалькі хвілін! — сказала Рэгіна і паспешліва зайшла ў суседні пакой.

Я хацеў азірнуцца вакол сябе, але міжволі мой погляд накіраваўся ўслед за прыгожай жанчынай.

Я ўбачыў, як яна апранула белыя панчохі, як яе вузкая ножка ўвайшла ў чорны атласны чаравік... Я не мог адарваць вачэй, але Рэгіна хутка ўзнялася і так жа як адышла, так і вярнулася...

— Хадзем! — зазвінеў яе ўладарны гучны альт.

Я падпарадкаваўся.

Пакінуўшы пакой праз шырокія дзверы, мы апынуліся пад шэрым небам, амаль у вузкай скальнай лагчыне, куды вялі каля дваццаці высечаных у скале прыступак.

Падняўшыся па прыступках мы апынуліся на шырокай пляцоўцы, якой завяршалася лысая самотная скала, на якую абапіраўся дом дзядзькі.

Від са скалы на наваколле ўражваў, і ў ціхія летнія ночы, калі з неба лілося святло месяца, тут было надзвычай прыемна.

— Здаецца Роберт не заслужыў пахвалу за свой узорны клопат? — спытала Рэгіна, назіраючы, як я з замілаваннем разглядаю здзіўляюча рамантычнае наваколле.

— Дзіўны чалавек! — працягвала Рэгіна, не чакаючы майго адказу. — Зрабіў для мяне больш, чым я заслужыла. Ён бы ўсё паклаў да маіх ног, здзейсніў бы ўсе мае планы, але я ніколі нічога ў яго не прасіла, і ні пра адно са сваіх жаданняў ніколі яму нічога не казала. Паступова я стала яго другой душой. Кожную маю задуму, кожнае жаданне адчуе і выканае. Толькі нічога ён не ведае пра пачуццё; што б я ні адчувала, ад кахання да нянавісці, ён ніколі не здагадаўся, ніколі не звярнуў увагу, ніколі не ацаніў...

Голас Рэгіны пры гэтых словах незвычайна змякчэў.

Я слухаў вельмі ўважліва; з гэтых слоў было зразумела, што Рэгіна дзядзьку за яго выключныя асаблівасці паважае, але ў той жа час не можа яго кахаць.

Некалькі гэтых слоў зрабілі на мяне вялікае ўражанне. Я і спачуваў і асуджаў маладую цётку, і бачыў, што яе думкі лунаюць недзе далёка.

— Ён сам адчувае моцна і страсна, — працягвала праз хвіліну Рэгіна, нібы размаўляла сама з сабой, — сам кахае і ненавідзіць страсна, але не разумее пачуццяў іншых, не разумее мяне... І чаму я табе ўсё гэта кажу, дзядзька? — звярнулася яна да мяне. — Бачыш там унізе вокны маіх зімовых, а сёння тваіх летніх пакояў, а на рагу галерэю, з якой можна мяне бачыць.

Калі аднойчы табе стане сумна і ты выйдзеш у галерэю, то, можа, убачымся... Ты — там, я — тут!.. Абодва пасумуем: я — па пачуццях Роберта, а ты — па сваіх лагарыфмічна-трыганаметрычных табліцах...

І Рэгіна гучна засмяялася.

Калі размова ў асноўным скончылася, мы сышлі па крутых, але зручных, выразаных у скале прыступках са скалы і апынуліся на месцы, з якога можна было смела працягваць спуск ужо без прыступак.

Мы былі ў парку. Прайшоўшы парк, мы падышлі да лесу. Рэгіна, якая некаторы час маўчала, зноў разгаварылася. Яна апавядала мне пра асаблівасць жыцця, якім жыве тут, у аддаленым і самотным маёнтку ў гарах, пра тое, як клапаціўся дзядзька Роберт, каб ёй тут не было сумна, як ён узорна песціць яе і нічога ёй не забараняе. Размова была тым цікавая, што нягледзячы на лёгкасць і жартаўлівасць, з якой яна апавядала і размаўляла, Рэгіна змагалася з пачуццём гарачым і глыбокім, якое цалкам ёю авалодала.

Сонца ўжо зайшло, калі мы апынуліся ў цудоўнай пагорскай катлавіне, якую акалялі невысокія пагоркі, парослыя лесам. Вакол панавала цішыня; нават не чуліся песні птушак, шапаценне ветру. Промні сонца, што пранікалі ў катлавіну, залацілі верхавіны высокіх сосен з аднгаго боку, таму парослая высокай травой катлавіна набыла задумлівы выгляд.

— Ці не здаецца табе, што гэтае месца нібы створана для роздуму і мары? — запыталася Рэгіна.

Я пагадзіўся.

— Я рэдка яе наведваю, — працягвае цётка амаль шэптам, — я абыходжу яе.

— Гэта неверагодна! — заўважаю я.

— Я перажыла тут некалькі надзвычай непрыемных момантаў у сваім жыцці, — апавядае Рэгіна. — Тут Роберт упершыню мне сказаў напрамую і рэзка... Таму і месца гэта абыходжу.

Я прыгадаў нядаўнюю характарыстыку, якую дала Рэгіна дзядзьку, і ўжо не сумняваўся, што яна яго не кахае.

— Ты калі-небудзь кахала, Рэгіна, шчыра, горача, палымяна? — запытаў я, і нават зразумеў, як цётка на гэтае пытанне адкажа.

— Паглядзі, дзядзька! — сказала Рэгіна са значэннем і даверліва, зазіраючы мне ў вочы, — я магла б і цяпер не адказаць, але не хачу, бо я кахала горача і палымяна, я, — голас яе задрыжэў, — кахаю і цяпер як і раней горача, гэтак жа палымяна, гэтак жа горача...

— Роберта? — запытаўся я.

Рэгіна, схіліўшы галаву, нібы паглыбіўшыся ў даўнія ўспаміны, не адказала.

— Кахаю мужчыну з крыху экстравагантнымі поглядамі, — сказала яна праз хвіліну, — мужчыну, які знешне выглядае спакойным і ціхім, але на самой справе з'яўляецца надзвычай нервовым і мітуслівым.

— Мужчына, які змог завалодаць тваімі пачуццямі, Рэгіна, нейкі асаблівы.

— Праўда, што ён адрозніваецца ад іншых многімі значнымі якасцямі, і магчыма пераўзыходзіць шматлікіх людзей, але я на гэта не звяртала ўвагі. Я ведаю толькі, што ён мяне зразумеў, але шукаць прычыну сваёй закаханасці я не стала. У любым выпадку разумееш характар мужчыны з некалькіх слоў.

Потым Рэгіна пачала паэтычна апісваць мужчыну, якога кахае. Яе апісанне было своеасаблівым; яна яго не хваліла, не ўпрыгожвала, а малявала жыва і дакладна, таму ў хуткім часе я змог убачыць дастаткова ясную карціну. Чым падрабязней Рэгіна апісвала, тым жывей у сваім уяўленні я маляваў постаць, тым больш уважліва і напружана я слухаў, бо ўсё зводзілася да таго, што Рэгіна не апісвае чалавека чужога і незнаёмага, але ж не мне. Напачатку я ад гэтага меркавання адмаўляўся, але калі Рэгіна скончыла сваё апісанне, калі прытуліўшыся па-сяброўску да мяне з даверам паглядзела з сумам мне ў вочы, то мне здалося, што ў гэтым нельга сумнявацца.

Мяне ахапіла невыказна салодкае пачуццё. Я хацеў нешта сказаць, але словы завязлі ў маіх вуснах…

Рэгіна таксама маўчала і праз хвіліну павярнула назад…

Мы моўчкі вярталіся той жа дарогай, па якой прыйшлі сюды. Сонца між тым зайшло і ціхі летні вечар распачаў у лесе распасціраць свае шэрыя цені. Міжволі мы пайшлі хутчэй, а калі, выйшаўшы з лесу, убачылі, як непадалёк удалечыні блеў статак страўсаў, зноў загаварылі. Рэгіна зноў была гаваркой, як і раней, зноў вясёлай і лепятала, як бесклапотнае дзіця.

Месяц з’явіўся на небе, калі мы пакінулі парк. Рэгіна была сур’ёзнай.

Калі яна падала мне руку, я адчуў, што яна злёгку сціснула маю руку, але на падобны рух я не адважыўся…

Рэгіна пайшла.

Праз хвіліну я ўбачыў, як яна ад падножжа скалы паступова па прыступках узбіраецца ўгору, а яны былі так глыбока высечаны, што кожнага, хто па іх ідзе, не было магчымасці з аднаго боку бачыць. я чуў некаторы час шамаценне яе сукенкі, пакуль усё не сціхла…

Я доўга яшчэ хадзіў па сцішаным парку. Разнастайныя думкі вагаліся ад сур’ёзнай рэфлексіі аж да дасціпнасці, вірыліся ў дзіўнай сумесі, і толькі, калі пацягнула начным холадам, я праз двор вярнуўся ў адведзеныя мне пакоі.

Зайшоўшы ў пакой я ўбачыў, што ён абстаўлены з такім жа густам і так прыгожа, як і высечаныя ў скале летнія пакоі, дзе некалькі гадзін назад мы размаўлялі з Рэгінай. Усё было выцягнута ў адзін рад, таму праз адчыненыя дзверы з канапы ў апошнім пакоі можна было ўбачыць, хто ўваходзіць або выходзіць у першы пакой.

У апошнім пакоі, пэўна, цёткінай спальні, з якой шкляныя дзверы выходзілі на галерэю, я знайшоў разасланы ложак, а на стале падрыхтаваную халодную вячэру і некалькі бутэлек з розным вінам. Я паеў трохі дзічыны і запіў ежу шклянкай выдатнага мадзьярскага віна. Не адчуваючы пакуль патрэбы ў адпачынку, я выйшаў у галерэю.

Ноч была незвычайна ціхай. На хвіліну агарнуў мяне пах з блізкага лесу; пачуў я як паступова заціхае шэпт начнога ветрыка, як настае глыбокая

цішыня. Месяц над аддаленымі цёмнымі гарамі разліваў сваё бледнае святло па наваколлі, а па раўніне віўся і блішчэў ручай у магічным прыцемку, як сярэбраны прут. Неба было ясным і напоўненым слаба мігаючымі амаль нябачнымі зоркамі; толькі каля месяца клубілася некалькі жаўтаватых аблокаў.

Разглядзеўшы наваколле, я ўзняў вочы на скалу, дзе жыла Рэгіна.

Абапёршыся на скалу, Рэгіна стаяла ў святле месяца нерухома, нібы статуя. Галава яе цяжка схілілася на грудзі, распушчаныя валасы, падзеленыя на дзве пасмы, сплывалі па шыі так жа, як калісьці, калі я ўпершыню яе ўбачыў у пакоі, а чароўны твар яе выказваў журбу і задумлівасць. Яна доўга стаяла нерухома; потым памалу падняла галаву і пaглядзела на месяц. Праз хвіліну яна зноў паварушылася, галава яе нахілілася да грудзей і ў ціхай ночы загучаў напеў адной з маіх любімых эратычных песень... Пры гэтым невялікія хмаркі закрылі месяц. У начным змроку здалося, што Рэгіна знікла ў густой імгле. Хвіліну яшчэ я бачыў як змрок усё больш і больш хавае абрысы яе постаці, а калі месяц зноў выступіў з хмар, Рэгіна знікла.

Засмучаны я вярнуўся ў апошні з пакояў Рэгіны.

Звычайна, зусім нязначнае з'яўленне і знікненне чароўнай жанччны пакінула ў маёй душы асаблівае, напалову прыемнае, напалову горкае пачуццё. Бясконца я бачыў яе прыгожы твар, бясконца бачыў шэрыя, часам з зіхоткім ізумрудным бляскам вочы, памятаў нават пра пяшчотны поціск рукі пры раставанні.

Доўга я хадзіў па пакоі, пакуль стомлены не сеў на канапу. Прыгадаў я ўсё, што са мной адбылося ў апошні час і тое, сведкам чаго я быў; але нягледзячы на ўсе мае намаганні, я так і не змог знайсці пацвярджэння самым смелым маім меркаванням. Адносіны Рэгіны да мяне здаліся мне дзіўнымі і былі незразумелымі, бо я не сумняваўся, што паводзіць сябе яна натуральна, як ёй падказваюць яе розум і пачуцці. Пры гэтым мне здалося, што пачуцці яе да мяне хутчэй сяброўскія, бо прыгадаўшы некаторыя падрабязнасці, я не мог прыйсці да высновы, што гэта прыгожая жанчына горача мяне кахае...

Чым больш я паглыбляўся ва ўспаміны нядаўна перажытага, тым павялічваўся хаос самых дзіўных думак, тым мацней вірыла кроў у маіх жылах, тым больш узрастаў у маёй душы загадкавы салодкі страх, які быў няўмольным доказам, што намі кіруюць пачуцці. Маю душу запаўнялі самыя прыгожыя эратычныя вершы і асабліва раманс Мюсэ пра маркізу d'Amaequi.

Я прыгадаў, што вершы Мюсэ я пакінуў у Рэгіны, але раманс так жыва ўзнавіўся ў маёй памяці, што я дакладна дэкламаваў цэлыя строфы. Міжволі я пацягнуўся за ручкай і паперай на малым століку, што стаяў побач, і напісаў некалькі строф гэтага палымянага верша ў перакладзе на чэшскую мову. Спачатку першыя дзве, а потым апошнюю, бо пераклад мяне не вельмі абцяжарваў, потым, паклаўшы галаву на падушку, я пачаў разважаць.

Напачатку ход маіх думак быў мутным і таму я памалу перабіраў дэталі перажытага ў сваёй памяці. Праз некаторы час я задрамаў.

Раптам мне здалося, што нехта асцярожна адчыніў дзверы ў першым пакоі. Я амаль зрокава адчуў рыпенне і ўбачыў праз адчыненыя дзверы тонкую жаночую постаць у белай начной сукенцы, якая, як цень, набліжалася да мяне. Прыцемак, які ўзнік таму, што праз вокны ўсіх пакояў лілося святло месяца, і здавалася, што постаць амаль лунае ў паветры, яе крокаў па цяжкім дыване не было чуваць, што выклікала амаль жахлівы кашмар.

Я сеў на канапе і пачаў уважліва сачыць за постаццю, якая праз некалькі імгненняў спынілася каля дзвярэй майго пакоя.

Я пазнаў Рэгіну.

І ў той момант, калі я хацеў нешта сказаць, пачаў біць гадзіннік...

Настала поўнач.

Адначасова з гукам гадзінніка я пачуў звонку ўдалечыні брэх сабак.

Рэгіна, трымаючы ў руцэ кнігу, наблізілася да майго стала, і зазіраючы мне ў вочы, што для яе было характэрна, як я зразумеў, падала мне кнігу.

Я пазнаў зборнік вершаў Альфрэда дэ Мюсэ, які я ў яе забыўся.

— Я прыгадала, дзядзька, што табе маглі б спатрэбіцца вершы дэ Мюсэ, — сказала Рэгіна ціхім, невыказна салодкім голасам. — Таму і прынесла іх табе ўначы. Роберта сёння няма дома.

Пры апошніх словах голас яе задрыжэў.

Нечаканае з'яўленне цёткі ў маёй спальні мяне здзівіла, і я нават падумаў, што здагадваюся пра прычыну гэтага з'яўлення.

Пакуль я збіраўся з адказам, Рэгіна ўбачыла на маім стале лісток паперы, на якім быў мой імправізаваны пераклад верша Мюсэ.

— Што гэта? Верш? — спытала Рэгіна з усмешкай.

Я міжволі паклаў руку на паперу, але Рэгіна тым не менш выцягнула лісток з-пад маёй рукі і пачала чытаць. Чытала яна ўголас выразна, падкрэсліваючы меладычнасць твора:

Мая ты, мая! Мае гэтыя
мяккія вусны і гладкі твар!
Мой гэты салодкі цень шаўковых веек,
Яе валасы — мае, мае — палаючыя вочы,
Мой яе гарнастай!

Мая гэта шыя, а сцены ў спальні
халодна глядзяць у прывабным уборы!
Маё ёйнае адзенне, што прыкрывае сцёгны,
Мая гэта белая тонкая ручка
і ножка ў чорным чаравіку!

Рэгіна спынілася і некалькі імгненняў глядзела на мяне. Я прачытаў у яе поглядзе пытанне:

— Што гэта? Магчыма, гэты верш прысвечаны мне?

Я не змог адказаць, і Рэгіна працягвала чытаць далей:

О, калі б скрозь вэлюм жалобны
я ўбачыў, як бліснулі маланкай шалёна вочы —
Га! Пры ўсіх святых ва ўсёй Касцілііі!

Цябе б кінулі ў бой крывавы,
Калі б ты дакрануўся да сукенкі!

Калі б ты ўбачыў гэту прыгажосць
толькі аднойчы ў белым начным адзенні!
Калі б ты ўбачыў, як б'ецца, кусаючы, —
Пры гэтым горача мяне цалуе
як чужыя словы ляпеча…

Ао! Як шалёна радуецца яна,
калі раніцай смяецца і спявае,
апранае панчохі свае шаўковыя,
і атласным адзенні шоргат
уяўляецца па-боску прывабным!

Рэгіна скончыла чытаць Яе погляд зноў уважліва і запытальна слізгануў па маім твары. Потым моўчкі падышла да мяне і, сеўшы на канапу, абвіла сваімі рукамі маю шыю.

Кроў завірыла ў маім целе хутка і палаюча, нібы лава, аднак у наступны момант астыла.

Проста перад сабой каля дзвярэй другога пакоя я ўбачыў агідны твар рудога фурмана, які ўсміхаўся. Пачварны сведка ганебнага ўчынка Рэгіны нядоўга паназіраў і знік.

Кроў прыліла да мозгу, у якім блыталіся думкі. Я быў упэўнены, што калі дзядзька вернецца, то руды маўчаць не будзе пра тое, што бачыў. Яшчэ ніколі такога страху не ведаў я, як пачуцця віны. Сілай атлантаў сціснула мне грудзі ад разумення салодкага граху з Рэгінай; але я не быў гатовы разняць рукі прыгожай жанчыны і сказаць ёй некалькі слоў пра небяспеку, якая нам пагражае.

Праз некалькі імгненняў Рэгіна ўзняла лёгка галаву, моцна ўскрыкнула і, прытуліўшыся да мяне яшчэ мацней, паклала сваю галаву мне на грудзі.

Дзядзька Роберт стаяў каля дзвярэй, а за ім руды са шкадлівым выразам твару.

Дзядзька быў смяртэльна бледны; але на твары яго з'явілася пакора і ўтаймаванне.

Хвіліну ён глядзеў на нас пільна і строга, і здалося, што яго вочы заіскрыліся гневам, але ў хуткім часе яго погляд пазбавіўся апошняга ценю строгасці і дзядзька моўчкі. Як з'явіўся, так і знік з рудым слугой.

Мы засталіся з Рэгінай зноў адны.

Мой страх узрастаў.

Рэгіна, схаваўшы сваю галаву ў мяне на грудзях дрыжала і ўсхліпвала. Я хацеў падняцца, але чуючы грукат напалоханага сэрца Рэгіны на сваіх грудзях і гарачае, палымянае яе дыханне на твары, я ў нейкай незразумелай збянтэжанасці, прытуліў яе цела яшчэ шчыльней да сябе.

І калі я хацеў нахіліцца, каб пацалаваць яе ў лоб і развітацца з ёю, дзверы зноў расчыніліся і ў першым пакоі з'явілася некалькі постацей

у цёмным. Я зноў хацеў падняцца, зноў хацеў нешта сказаць, але зусім незразумела чаму застаўся сядзець нерухома і голас мой засеў у горле.

І бачу я далей, як постаці ў цёмным набліжаюцца ўсё бліжэй і бліжэй, як уваходзяць у пакой і шоргаюць у ясным святле месяца таемна каля сцен, нейкім чынам утвараючы вакол мяне і Рэгіны паўкола.

Нягледзячы на тое, што лямпа на стале не гарэла, [redacted] пазнаў у паставах дворню дзядзькі, якую бачыў некалькі гадзін дагэтуль.

З правага боку я ўбачыў страшна знявечаны твар старога карліка, за ім велізарную постаць маладога мужчыны, з выразам ідыятызму на твары і з незвычайна адстаючымі вушамі, далей аднавокага і аднарукага гарбуна, які з намаганнем падцягваў за сабой свае танюткія ножкі.

Злева бачу падобныя стварэнні: то геніяльна вялізны высокі лоб над амаль зніклым носам на азызлым твары з шырокімі пажаднымі вуснамі, побач на магутных плячах галава карліка з доўгімі зубамі і ад шыі надзвычай шырокай барадой, а за гэтым яшчэ адна агідная істота, зноў іншая пачвара і зноў.

Па пятах агідных служак ціха ўвайшло шэсць чорных сабак, якія па прыкладзе слуг утварылі вакол нас больш шчыльнае паўкола.

За імі з'явіўся дзядзька Роберт з рудым фурманом.

Памалу і сур'ёзна наблізіўся дзядзька да стала.

— Рэгіна! — пачаў ён прыглушаным голасам.

Рэгіна не адказала.

Я хацеў нешта сказаць, але незразумела чаму не мог вымавіць ні стова. Я бачыў, што рабілася вакол мяне, але не разумеў нічога.

Рэгіна падняла галаву.

— Напачатку я не хацеў паказваць пачварам, — працягваў дзядзька сур'ёзна, махнуўшы рукой вакол сябе, — на што здольная чароўна прыгожая жанчына; напачатку я не бачыў у гэтым сэнсу, але цяпер на гэта гляджу інакш...

— Прабач, Роберт! — застагнала нарэшце Рэгіна.

— Гэта немагчыма! — адказаў дзядзька сур'ёзна. — Устань! — дадаў праз хвіліну загадна.

Рэгіна паслухалася.

— Раскрый свае грудзі! — загадаў дзядзька жорстка.

Рэгіна моўчкі пачала раскрываць белую сукенку на сваіх грудзях.

Халодным, ледзяным позіркам назіраў дзядзька некалькі імгненняў за Рэгінай, пакуль памалу не ўзняў правую руку вышэй...

Мой страх перарос у жах: я ўбачыў у яго правай руцэ — рэвальвер.

Я хацеў крыкнуць, хацеў усхапіцца і кінуцца на дзядзьку, але нягледзячы на ўсе намаганні я не мог ані паварушыцца, ані падаць голас; моўчкі і нерухома я глядзеў, як дзядзька прыцэліўся зброяй у сэрца Рэгіны.

Потым, сабраўшы апошнія сілы, я падхапіўся, але ў той момант дало знаць раненне. Я ўскрыкнуў, і толькі цяпер зразумеў, што — прачнуўся. Залатыя промні сонца ігралі на супрацьлеглай сцяне.

Я ляжу апрануты на канапе, перада мной на стале прыбор для пісьма і амаль нечытэльна накрэслены пераклад некалькіх слоў з верша Мюсэ; побач дзве вялікія бутэлькі, абедзве пустыя…

Пераадольваючы страх, яшчэ дрыжучы, я ўстаў з канапы і прайшоўся па пакоі. Паўсюль панавала магільная цішыня, як у доме, так і ў двары і ў бліжэйшым наваколлі, у парку і ў лесе. Бясспрэчна, у маёнтку паўсюль спяць. Адчуваючы незадаволенасць і стому ад жудаснага сну, я зноў лёг, але пра сон ужо нельга было і падумаць…

Упершыню ў жыцці я памятаў так ярка сон і шкадаваў, што жудасны сон не з'яўляецца праўдай.

Шкадаваў я і таму, што абаяльную жанчыну пакрыўдзілі і ёй пагражала страшная небяспека, і аднак разумеў, што толькі ў сне было магчыма, каб жанчына адважылася на смелы ўчынак, кахаючы мяне, думкі напаўнялі мяне невыказна салодкім пачуццём, і здалося мне, што тое, што знішчала гэтае пачуццё, завецца недаравальным грахом…

Я не мог ніяк заснуць і ляжаў, разважаючы, пакуль у двары не пачаўся рух і пачуўся вясёлы спеў дворні.

Устаўшы, я пачаў хадзіць па пакоі. Ледзьве зрабіў некалькі крокаў, як нехта лёгка пастукаў, дзверы расчыніліся і на парозе з'явілася гарбатая старая, якую ■ ў маёнтку дзядзькі сустрэў першую.

— Я пачула, што Вы прачнуліся, — прасіпела яна. — Я прынясу вам сюды сняданак.

— Дзякуй, — адказаў я, — пастаўце мне на стол.

Старая, ставячы на стол сняданак, прыгадала:

— Я прынесла Вам тое, што Вы любіце.

— Як жа Вы пра гэта даведаліся?

— Рэгіна расказала, а я толькі паслухала, — прагучаў адказ.

— Зноў Рэгіна, — падумаў я, але нічога не сказаў.

— Адначасова павінна ў Вас спытаць, — працягвала старая, гледзячы на мяне сваімі светлымі вачыма, — як Вы выспаліся?

— Добра, — сказаў я ціха. — Рэгіне можаце сказаць, што выдатна.

— Я не маю права так казаць, — кажа старая, мераючы мяне з ног да галавы.

— Чаму?

— Таму што ў нас гэта немагчыма, — гучыць адказ так цвёрда і ўпэўнена, што не пакідае магчымасцей для сумневу.

Я маўчаў.

— Я яшчэ павінна запытаць Вас, ці зможаце сёння раніцай суправаджаць Рэгіну, — працягвае старая далей.

— Перадайце, што з вялікай ахвотай.

— Перадам, але як: пешшу ці конна?

— Хай гэта вырашыць Рэгіна!

— Рэгіна любіць конна і як толькі паснедаеце.

— Добра, перадайце, што буду гатовы.

Старая асцярожна выходзіць.

Толькі яна зачыніла дзверы, я ўжо сядзеў за сталом.

Сняданак быў выдатным і смачна мне было ўсё, што падрыхтавала старая, якая зрабіла на мяне пры першай сустрэчы непрыемнае ўражанне. Цяпер я ўжо не бачыў у ёй калеку і не ўспрымаў яе грубасць.

Паснедаўшы, я выйшаў у двор.

Рэгіна ўжо чакала мяне. Яна стаяла на прыступках ля выхаду з дому, трымаючы за аброць двух асядланых вараных. Яна была апранута ў шэры касцюм для коннай паездкі; яе талія была зацягнута шырокай пурпуровай стужкай, на галаве — карычневы круглы капялюшык з пяром чаплі.

Калі я спусціўся па прыступках, яна мне моўчкі падала з усмешкай руку, пасля чаго лёгка, як пёрка, ускочыла на аднаго з вараных. Я ўзяў прыклад з яе, ускочыў на другога каня, і праз некалькі імгненняў мы выехалі з двара.

Моўчкі мы ехалі па шырокай алеі парка, пакуль не выехалі на ўскраек лесу.

— Паедзем каля лесу? — спытала Рэгіна.

— Як табе хочацца, Рэгіна, — адказаў я прыглушаным голасам, бо не мог пазбавіцца нейкай збянтэжанасці, якую пакінуў жудасны сон у маёй душы.

— Ты сёння нейкі сумны, дзядзька, — заўважыла Рэгіна, збочыўшы на дарогу, што вяла каля лесу.

— Я не сумны, — адказаў я.

У гэты момант конь Рэгіны прыўзняўся і хутка панёсся наперад, таму я не пачуў, што сказазала Рэгіна.

Падштурхнуўшы свайго каня, я дагнаў Рэгіну праз некаторы час, мы зноў паехалі побач моўчкі.

Раніца была незвычайна прыгожай. На небе не было ніводнага воблака, а ўсё наваколле блішчэла і зіхацела ў пурпурным ззянні сонца, здавалася, нібы блішчэў і зіхацеў цудоўны край ў буйнай фантазіі дзіцяці, якое, стаіўшы дыханне, з хваляваннем сэрца слухае першую казку…

Праз паўгадзіны мы выехалі на добрую дарогу, якая вяла лесам на ўзгорак, і толькі цяпер Рэгіна пачала размову. Я адказваў ёй аднаскладова, пасля чаго пачуў ад цёткі:

— Дзядзька, дзядзька, з табой адбылася нейкая перамена.

— Я сам не разумею, — адказаў я, — але я сёння бачыў дзіўны сон…

— Сон! — усклікнула Рэгіна. — І сон мог стаць прычынай тваёй перамены?

І весела, нават гарэзліва засмяялася. Калі я адразу не адказаў, яна нагадала:

— Ну, апавядай!

Мы ехалі памалу. Выконваць патрабаванне Рэгіны мне было не вельмі прыемна, але ўплыў гэтай дзіўнай жанчыны на мяне быў моцны і я не мог яе не паслухаць. Я пераказаў цалкам сон, такім чынам, як ён застаўся ў маёй памяці.

Рэгіна ўважліва выслухала, не перапыніўшы мяне ні словам. Калі я скончыў, спытала:

— І гэты сон цябе напалохаў?

— А чаму не? — адказаў я, — бо далей…

— Трагічны фінал твайго сну наогул немагчымы, — перапыніла мяне Рэгіна.

— Як гэта?

— Зусім проста, — прагучаў адказ Рэгіны. — не мае на то ніякага права!

Я хацеў спытаць: "Як? Твой *муж* не мае ніякага права!?", але адказ Рэгіны прагучаў настолькі рашуча, што я паверыў ва ўсю ўяўную праўдападобнасць. Прычына мне была незразумелая, але я быў перакананы.

Некаторы час мы зноў моўчкі ехалі побач. Рэгіна задумалася і на яе прыгожым твары адбіліся сляды хвалявання і разгубленасці.

Праз некаторы час мы выехалі з шырокай дарогі на горную, і кожны з нас павінен быў сачыць за коньмі.

Па абодвух баках цягнуліся нізкія, парослыя кволымі соснамі і рэдкім кустоўем скалы, і штохвіліны адкрывалася то з правага, то з левага боку дарогі бездань.

Коні цяжка дыхаючы, ішлі памалу, але ўпэўненым, верным крокам наперад, аж пакуль мы не апынуліся на краі вяршыні. Перад намі аж да аблокаў уздымаліся стромкія горы, каля падножжа якіх працякаў хутка горны ручай, і недалёка ад дарогі спадаў са скалы ў глыбіню.

Рэгіна першай узнялася на вяршыню і, спыніўшы каня каля самага ручая, яна зняла шэрую пальчатку з левай рукі.

Падштурхнуўшы каня, я ўзняўся следам за ёй і, спыніўшы каня каля яе, агледзеў наваколле.

Агляд з гэтага месца быў па-сапраўднаму чароўны.

— Паглядзі на наш маёнтак! — сказала Рэгіна, паглядзеўшы на ўсход і паказваючы левай рукой, у якой трымала пальчатку, на раўніну.

Я паглядзеў у той бок, куды яна паказвала, і ў той жа момант убачыў, як пальчатка выпала з яе рукі. Я хацеў саскочыць з каня, але Рэгіна ўхапіла мяне за левую руку.

— Не трэба, бо ўжо позна, — сказала, паказваючы рукой.

Хуткая плынь ручая ўжо аднесла пальчатку далёка. І толькі Рэгіна сказала, як пальчатка са скалы паляцела ў бездань.

Вузкая ручка Рэгіны на хвіліну затрымалася ў маёй правай руцэ.

Я хацеў яе лёгка сціснуць, але нягледзячы на тое, што яна была вузкай і гнуткай, мне здалася далонь Рэгіны грубай, нібы ў мазалях, пасля цяжкай працы.

— Я толькі зрэдку здымаю пальчатку з левай рукі, — заўважыла Рэгіна, — і дзядзька твой мне заўсёды прабачае.

— Я не ведаю, што сказаць, — кажу.

— Што не адчуваеш, што трымаеш у правай руцэ руку калекі, — сказала Рэгіна сумна, нібы паглыбілася ў непрыемныя ўспаміны.

Узняўшы левую руку Рэгіны вышэй, я ўбачыў, як яна страшна знявечана. Яна была напалову меншая за правую, у цэнтры далоні было паглыбленне, ад якога ва ўсе бакі разыходзіліся глыбокія барозны і шрамы, нібы калісьці рука была прабіта вялікім цвіком.

Я хвіліну глядзеў на скалечаную ручку, аж пакуль Рэгіна памалу не выцягнула яе з маёй рукі.

— Гэта сумны ўспамін, — заўважыла Рэгіна, нібы мімаходам.

— Успамін?

— Просты, але красамоўны ўспамін пра некалькі жудасных момантаў майго жыцця, — сказала Рэгіна.

— Калі і як гэта здарылася? — спытаў я далей.

— Некалькі гадоў назад мне прастрэлілі руку.

— Гэта быў няшчасны выпадак, ці гэта зрабіў чалавек, які цябе ненавідзеў…

— Не! Гэта зроблена спецыяльна, і мужчына, які такое ўчыніў, не кахаў нікога так страсна, як мяне.

Я хацеў яшчэ нешта спытаць, але Рэгіна ўз'ехала на самую вяршыню, дзе саскочыла з каня.

Я ўзяў прыклад з яе.

Калі я агледзеўся на месцы, куды б паставіць каня, Рэгіна заўважыла:

— За варанога не турбуйся! Абодва коні тут былі шмат разоў і адчуваюць сябе вальготна, дастаткова проста пляснуць у далоні і яны вернуцца.

— Я адпусціў аброць свайго варанога. Конь зафыркаў, прыўзняўся і пайшоў па схіле, за ім услед пайшоў конь Рэгіны.

Рэгіна з яўным задавальненнем сачыла за адыходзячымі коньмі. Калі яны зніклі сярод дрэў, яна звярнулася да мяне.

— Паглядзі, дзядзька! Пакінулі нас, нібы ведалі, што мы хацелі б пабыць з табой тут сам насам.

Не ведаю чаму, але я ёй нічога не адказаў.

Рэгіна хвіліну памаўчала, а потым падала мне руку са словамі:

— Ты сёння сумны або няўважлівы. Бачу, што маё таварыства табе не падабаецца. Я нават ведаю прычыну, чаму. Прабач, што я цябе раней не аддаліла. Ты адчуваеш няёмкасць таму, бо не ведаеш, з кім размаўляеш, хто я і якая — ці не праўда?

Я не адказаў на гэтыя словы.

Рэгіна працягвала:

— На гэтым месцы, якое даволі часта наведваю, я адчуваю сябе надзвычай свабодна. Калі я тут апынулася ўпершыню, то мне здалося, нібы перада мной ляжыць стовежавая Прага, а не лясы, палі і лугі… Я не ведаю, чаму ў мінулым мяне нешта тут усхвалявала, можа нешта ёсць тут у наваколлі такое, што мае падабенства з наваколлем каля Прагі, але адно ведаю дакладна, што я адчуваю сябе тут неяк прыўзнята і заўсёды прыгадваю Прагу.

Голас Рэгіны гучаў незвычайна прыемна.

— Калі ты ведаеш нейкую чуллівую пражскую гісторыю, дзядзька, — сказала праз хвіліну Рэгіна, — то раскажы мне.

Я павінен быў прызнацца, што не ведаю ніводнай.

— А ці паслухаў бы ты мяне, калі б я расказала табе пражскую ідылію? — спытала Рэгіна.

— Пражскую ідылію? — здзівіўся я. — У Празе няма ідыліі!

Між тым мы падышлі да скалы, дзе было выцесана сядзенне, і адсюль адкрываўся зусім свабодны агляд наваколля.

Рэгіна села. Я прысеў каля яе і агледзеўся навокал.

Праз хвіліну Рэгіна пачала аповед:

— Уяві сабе, дзядзька, цудоўную летнюю раніцу, як сёння, але над Прагай распасцёрлася своеасаблівая непрыемная цішыня.

Божая раніца ўжо даўно празрыстымі пальцамі зняла шэры вэлюм ночы, а палаючае сонца, выйшаўшы з абдымкаў ружовых хмар, разлівала ўжо некалькі гадзін сваё золата над Прагай, але Прага заставалася спакойнай, ціхай і пустой.

Пра рух і гоман вялікага горада не было нават і згадкі. Вуліцы, асабліва вуліцы Старога і Новага горада, былі бязлюднымі, а калі з'яўлялася там нейкая постаць, то толькі мільгануўшы каля дома, хавалася, нібы баялася...

Шматлікія промні сонца прабіліся скрозь ізумрудную лістоту раскідзістых ліп на левым беразе Влтавы, яны пагулялі хвіліну на пакрытай пылам старой, патрэсканай ад непагадзі сцяне і трапілі праз бруднае акенца ў нізкі, бедны пакой аднаго з непрыветных старых будынкаў каля крэпаснога рову, які знаходзіцца на ўсход ад першай старой Оўездскай брамы і ад яго дзвесце метраў да берага Влтавы.

Дамы ў бліжэйшым наваколлі вядомыя пад назвай Шуебаса.

Пранікнуўшы ўнутр, промні сонца прабеглі па закопчанай сцяне і па сталі, і памалу, бо сонца ўздымалася ўсё вышэй і вышэй і набліжалася да старога ложка, дзе на старой у лапінах коўдры ляжалі дзве постаці.

Яны спалі.

Залаты прамень сонца дакрануўся да гладкага дзіцячага ілба і імгненна перабег на тонкія павекі.

Дзіця, а гэта была дванаццацігадовая дзяўчынка ў кароткай кашульцы заварушылася, тонкія ручкі замахалі ў паветры. Дакрануліся да вачэй — дзіця прачнулася. Шэрыя вочы прабеглі па сталі і ў адно імгненне дзіця ўжо сядзела на ложку, прыбіраючы валасы колеру вароніна крыла і аглядаючыся вакол сябе.

Побач з дзіцем ляжаў на ложку стары мужчына, загарэлы твар якога аброс грубымі густымі сівымі валасамі.

Ён спаў апрануты глыбокім сном, храп яму перашкаджаў, але ён не адчуваў патрэбы ў тым, каб прачнуцца.

Дзіця, што прачнулася, доўга не думала, яе галава схілілася да сівой галавы старога, белая ручка абняла амаль чорную, загарэлую шыю, а ружовыя вусны зашапталі:

— Татка, устань, устань! Сонейка ўжо ўстала — устань, устань!..

Стары хутка рвануўся раздражнёна, потым пацягнуўся, пазяхнуў і праз доўгую хвіліну расплюшчыў памалу вочы.

Дзяўчынка паглядзела на яго твар невыразным поглядам нявіннага шкадавання, не разумеючы, як можна расплюшчыць вочы і не падняцца з ложка.

Калі стары пацягнуўся другі раз і зноў пазяхнуў, дзіця ўскочыла з ложка, нібы лань, і пачало апранацца.

Яно было ўжо апранутым, калі ногі старога звесіліся з ложка, і стары сеў. Сур'ёзны і строгі яго твар пасвятлеў, калі дзіця, стаўшы на крэсла, зняло з палічкі палову бохана чэрствага хлеба і нож, і імгненна падскочыўшы да ложка, падало бацьку хлеб і нож.

Стары адкроіў вялікую лусту і, адрэзаўшы з яе скарынку, падаў дзіцяці, сабе ён пакінуў толькі акраец.

Галоднае дзіця ўзяло хлеб і стала яго есці.

— Ці будзем сёння мы варыць адвар? — зашчабятала дзіця.

— Не будзем, дарагая, — адказаў стары з горыччу ў голасе.

— Ты мяне возьмеш з сабой, ці не так, татка? — папрасіла малая.

— Я сёння нікуды не пайду, — адказаў бацька. Але тут жа дадаў сцішаным голасам, нібы звяртаўся да самога сябе: — Няма ахвоты ісці, але павінен. Хто ведае, што сёння або заўтра будзе, і ці будуць нейкія прыпасы...

— Тады ты возьмеш мяне з сабой? Я буду паслухмянай, татка, вось убачыш! — просіць дзяўчынка, не думаючы або не прыслухоўваючыся да таго, што бацька толькі што сказаў.

— Ну, добра, вазьму цябе, маці Божая, можа, нас захавае... — кажа стары, і радаснае дзіця, падскочыўшы, выбегла з пакоя.

Стары хутка апрануўся.

Ён выйшаў у сенцы, памыўся, апрануў старую куртку, узяў капялюш і выйшаў з дома. Ля акна ляжалі лом, вёслы і драўляныя рыдлёўкі. Ён узяў лом і патрэбныя інструменты, прыладзіў усё на плячо і пайшоў па вузкай сцяжынцы, што вяла па мяккай высокай траве да берага, які быў за сто метраў.

Падышоўшы да берага, ён зрабіў некалькі крокаў супраць плыні, дзе была прывязаная да кала лодка. Паклаўшы інструменты ў лодку, ён адвязаў яе. Перад тым як зрабіць апошні крок і сесці ў лодку, ён мімаволі азірнуўся і ўбачыў ззаду за сабой сваё дзіця.

Яно незаўважна наблізілася да яго і трымала ў руках невялікі букет розных лугавых кветак, якія нарвала па дарозе, яно глядзела на бацьку падзіцячы нясмела, нібы баялася, што бацька раптам скажа, каб засталася дома.

— Я так і думаў, што не ўцяку ад цябе, — кажа стары ласкава. — Хадзі сюды!

Дзіця, нібы газель, ускочыла ў лодку і села на кукішкі, як заўсёды, у задняй частцы лодкі.

Бацька сагнуўся, узяў лом і з сілай адарваў лодку ад берага, потым пагрузіў лом яшчэ раз у ваду, і лодка хутка апынулася ля берага так званага

Яўрэйскага вострава, які ў тым месцы аддалены ад берага на трыццаць крокаў.

Пазней лодка плыла шчыльна ля берага вострава аж да паўднёвага кутка пад Ланцуговым мостам, дзе ў трох сажнях ад таго кутка на кол была прывязана плыткая рыбацкая баржа.

Стары падвёў лодку шчыльна да баржы і прывязаў яе да жалезнага кала, потым кінуў рыбацкія снасці на баржу, пераступіў на яе, а дзіця, сабраўшы на дне лодкі кветкі ў фартушок, скочыла, як казляня, за бацькам.

Потым ён падрыхтаваўся да працы, а дзяўчынка ўселася на паўднёвым канцы баржы, расклала вакол сябе кветкі, і ўжо нічога не баючыся, пачала плесці вяночак.

Праз некалькі імгненняў бацька ўзяўся за працу. Спачатку ён працаваў, павярнуўшыся да Стралецкага вострава, гэта значыць супраць сонца. У хуткім часе ён стаміўся ад працы, таму што адлюстраванне сонца ў вадзе яго асляпляла. Ён павярнуўся ў другі бок і пачаў працаваць тварам да Петржына.

Цудоўная летняя раніца паступова настала, але Прага заставалася, як і раней, спакойнай, нават мёртвай.

Па Ланцуговым мосце не праехала ніводная карэта, не прайшла ні адна жывая душа. Толькі на востраве Кампе за маластранскай збройніцай было жывей, нібы там войска расклала свой лагер.

Але паўсюль панавала панурая цішыня і толькі сярод дрэў на востраве і на левым беразе Влтавы шумеў часам ранні ветрык альбо чырыкалі нейкія птушкі.

Стары працаваў без стомы і ў хуткім часе за ім вырасла гара рачнога пяску.

Праца была мазольная, праз некаторы час стары зняў куртку і расшпіліў кашулю на загарэлых плячах, з якіх ліў пот. Але ад працы стары зусім не стаміўся...

Нечакана дзесьці побач пачуўся стрэл з вінтоўкі.

Стары нават не азірнуўся і працягваў працаваць далей. Толькі дзяўчынка, што іграла, убачыла, што ля сміхаўскага берага нешта булькнула, нібы нехта рэзка кінуў малы каменьчык. Вада ўзнялася ў вышыню і на ёй сталі ўтварацца кругі, аж пакуль усё не знікла.

Праз хвіліну пачуўся другі стрэл, а за ім трэці.

Стары спыніў працу і агледзеўся вакол сябе. Навокал было ціха і нідзе не было жывой душы, толькі ля мішэні на Стралецкім востраве можна было ўбачыць, як паміж густога кустоўя ўздымаецца ўвышыню белаваты дым.

Стары зразумеў памалу, што робіцца, і зноў узяўся за працу, нібы нічога зусім не адбывалася. Праз некаторы час некалькі стрэлаў пачуліся зусім побач і з розных бакоў ля баржы вада ўзнялася высока ўгару.

Стары хутка павярнуўся. На яго твары адбіўся жах, бо ўбачыў, што ля кустоў на Стралецкім востраве некалькі чалавек стралялі па ім і яго дзіцяці.

Тут пачуўся ў вострава загадны голас і ў кустах прамільгнула некалькі ваенных мундзіраў і грэнадзёрскіх шапак...

Страляніна працягвалася.

Куля падала за куляй; спачатку па-рознаму і з доўгімі паўзамі, потым амаль без перапынку.

Жах старога цяжка было апісаць. Ён зразумеў, што з'яўляецца разам са сваім дзіцем мішэнню, і разумеў, што схавацца няма дзе, і немагчыма абараніць сябе. Аднак ён не страціў прысутнасці духу, адным скокам ён быў ля кала, дзе была прывязана баржа, і паспрабаваў хутка яе адвязаць, аднак вяроўкі набраклі ранішняй вільгаццю і адвязаць было немагчыма, а пра лодку, на якой яны прыплылі сюды, ён і не ўспомніў.

Страляніна не спынілася, больш таго, кулі траплялі ўсё бліжэй да мэты. Яны свісцелі вакол галавы старога і дзіцяці. То трапіць нейкая ў баржу, то ў ваду, то пераляціць далёка на другі бераг.

Стары нічога не прыдумаў іншага, як легчы на дно баржы.

З вострава стралялі без перапынку.

Страх старога ўзмацняўся. Сам ён трохі схаваўся, але дзіця яго было падстаўлена пад моцную страляніну. Яно ўкленчыла на хвасце баржы і пачало ўголас маліцца.

Дарэмна бацька клікаў, дарэмна прасіў, каб дзіця зрабіла так, як і ён; дзяўчынка не баялася таго, што робіцца вакол яе, яна нават не адчувала небяспекі, якая ёй пагражала, кленчыла сабе, нібы статуя, і толькі вусны яе злёгку варушыліся, яна малілася…

У жудасным страху стары наблізіўся да дзіцяці. У той момант, калі ён прыпадняўся, куля трапіла яму ў плячо.

Ад болю ён ускочыў. Убачыў на Стралецкім востраве сярод кустоў сотню грэнадзёраў, якія без перапынку стралялі па ім і яго дзіцяці. На самым беразе стаяў афіцэр, мужчына з фігурай атлета. Трымаючы ў адной руцэ пісталет, а ў другой выцягнутую шаблю, ён халодна глядзеў з непрыхаваным задавальненнем на страшэнны тэатр.

— Пабойцеся Бога! Злітуйцеся! — закрычаў стары, убачыўшы на беразе афіцэра.

У бледным твары афіцэра нічога не здрыганулася.

— Пабойцеся Бога! Злітуйцеся — бо ў мяне дзіця! — крычаў стары, надрываючы сэрца і закрыўшы дзіця ўласным целам, ён укленчыў перад ім і працягнуў рукі з выразам просьбы.

Афіцэр чуў жаласлівы голас старога, бачыў яго страх і жах, але не даў загаду, каб грэнадзёры спынілі страляніну.

Гэтая страшная сітуацыя працягвалася толькі некалькі імгненняў. На баржы, укленчыўшы, стары і дзіця просяць аб літасці, а супраць іх жорсткі афіцэр і без перапынку страляючыя грэнадзёры.

Стары на баржы раптам рэзка ўзняўся, нібы хацеў выскачыць, але пахіснуўся, галава яго нахілілася да грудзей, ахопленая полымем частка цела перагнулася цераз борт баржы, і вада стала чырвонай ад крыві, бо куля прашыла старому грудзі. Рана была адна, а з баржы можна было ўбачыць і таго, хто страляў. Гэта быў трыццаціпяцігадовы агідны руды. Ён доўга цэліўся, а калі куля трапіла ў мішэнь, то з-за кустоў выйшаў і афіцэр, які

стаяў за некалькі крокаў ад яго, паказаў яму рукой, што ведае, хто так удала пацэліў.

Стары задрыжэў і паспрабаваў павярнуцца тварам да дзіцяці, але не змог. Яго цела некалькі разоў здрыганулася, у грудзях захрыпела, і праз некалькі імгненняў стары ўжо быў нерухомы.

На баржы засталося толькі дзіця.

Страляніна на Стралецкім востраве не спынялася. Стрэл гучаў за стрэлам, а мішэнню цяпер было дзіця, яукое малілася.

Гучная страляніна на Стралецкім востраве абудзіла бліжэйшае наваколле. На востраве Кампе каля збройніцы распачаўся незвычайны рух у ваенным лагеры, там, пад адкрытым небам і каля Оўезда загучаў глухі грукат барабана: клікалі да зброі.

Страляніна з вострава Стралецкага не спынялася, аж пакуль баржа з дзіцем не паплыла па вадзе. Здарылася тое, што некалькі куль рассеклі вяроўкі, якімі баржа была прывязана да кала.

Афіцэр убачыў, што жывая мішэнь яго грэнадзёраў памалу аддаляецца, хацеў даць загад сваёй сотне, але тут з вострава Кампы трубачы далі сігнал: спыніць страляніну.

Афіцэр страшна змяніўся ў твары, але вымушаны быў падпарадкавацца загаду вышэйшага начальства. Ён даў знак шабляй, каб салдаты спынілі страляніну; сам ён, зрабіўшы некалькі крокаў у вадзе наперад, выстраліў з пісталета два разы па дзіцяці.

Дзіця да гэтага часу кленчыла на баржы, не ведаючы страху. Пасля другога стрэлу з пісталета дзіця закрычала і, хутка ўскочыўшы, зарыла левую ручку ў пясок.

У хуткім часе пясок афарбаваўся крывёю, а дзяўчынка жаласліва плакала ад болю ля мёртвага цела свайго бацькі…

Страляніна спынілася і вакол усталявалася магільная цішыня…

Рэгіна спыніла аповед.

— Не веру! — адзначыў я. — Калі б мне гэта апавядала не Рэгіна, то я падумаў бы, што не разумею, як гэта магло здарыцца ў Празе.

— Не разумееш таму, што не ведаеш час, калі гэта магло здарыцца, — сказала Рэгіна. — тое, пра што я апавядала, адбывалася ў сярэдзіне чэрвеня 1848 года…

— Цяпер разумею, — кажу, — працягвай свой аповед далей.

— Пра што я павінна ракасказваць? — спытала Рэгіна. — Я ўжо завяршаю: дзяўчынка, у якой прастрэленая рука, — гэта я, а той, хто выстраліў, — Роберт.

Рэгіна ўзнялася, тым самым даўшы знак, што скончыла свой расказ. Яе прыгожы твар быў сумным.

— Пэўна, ты не бачыла, Рэгіна, Прагу з часоў свайго беднага дзяцінства, — заўважыў я.

— Наадварот, — сказала цётка. — Я жыла ў Празе каля двух гадоў зусім адна.

— А як да гэтага паставіўся Роберт?

— Роберт мне ніколі нічога не зааранаяў, не мог забараніць: я збягала…

— Ты збегла, Рэгіна! — кажу здзіўлена.

— Я не магла інакш. Ты памятаеш прыгожую горную катлавіну, дзе мы з табой ненадоўга спыніліся. Тры гады назад мы былі там прыгожым летнім вечарам з Робертам. Роберт быў задумлівы і негаваркі, потым раптам схапіў мяне за руку і, гледзячы мне проста ў вочы, сказаў:

— Рэгіна, ты сёння дарослая. Прабач, што я табе доўгі час, аж да сёння — маніў. Пэўна ты лічыш, што я выхоўваў цябе, як бацька, што прысвячаў твайму выхаванню шмат часу і клопату з матываў чыстых і людскіх. Але гэта не так. Я рабіў гэта, зыходзячы з простага, цынічнага эгаізму. Калі я ўпершыню цябе ўбачыў дзіцем, калі заўважыў тваю чароўную красу і шэрыя вочы, то вырашыў, што напачатку ты будзеш маім дзіцем, а потым — маёй каханкай...

— Роберт! — выгукнула я глухім, дрыжачым голасам, і сэрца маё пачало хутка біцца.

— Я кахаю цябе, — сказаў Роберт спакойна і сур'ёзна, падаючы мне руку. Будзь маёй жонкай!

— Я веру, што ты мяне кахаеш, Роберт, — сказала я праз хвіліну ласкава, каб змякчыць сваю адмову, — але не магу прыняць тваю прапанову. Я паважаю цябе, высока цаню цябе, таму ■ павінна цябе — пакінуць...

— Ты мяне пакінеш, Рэгіна?! — усклікнуў Роберт хутка і горача.

— Павінна, — адказала я спакойна і нават халодна.

Роберт на гэта нічога не сказаў, зморшчыў свой лоб, потым павярнуўся і пакінуў мяне адну.

Што рабілася ў маёй душы цяжка перадаць, душэўны мой стан быў страшны.

Нягледзячы на ўсе пярэчанні розуму і халодную развагу, перамагло пачуццё: на наступны дзень раніцай я ўжо ехала ў Прагу.

— Але як між тым пазней ты стала жонкай Роберта? — спытаўся я.

Рэгіна, не звярнуўшы ўвагі на маё пытанне, працягвала:

— У Празе я два гады жыла па-жабрацку бедна, выжываючы толькі працай сваіх рук. Пазней я зноў вярнулася да Роберта. Першая наша сустрэча была цёплай, сяброўскай, нібы паміж намі зусім нічога не адбылося. Але замест статнага мужчыны, поўнага жыцця, якім быў Роберт, калі я яго пакінула, я знайшла негаваркога, па-філасофску задумлівага старога. "Чорны Роберт", як называлі яго суседзі за прыгожыя чорныя валасы і вусы, за той кароткі тэрмін, калі я яго пакінула, ператварыўся ў зусім сівога... Калі я яго ўбачыла, то слёзы пацяклі з маіх вачэй...

— Значыць, ты стала яго жонкай, спачуваючы яму і шкадуючы яго? — перапыніў я цётку, бо не мог іначай высветліць прычыну, чаму Рэгіна стала жонкай Роберта.

— Ніколі! — адказала Рэгіна. — Ні таму, што спачувала, ні таму, што шкадавала, бо Роберт з таго часу ніяк да мяне не ставіўся іначай, як бацька... Але ўжо час, — перапыніла Рэгіна, па сваёй звычцы, саму сябе, — каб мы вярнуліся, ці не праўда? — і пры гэтым пляснула ў далоні.

Абодва вараныя, якія былі непадалёк ад скалы і пасвіліся ў рэдкім маладняку, імгненна прыскакалі да нас.

— Прабач, дзядзька, што не магу ў далейшым сябе стрымліваць і не магу быць у тваім таварystве, — сказала Рэгіна. — Сваім аповедам я нагадала ў сваёй душы тысячы ўспамінаў, і адчуваю, што будзе лепш, калі на пэўны час буду ў самоце.

Пры гэтым яна ўскочыла на каня. Не ведаючы, што сказаць, я падаў Рэгіне руку.

— А калі мы зноў убачымся? — спытаў я.

— Калі захочаш, для цябе ў мяне заўсёды адчыненыя дзверы…

Тут яна прышпорыла каня, які заіржаў і прыўзняўся.

Я доўга глядзеў ёй услед.

Яна ехала зручнай дарогай рыссю, потым трохі сцішыла ход. Калі яна знікла з вачэй, я хацеў вярнуцца ў маёнтак дзядзькі тым жа шляхам, якім мы прыехалі сюды, але пасля ўсіх размоў, пасля просьбы Рэгіны пакінуць яе ў самоце, я ўскочыў на каня і паехаў у тым жа напрамку, у якім паехала Рэгіна.

Я доўга блукаў па лясных сцежках у роздуме, але Рэгіну я не ўбачыў.

Было ўжо далёка за поўдзень, калі я пасля бязмэтавага туляння вярнуўся ў маёнтак дзядзькі.

Побыт у маёнтку, таварыства і асоба Рэгіны, якая мяне зацікавіла, прывялі да таго, што я зусім не шкадаваў, што паехаў у госці да дзядзькі.

Замест "дзяўчыны, якая сваімі неўтаймаванымі выбрыкамі атручвае дзядзьку жыццё, — як была Рэгіна прадстаўлена ў ананімным допісе, што я атрымаў у Празе — я зразумеў дзіўную рэч, што цётка ў дзядзькава жыццё хутчэй прыўносіць слодыч, чым атручвае яго.

Рэгіна не кахала дзядзьку, але адносіны паміж імі былі такія сяброўскія і сардэчныя, што маглі б, магчыма, паступова ператварыцца ў каханне. Усё, што я пачуў ад дзядзькі, не сведчыла пра тое, што Рэгіна пакрыўдзіла яго хоць калі-небудзь нават словам, і, наадварот, ва ўсім тым, што сказала Рэгіна, я не мог знайсці ніводнага моманту, дзе б дзядзька дапамог Рэгіне ў нечым.

І пры гэтым панавала паміж абодвума, нягледзячы на разыходжанні ў поглядах, пачуццях, успрыманні, незвычайная гармонія — самы моцны падмурак для сямейнага шчасця.

Калі я вярнуўся, мяне ля ўваходу прывітала гарбатая старая, якая мяне ўжо чакала з нецярпеннем.

— Я ўжо думала, што малады пан не паспее да абеда, — казала яна, імкнучыся, каб яе голас гучаў як мага больш сімпатычна.

— А ці вярнулася ўжо Рэгіна? — спытаўся я.

— Безумоўна, — прагучаў адказ. — І не толькі вярнулася, але ўжо прайшла гадзіна, як яна зноў паехала.

— Куды паехала? — спытаўся я.

— Не ведаю, малады пан, у нас няма звычкі пра нешта такое пытацца, — адказала бабуля амаль з'едліва. — У нас кожны можа ісці, куды хоча, і не павінен баяцца, што нехта будзе цікавіцца, куды ён пайшоў.

— Магчыма, Рэгіна нешта сказала, — кажу я прыветліва, нібы з'едлівасць старой я не заўважыў.

— Яна прасіла, каб Вы яе прабачылі, але сёння Вы не можаце разлічваць на яе таварыства.

— Добра, але калі яна вернецца?

— Не ведаю, малады пан, не ведаю. Пра гэта ў нас ніхто ніколі не пытаецца. Што тычыцца іншага, то абед ужо падрыхтаваны.

Потым старая, узмахнуўшы па-маладому рукамі, пайшла.

Дайшоўшы да сваіх пакояў, я там паабедаў.

Потым пачаў прыводзіць усё ў парадак. Распачаў я са скрыні з кнігамі, але быў я надзвычай раздражнёны, каб нейкая кніга змагла мяне захапіць.

Зачыніўшы скрыню, я выйшаў у парк. Але і тут я не адразу змог супакоіцца. Я прайшоў праз парк да лесу, потым некаторы час каля лесу, потым праз лес. Дарога напачатку была дастаткова ўтаптанай, а ў лясным ценю нават прыемнай.

Лёгкі ветрык прыносіў пах жывіцы, асвяжаў, ад таго і пачуваўся я добра. То спыняўся міжволі каля старой сасны, то захапляўся вялікім, парослым мохам камлём дрэва, то нахіляўся да незаўважных, на першы погляд, кветачак, якія распусціліся там, дзе звычайна кветкі не растуць.

То я бег за мухай, то ўважліва прыслухоўваўся, як непадалёк перапалоханыя птушкі ўзляталі, прашумеўшы лістотай, або да таго, як дробны каменьчык, саслізнуўшы па скале, парушаў летнюю цішыню.

Амаль гадзіну блукаў я лесам. Чым далей я адыходзіў ад дзядзькавага маёнтка, тым горшай і больш пустой была дарога.

Хутка я ўздымаўся на ўзгорак, хутка праходзіў праз лагчыну або каля скалы; хутка павінен быў перабірацца праз скалу, лезці нагару а потым спускацца ўніз, адным словам, я павінен быў прайсці праз непралазны лес, у якім толькі зрэдку хто заблукаў.

Я не мог добра арыентавацца, але ж ведаў, што ўвесь час іду ўгору.

Праз некаторы час я апынуўся ля лясной сцяжынкі. Яе было цяжка пазнаць, але я ўсё ж здагадаўся, куды яна вядзе.

Не раздумваючы, я пайшоў па сцяжынцы ажно да вяршыні, пакуль не апынуўся на лысай скале, з якой было добра бачна наваколле.

Перада мной, як на далоні, была малая раўніна.

З аднаго боку цягнуліся дастаткова высокія стромкія скалы, з другога боку быў густы лес, раўніна парасла задумлівымі вольхамі і вербамі, што акалялі невялікае возера.

Паверхня скалы была гладкая, як шкло, а з месца, з якога я глядзеў. Вада возера здавалася чорнай, як смала.

Вось гэты аптычны падман мяне збіў, і я пабег па непраходнай, цяжкай сцяжынцы са скалы на раўніну да возера.

У раўніне панавала глыбокая цішыня.

Нейкі час я блукаў уздоўж берага возера. Тут я сарваў некалькі лісткоў вярбы, там нахіліўся да возера, каб разгледзець кветкі, якія там растуць; кветкі калыхаліся сярод чароту, і я, дарэмна разгарнуўшы галіны вярбы, да

свайго вялікага здзіўлення ўбачыў сярод густа парослых вербаў ля берага невялікую лодку ў вёсламі.

Скокнуўшы ў лодку, я схапіў вёслы і адштурхнуў лодку ад берага.

Як кожнае горнае возера, гэтае возера было глыбокім, а вада ў ім крыштальна чыстай і празрыстай настолькі, што амаль паўсюль можна было ўбачыць дно, стваралася ўражанне, нібы чалавек глядзіць скрозь вялікае шкло.

Некаторы час я вандраваў на лодцы па возеры; то я падплываў да скалы, да якой возера прылягала з аднаго боку, то вяртаўся да вольхаў і вербаў, а потым наадварот.

Праз некаторы час мне гэтая гульня абрыдла. Я адклаў вёслы і даў магчымасць лодцы плыць у тым кірунку, у якім яна плыла дагэтуль, аж пакуль не спынілася ля скалы.

Я агледзеў наваколле і зірнуў у воднае люстэрка.

Дно возера было ў тых мясцінах парослым самымі разнастайнымі раслінамі, як трава зялёнымі альбо жоўтымі і рудымі.

Асабліва маю ўвагу прыкавалі два віды гэтых раслін ля скалы з вялікімі шырокімі лістамі, якія раслі ўгару і тут жа нахіляліся ўніз, нібы рух вады прымушаў іх то ўздымацца, то схіляцца.

Прыгледзеўшыся больш уважліва, я ўбачыў, што час ад часу з дна возера ля скалы б'е пад воднымі кветкамі жывая крыніца, якая і ўздымае шырокія лісты тых раслін угару, каб потымі зноў памалу апускаліся на дно возера.

Незвычайны той рух іападанне лістоў водных раслін на дно возера надзвычай мяне зацікавіла. Нахіліўшыся цераз борт лодкі, я яшчэ больш пільна стаў глядзець у глыбіню…

Але што гэта? Мне здаецца або гэта праўда? Я гляджу напроста на дно возера і бачу, як са скалы б'е струмень вады, адгарнуўшы шырокія лісты водных раслін ад сябе і вышэй, а пад лістамі я бачу галаву чалавека.

Лісты ледзьве разгортваюцца, а потым нахіляюцца, і я зноў не бачу нічога іншага, як зялёны, нібы барвінак, зараснік.

Аднак цяпер пасля гэтага зноў больш хуткі струмень забіў фантанам са скалы, лісты ўзняліся ўгару і я зусім добра разгледзеў на дне возера шчыльна ля скалы — адкрытую труну, а ў ёй сярод свежага мірту і ружаў белую кашулю памерлага дзіцяці…

Я доўга глядзеў на незвычайную і напачатку нявысветленую з'яву на дне горнага возера.

Чым далей і больш уважліва я глядзеў, тым больш яскрава я назіраў, як уздымаюцца і нахіляюцца шырокія лісты, а сярод іх нябожчыцу.

Яна ляжала ў труне, што была шчыльна прыціснута да скалы, што амаль вертыкальна ўзнімалася ўгару, і нават пад воднай гладдзю была вертыкальнай.

Нябожчыца была апранута ў белую, як снег, кашулю, яе галава была нахілена да грудзей, а ручкі былі складзены на грудзях крыжом.

Яе твар я не мог разгледзець добра, але калі пасля таго, як струмень з крыніцы пырснуў са скалы і лісты хутка ўзняліся вышэй і хвалiста зрушыліся, а пасля таго крыштальная вада зноў стала нерухомай, я на некалькі імгненяў убачыў мілавідны твар памерлага дзіцяці, але тут жа лісты, што нахіліліся ніжэй, яго цалкам закрылі.

Я павінен прызнацца, што першая думка, якая прыйшла да мяне, калі я ўбачыў пемарлае дзіця ў возеры, была такой — Рэгіна.

Але як і чаму прынеслі нябожчыцу сюды, да возера? Чыё гэта дзіця? Чужое або Рэгіны? Гэта злачынства або ахвяраванне?

Усё гэта заставалася для мяне цёмным, нягледзячы на ўсе намаганні прыйсці хоць да якой-небудзь здагадкі.

Вакол панавала магільная цішыня. Я доўга глядзеў на дно возера.

Гульня лістоў паўтаралася кожныя тры або чатыры хвіліны са здзіўляючым інтэрвалам і заўсёды, калі лісты ўздымаліся ў вышыню, я глядзеў на памерлае дзіця.

Чым далей я глядзеў, тым больш мне здавалася, што ведаю або сапраўды магу зрокава пазнаць гэты твар, бо здалося таксама, нібы мілавідны твар памерлага дзіцяці нечым падобны да твару Рэгіны.

Аднак у наступны момант я вырашыў, што гэта міраж або аптычны падман.

Пазней я ўважліва агледзеў наваколле.

Спачатку мне нічога не кінулася ў вочы, але пазней я ўбачыў у скале нейкі выступ, дзе можна было б зрубна стаяць або сядзець.

Зрабіўшы крок з лодкі на выступ, я ўбачыў, што ён з'яўляецца пачаткам дастаткова шырокай расколіны ў скале, дзе былі высечаны прымітыўныя прыступкі.

Узняўшыся па прыступках угару, я ў хуткім часе апынуўся ў дастаткова прасторнай катлавіне, акружанай з усіх бакоў за выключэннем усходняга, бярозамі і густымі зараслямі ажыны. З усходняга краю катлавіны можна было не толькі свабодна ўбачыць наваколле, але і возера пад скалой.

З таго факту, што тут знаходзілася некалькі высечаных у скале лавачак, а каля іх некалькі кінутых палявых і лясных кветак, я вырашыў, што тут зусім нядаўна нехта быў, бо сярод завялых кветак было некалькі зусім свежых, сарваных пару гадзін назад.

Я яшчэ раз уважліва агледзеў катлавіну і ўбачыў, што да яе вядзе сцежка са скалы, аднак сярод густых кустоў яна так схавана, што няма магчымасці ўбачыць.

Вярнуўшыся той жа дарогай, якой я сюды трапіў, я адштурхнуў лодку ад скалы і некаторы час плыў па возеры.

Нарэшце мне гэта надакучыла, я плыў да месца, дзе была лодка схавана пад вербамі, і выйшаў на бераг.

Сонца схілілася да захаду, а скалы і дрэвы каля возера пачалі кідаць доўгі цень, але гладзь возера была і цяпер у сонечным святле.

Некаторы час я хадзіў уздоўж берага. Калі ўжо вырашыў пайсці назад, то ўбачыў, што па сцяжынцы, па якой я збег у раўніну, нехта ідзе.

Я прыгледзеўся і ўбачыў Рэгіну. Зрабіўшы некалькі крокаў ёй насустрач, я спыніўся.

Рэгіна збягада па сцежачцы свабодным крокам да берага возера якраз мне насустрач; яна была задуменная і глядзела проста перад сабой на зямлю, менавіта таму яна мяне не згледзела, калі апынулася перада мной.

— Як? Ты тут, дзядзька? — спытала здзіўлена, убачыўшы мяне за некалькі крокаў перад сабой.

— Чаму ты здзіўленая, Рэгіна? — спытаў я. — Чаму чалавек часам не можа трапіць на месца, куды іншыя ходзяць спецыяльна?

— Не разумею.

— Вельмі проста, — кажу. — Я думаю, што мы з табой тут наўрад ці сустрэліся выпадкова.

— Памыляешся, дзядзька! — адказала Рэгіна. — Мы сустрэліся тут з табой выпадкова, але выпадкова прыйшоў сюды толькі ты.

— Ты сюды, пэўна, ідзеш наўмысна, Рэгіна?

— Не толькі іду, але я сёння тут ужо была, — гучыць адказ.

— І што цябе тут прываблівае? — працягваю я дапытвацца, думаючы пра памерлае дзіця на дне возера.

Рэгіна не адказала.

— Што цябе сюды цягне, Рэгіна? — паўтараю я. — Прырода наўрад ці. Магчыма, нейкая салодкая таямніца?

— Салодкая таямніца? — перапыняе мяне цётка. — Так, нешта незразумелае, неадольнае вабіла мяне сюды ў маёй беднай маладосці; з нейкага часу гэтае месца стала для мяне надзвычай дарагім...

— Ці можна даведацца прычыну? — націскаю я.

Рэгіна, гледзячы летуценна на гладзь возера, зноў не адказала; здавалася, што яна не звярнула ўвагі на мае словы.

Я памаўчаў таксама.

Праз хвіліну яна звярнулася да мяне, нібы раптам прыгадала.

— Мне здалося, дзядзька, што ты пра нешта пытаўся. Нагадай, на якое тваё пытанне я не адказала. Але я табе засведчыла, што гэта месца для мяне па-сапраўднаму дарагое і калі я дзе бываю часта, дык тут!

Пасля гэтага яна зрабіла некалькі крокаў уздоўж берага да месца, дзе была схавана лодка, і, разгарнуўшы рукамі галіны вярбы, паказала мне на лодку.

— Лодка! — кажу я здзіўлена, не жадаючы прызнацца, што я ўжо плыў на ёй сёння па возеры.

Рэгіна ўскочыла ў лодку.

— Ты хочаш застацца на беразе? — спытала яна, сядаючы і беручы вёслы ў рукі.

— Як ты хочаш, — кажу.

— Я была б задаволеная, калі б ты зрабіў тое ж, што і я, — заўважае Рэгіна з прыязнай усмешкай. — Акрамя таго пераканаешся, ці магу я лодкай добра кіраваць.

Паслухаўшыся, я ўвайшоў у лодку і сеў на лавачку якраз насупраць Рэгіны, якая адштурхнула лодку ад берагу.

Возера было зусім малым; яго можна было пераплыць і за хвіліну і за паўхвіліны. Уменне Рэгіны упраўляцца з вёсламі сведчыла пра тое, што трымала Рэгіна вёслы ў руках часта; яна веславала добра, хутка і без бачных намаганняў.

Сонца тым часам хавалася за небакраем. Апошнія яго пурпуровыя прамяні адлюстроўваліся ў гладзі возера і залацілі вяршыні блізкіх і ўдалечыні лясных дрэў. Вакол панавала цішыня, якую парушалі толькі ўсплескі вёслаў…

Рэгіна пераплыла возера ўдаўжыню некалькі разоў, але пры гэтым не сказала ні слова.

Сонца ўжо зусім села. Але захад ірдзеў да гэтага часу пурпуровай чырванню, а ўсё наваколле пачынала станавіцца белаватым.

Рэгіна адклала вёслы; было бачна, што яна стамілася.

— Мне працягваць веславанне? — пытаюся я.

— Як хочаш, дзядзька, але накіроўвай лодку толькі туды, куды [redacted] скажу.

Выцягнуўшы вёслы і, прыладзіўшы іх да колца (=рус.: уключына???)) ля сваёй лавачкі, я пачаў памалу веславаць.

Рэгіна разгаварылася. Мы размаўлялі жыва і без нацягнутасці, як і раней, а я толькі падпарадкоўваўся загадам Рэгіны, у якім кірунку або да якога месца мне трэба лодку скіроўваць.

Рэгіна пачала апавядаць, як часта яна хадзіла сюды, як тут была шчаслівая…

Між тым яна не заўважыла, як замест таго, каб плыць уздоўж скалы, як мне яна загадала, я павярнуў лодку да таго месца, дзе на дне возера спачывала памерлае дзіця.

Раптам Рэгіна заўважыла. Ускочыўшы, нібы маланка, яна папрасіла:

— Божа мой, дзядзька, туды — не!

— Чаму? — спытаў я, спыніўшы веславанне, бо страсны крык Рэгіны мяне спыніў.

— Не пытайся, дзядзька! — кажа Рэгіна, просячы, а сама стаіць перада мной у ружовых промнях зары.

Лодка спынілася. І як гэта здарылася, яна наблізілася да фатальнага месца, і дастаткова было толькі падштурхнуць вяслом, каб лодка ўперлася ў скалу.

Я нічога не сказаў, а толькі падняў вёслы ўгару.

На Рэгініным твары адбіліся трывога і страх. Яна хацела нешта сказаць, але голасу не было. Потым зрабіла крок наперад; але я ў той жа момант апусціў вёслы ў ваду і адным рухам прычаліў лодку да скалы да таго месца, якога Рэгіна асцерагалася.

Раптоўны і хуткі рух лодкі прымусіў Рэгіну стаць на калені. Я падхапіў яе рукамі.

— Чаму, Рэгіна, ты не хацела, каб я прычаліў у гэтым месцы? — пытаюся я мякка і па-добраму.

Рэгіна запытальна паглядзела на мяне. Па позірку я зразумеў, што яна адчувае, што я ведаю нешта з яе таямніцы.

— Чаму ты не хацела, каб я спыніўся на гэтым месцы? — паўтарыў я.

Хвіліну Рэгіна вагалася, пазней прашаптала:

— Я не магу, я тут безабаронная…

— Ці магу я тут цяпер паглядзець на дно возера?

Рэгіна не адказала, але яе погляд быў больш выразны, чым словы, у ім можна было прачытаць невыказны смутак.

— Я не магу табе нічога забараніць, — сказала нарэшце. — Ты вінаваты ў тым, што я перажыла тут самыя салодкія імгненні.

— Я? — спытаўся здзіўлена.

— Безумоўна. І я табе вельмі за гэта ўдзячная.

— Да гэтага часу нічога не разумею, — сказаў я.

— Калі б цябе не было, — кажа Рэгіна, — то не адпачывала б маё дарагое дзіця тут на дне возера.

— Тваё дзіця! — усклікнуў я. — Значыць мая здагадка не была памылковай?

— Маё ўласнае дзіця, — сказала Рэгіна спакойна, але са смуткам, нібы на яе душу леглі цяжкія ўспаміны.

— А Роберт? — спытаўся я праз хвіліну шэптам, нібы баяўся, каб фатальнае гэта пытанне не пачулі ні хвалі возера, ні скалы вакол яго.

— Да гэтага часу ён нічога не ведае. — адказала Рэгіна надзвычай спакойна. — Я хацела яму ўжо шмат разоў сказаць, але заўсёды адкладаю…

Маё здзіўленне павялічвалася.

— І ў цябе ёсць столькі смеласці, каб так зрабіць? — пытаюся.

— Ніколі я перад Робертам не таілася і не збіраюся таіцца ў дадзеным выпадку, — адказала Рэгіна, — але шукала я для такой размовы больш удалы час.

— І ты спадзяешся, што такі час прыйдзе?

— Сёння або заўтра, — гучыць спакойны адказ, нават вясёлы, нібы Рэгіна хацела расказаць Роберту нешта радаснае і прыемнае.

— Ніяк я не зразумею, Рэгіна, чаму я заслужыў тваю ўдзячнасць.

— Ці не быў гэта ўдалы спосаб, так цябе прывітаць і паказаць да цябе свае адносіны? — пытаецца Рэгіна. — З таго часу, як, дзякуючы тваёй парадзе, я змагла пераадолець няшчасці, што мяне спасціглі, і цяпер шчаслівая, з таго часу я цябе люблю, як брата. Пасля бацькі майго дзіцяці ты стаў для мяне самым блізкім і дарагім чалавекам, і хоць мы ніколі з табой не размаўлялі, мы ніколі раней не бачыліся…

— Чым далей ты мне гаворыш, тым больш загадкава, — перапыніў я Рэгіну.

— А між тым усё надзвычай проста, — адказала цётка. — Ты не памятаеш… Але хто б змог заўжды памятаць, калі, магчыма, мімаходзь некаму нешта сказаў, некаму дапамог, некага ашчаслівіў…

— Сапраўды не памятаю, — кажу я.

— Я дапамагу тваёй памяці, — сказала Рэгіна і, усеўшыся зноў насупраць мяне, распачала аповед:

— Магчыма, ты памятаеш, што я калісьці пакінула Роберта. Я не ўзяла з сабой тады нічога, акрамя абавязковай бялізны і службовую кніжку шаснаццацігадовай дачкі знаёмай табе гарбатай старой. Дачка тая нарадзілася ў Празе і апошні час была служкай, але калі захварэла, наведала маці, што жыве ў нас, і тут памерла. Я хацела, каб Роберт не мог мяне ў Празе знайсці, таму выпрасіла тую кніжку ў маўклівай і спагадлівай старой, якая пра гэта і слова нікому не сказала.

У Прагу я накіравалася пешшу. Стомленая і знясіленая дайшла я позна ўвечары да Прагі.

Вечар быў незвычайна прыгожы, на небе было шмат мігаючых зорак, месяц знаходзіўся ў зеніце.

Калі я наблізілася да Аўездскай брамы, мяне ахапіла пачуццё невыказнага смутку. За той час, што я жыла ў Роберта, тут шмат змянілася, але тое, што не было разбурана і зменена, здалося мне зусім чужым.

Я прыйшла ў тое месца, дзе калісьці прайшло маё дзяцінства, але нішто не вабіла мяне тут, акрамя дарагіх успамінаў. Я не ўвайшла ў горад праз старую цёмную браму, наадварот, праз браму светлую і новую, але ўвайшла абыякавая да ўсяго, што бачыла вакол сябе.

Я спадзявалася, што Прага зможа асвяжыць мае думкі, што мой дух тут знойдзе пругкасць і сілу. Я падманвала сама сябе.

Апынуўшыся ў Празе, я адчула ў душы незвычайную пустэчу і пачувала сябе так, нібы знаходжуся ў цалкам чужым горадзе, дзе ніхто мяне не разумее.

Хуткім, але асцярожным крокам я прайшла праз Аўездскую браму: спяшалася на Збройніцкую вуліцу да старой, у якой калісьці яшчэ дзіцем некаторы час жыла.

Вароты дома былі ўжо зачыненыя. Я пазваніла. Калі дваровы адчыніў, я спытала яго, ці жыве яшчэ тут старая. Адказ дваровага быў знішчальным, ён сказаў:

— Ах, тая — яна цяпер на святым полі…

— Калі яна памерла? — пытаюся я, дрыжачым голасам і слёзы з'явіліся на маіх вачах.

— А што вам ад яе трэба? — пытаецца дваровы далей.

— Я хацела ў яе пераначаваць, — адказваю нясмела.

— Тут Вы нідзе не зможаце пераначаваць! — сказаў строга дваровы, зачыняючы браму.

Ключ павярнуўся ў замку і я засталася стаяць самотна перад домам.

Хвіліну я стаяла нерухома, не ведаючы, што рабіць, бо акрамя старой, пра смерць якой я даведалася, я не ведала ў Празе ніводнай душы.

Цяпер я зразумела ўсю безразважнасць свайго кроку, калі я пайшла ад Роберта; але ўжо было позна.

Рашучасць і смеласць зусім мяне пакінулі. Не ведаючы, дзе я магла б спыніцца, я ішла, не спяшаючыся, па вуліцы, аж пакуль не апынулася на Аўездзе.

Вуліца была ўжо пустая, і я не ведала, ці магла б на гэтай сваёй дарозе кагосьці спаткаць.

Я ішла ў бок Сміхава, ля брамы збочыла да Ланцуговага моста. Апынуўшыся на мосце, я міжволі ненадоўга спынілася, бо знаходзілася якраз насупраць таго фатальнага месца, дзе некалькі гадоў назад была разам з бацькам мішэнню для грэнадзёраў Роберта.

Месяц, што знаходзіўся ў зеніце, спакойна адлюстроўваўся ў Влтаве менавіта ў тым самым месцы, дзе шмат разоў была расстраляна наша баржа, дзе быў застрэлены бацька…

Нават адзін погляд на гэтае гэтае месца выклікаў у маёй душы жывы ўспамін пра тыя страшныя, жорсткія падзеі. Я бачыла перад сабой твар бацькі, які рабіў намаганні, каб апошні раз паглядзець на сваё дзіця.

Спачуванне, гнеў і страх перапаўнялі маю душу. Я задрыжала і вымушана была схапіцца за парэнчы, каб не ўпасці.

У гэты момант я адчула мізэрнасць свайго жыцця так, як ніколі. Я глядзела скрозь парэнчы на дрыжачыя рачныя хвалі і нічога не бачыла і не чула вакол сябе, а думкі мае пачалі хаатычна віраваць у распаленых мазгах.

Я перагнулася цераз парэнчы, схапілася правай рукой за жалезныя пруты, але раптам нехта ўхапіў мяне за руку. Напалоханая, я азірнулася.

Перада мной стаяў малады мужчына, якому магло быць дваццаць пяць гадоў, зграбны і высокі, і, як я магла разгледзець у святле месяца, прыемнай знешнасці.

— Што Вы тут робіце? — запытаўся ў мяне незнаёмы мужчына картава.

Дрыжучы да гэтага часу ўсім целам, я не адказала.

Малады мужчына, пазіраючы мне ў вочы, мякка сказаў:

— Толькі поўная безнадзейнасць мае права шукаць смерць, а Вы яшчэ вельмі маладая, каб знаходзіцца ў стане поўнай безнадзейнасці.

— Божа мой! Я ніколі не ведаю, што раблю, — вымавіла я.

— Складваецца ўражанне, што Вы ўпершыню ў Празе, — заўважыў незнаёмы, пазіраючы на мой вузельчык з бялізнай, які я перад гэтым паклала на зямлю.

— Не, — адказваю, — я не ўпершыню ў Празе, але не была тут некалькі гадоў і прыйшла ў Прагу сёння каля апоўначы.

— А што Вы збіраецеся тут рабіць? Дзе жывеце? — пытаецца незнаёмы далей.

Яго прыветлівасць надала мне мужнасці, таму я і расказала яму пра ўсё, што са мной адбылося за апошні час.

— У Вас няма жылля, — працягнуў нерашуча незнаёмы і праз хвіліну дадаў: — Ці хочаце, каб я паклапаціўся пра Ваша жыллё?

Я хацела сказаць “так”, але адказ увяз у маіх вуснах, і я вымавіла некалькі нескладных слоў.

— Хадзем! — сказаў незнаёмы крыху грубавата і скіраваўся да выхаду.

Падняўшы з зямлі свой вузельчык з бялізнай, я пайшла за незнаёмым. Мы ішлі назад у бок Малай Страны.

Па дарозе незнаёмы не сказаў мне ніводнага слова і падаўся мне чалавекам строгім, непрыветлівым і нават грубым.

У хуткім часе мы апынуліся на Збоіцкай вуліцы за некалькі крокаў ад дома, адкуль перад поўначчу мяне выгналі. Незнаёмы спыніўся і пазваніў.

— Тут Вы зможаце пераначаваць, — сказаў ён, углядаючыся ўдалечыню.

Я хацела падзякаваць яму, але было чуваць, як да варотаў набліжаюцца крокі.

— Калі Вам што-небудзь спатрэбіцца пазней, — сказаў незнаёмы, — падыдзіце а дзевятай гадзіне раніцы да будынка крымінальнага суда; толькі завяжыце сваю жоўтую хустку, якая цяпер у Вас на галаве, па ёй я змагу Вас пазнаць.

Я зноў нешта хацела адказаць, але ў гэты момант брама адчыніліся.

— Пан Воячка, — звярнуўся незнаёмы да дваровага, як толькі той з'явіўся, — ці не маеце вольным той пакойчык, дзе жылі студэнты, якія цяпер на вакацыях?

— Маю, — гучыць адказ.

— Пакіньце гэтую дзяўчыну там на ноч.

— З радасцю, з вялікай радасцю, — гучыць гасцінны адказ. — Толькі хай ідзе далей!

— Памятайце, што я клапачуся пра Вас, бо Вы ўжо не з'яўляецеся "панам дома", — сказаў незнаёмы жартоўна і, падышоўшы шчыльна да дваровага, прашаптаў:

— Дайце дзяўчыне ўсё, што ёй патрэбна, так Вы мне адплаціце... Але не кажыце ёй, хто я.

Павярнуўшыся потым да мяне, незнаёмы падаў мне руку.

— Добра, хай заходзіць, хай ідзе ў дом, — прагучаў прыветлівы голас дваровага.

Я ўвайшла ў дом.

Яшчэ я ўбачыла, як незнаёмы падаў дваровому руку, потым дваровы хутка замкнуў вароты.

Мяне прывялі ў знаёмае памяшканне, дзе я правяла шмат часу ў маленстве. Я пазнала дваровага, яго жонку і іх дачушку, з якой я бавілася калісьці, але не выкрыла сябе.

Мяне гасцінна прывіталі, запыталіся ў мяне пра некаторыя дробязі, расказалі пра ўсё, што ім прыйшло ў галаву, так прайшло некалькі гадзін, пакуль я змагла нарэшце легчы ў ложак у пакоі, дзе жылі студэнты, што праводзілі вакацыі ў сваіх бацькоў.

Аднак пра тое, каб заснуць, нельга было нават падумаць. Я правяла ўсю ноч у развагах пра сваё будучае.

Роспач саступіла месца больш халоднай развазе, а потым да мяне вярнулася мая рашучасць. Распісала я свой план дзеянняў на наступны дзень і выканала яго.

Устаўшы зранку і сардэчна падзякаваўшы гасцінным гаспадарам, я спытала ў дваровага пра свайго ўчарашняга знаёмца, але той выконваў сваё абяцанне і не сказаў мне ні яго імя, ні хто ён.

Але ■ даведалася куды болей, бо гэтыя простыя людзі падчас размовы міжволі паведамілі мне падрабязнасці з жыцця незнаёмага, так я пачула і яго імя. Яшчэ ў той час, калі я жыла ў гэтым доме, ён як студэнт здымаў у дваровага той самы пакойчык, дзе я пераначавала.

Я памятала гэтага чалавека вельмі добра, бо ён рабіў на мяне, яшчэ дзіця, уражанне чалавека непрыступнага, строгага, да якога я ніколі не адважылася б падысці.

Пакінуўшы гасцінны дом, я пайшла шукаць жыллё. Я дастаткова хутка знайшла яго ў доме ўдавы, якая жыла на гэтай жа вуліцы і якая мела, як і дваровы, вольны пакой, што да вакацый здымалі два студэнты.

Удава прыняла мяне дастаткова цёпла і паклапацілася, каб я мела ручную працу і такім чынам з цяжкасцю магла выжываць.

Я пачала жыць зусім па-новаму, праводзячы час за вельмі карпатлівай і патрабуючай вялікіх намаганняў працай. Працавала я з раніцы да позняга вечара, цярпела нястачу, але была задаволеная і нават шчаслівая.

Прайшло некалькі тыдняў, пакуль у маім жыцці штосьці змянілася. І сапраўды штосьці змянілася; у асноўным змяніўся кірунак маіх думак, бо малады мужчына, якога я сустрэла ў першы свой вечар у Празе, не выходзіў у мяне з галавы.

Я зрабіла спробу забыць пра яго, але чым больш я забараняла сабе думаць пра яго, тым часцей вярталася да гэтага прадмета думак, аж пакуль не пачала думаць пра яго пастаянна.

Я не магла ўявіць гэтага мужчыну зрокава, бо ў бледным святле месяца ■ ледзьве бачыла яго твар, таму аблічча яго не памятала, аднак таямнічасць і асабліва халодныя, упэўненыя і жорсткія яго паводзіны вабілі мяне да яго.

Мужчына гэты зацікавіў мяне, як ніхто з мужчын, з якімі я была знаёмая да гэтага часу. Я доўга змагалася, доўга супраціўлялася, але нарэшце раніцай я хутка апранулася і выйшла з дома, каб сустрэцца з ім.

Я не ведала, што сказаць, мне не трэба былі ні парады, ні дапамога, але я апранула жоўтую хустку на галаву і каля дзевяці гадзін раніцы ўжо стаяла ля будынка крымінальнага суда.

Мы сустрэліся.

Ён пазнаў мяне здалёк, і крок яго стаў больш хуткім; падышоўшы, ён запытаўся ў мяне сур'ёзна:

— Божа мой, пэўна, нешта здарылася, калі Вы прыйшлі?

Упершыню ў жыцці я разгубілася і зразумела, што перад гэтым мужчынам зусім безабаронная. Я не змагла адказаць, а толькі апусціла вочы.

— Можа, Вам патрэбны грошы, можа, дапамога? — пытаўся ён.

— Не, — кажу, — мне нічога не патрэбна…

— Ці трэба далей апавядаць? — перапыніла сябе раптам Рэгіна. — Яшчэ сёння, дзядзька, ты сам казаў, што ў Празе няма ідыліі, а тут сапраўды пачынаецца пражская ідылія…

Рэгіна на хвіліну змоўкла, а потым пачала апавядаць далей:

— Пра тое, што было пасля, не трэба шмат казаць. Мы пазнаёміліся, я закахалася, стала перад Богам яго жонкай і ў хуткім часе маці.

Я любіла сваё дзіця з усёй шчырасцю сваёй палымянай душы, любіла страсна, палка.

Тады я спазнала прызначэнне жанчыны і шчасце маці, тады я спазнала таемныя чары, якія могуць зрабіць жанчыну шчаслівай або няшчаснай.

Шкада, надзвычай шкада, што шчасце было нядоўгім.

Маё дзіця захварэла. Дзень і ноч я сядзела каля яго ложка, удзень і ўначы я назірала з невыказным страхам за кожным яго рухам, за кожным уздыхам.

Даглядала, аберагала яго, плакала, галасіла, малілася… І тым не менш маё дарагое дзіця памерла.

Заўсёды, калі прыпамінаю яго апошнія імгненні, то мне здаецца, што мае грудзі ад болю разарвуцца.

Быў непрыветлівы, пахмурны восеньскі дзень. Дзіця маё раптам заціхла, я ўзяла яго на рукі. Яно расплюшчыла свае вочкі і паглядзела на мяне хвіліну напроста ў вочы, потым пачало цяжка дыхаць, дыханне яго станавілася ўсё больш кароткім і слабым. Яно зноў расплюшчыла вочы, потым хутка заплюшчыла.

Я сачыла за кожным рухам бледнага тварыка, бачыла, як згасала апошняя іскра, але надышоў канец, і ў маёй душы ўтварылася страшэнная пустэча… Калі я не пачула дыхання дзіцяці, то хацела паслухаць яго сэрца, адчуць хоць нейкае біццё, але нічога не пачула. Дзіця пачало астываць…

Ведаючы, што маё дзіця памерла, я пачала яго шалёна цалаваць, аж пакуль яно на маіх руках цалкам не стала халодным…

Потым я зняла з сябе хустку, паклала цёмную з воўны хустку на дно куфра, і, паклаўшы ў куфар сваё дзіця, склаўшы яго худзенькія ручкі крыжом на грудзях, звязала чырвонай стужкай. Куфар з целам дзіцяці я вынесла ў вітальню…

Мяне ахапілі боль і адчай. Не разумеючы, што раблю, я выбегла з дому і доўга хадзіла бяздумна па вуліцах…

Раптам я сустрэла бацьку свайго дзіцяці. З першага погляду ён прачытаў на маім твары страшную вестку. Ён хацеў мяне суцешыць, вымавіў мякка некалькі слоў, слёзы выступілі ў яго на вачах, ён запнуўся і пачаў рыдаць…

Ён давёў мяне дадому. Я паказала яму дзіця і цяпер у пакоі вымавіла першыя словы:

— Я не магу, не магу з ім развітацца!

— Але павінна, — чую я каля сябе глухі голас бацькі дзіцяці.

— Што значыць павінна?! — укрыкнула я, ускочыўшы, але потым зноў укленчыла і з сумам прашаптала:

— Твая праўда! Я не магу, але павінна! А ці няма іншага выйсця? — ніхто не адказаў, і з таго імгнення я не сказала ні слова…

Я правяла жудасную ноч…

Вельмі рана, яшчэ было цёмна, прыйшоў мой каханы зноў.

— У Празе немагчыма выканаць тваё пажаданне, Рэгіна, — кажа мне хутка шэптам. — Але калі зможаш, калі захочаш вярнуцца ў горы да Роберта, то не будзеш са сваім дзіцем развітвацца.

— Як? Ці магчыма гэта? — спытала я.

— Адзін з маіх прыяцеляў, працягваў ён далей — тут ён назваў, дзядзька, тваё імя — і шэптам расказаў мне ўсё астатняе…

Увечары таго ж дня ён прынёс да мяне ў пакой пад сакрэтам вакуумную помпу, а ўначы перад пахаваннем, прынёс таксама таямніча ўсё астатняе, тое, што было патрэбна: у драўлянай труне труну шкляную, вострыя краі якой шчыльна прыстасоўваліся адна да другой, акрамя таго ляльку з воску, якая была падобная на памерлае дзіця. Яе мы паклалі сярод мірта і руж у драўляную труну, якую і патрэбна было закапаць у зямлю, а дзіця таксама паклалі паміж мірта і руж у труну са шкла, потым з гэтай труны пры дапамозе вакуумнай помпы выцягнулі ўсё паветра.

Праца гэта патрабавала значных намаганняў і працягвалася цэлую ноч, але мы паспелі да раніцы яе скончыць.

На наступны дзень апоўдні было пахаванне. Я прыкрыла труну белай, напалову празрыстай хусткай, каб ніхто не здагадаўся пра падман. Паклалі пасля пахавання шкляную труну з памерлым дзіцем асцярожна ў куфар, і я паехала таемна з Прагі да Роберта.

Праз некалькі дзён у ясную ад месяцовага святла лістападаўскую ноч я пахавала сваё дзіця ў крыштальнай вадзе горнага возера.

Рэгіна скончыла аповед.

Між тым месяц ужо ўзышоў над верхавінамі дрэў удалечыні і пасерабрыў гладзь возера.

— Ці зможаш ты мяне тут пакінуць адну? — спытала Рэгіна праз хвіліну мякка і ўмольна.

— Хіба можна не выканаць тваё пажаданне? — адказаў я і, адштуршнуўшы лодку ад скалы, праз некалькі імгненняў быў ля берага. Я выскачыў з лодкі, Рэгіна — за мной.

— Я павінна правесці цябе, — кажа цётка, — бо інакш ты заблукаеш.

Яна правяла мяне па лясной сцяжынцы ажно да дарогі, потым вярнулася да горнага возера, да свайго памерлага дзіцяці.

Калі я вярнуўся ў дзядзькаў маёнтак, то даведаўся, што дзядзька, які збіраўся на тыдзень застацца ў Плзні, вярнуўся ўвечары дадому.

Я хацеў з ветлівасці яго наведаць, аднак старая, якая прынесла мне вячэру, нагадала мне, што дзядзька стомлены і надзвычай раздражнёны.

Хоць я і застаўся ў адведзеных мне пакоях, пра адпачынак нельга было і падумаць.

Увесь час, які я правёў у дзядзькавым маёнтку, я быў усхваляваны і амаль не спаў, але нягледзячы на гэта стомы не адчуваў.

Я выйшаў у галерэю, з якой я мог добра бачыць наваколле і ў прыватнасці скалу, дзе ўлетку жыла Рэгіна.

Пра Рэгіну я думаў пастаянна, у прыватнасці пра тое, што мне гэта дзіўная жанчына расказала, што хавала ад усяго свету, але нягледзячы на аповед, дзе яна сама прызналася ў сваім учынку, Рэгіна сваёй шчырасцю і адкрытасцю выклікала сімпатыю да сваёй асобы.

Доўга стаяў я ў галерэі, але Рэгіна не вярталася і толькі перад поўначчу мільгнуў на скале ў бледным святле месяца шэры цень жаночай постаці…

Памылкі не было — гэта вярнулася Рэгіна. Толькі цяпер пачуўся ў аддаленні брэх дзядзькавых сабак. Ноч была ціхая, і сабачы брэх ужо зблізку ў лясным краі ўспрымаўся, як нешта жудаснае.

Вярнуўшыся з галерэі ў спальню, я лёг, але брэх дзядзькавых сабак усё набліжаўся, ажно здалося, што брэшуць яны ля самага дома, брэх быў шалёным.

Я зноў выйшаў у галерэю.

У двары было ціха і пуста, толькі ля варот, што вялі ў парк, адкуль і даносіўся брэх, я ўбачыў мужчынскую постаць, якая прыціснулася да брамы, мне здалося, што гэта той руды, які прывёз мяне ў дзядзькаў маёнтак.

Праз некаторы час брэх сабак пачаў паступова аддаляцца, аж пакуль праз гадзіну цалкам не заціх…

На наступны дзень з раніцы мяне наведаў сам дзядзька Роберт.

— Вітаю цябе, мілы хлопча, — сказаў ён прыветліва, падаючы мне руку, — я скончыў свае справы, і сёння ў мяне Рэгіна не зможа цябе забраць!

Я павінен быў суправаджаць дзядзьку цэлы дзень у яго паездках па палях, лугах і лясах, наогул паўсюль, дзе была яго прысутнасць патрэбная.

Ён здзівіў мяне сваім спрытам, прадбачлівасцю і веданнем гаспадарскіх спраў, і хоць я побач з ім прыемна правёў час, усё ж не мог таварыства дзядзькі параўнаць з таварыствам Рэгіны.

Сам дзядзька, як здалося, таварыства Рэгіны не шукаў, увечары ён прыгадаў, што вельмі дзіўна, бо Рэгіна ніводнага разу не паказалася за цэлы дзень, а раней была першай з тых, хто яго вітаў, калі ён вяртаўся аднекуль.

Дабраўшыся позна ўвечары да маёнтка, мы павячэралі з ім у вялікім пакоі, і паколькі Рэгіна так і не з'явілася, мы зайшлі праз некаторы час у пакой, дзе звычайна ігралі ў шахматы.

Дзядзька быў азартным іграком, бо гэта гульня яго надзвычай цікавіла. Мы сыгралі адну партыю, але незвычайна доўга. Увесь час перамога схілялася на бок дзядзькі, але ён вымушаў мяне быць надзвычай прадбачлівым, мог аб'явіць майму каралю "шах", потым браў іншую фігуру, пакуль у мяне акрамя караля і каралевы не застаўся на дошцы толькі конь.

У дзядзькі ж засталося дастаткова фігур. Ён аб'явіў "шах" каралю і каралеве сваім канём і тут жа дадаў : "Мат".

— Не, не, дзядзька, — сказаў я, — цяпер я вазьму сваім канём твайго каня, і аб'яўлю твайму каралю "шах" і "мат".

Дзядзька пагледзеў уважліва на дошку, разважыў і, нарэшце, дадаў:

— Твая праўда, я атрымаў "мат", але толькі ў тым выпадку, калі б гуляў з Рэгінай. Яна ведае адзін здзіўляючы спосаб гульні, конь у яе любімая фігура, і яна ім добра манеўруе.

Пры гэтых словах удалечыні пачуўся глухі сабачы брэх.

— Калі ласка, дзядзька, растлумач, — перапыніў я дзядзьку, калі ён загаварыў пра беспамылковую ігру Рэгіны, — што ўчора і сёння робіцца з тваімі сабакамі? Яны так шалёна брахалі ўчора, што не давалі спаць.

— Гэта бывае толькі зрэдку, — адказвае дзядзька. — Калі нехта непажаданы і незваны набліжаецца да маёнтка, то нашы сабакі яго чуюць. У маёнтак ён ніколі не трапіць!

— Але з Рэгінай, мабыць, уначы адбылося нешта вельмі прыкрае, — нагадваю яму, каб перавесці размову на цётку.

— З Рэгінай? — здзівіўся дзядзька. — О, не турбуйся пра яе, безумоўна, нервы ў жанчын слабыя, але яна ў сваім жыцці была сведкай надзвычай страшных падзей. Ці яна не апавядала табе пра тое, што адбылося ля Стралецкага вострава ў 1848 годзе? Ты якраз, наколькі я ведаю, і з'яўляешся адзіным чалавекам, якому Рэгіна давярае, перад якім яна раскрывае ўсе тайны свайго сэрца.

— Я ведаю ўсё, — прыгадаў я.

— Усё? Гэта немагчыма, каб ты ведаў усё, — сказаў дзядзька.

— Я перакананы, што Рэгіна нічога ад мяне не схавала.

— Няхай так, але ў маю душу яшчэ ніхто не змог зазірнуць.

— Пра што гаворка? — пытаюся я ў яго.

— Я думаю, што ніхто не зможа даказаць, што я ўласна і быў прычынай смерці бацькі Рэгіны.

— Рэгіна вырашыла, што гэта быў ты, дзядзька.

— Рэгіна зрабіла вывады, нягледзячы на тое, што няма да сённяшняга дня ніякіх доказаў.

— А ці можна даведацца прычыну? — пытаюся я.

Дзядзька на хвіліну задумаўся, потым адказаў:

— Ты, хлопча, як я ўжо сказаў, з'яўляешся адзіным чалавекам, якому Рэгіна ўсё даверыла, перакананы, што ты заслугоўваеш, каб табе даверыўся і дзядзькаРоберт.

Як ты ведаеш, я быў у 1848 годзе сотнікам у грэнадзёраў і стаяў у Празе. Калі ў фатальныя чэрвеньскія дні армія па загадзе князя Windischgrätre пакінула Стары і Новы Горад і засяродзілася на левым беразе Влтавы, у асноўным на Малай Стране і на Градчанах, я атрымаў загад, каб мае сотнікі з невялікай колькасцю паляўнічых занялі пярэднюю лінію абароны Стралецкага вострава.

Для арміі гэта нескладанае заданне. Грэнадзёры былі незадаволеныя, бо жывуць вайной, стральбой, а мы два дні стаялі на востраве лагерам, а ні на правым, ні на левым беразе не было ніводнай душы.

Раптам з'явіўся вельмі рана ля паўднёвага боку Яўрэйскага вострава на баржы стары з малой дзяўчынкай і пачаў бясклапотна капаць пясок.

Я быў салдатам у праўдзівым сэнсе гэтага слова, кожны неваенны чалавек для мяне і іншых грэнадзёраў быў толькі лялькай, на якую сапраўдны салдат можа толькі на кароткі час звярнуць увагу.

Убачыўшы старога на баржы, я адчуў, як кроў прыліла да маёй галавы ад нянавісці і гневу.

— Ты, чалавеча, з'явіўся сюды ў самы раз, — падумаў я і, звярнуўшыся да сваіх грэнадзёраў, якія ляжалі ў траве ля берага, дадаў:

— Ці нельга гэтага хлопца прыбраць адсюль? Хто хоча, можа па ім страляць!

Толькі я гэта сказаў, як прагучаў першы стрэл. Стары не звярнуў на яго ўвагу. Праз некаторы час пачуўся другі, трэці стрэлы, грэнадзёры пачалі страляць дакладней.

Стоячы на беразе, я глядзеў з бесчалавечнай жорсткасцю на жах, які ахапіў старога, на ўсё, што адбывалася, і ўспрымаў усё, як спектакль. У хуткім часе стары загінуў ад кулі, што прашыла яго грудзі.

Я павярнуўся, каб убачыць, хто з грэнадзёраў забіў старога і убачыў, што побач са мной пераможна ўсміхаецца руды, самы агідны з усёй сотні.

Я кіўнуў яму, што ведаю пра яго ўчынак, і ў гэты ж час убачыў, што баржа з дзяўчынкай плыве па вадзе ўніз, і пачуў, што ад маластранскага арсеналу трубач пратрубіў сігнал: скончыць стральбу.

Я абурыўся:

— Як? Значыць, дзіця выратуецца? — падумаў і не адрываў вачэй ад дзяўчынкі, якая ўкленчыла на баржы і малілася. Потым я зрабіў два крокі наперад, выстраліў два разы з пісталета ў дзіця.

Параненая дзяўчынка павалілася.

Менавіта ў гэты момант — упершыню ў сваім жыцці — я адчуў нешта падобнае на шкадаванне. Ускочыўшы разам з двума грэнадзёрамі ў лодку, я паплыў за баржай, дзе ляжала параненая дзяўчынка.

Калі я ўскочыў на баржу, то ўбачыў, як курчыцца ад болю прыгожая дванаццацігадовая дзяўчынка, якая глядзела на мяне вялікімі шэрымі вачыма са страхам і просьбай, і я — павінен шчыра прызнацца — пашкадаваў пра тое, што быў надзвычай жорсткім.

Паводзіны мае не засталіся беспакаранымі. Страляніна са Стралецкага вострава была спынена, калі быў дадзены сігнал, а я быў аддадзены пад ваенны трыбунал.

Трыбунал адбыўся адразу пасля падзей у Мадзьярах ля Вілагосы. Судзілі мяне нястрога, бо іншых парушэнняў дысцыпліны ў мяне не было, але я вымушаны быў пайсці ў адстаўку.

Я не шкадаваў, што пакінуў армію, бо быў сыты па горла прафесіяй ваеннага. Маючы пасля смерці бацькоў дастаткова сродкаў, я набыў гэты маёнтак.

Што было далей, ты, пэўна, ведаеш ад Рэгіны. Дадам толькі, што мужчына, які застрэліў бацьку Рэгіны, жыве шмат гадоў побач з намі. Гэта вазніца, якога Рэгіна паслала сустрэць цябе.

— Я не разумею, — кажу, калі дзядзька скончыў, — навошта страляць па бедным безабаронным старым і нявінным дзіцяці.

— Я сын ваяра, мой бацька быў палкоўнікам у тым жа палку, дзе пазней служыў і я, — сказаў дзядзька. — Я ад прыроды рэзкі і дзікі, бо выхаванне атрымаў у ваеннай школе жорсткім ваяром.

Я нічога не ведаў, акрамя воінскай справы; ваяр і вайна былі маімі ідэаламі, воінскі гонар — найвышэйшая ўзнагарода. Вакол мяне былі людзі з такімі ж поглядамі, і я пачаў пагарджаць усім, што выходзіла за межы спраў ваенных.

Звычайных людзей ■ лічыў прымітыўнымі, інструментам, няздольным думаць, і пачаў іх ненавідзець, адным словам, стаў адным з тых жорсткіх афіцэраў, якія ў бурлівыя гады канца мінулага стагоддзя…

Ды і навошта далей апавядаць? Калі ў 1848 годзе ў Празе ўспыхнула паўстанне, я быў сярод тых, хто прагнуў крыві, помсты. Аднак некалькі дзён у мяне не было нагоды, каб праявіць сваю жорсткасць, пакуль перада мною не з'явіўся стары, якога застрэлілі.

Само яго з'яўленне выклікала ў мяне гнеў, жорсткую нянавісць, якія я адчуваў да кожнага, хто не захоўвае вернасць воінскаму сцягу, таму і паклікаў грэнадзёраў, якія стралялі без жалю ў старога і яго дзіця.

— Ты сапраўды, дзядзька, народ ненавідзеў? — спытаў я з асуджэннем.

— Так, ненавідзеў я яго, хоць ■ не быў, нягледзячы на свае жорсткія паводзіны, злым чалавекам. Доказам можа служыць тое спачуванне, якое выклікаў у мяне невыказны боль у шэрых вачах Рэгіны.

— І за гэта ты атрымаў ад Рэгіны анёльскія адносіны да сябе, — прыгадаў яму я.

— Анёльскія? — паўтарыў дзядзька глуха і сумна. — Ты думаеш, хлопча, — працягнуў ён праз хвіліну, — Рэгіна зможа гэтак жа страсна ненавідзець, як і кахаць. Пазнаўшы яе каханне, ты не ведаеш яе нянавісці.

Знешне Рэгіна можа быць анёлам, але сваёй прыгажосцю, сваім тэмпераментам і духам яна ўздзейнічае, як дэман. Ты яе кахаеш страсна, шалёна, нават, калі і ведаеш, што загінеш ад свайго кахання…

Строгі, жорсткі, неадукаваны ваяр, які застрэліў Рэгінінага бацьку, стаў за кароткі час сапраўдным рабом Рэгіны.

На месцы, дзе ты цяпер сядзіш, сядзеў тры гады назад хлопец, які хацеў ажаніцца з Рэгінай. Рэгіна стаяла побач моўчкі, але хапіла выразнага погляду яе вачэй. Хлопец, які страсна яе кахаў, застрэліўся ў нашай прысутнасці… І ён не быў апошнім. Іншыя, што таксама вызначаліся цудоўным характарам і выключным духам…

Тут дзядзька раптам змоўк і ўстаў, бо пачуў сабачы брэх, які набліжаўся і нечакана загучаў ля галоўнай брамы маёнтка так страшна, нібы сабакі на некага напалі.

Дзядзька выйшаў у двор, і праз хвіліну брэх змоўк, потым ён вярнуўся і сеў на сваё месца.

Але не паспеў ён сказаць і слова, як увайшоў вазніца і ад дзвярэй пакоя паведаміў:

— Два незнаёмыя мужчыны хочуць з Вамі, пан сотнік, пагаварыць.

— Хай увойдуць! — адказаў дзядзька і, устаўшы, выйшаў у вітальню.

Дзверы засталіся напалову адчыненымі, таму я мог міжволі пачуць размову незнаёмых з дзядзькам.

Адзін з іх, прывітаўшы дзядзьку, сказаў суха, але ветліва:

— Прабачце, пан, што так позна ўвечары Вас турбуем, але дзяржаўныя абавязкі…

— Што Вам патрэбна? — спытаў дзядзька крыху раздражнёна.

— У Вашым маёнтку або каля яго знаходзіцца дзяржаўны злачынца, — гучыць халодны адказ.

— У мяне дзяржаўны злачынца? — спытаў дзядзька рэзка і ўсхвалявана. — Гэта немагчыма!

— Шкадую, — гучыць халодны голас незнаёмага, — але застаюся пры сваім меркаванні.

— У мяне? — спытаў дзядзька зноў яшчэ больш рэзка, чым спачатку.

— Так, учора ўвечары яго бачылі ў таварыстве вашай пані, — сказаў незнаёмы.

— У таварыстве Рэгіны! — выгукнуў дзядзька, тупнуўшы нагой ў гневе.

— Не будзем галаслоўнымі, — сказаў з нязменным холадам у голасе незнаёмы. — Мы ішлі за ім следам з Плзня аж да Вашага маёнтка…

— А хто Вас на гэта ўпаўнаважыў? — перапыніў дзядзька незнаёмага.

— Выконваю, пан, свае дзяржаўныя абавязкі, — гучыць лядовы адказ. — Я паліцэйскі ад'юнкт і са мной мой калега.

— Чым я магу Вам дапамагчы? — пытаецца дзядзька.

— Вы маглі б нам дапамагчы пры затрыманні злачынцы, — адказаў паліцэйскі ад'юнкт.

— Я павінен дапамагаць пры затрыманні некага? — запытаў дзядзька, і яго моцны голас загучаў раздражненнем і гневам.

— Шкада, што мы павінны прасіць у Вас дапамогі, — сказаў паліцэйскі ўраднік.

— Але мы не можам інакш.

— Пачакайце тады момант, — адказаў дзядзька і, хутка увайшоўшы ў пакой, дзе я знаходзіўся, зашаптаў мне са страхам у вуха.

— Знікай, хлопча, знікай! Цябе шукаюць як дзяржаўнага злачынцу.

— Я ўсё чуў, — адказваю яму спакойна. — Мне не трэба хавацца.

— Знікай! — паўтарае дзядзька манатонна. — Праз тыя дзверы ты трапіш у парк.

Нічога не адказаўшы, я зрабіў некалькі крокаў і, адчыніўшы дзверы, праз якія ўвайшоў дзядзька, стаў на парозе.

Пасярод пакоя стаяў малады зграбны чалавек дастаткова інтэлігентны, з непрыветлівым позіркам і жаўтаватай скурай, пэўна, паліцэйскі ад'юнкт, а ля дзвярэй каля сцяны — мужчына з грубаватым тварам і з'едлівым поглядам.

— Вы шукаеце мяне, — кажу я, зрабіўшы некалькі крокаў наперад, — вось я.

Мужчына, які стаяў ля дзвярэй, паглядзеўшы на мяне, хутка да мяне падышоў, кажучы:

— Пан, я Вас арыштую!

Аднак тут жа спыніўся. Зрабіўшы крок назад, ён закруціў галавой і прамармытаў:

— Прабачце, я памыліўся. Вы знешне крыху падобныя, такія ж вусы і падобны твар, але Вы нашмат маладзейшы…

Сказаўшы гэта, ён адышоў да дзвярэй.

— Ну што Вы будзеце рабіць цяпер, калі Вы памыліліся? — пытаецца насмешліва дзядзька, які ўвайшоў у пакой за мной услед.

Мужчына ля дзвярэй падышоў да паліцэйскага ад'юнкта, пашаптаў яму нешта ў вуха і, потым, павярнуўшыся да дзядзькі, сказаў:

— Пан! Мужчыну, якога праследуем, сёння бачылі каля Вашага маёнтка. Заклікаем Вас іменем закона дапамагчы нам пры яго затрыманні і арышце, арганізуйце слуг.

— Гэта пагоня за чалавекам! — сказаў дзядзька, і вочы яго заіскрыліся, нібы ў ім нечакана прабудзілася колішняя ваенная жорсткасць. — Добра! Дапамагу Вам!

Павярнуўшыся да рудога вазніцы, які прысутнічаў пры размове, ён даў яму ціха нейкі загад, той хутка выйшаў у двор і заспяшаўся ў дом, дзе жылі слугі.

За кароткі час усе былі падрыхтаваны. Дзядзька ўзяў капялюш, зняў са сцяны стрэльбу і два рэвальверы.

— Вазьмі адзін, — сказаў мне ён, падаючы рэвальвер, — магчыма, зброя спатрэбіцца.

Я ўзяў зброю, якую мне падалі, і мы разам з паліцэйскімі выйшлі ў двор. Перад домам, дзе жылі слугі, стаяла пятнаццаць па-рознаму ўзброеных дзядзькавых вырадкаў, у некаторых з іх былі стрэльбы, у іншых — шаблі, некаторыя акрамя зброі трымалі паходні.

Дзядзька прапанаваў паліцэйскаму ўрадніку выбраць кірунак, у якім будзе праведзены вышук, потым падзяліў слуг на тры аддзяленні; першым аддзяленнем кіраваць прызначыў паліцэйскага ад'юнкта, другім — яго калегу, а трэцяе павёў ён сам. Зграя дзядзькавых сабак і руды вазніца засталіся ў "бандзе" дзядзькі, да якой далучыўся і я.

— Калі хтосьці злачынцу ўбачыць, няхай страляе! Хто будзе з паходняй паблізу, няхай яе запаліць, каб астатнія паспяшаліся да месца, дзе выбухнуў стрэл, — гучаў апошні загад дзядзькі, пасля чаго тры аддзяленні накіраваліся на пошук злачынцы.

Наша "банда" ішла паўколам памалу наперад.

Вечар быў незвычайна ціхі.

Месяц толькі з'явіўся на небе, і яго жаўтаватае ззянне надавала на дзіва прыгожаму горнаму краю магічнае асвятленне.

Прайшоўшы моўчкі праз парк, мы выйшлі да лесу. Вакол панавала магільная цішыня, было чуваць толькі, як узляталі напалоханыя птушкі або нехта з нас спатыкнуўся па дарозе аб нейкі камень. Святло месяца прасочвалася і ў лес, і ў ім было дастаткова светла.

Я быў побач з дзядзькам, астатнія ад нас на аддаленні то справа, то злева. Добра падрыхтаваныя дзядзькавы сабакі ішлі перад намі, сабакі-сышчыкі ў гушчары лёталі, нібы шалёныя, але ніводзін з іх ні разу не падаў голас.

Наш вышук працягваўся амаль гадзіну, аж пакуль мы з дзядзькам не дайшлі да незвычайна густога лесу. Некаторы час мы ўздымаліся на ўзгорак, ажно пакуль не апынуліся на краі лесу.

За сто крокаў перад намі блішчэла ў ззянні горнае возера, а над ім узвышалася аж да неба шэрая скала: я зразумеў, што мы знаходзімся ля труны Рэгінінага дзіцяці.

Выйшаўшы з лесу, мы ішлі павольна да возера. Дзядзька, які за ўсю дарогу не сказаў ніводнага слова, нечакана спыніўся і, паказаўшы у бок скалы, сказаў мне глухім голасам:

— Ці не бачыш ты, што ў гушчары на тым баку відаць цёмныя абрысы галавы і бліскучыя вочы?

Я паглядзеў туды, куды паказваў дзядзька, і ўбачыў над труной Рэгінінага дзіцяці нешта цёмнае, але разгледзець, што гэта, было немагчыма.

— Здаецца, што на тым баку заблукала казуля, — кажа дзядзька яшчэ цішэй і тут жа дадае: — Так, так! Я не памыляюся! У святле месяца бачу зусім добра, як блішчаць яе вочы. Глядзі! — галава схіляецца ў бок возера…

Я прыгледзеўся больш уважліва, але нічога не змог разгледзець.

— Магчыма, ты памыляешся, дзядзька, — заўважыў я таксама прыглушаным голасам, як і ён.

— Прыгніся! — загадаў дзядзька раптам глуха, аднак так рэзка і страсна, нібы ў ім абудзілася нешта даўняе дзікунскае. — Апусціся ніжэй, — паўтарае ён, — каб мог на тваё плячо абаперлася стрэльба.

— Дзядзька, не страляй! — кажу трохі мацней.

— Ціха! Апусціся ніжэй! — паўтарае дзядзька голасам строгім і загадным, і вочы яго загарэліся, як вочы крыважэрнага тыгра.

— Ніжэй! — загадвае дзядзька зноў груба і сурова, калі я не выканаў яго загад. — Або табе разнясуць чэрап…

Пакуль я сабраўся адказаць, нешта мільганула ў гушчары на тым баку. Дзядзька, не чакаючы, пакуль я сагнуся, хутка прыцэліўся і куля прасвісцела ў ціхай начы…

Збоку пачуўся слабы крык чалавека…

— Божа мой, што гэта? — спытаў дзядзька, нібы толькі цяпер апамятаўся і паспяшаўся ў той бок.

Я пабег за ім.

Ледзьве прасвісцела куля ў ціхай начы, на вяршыні непадалёк ад нас успыхнула паходня, якую па загадзе дзядзькі запаліў адзін са слуг, які быў бліжэй да нас. З розных бакоў можна было пачуць, як склікалі ўсіх на месца, дзе палала паходня.

Слуга з паходняй у ззянні месяца пазнаў дзядзьку, які, спяшаючыся, ішоў уздоўж горнага возера і праз лес з боку скалы. Я заўважыў, што агонь паходні скіраваўся ў пэўны бок, і стаў сачыць за палаючай паходняй.

Не ведаючы дарогі праз лес, я не без намаганняў апынуўся на тым баку, дзе знаходзіліся дзядзька і слуга з палаючай паходняй.

Выйшаўшы з гушчару, я ўбачыў перад сабой страшную сцэну: шчыльна ля края скалы ляжала Рэгіна ў абдымках незнаёмага мужчыны, твар якога схіліўся да яе грудзей і яго немагчыма было разгледзець… Дзядзька Роберт укленчыў каля Рэгіны.

У святле, якое стваралі сярэбранае ззянне месяца і рудое святло паходні, твар Рэгіны мне здаўся жудаснага аліўкавага колеру…

— Прабач, Рэгіна! — пачуў я ўсхваляваны дзядзькаў голас.

Я падбег да Рэгіны. З яе грудзей лілася кроў.

— Прабачыць? Табе, Роберт? — спытала Рэгіна ласкава, падаючы дзядзьку руку. — Табе я прабачаю ўсё.

Роберт устаў, а незнаёмы, які да гэтага моманту трымаў Рэгіну ў абдымках, асцярожна паклаў яе на траву.

— Тут мой каханы, — сказала Рэгіна Роберту і рука яе ўзнялася, нібы яна хацела паказаць на незнаёмага мужчыну, але, не маючы моцы, павалілася.

— Вітаю Вас! — прамовіў дзядзька прыветліва незнаёмцу, — шкада, што я прывітаў Вас у такі страшны момант…

Незнаёмы не адказаў, тады дзядзька зноў укленчыў побач з Рэгінай і, расшпіліўшы сукенку ў яе на грудзях, паспрабаваў рукой спыніць кроў.

Стоячы побач з Рэгінай, я бачыў, як кроў хутка цячэ з-пад дзядзькавай рукі…

Праз хвіліну дзядзька ўстаў.

— Нельга дапамагчы! — сказаў ён глуха, але спакойна мне. — Рана смяротная…

Між тым на гэтае фатальнае месца сабраліся амаль усе, хто выйшаў з намі з дзядзькавага маёнтка. Стоячы паўколам побач з намі, змрочныя дзядзькавы слугі выглядалі ў рудым ззянні паходні і слабым святле месяца жудасна. Тут быў і паліцэйскі ад'юнкт з агентам, якія моўчкі назіралі страшную сцэну…

Паліцэйскі агент хутка ўзняў галаву і паспешліва падышоў да незнаёмага мужчыны, які стаяў каля Рэгіны, засяроджаны ў свае думкі.

— Пан! — сказаў паліцэйскі агент катэгарычна. — Я Вас арыштоўваю!

— Мяне? — спытаў незнаёмы спакойна.

— Так, Вас, — гучыць грубы голас паліцэйскага. — Арыштоўваю Вас за дзяржаўнае злачынства.

Незнаёмы не адказаў.

Усе, хто прысутнічаў у гэты момант, наблізіліся да нас. Незнаёмы, які не збянтэжыўся і не змяніўся ў твары, звярнуўся да паліцэйскага ад'юнкта, каля якога я стаяў, але не бачыў яго твару.

Паліцэйскі ад'юнкт, які падышоў бліжэй, паглядзеў на незнаёмага. Але тут жа зірнуў на паліцэйскага агента.

— Хто ж з'уляецца дзяржаўным злачынцам?

— Гэта ён! — адказаў агент і паказаў рукой на незнаёмага.

— Звар'яцелі? — крыкнуў паліцэйкі ўраднік гнеўна. — Гэты пан — дзяржаўны адвакат...

— Гэта немагчыма! — сказаў паліцэйскі агент. — Я памятаю добра, як некалькі дзён таму ён звяртаўся на Белай Гары да людзей...

— Думаю, што Вы памыляецеся, — аб'явіў паліцэйскі ўраднік. — Я ведаю пана з Прагі ўжо даўно...

— Не, не, я не памыляюся! — адказаў агент!

— Адыдзіце! — загадаў ўраднік строга агенту і, падаючы руку незнаёмаму, дадаў: — Прабачце, што магло здарыцца нешта падобнае, бо ведаеце, нашы агенты...

Паліцэйскі агент, пасаромлены, зрабіў некалькі крокаў назад.

Незнаёмы, які сябе паводзіў так, нібы размова ішла пра асобу неіснуючую, міжволі павярнуўся так, што я мог убачыць яго твар.

Я пазнаў твар знаёмага, твар прыяцеля, з якім некалькі гадоў жыў у адной мансардзе і які, учыніўшы дзяржаўнае злачынства, некалькі дзён назад пакінуў Прагу, каб пазбавіцца паліцэйскага вышуку.

— Божа мой, дзе давялося сустрэцца! — сказаў я яму.

І цяпер у гэты момант мне стала зразумелым тое, што здавалася ўвесь час пакуль я жыў у дзядзькі і знаходзіўся ў таварыстве Рэгіны цёмным і нявысветленым.

Моўчкі і з хваравітай усмешкай я падаў прыяцелю руку...

Дзядзька Роберт, які моўчкі і нерухома стаяў каля акрываўленай Рэгіны, хутка падняўся, зрабіў некалькі крокаў і загадаў слугам, каб зрабілі з галінак маладых бяроз, якімі парасла катлавіна з аднаго боку, насілкі.

Дзядзькаў загад быў выкананы са здзіўляючай хуткасцю. Між тым дзядзька дастаткова хутка перавязаў рану Рэгіны, якую паклалі на насілкі і некалькі слуг панеслі асцярожна яе на вяршыню.

За ўвесь гэты час, пакуль перавязвалі рану, ніхто не сказаў ні слова.

— Калі ласка, Роберт, — сказала нарэшце Рэгіна ціха дзядзьку, які знаходзіўся з аднаго боку насілак, — дазволь яшчэ раз зірнуць на возера.

Пажаданне Рэгіны выканалі.

Слугі падышлі з насілкамі асцярожна да краю скалы. Рэгіна, схіліўшы галаву, хвіліну глядзела на возера, гладзь якога блішчэла ў ззянні месяца, нібы светлае серабро, аж пакуль вочы яе не напоўніліся слязьмі... Павярнуўшы галаву, яна кіўнула Роберту, каб даў загад адысці.

Працэсія рухалася па непраходнай лясной сцяжынцы ў бок дома. Наперадзе ішлі двое слуг з паходнямі, за імі яшчэ некалькі, якія, калі гэта было патрэбна, пракладалі дарогу, адгарнуўшы прыпаўшыя вельмі нізка да зямлі галіны, каб людзям з насілкамі вальней можна было прайсці.

Дзядзька Роберт і каханак Рэгіны ішлі па розныя бакі ад насілак, паліцэйскі ад'юнкт ішоў апошнім.

Застаўшыся стаяць на тым жа месцы, з якога Рэгіна апошні раз глядзела на вільготную магілу свайго дзіцяці, я сачыў, як працэсія знікла ў лясной цемры.

Назіраючы, як агонь працэсіі знікае, я падумаў, што не трэба тут больш заставацца, бо магу заблукаць.

Павярнуўшыся назад, я ўбачыў, што знаходжуся ў катлавіне не адзін. З аднаго боку ў ценю маладых бяроз стаяў забойца Рэгінінага бацькі, каля якога знаходзілася зграя дзядзькавых сабак, якія неспакойна, але моўчкі чакалі, як мне здалося, загаду свайго гаспадара.

У агідным твары рудога можна было заўважыць жорсткасць і дзікунства, з'едлівыя вочы палалі жудасным агнём.

З другога боку, за дваццаць крокаў ад рудога, абапершыся на белы ствол бярозы, стаяла цёмная мужчынская постаць. Прыгледзеўшыся больш уважліва, я пазнаў паліцэйскага агента. Ён стаяў нерухома, закрыўшы правай рукой твар, і, здавалася, заглыбіўшыся ў думкі. Руды не зводзіў з яго вачэй…

Як толькі я ўбачыў, што паліцэйскі агент нахіліўся, як пачуўся крык рудога і сабакі накінуліся на паліцэйскага агента ўсёй зграяй.

Некаторыя з гэтых сабак толькі глуха заскуголілі або завылі, і толькі адзін з іх забрахаў на агента, ухапіў яго за грудзі і паваліў на зямлю, астатнія накінуліся на безабароннага.

Усё гэта доўжылася імгненне. Здалося, што паліцэйскі агент забіты, сабакі рвуць на ім адзенне і цягаюць па зямлі… У гэты момант я пашкадаваў гэтага мужчыну. Хутка я падышоў да рудога, які з д'ябальскай усмешкай назіраў за страшнай сцэнай, і міжволі схапіўшы яго за руку, закрычаў у гневе:

— Чалавеча! Што Вы робіце?

— Гэта адплата! — зарагатаў руды і, схапіўшы мяне жалезнай рукой за грудзі, адштурхнуў ад сябе.

— Рэгіна будзе гневацца, — унікліва прамармытаў я міжволі.

— Рэгіна! — закрычаў агідны атлет так, нібы гэта імя на яго ўздзейнічала, і прыкрыкнуў на сабак.

Сабакі незадаволена забурчалі, але звыкла паслухалі свайго гаспадара, і па яго сігнале умомант пакінулі сваю страшную працу і памалу адышлі ад мужчыны, што ляжаў на зямлі, да свайго пана.

Калі я падышоў да паліцэйскага агента, то ўбачыў, што яго адзенне было парвана з усіх бакоў. Твар быў заліты крывёю, адно вуха адарвана і з некалькіх месцаў на целе цякла кроў.

— Дапамажыце! — крычаў ён. — Ах, мае дзеці, мае дзеці!

Упершыню ў жыцці я падаў руку чалавеку такога гатунку, каб дапамагчы яму ўстаць з зямлі, але хутка я задрыжаў ад агіды, нібы дакрануўся да лёду.

Акрываўлены мужчына ўстаў з зямлі з вялікімі намаганнямі. На шчасце яго раны былі лёгкімі, бо сабакі былі спынены ў сваёй крывавай працы ў час.

Руды падышоў да нас бліжэй і сказаў агенту:

— Тваё шчасце, небарака, што ў цябе ёсць заступнік, — і, паказаўшы рукой у бок возера, дадаў: — Ідзі туды памыйся…

Паліцэйскі агент нічога не адказаў, паслухаў яго і памалу пайшоў праз лес у бок возера.

Сабакі круціліся нецярпліва каля свайго пана, дарэмна чакаючы новага загаду, а мужчына, які цудам пазбегнуў іх іклаў, пазбавіўся ад смерці…

У таварыстве рудога, які ведаў у наваколлі кожную сцяжынку, накіраваўся я ў маёнтак дзядзькі. За ўсю дарогу мой спадарожнік не сказаў ніводнага слова, а толькі мармытаў:

— Не, не, гэта не добра, што пазбаўлены пакарання, бо ён адзіны з'явіўся прычынай ранення Рэгіны…

Мы дайшлі да маёнтка дзядзькі на чвэрць гадзіны пазней, чым Роберт са сваімі людзьмі.

Даведаўшыся, што Рэгіну аднеслі па яе жаданні ў пакой, дзе мы ўпершыню з ёю сустрэліся, я паспяшаўся туды.

Рэгіна ляжала на ложку, яе прыгожы твар быў смяртэльна бледны. Роберт стаяў ля дзвярэй, звесіўшы галаву і склаўшы рукі, мой прыяцель і Рэгінін каханак сядзеў ля ложка, трымаючыся абедзьвюма рукамі за галаву.

Калі я ўвайшоў, у пакоі панавала магільная цішыня. Рэгіна, чый твар быў павернуты да дзвярэй, першая мяне заўважыла.

— Добра, што ты прыйшоў, — сказала яна слабым, дрыжачым голасам, дарэмна спрабуючы ўзняць галаву.

Калі я падышоў да ложка, яна дадала:

— Я перад Робертам напаследак паспавядалася. Цяпер я падрыхтаваная. Твой прыяцель — бацька майго дзіцяці — застанецца пасля маёй смерці тут у Роберта…

Я хацеў нешта сказаць, але Рэгіна працягвала:

— Спадзяюся, што ты мне даруеш, як дараваў мне Роберт. У сваёй смерці вінаватая я сама, магчыма, адзінае слова, якое я магла б сказаць…

Рэгіна раптам змоўкла, нібы ад болю. Дыхала яна цяжка і вузкая ручка яе, якую яна мне падала, была халодная, бы лёд.

Праз хвіліну Рэгіна сказала з надзвычайным намаганнем:

— Толькі некалькі слоў яшчэ. Прабач, што ты быў падмануты маім маўчаннем. Ты лічыш мяне сваёй цёткай і жонкай Роберта, аднак я імі ніколі не была, бо Роберт для мяне быў толькі — бацькам…

Вярнуўшыся да яго з трупам свайго дзіцяці — у чым я яму толькі цяпер прызналася — я ведала, што немагчыма, каб я і далей працягвала жыць з ім пад адным дахам, як тады, калі я была дзяўчынкай. Роберт быў такой жа думкі. Мы дамовіліся з ім пра ўсё. Роберт аб'явіў сваім слугам, што я яго жонка, і так я змагла жыць паблізу ад свайго памерлага дзіцяці…

Рэгіна, не скончыўшы аповеду, застагнала ад болю. Яна хацела падняцца, але не змагла. Пасінелыя вусны яе варушыліся, нібы яна гаварыла, шаптала штосьці, потым і шэпт сціх і толькі вусны яе дрыжалі. Грудзі яе моцна напружыліся, вочы яшчэ некалькі разоў заплюшчыліся, а потым расплюшчыліся, пакуль не засталіся расплюшчанымі і павернутымі ў бок скалы…

Рэгіна памерла…

Роберт глядзеў на нерухомую Рэгіну, як на статую, а мужчына, якога Рэгіна горача кахала, нават не паглядзеў як апошні прамень жыцця згас у яе вачах…

Невыказны боль сціснуў мне грудзі. Я хацеў нешта сказаць, але не змог, таму без слоў выйшаў з пакоя…

Я правёў страшную ноч.

А калі ад першых промняў сонца заружавелі абрысы гор, я ўжо быў на дарозе ў Прагу і нават не развітаўся з Робертам і сваім прыяцелем…

Як і прадказвала Рэгіна ў сваім ананімным допісе, я вярнуўся, праклінаючы той момант, калі я прыняў запрашэнне дзядзькі пагасцяваць у яго…

Мінула дзесяць гадоў.

За ўвесь гэты час я нічога не чуў ні пра дзядзьку, ні пра свайго прыяцеля, за ўвесь гэты час я не змог наважыцца ні наведаць іх, ні ім напісаць.

Нарэшце я здолеў знайсці ў сабе смеласць іх наведаць.

Я прыбыў у дзівосна прыгожы горны край, як і ў першы раз, у другой палове дня, але дзядзькаў маёнтак адразу не пазнаў.

Навокал было запусценне, і як я зразумеў з першага погляду, шмат гадоў тут ніхто не займаўся гаспадаркай.

Убачыўшы дзядзьку, я спалохаўся. Перада мной стаяў згорблены стары з надзвычай стомленым, амаль тупым выразам на васкавым твары, вочы яго згаслі, белыя вусы і валасы парадзелі.

Прыняў ён мяне ў сваім пакоі халодна, можна сказаць, як лёд. На пытанні адказваў аднаскладова або наогул не адказваў. Ні пра што не хацеў размаўляць, нішто яго не цікавіла, ні ў чым ён не бачыў сэнсу…

Ведаючы, што ён цікавіцца ваеннымі падзеямі, я паспрабаваў даведацца пра яго адносіны да вайны 1866 года.

Дзядзька хвіліну на мяне глядзеў, а потым халодна спытаў:

— А дзе была гэтая вайна?

— Як жа так, што ты не ведаеш, дзядзька? — кажу. — У Чэхіі і Італіі.

— Так… У Чэхіі, — гаворыць дзядзька манатонна сваім глухім голасам, — упершыню сёння гэта пачуў…

У мяне ўжо не было сумненняў, што дзядзька амаль зусім атупеў.

— Пра Рэгіну ты, мабыць, часта ўспамінаеш? — кажу я нарэшце.

Пасля таго, як прагучала гэтае імя, дзядзькавы вочы загарэліся. Ён схапіў мяне за руку і спытаў ўсхвалявана:

— Ты ведаў? Ты ведаў Рэгіну?

— Я быў у Вас, калі яна памерла.

— Ах, так, так! — кажа дзядзька. — Цяпер я ўспомніў.

— Як ты жывеш з той пары? — пытаюся я далей, бачачы, што толькі ўспамін пра Рэгіну абудзіў у дзядзькавай душы праявы жыцця.

— Сумна, хлопча, сумна, — адказвае дзядзька, паступова разгаварыўшыся. — Я быў арыштаваны і амаль паўгода правёў у астрозе ў Плзні, пакуль ішло следства па справе аб забойстве Рэгіны. Мне хацелася знайсці сведкаў, але пазней я перадумаў. Суд прызнаў мяне невіноўным і з таго часу я не ведаю, як жыў… Ні з кім я не сустракаўся, ні з кім не размаўляў…

— А дзе мужчына, які застрэліў бацьку Рэгіны? — пытаюся далей.

— Мярцвяк, — гучыць адказ. — Памёр раней, чым скончылася следства, напэўна, ты ведаеш або чуў, што ён зрабіў паліцэйскаму агенту.

— А што здарылася з маім прыяцелем, які застаўся ў цябе пасля смерці Рэгіны?

— Гэта быў добры, мілы хлопец, — апавядае дзядзька. — На чацвёрты або трэці дзень — ужо добра і не памятаю — знайшлі яго ля магілы Рэгіны з расколатым чэрапам, гэта была трэцяя ахвяра шэравокага дэмана...

Дзядзька змоўк.

Праз хвіліну ён мяне паклікаў пайсці з ім разам.

Мы дайшлі да запусцелага парку і ў хуткім часе апынуліся на месцы, вакол якога рос алешнік, перад склепам.

Дзядзька адчыніў яго і па прыступках мы ўвайшлі ўнутр.

Склеп быў пусты. Дзядзька зняў вялікую каменную дошку пасярод склепа і сонечныя прамяні, што ў гэты час ужо прасочваліся ў склеп, асвятлілі памяшканне.

Прыгледзеўшыся ўважліва, я ўбачыў у труне са шкляным вечкам памерлую Рэгіну. Яна ляжала, нібы жывая.

Я доўга глядзеў на прыгожы твар, які ўжо мала памятаў: мне здалося, што на пабляклых вуснах да гэтага часу іграе чароўная ўсмешка, што на гладкім ілбе з'явіліся невялікія зморшчынкі, я раптам уявіў, як празрыстыя павекі ўздымуцца і расплюшчацца вялікія шэрыя вочы, нібы ў іх ўспыхнула жарсць...

Усё, што забылася з цягам часу, раптам ажыло ў памяці: я зноў бачыў зграбную постаць, чуў яе голас, адчуваў слабы поціск яе рукі... Зноў я адчуваў неадольную сілу чараў дэманічнай жанчыны, кроў завірылася ў маім целе, ударыла ў галаву і ў сэрца...

Я рэзка адвярнуўся ад труны.

Дзядзька, імкнучыся зачыніць склеп, апусціў памалу каменную дошку. Раптам рукі яго затрэсліся і пакуль я падбег на дапамогу, цяжкая дошка выслізнула з рук і, разляцеўшыся на некалькі кавалкаў, ударыла па шкляным вечку труны і ўпала на памерлую Рэгіну.

Труп ператварыўся ў прах...

У гэты ж дзень я развітаўся з дзядзькам. Перад тым, як пакінуць яго маёнтак, я наведаў горнае возера, дзе спачывала Рэгініна дзіця. Стромы бок скалы, пад якім дзіця было пахавана, я таксама не пазнаў, бо з цягам часу ён абваліўся ў возера...

З той пары мне здаецца, што свет са сваімі асалодамі не будзе ніколі ўплываць на мяне, што ў свеце няма нічога, што мяне магло б усхваляваць, запаліць. Часам, калі ў самоце я пагружаюся ва ўспаміны, перада мной з хаатычнай імглы ўзнікаюць амаль забытыя сумныя вобразы так ярка і цудоўна, што я гатовы зноў палюбіць жыццё.

Аднак гэты душэўны стан не цягнецца доўга. Чароўны вобраз Рэгіны пачынае блякнуць, і мая душа напаўняецца невыказнай горыччу...

## КАРЭЛ КЛОСТЭРМАН
## (1848—1923)

Празаік, публіцыст

Карэл Клостэрман нарадзіўся і правёў маленства ў нямецка-чэшскім асяроддзі на Шумаве. Вывучаў медыцыну ў Вене і падчас навучання прымаў актыўны ўдзел у рабоце студэнцкага таварыства "Влтаван".

Карэл Клостэрман захапіўся журналістыкай і доўгі час працаваў у часопісе "Палітык", які выдаваўся ў Чэхіі на нямецкай мове. Літаратурную дзейнасць распачаў фельетонамі, падарожнымі нататкамі, а сапраўдную вядомасць Карэлу Клостэрману прынеслі апавяданні, раманы і мемуары. У 90-х гадах пісьменнік распачынае тварыць на чэшскай мове. Вялікі поспех мелі раманы "У свеце лясной самоты" (1892), "У шумаўскім раі" (1893).

У далейшым тэматыка і праблематыка твораў К. Клостэрмана значна пашыраецца. Апошнія гады жыцця Карэл Клостэрман прысвячае творам малой эпічнай формы, апавяданням, нарысам, замалёўкам.

# Нешта

У паветранай вышыні, бліжэй да аблокаў, што лёгка лунаюць у блакітным паднябессі і якім промні заходзячага сонца надаюць фіялетава-залатое ззянне, ён меў свой дом. Ён яго не ствараў, а атрымаў, бо з пакалення ў пакаленне ён належаў яго продкам і шмат перайначылі яны ў свеце.

Маленькая вёсачка, пяць або шэсць хат, што раскінуліся бліжэй да вяршыні старога Жданава, найвышэйшай гары ў цэлым гэтым краі, якая ад веку глядзіць з заходняга боку на ўганараваны, здаўна слаўны, вольны каралеўскі горад Перкрайхенстайп[3], куды ў даўно забыты час прыходзілі шахцёры, якія з глыбінь зямлі здабывалі золата. Сёння ніхто гэтае месца не наведвае, і хаты, адлучаныя ад астатняга свету, ціха стаяць, нібы ў зачараваным сне, і чакаюць, што некалі сюды вернецца жыццё. Усё заўсёды паддаецца зменам, у тым ліку і побыт на зямной паверхні: калісьці тут была сярэднееўрапейская Каліфорнія, а як толькі людзі спынілі пагоню за бліскучым залатым металам, схілы гор параслі высокім лесам, але і гэта было да часу. Высеклі лес, выкарчавалі пні, і атрымалася поле вакол хат, зялёныя паляны назвалі лугамі, але такая ганаровая назва ім не падыходзіць. Сады тут ніколі не мелі агароджы, былі каравыя і недагледжаныя.

Яблыні і грушы, у большасці дзічкі, ціснуліся бязладна да хат, а плады іх падалі ў траву; усё навокал яшчэ больш буяла б, калі б тут не было пераважна суха. Праўда, дажджы ішлі часта і снегу ўзімку выпадала дастаткова, але слой зямлі быў мелкі і вада, як толькі падала, тут жа збягала ў глыбокія раўніны ля падножжа гор. Раслі тут маладыя сосны, якія акалялі поле і ўзбіраліся аж да горных вяршынь, якія аддзяляла шырокая агароджа, складзеная з вялікіх і дробных камянёў, таму дрэвам і не было вальготна. Там жа, дзе яны раслі рэдка і свабодна, на паўднёва-заходніх схілах, а таксама ўсходніх і паўночных, дзе глеба была вільготная і ўлетку было мала сонца, дрэвы вырасталі магутнымі, былі сапраўдным шумаўскім лесам. Там, дзе не было лесу, была сухая зямля, на якой раслі паўзучыя, густыя зараслі ажыны, і кусты ядлоўцу, каравыя чорныя вольхі, каля якіх і паміж якімі раслі верас і пучкі цвёрдых траў. Месцамі ніякая расліннасць не магла з'явіцца, і твой погляд, мой мілы чытач, калі б спыніўся на гэтым, то ты убачыў бы груды пустога друзу, рэшткі былых распрацовак, паглыбленні ў выглядзе варонак, як сведчанне таго, што тут былі шахты, а таксама равы, якія ўтварыліся пасля таго, як асыпаліся падземныя калідоры. Большасць шахт засыпана, але некаторыя і сёння стаяць адкрытыя, як жудасныя чорныя дзіры, глыбіню іх ніхто не вымераў і не ведае, што на іх дне шуміць вада і ніколі туды не зазірае промень сонца. А там, магчыма, знаходзілася пад зямлёй багацце, назапашанае калісьці для гэтага краю. І цяпер, хто зайздросціў Аўгусціну,

---

[3] Сучасная назва гэтага горада Кашперске Горы ўзнікла ў XVIII стагоддзі і ідзе ад назвы гары Кашперка (ням. Karlsberg), на вяршыні якой пабудаваны Град з той жа назвай (ням. Karlsberg), што пабудаваў кароль Карл IV для аховы. Да XVIII стагоддзя тут здабывалі золата, і залатыя сцяжынкі ад Kling вялі сюды.

сыну Марціна, унуку Якуба, а не чатыром або пяці яго суседзям таму, што іх дамы знаходзяцца ў самым цэнтры Эльдарада, наадварот, кожны здзіўляецца, што іх хаты стаяць да гэтага часу, бо пасля кожнага спорнага дажджу ў іх знікае ў зямлі то частка саду, то кавалачак поля, а то і хлеў або іншыя забудовы, сцены якіх адлюстроўваюць бясконцае дрыжанне, нібы пасля землятрусу. Шчыра сказаць, дамы ўжо даўно абваліліся б, калі б кожнае лета іх не рамантавалі і не ўмацоўвалі. Відавочна, што пад дамамі знаходзіліся падземныя калідоры, па якіх калісьці праходзілі гарнякі і там жа працавалі. У Аўгусціна, сына Марціна, унука Якуба таксама правалілася карова ў адну з адкрытых шахт і знікла назаўсёды ў жудаснай падземнай глыбіні, і застаецца толькі дзівіцца, як такім чынам ён не страціў усю сваю маёмасць. Ну што ж, заўважана: Аўгусцін па-сапраўднаму шчаслівы чалавек.

Неабходна, каб ты ўявіў, мілы чытач, гэтага Аўгусціна, сына Марціна, унука Якуба, ён з'яўляецца тым, каго я закрануў у пачатку свайго аповеду, не назваўшы яго імя. Прозвішча мне яго невядома, ніхто мне пра гэта не паведамляў, ніхто яго ніколі не называў, а ў метрыкі і пазямельныя кнігі я не зазіраў, каб гэта высветліць. Але я ведаю, што яго бацька зваўся Марцінам, а яго дзед Якубам. Гэтага дастаткова.

Аўгусцін — тыповы шумаўскі немец, з якімі я сустрэўся на моўным памежжы. У час, калі і адбываліся апісаныя намі падзеі, яму было без малога сорак гадоў, што цяжка вызначыць, калі ў чалавека грузная постаць, хадзіў ён на кароткіх нагах, але пры гэтым меў велізарныя ступні; вялікая круглая галава сядзела на кароткай шыі з моцна недаразвітымі шчытападобнымі залозамі, якія не мелі вельмі хваравітай формы, а называліся валляк; лоб у яго быў нізкі, твар моцна пачырванелы, упрыгожаны вялікімі рыжаватымі вусамі і бакенбардамі; малую бараду, заўсёды дрэнна паголеную і пабітую на плямы за бліскучым цвёрдым шчаціннем, шырокія вусны, цяпер на вусны расцягнутую ў грымасе, малы нос, падобны на барвовую бульбападобную randaўку з дзвюма, звернутымі да нябёсаў, дзіркамі, з якіх выраcталі цэлыя кусты кучаравых валасоў, але ён атрымаў, як узнагароду, бровы, якімі яго ўпрыгожыла прырода, яны былі падобныя на пару цыліндрычных, зачырванелых выпукласцяў, скура на якіх увесь час трэскалася, нібы раздражнёная вострымі канцамі рыжавата-русай шавялюры, якая падала на лоб, высоўваючыся з-пад страціўшага форму незвычайна бруднага лямцавага капелюша, які ён ніколі не здымаў ані на вуліцы, ані дома, ані ўначы, калі спаў у сваім ложку. Неабходна разумець, што ён так імкнуўся захаваць свае малыя блакітныя вочы, абалонка якіх заўсёды была больш або менш хворая на запаленне, таму вочы заўсёды слязіліся, нават калі ён весела ўсміхаўся. Адзенне і бялізна, якія прыкрывалі яго цела, нічым не саступалі капелюшу; яны былі такія ж брудныя, асабліва куртка, і споднее такое ж пазбаўленае формы, адрозненне было толькі ў тым, што капялюш быў зроблены з аднаго кавалку матэрыялу і не быў дзіравы і толькі па краях растрапаны, нібы яго пагрызлі мышы, затое ж адзенне, колеры якога былі не бачны за вялікім слоем бруду і смалы, было пакрыта вялікай колькасцю латінак рознай формы і пры гэтым заўсёды некалькі дзірак, якія прасіліся, каб іх зашылі. Магла

выклікаць цікавасць яго калісьці сіняя камізэлька: яна зашпілялася ад пояса ажно да шыі, дзе тырчэў скамечаны каўнер, завязаны вяроўкай, якая нагадвала павадок на заґрыўку сабакі. Добрая палова гузікаў на камізэльцы адсутнічала, затое тыя, што засталіся, уражвалі сваёй разнастайнасцю: адзін быў са шкла, два — белы і чорны — з косці, адзін металічны і адзін, самы новы з усіх, абцягнуты сукном пурпурнага колеру. Без дзірак і лапінак на ім былі толькі абутак, ваўняныя панчохі, якія былі высока нацягнутыя на штаны, на палове лытак сцягнутыя рэменем і параўнальна чыстыя, а таксама моцныя чаравікі, у якіх ён хадзіў узімку і ўлетку, як толькі ён выходзіў з пакоя, то адразу апранаў свае велізарныя ногі.Праўду сказаць, так выглядае Аўгусцін толькі ў будзень, калі працуе ў доме, на полі або ў лесе, у нядзелю і ў свята ён ходзіць у горад на імшу, пераапрануўшыся ў святочнае адзенне, якое нічым не адрозніваецца ад вопраткі яго суседзяў, больш таго, вельмі чыстае і клапатліва адпрасаванае так, што выглядае, быццам новае, таму не здзіўляе, што ў той час, да якога адносіцца наш аповед, — у канцы васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя — пятнаццаць гадоў ён насіў высокія святочныя боты і круглы чорны капялюш на галаве.

Падумай сам, дарагі чытач, ці быў бы наш Аўгусцін прадметам зайздрасці, ці быў бы ён абраннікам зменлівага шчасця, вызначанага тым, што з'яўляўся Аўгусцін уладальнікам чатырохсот гектараў зямлі, адным словам, яму належалі дзве трэці каменнага друзу, скалы гнейсавыя і сланцавыя, сухая зямля, дзе магла пасвіцца жывёла, пяць авечак і дзве казы, якіх, калі не загоніш у стайню або ў хлеў, то могуць прапасці ў падземных калідорах былых залатарудных шахт, а на палях не растуць ні пшаніца, ні цукровыя буракі, а толькі авёс, жыта і бульба: прызнаюся табе, мой шаноўны чытач, што мілы Аўгусцін наўрад ці будзе табе падабацца ў тваіх каляровых снах і не будзеш ты па ім сумаваць, і твая пышная фантазія перанясецца з мінулага ў сучаснасць, і я табе прашапчу даверліва ў ружовае вушка: "Ты б магла яго мець, бо ён — удавец!" — пачуеш ты яшчэ пра нешта іншае… Ён сваёй знешнасцю не прываблівае, ці не так, мая залатая, але калі святочна апранецца!..

І ўсё ж былі людзі, яго непасрэдныя суседзі, жыхары раўніны ва Удолі, у Ідэрцы, у Каврліку і на другім баку Жданава, у Нездзіцах, цалкам заселеных чэхамі, дзе мімаходзь адзначым — пяць або шэсць нямецкіх сямей таксама жылі і былі так жудасна прыгнечаны, што падчас муніцыпальных выбараў адзін з немцаў справядліва быў абраны — так, былі людзі, якія Аўгусціну зайздросцілі і сцвярджалі, што шчасце проста ідзе за ім следам.

Зайздросцілі яму найперш таму, што жыў на памежжы трох маёнткаў. Паны знаходзіліся то тут, то ў іншым месцы, а Аўгусцін на іх працаваў. Бывала, што лесніку князя ў Кранкоцкіх лясах патрабаваўся чалавек, каб абмалаціў збожжа. І ён клікаў Аўгусціна, а таксама лесніку графа ў Жданаве, і панам ляснічым у Няздзіцах і ў Залужжы ён дапамагаў у палявых работах, а ў лясах каралеўскага горада Кашперскія Горы займаўся нарыхтоўкай дроў. За ўсю гэтую працу ён не атрымліваў шмат, і ўся яго выгода заключалася ў тым, што ва ўсіх лясах гэтых панскіх двароў на яго не звярталі ўвагі, калі ён

прыходзіў па дровы для сябе, рабіў запасы паліва, якое ляжала перад яго хатай і за ёй, было гэтых запасаў шмат і ніколі іх колькасць не змяншалася.

Ох, і шчаслівы ж быў Аўгусцін! Ён не звяртаў увагі на хмары на небе, бачыў толькі усход і заход сонца, якія абяцалі яму спакойную ноч і дзень, запоўнены цяжкай, катаржнай працай; ён бачыў высокія блакітныя шумаўскія горы, і Роклан, дзвюхгаловую вяршыню, што ўздымаецца над усім наваколлем, але ніколі не бачыў, як уздымаецца сонца і пачатак дня, ніхто не прыносіў яму ружы. Ён быў шчаслівы і свабодны. Яго жонка памерла некалькі гадоў назад, і ён кожны дзень мог бы прызначаць вяселле, не было ніякіх перашкод, акрамя адсутнасці будучай жонкі, але для жаніцьбы чалавек не хутка саспявае, і таму цешыць сябе надзеяй, што ў будучым нешта яму свеціць.

Ён быў шчаслівы, бо быў гаспадаром сямі галоў жывёлы, якая абыходзілася яму танна, бо ўзімку пражывала на саломе, бульбе і сене, ад якіх каровы ў іншым месцы з агідаю адвярнуліся б, улетку яго жывёлы пасвіліся на бедным полі і ўзмежжы, дзе маглі б прахарчавацца толькі пяць авечак, якія ў яго і былі. А дзве яго каровы, больш худыя, чым у іншых, у свой час у снах бачыў фараон Егіпта, і два валы выконвалі цяжкую працу, і цяляты растуць, ускормленыя малаком дзвюх коз, якія без догляду пасвіліся ў панскіх лясах, але ў росце і ў вазе не прыбаўлялі, хоць і карысталіся пратэкцыяй леснікоў. І з усяго яго здабытку, які меў за доўгі час, як толькі пачаў гаспадарыць, ні адна жывёла ў яго не знікла, акрамя каровы, якая праваліліся ў шахту, і тая, любіў казаць, была не горшая за іншых, што меў, і добра даілася…

Шчаслівы быў Аўгусцін, калі з гонарам глядзеў на сваіх нашчадкаў. Старэйшая з іх трынаццацігадовая дачка, якая звалася гучным і паэтычным імем Адэла, пасля яе ішоў дзесяцігадовы Філіп, хлопец здаровы, што дуб, падобны на бацьку і такі ж брудны, як і бацька, нават у нядзелю, пасля — Божа мой! — Сэпл, сямігадовы бедны хлопец, карлік, які не валодаў нагамі, што было вынікам запалення суставаў, якое знікла на першым годзе жыцця дзіцяці без усялякай лекарскай дапамогі толькі бясконцым прыкладаннем гарачых бліноў з вотрубяў і лістоў хрэну, акрамя адвару дзевясілу, які Аўгусцін даваў хворым цялятам, адзінымі сапраўднымі лекамі, якія ўжывалі з пакалення ў пакаленне ў сям'і Аўгусціна і якія, па словах гэтага славутага мужчыны, і ў гэтым выпадку выключна сябе праявіла, і без іх Сэпл не вытрымаў бы. Дзіця назаўсёды засталося б скалечаным, але ёсць у гэтым воля Бога, у няшчасці праявіўся незвычайны талент дзіцяці, якое само па сабе без усялякай дапамогі, навучылася лічыць, паказваючы пальцам на мух, што поўзалі па чорнай брусчатай столі, бясконца паўтарала: "Адзін, два, тры, восем, дваццаць, шэсць, сто, тысяча!" — "Хто б сказаў, што гэта дзіця само па сабе навучыцца лічыць! — дзівіўся бацька, — я ніколі да смерці не здолеў бы зрабіць такое. Цяпер зразумела, што стварыў нас Бог."

Чацвёртае і апошняе дзіця, на гэты раз дзяўчынка, нарадзілася ў дзень, калі нябожчыца яго маці, на апошнім месяцы цяжарнасці вырашыла, што патрэбна нараджаць, пра што і сказала Аўгусціну, але ў гэтым выпадку ёй не

пашчасціла, яна памерла падчас родаў, але знайшлася суседка, якая дзіця выратавала і два гады ў сябе пратрымала, за што нічога не атрымала, акрамя паліва з яго запасаў: паленні, палкі, галлё і ігліцу і звыш таго малако ад адной казы, за тое, што другую і тры каровы акуратна тры разы на дзень даіла і ўсё гэтае ўменне перадала Адэлі, ды так гэтую здольную дзяўчыну навучыла розным гаспадарскім справам, што тая, калі мела толькі адзінаццаць гадоў, магла запаліць у печы, зварыць бульбу, капусту, кашу, спячы бліны і памыць посуд, бо ўсё, пакуль дачка не ўмела, вымушаны быў рабіць Аўгусцін. Ён вымушаны быў сам пячы хлеб і таму хлеб часта быў недапечаным або спаленым і такім брудным, што іншыя пад страхам смерці не адважыліся б яго есці, але Аўгусціну і яго дзецям гэта не шкодзіла, больш таго надавала моцы, умацоўвала мускулы і павялічвала вагу цела. Шчаслівы і благаслаўлёны бацька, які, дзякуючы такому харчаванню, не меў добрай паставы, і сваім дзецям даў зброю для выжывання! І Сэпл, калека, быў узброены, бо яго страўнік без цяжкасці прымаў гэты Божы дар, і апетыт у хлопца быў заўсёды вялікім і трывалым. Як бы там ні было, складзеныя былі дзеці Аўгусціна надзвычай моцна, так, напрыклад, іх паходы ў школу, да якой трэба было ісці гадзіну, ніяк не шкодзіла іх здароўю, нават узімку ніхто з іх не замярзаў у сумётах. Але пра рэгулярнае наведванне школы не было і гаворкі, бо ведаем, што Адэла гатавала, даіла кароў і даглядала меншых дзяцей, Філіп ёй дапамагаў, бо вадзіў жывёлу на пашу, але каб у яго былі іншыя абавязкі, ён усё роўна не быў фанатыкам навучання, і яго шаноўны бацька ў ім не распальваў фанатызм, бо школу лічыў справай непатрэбнай, а неабходнасць, каб дзеці наведвалі школу падманам, бо "паны" гэта прыдумалі для беднага вясковага люду, каб маглі самі жыць без працы…

Але і ў гэтым Аўгусцін меў шчасце. Скалечаны Сэпл таксама павінен быў хадзіць у школу. Але хадзіць не мог, таму ад неабходнасці наведваць школу быў вызвалены, што было выгадна Аўгусціну, бо павінен быў плаціць падатак за навучанне ў школе двух дзяцей, а калі б хадзіў Сэпл, то патрэбна было плаціць на трэць болей. Ён ведаў, што павятовае кіраўніцтва ў Сушыцы мае сэрца і розум і не лічыць, што ў старых калідорах і шахтах можна знайсці золата, таму і не патрабуе шмат. Але калі б не плаціў, то пасадзілі б у астрог і тым самым зменшылі б яму плату, але Аўгусцін, у адрозненне ад большасці яго землякоў, такіх жа як і ён бедных, плаціў падатак рэгулярна, бо надзвычай баяўся астрога.

Так, плаціў, але чым часцей, тым больш ненавідзеў школу, усялякае настаўніцтва, асабліва пана дырэктара, які на яго скардзіўся павятоваму кіраўніцтву. Калі гэта адбылося ўпершыню, Аўгусцін з'явіўся да гэтага пана і выступіў перад ім з вялікай прамовай, дзе прыніжана паскардзіўся на жыццё, бо працуе з раніцы да вечара ў лесе, а так, як удовы, то няма на каго перакласці догляд за малымі дзецьмі і за жывёлай, як не на старэйшых, якія таму і не могуць наведваць школу і ў будучым таксама не змогуць. Па прастаце сваёй душы ён спадзяваўся, што дадасць важкасці сваім словам, калі да іх дакладзе старую выбракаваную курыцу, з якой можна зварыць такі суп, што нават паміраючы стары стане мацнейшым.

Але пан дырэктар не зацікавіўся фантастычнай сілай супа з курыцы і прагнаў наведніка з прабабуляй курынага роду, каб тая хадзіла і кудахтала каля яго хаты. З гэтай хвіліны Аўгусцін убачыў ва ўсіх прадстаўніках настаўніцкага роду біч. Прадбачлівасць разам з чалавечнасцю — гэта біч, удары якога не менш балючыя, чым раны, якія наносіць падатковая інспекцыя, якая заўсёды знойдзе таго, хто павінен плаціць.

Бясконцыя падаткі і дарогі да павятовага кіраўніцтва настолькі яму надакучылі, што ён пачаў думаць пра тое, як бы яму пакласці канец гэтым даносам, і вынікам гэтага роздуму было, што было б лепей, калі б ён змог прывесці гаспадыню пад страху свайго жылля. І пачаў ён шукаць сабе гаспадыню. Спачатку яго погляд звярнуўся на ўсход сонца, да Нездзіц, нявест там было шмат, але складанасць была ў тым, што калі ён возьме за жонку чэшку, то сам ён слова па-чэшску не ўмее, акрамя таго прываблівасць яго асобы не была відавочнай, што дазволіла б само па сабе прыцягнуць да яго жаночую істоту, Аўгусцін хутчэй на залатую жылу мог спадзявацца, чым на тое, што жанчына пачуе ад яго палымяныя і гарачыя словы пра райскае жыццё пад адной страхой з ім, бо не мог ён усё гэта вымавіць, бо не ведаў мовы, але ведаў толькі, што ружы там, дзе ён, не квітнеюць.

Праўду сказаць, такая ружа магла б квітнець значна бліжэй, па суседству з яго домам. Гэта была ружа, якая добра распусцілася, хутчэй жоўтая, чым чырвоная, і салодкага паху не мела, але гэта асаблівасць не мела б вялікага значэння, бо наш лагодны Аўгусцін не глядзеў на свет, на каханне і на жанчыну вачыма рамантычнага паэта. Жыла тады ў адной са жданаўскіх хат, безумоўна арандуючы жыллё, удава адных з ім гадоў, мела калісьці двух мужоў, якія змянялі адзін аднаго і пакінулі ёй восем дзяцей, пра якіх яна клапацілася і карміла нястомнай працай. Вочы гэтай удавы часта спыняліся на Аўгусціне з выразам салодкай тугі, але ён халодна прыгадаў, што яго гняздо не змесціць дванаццаць птушанят, таму салодкія заклікі ўдавы не знайшлі дарогі да яго сэрца.

І звярнуў ён погляд на паўднёвы захад. На аддаленні ад узвышанасці, дзе знаходзіўся яго дом, у дзвюх з паловай гадзінах хады працякае зялёная раўніна, акружаная густым лесам, высокімі схіламі гор, барвовымі водамі імклівага ручая, у якім таксама знаходзілі золата. У той раўніне распрасцёрлася вёска з некалькімі вялікімі і дагледжанымі гаспадаркамі, дзе відаць была заможнасць, а каля іх стаялі меншыя хаты, але яны не былі пабудаваны на падземных калідорах як у Жданаве. Назва гэтай вёскі Чэрвена, і ў ёй, у найбяднейшай хаце, вырастала кветка, якая падабалася Аўгусціну, як і іншым, хто яе ведаў, сярод якіх былі два, якія ў памяць пра сваё гарачае каханне пакінулі ёй па добрым хлопцу. Аўгусцін яе ўбачыў калісь у нядзелю, калі яна хадзіла цяжарная, ён прайшоўся па плошчы былога слаўнага Перкрайхепстайма і меркаваў, у які шынок патрэбна зайсці, каб падмацавацца кубкам піва і надзвычай салёным рагалікам. Убачыў яе і быў зачараваны ёю так, што зусім забыў пра шынок, піва і салёны рагалік, толькі глядзеў на яе і за ёю сачыў, у яго была адна-адзіная думка: даведацца, хто яна і адкуль, і толькі баяўся, каб не знікла раней, чым даведаецца...

І было на што глядзець! Яна пераступала нагамі, якія сваім відам моцна нагадвалі два слупы з даўно забытых часоў, плечы і рукі яе нібы паказвалі, што для іх ігрою з'яўляецца насіць цэлы дзень пару каваных вёдраў ажно да краю напоўненых вадою, або стрымаць вала, які скача, спіна і бёдры, сцёгны яе былі такіх памераў, што можна было б уявіць, як без усялякіх намаганняў яна носіць за панам паляўнічым у розныя месцы і па самых горных сцяжынках вялікую бочку з півам, што давала б ім магчымасць спаталіць смагу і падзячыў бы ён ёй тым — дай Бог таго шчасця! — калі б стаў яе мужам... А да таго палалі на яе твары дзве півоні, а калі напалову адкрыла вусны і ўсміхнулася, заблішчэлі два рады зубоў, праўда, трохі пажаўцелых, але моцных і здаровых, і чалавек уяўляў, як яна лускала як дробныя арэхі, грызла мазгавую костку з ялаўчыны і магла перакусіць карабельны канат.

Улічваючы ўсе яго ўяўленні пра знешнасць, мы не будзем здзіўляцца, што яна вельмі спадабалася добраму Аўгусціну, а яго ідэал жаночай прыгажосці непасрэдна быў звязаны з думкаю пра тое, як яе скарыстаць...

Аўгусцін і ішоў за ёю на некаторым аддаленні, каб яе не напалохаць і не згубіць з вачэй, лёс яму прынёс сустрэчу з даўнім знаёмым, таварышам з блізкай сялібы Аплецэпца, чалавека яго ўзросту, аднак знешнасцю на яго непадобнага. Быў гэта доўгі і сухі чалавек з загарэлым тварам, аздобленым доўгімі чорнымі вусамі, лысы, з высокім ілбом.

— Добрай раніцы, Аўгусцін, — прывітаўся ён, стаўшы на яго шляху, — што робіш там у сябе на гары? Я даўно цябе не сустракаў, нават не памятаю калі бачыў. Выглядаеш, на маю думку так, нібы ідзеш у сваты...

— Э-э, добрай раніцы Францале, — адказаў Аўгусцін, не выказваючы асаблівага задавальнення ад сустрэчы з чалавекам, пра якога ведаў, што даставаў сваіх добрых знаёмых усялякімі жартамі, і баючыся, што прадмет яго тугі знікне як пара над гаршком, — гляджу сабе трошкі... э, э..

Паколькі доўгі Францал, нягледзячы на тое, што быў худы, закрываў яму свет, Аўгусцін паварочваў сваё цела то направа, то налева, каб бачыць, што адбываецца наперадзе. Францал зразумеў рухі свайго знаёмага.

— На мой погляд, — сказаў ён, хлопнуўшы Аўгусціна па плячы, — ты сочыш за дзеўкамі, га-га-га! Які шэльма!

І азірнуўшыся, ён паглядзеў у бок, куды скіроўваў свой позірк Аўгусцін, пакуль той, даведзены да роспачы, не буркнуў:

— Ну так, чаму чалавеку не глядзець у іх бок, тым больш, што я свабодны...

— Праўда твая, калі б я быў свабодны, то глядзеў бы на іх таксама. Я здзіўляюся, што ты ўжо пяць гадоў сам вядзеш гаспадарку. Гэта не жыццё! Ты сам пячэш хлеб! Наўрад ці ён добры!..

— Ну, пяку. Што рабіць, калі няма жонкі...

— І калі б твой хлеб быў самым лепшым, гэта не мужчынская праца. Ці не смяюцца з цябе там? Раскажы!

— Смяюцца — не смяюцца. Усё роўна!

— Пашлі іх да д'ябла, ажаніся і пасмяешся з іх...

— Лёгка сказаць: ажаніся… Чалавек не можа ні з кім сысціся, і няма таго, хто б адшукаў нявесту…

— Небарака! Ты што не маеш языка, каб сказаць! Скажы мне і я табе знайду нявесту. Што ты мне за гэта дасі? Бо ведаеш, задарма нават курыца не падграбае.

Аўгусцін яшчэ вагаўся, бо не разумеў, ці праўду кажа Францал, ці не робіць з яго дурня. Пытанне пра тое, што ён дасць, Аўгусціна ўсхвалявала. Ён не любіў даваць, ну, калі хочаце, гэта не было моцным яго бокам. Але ўсё было за тое, што Францал не смяецца і нявесту яму знойдзе.

— Ну, я, калі б… — прамармытаў Аўгусцін праз хвіліну, кідаючы дапытлівы позірк то на Францала, то на групу жанчын, што спыніліся пагутарыць у дваццаці кроках ад іх, краска з Чэрвена была сярод іх.

— Ну што, калі б! Кажы, ці прыкмеціў якую, а можа хочаш, каб я табе знайшоў? І што мне дасі, калі я табе дапамагу?

Аўгусцін, нарэшце, развязаў язык.

— Ведаеш, — сказаў, мігаючы вачыма і выціраючы вочы сіняй бруднай насоўкай, з якіх бясконца цяклі слёзы, — я табе скажу шчыра. Скажы мне, ці не ведаеш ты гэтую вялікую там, у зялёнай квяцістай спадніцы, на ёй чорны фартух і жоўтыя каралі на шыі. Яна мне падабаецца, гэтая для маёй душы!.. З ёю я пазнаёміўся бы.

Францал паглядзеў, гучна рассмяяўся і сказаў:

— Так, гэтая табе спадабалася! Як бачу, чалавеча, ты маеш добры густ! А ці ты яе не ведаеш? — Гэта ж Марыянка, дачка Венцала з Чэрвэнэ! Як гэта ты не чуў! Чалавеча, ты шчаслівы! Гэтую ты атрымаеш абавязкова, а калі не ажэнішся з ёю, то гэта будзе толькі твая віна, адным словам, — Францал выпрастаўся і ўзняў галаву, — калі я захачу, то ты яе атрымаеш, а калі не, то не! Памятай пра гэта! А цяпер, што ты мне дасі, калі я цябе цяпер з ёй пазнаёмлю, і што, калі арганізую вяселле? Скажы, і я падвяду цябе да яе!

Аўгусцін цяпер вагаўся.

— Ведаеш, дам табе… Пачакай, скажу…

— Толькі хутка вырашай, кажу табе! У мяне бываюць дзіўныя ідэі, прыходзяць яны да мяне не ведаю як. Я магу раптам паслаць цябе далёка, адвярнуцца і пайсці.

За пяць крокаў ад іх спыніўся і стаў каўбаснік, што пераязджаў з месца на месца, з усім сваім посудам і сваімі прыпасамі. Кіпела вада ў металічнай каструлі, дзе варыліся сасіскі, ад якіх ішоў белаваты пар і прыемны пах лагодзіў насы тых, хто праходзіў побач, заклікаючы іх да пачастунку; каля каўбасніка пекар прадаваў свае вырабы, і на яго доўгім стале ўзвышаліся цэлыя горы рагалікаў, булак, даламанак. Вакол пекара і каўбасніка тоўпіліся мужчыны і жанчыны і нешта елі, іх кішэні напаўняліся духмянымі пачастункамі, каб смакоцця хапіла і тым, хто вымушаны быў застацца дома. Тут Аўгусцін, напалову звернуты да гэтых прылаўкаў з ежаю, носам убіраў у сябе пахі і адначасова з яго вачэй цяклі слёзы па магутнай жаноцкасці; ён на хвіліну змоўк, потым сказаў:

— Я куплю табе тры сасіскі, тры каўбасы і тры салёныя рагалікі, а ты мяне з ёю пазнаёміш.

А Францал на гэта:

— Хадзем, але возьмеш пяць сасісак, пяць каўбасак і пяць рагалікаў.

Аўгусцін пра сябе гандляваў. Не мог ніяк пагадзіцца, але нарэшце перамог сябе:

— Ну, каб ты не казаў, што я сквапны, заплачу за тое, што пажадаеш.

Яны пайшлі наперад, Францал вялізнымі крокамі, я Аўгусцін за ім падскокам, ажно пакуль, не дайшоўшы да групы жанчын, Францал не спыніўся.

— А што мне дасі, калі будзе вяселле? — запытаўся ён, — калі ты мне не адкажаш, то я завярнуся і пайду, і скажу табе шчыра, што я кашляў на ўсе твае сасіскі і каўбасы.

— Ну, я б не хацеў… каб так здарылася! Калі будзе вяселле, то я цябе запрашу і дам авечку.

— Даеш слова! — кажа Францал, хлопнуўшы Аўгусціна па шырокай спіне, — цяпер усё паміж намі ясна, пайшлі! Не бойся, Марыяна, як кажуць, ужо твая. Нават здзівішся, як я гэта зраблю.

Яны падышлі да групы. Марыяна стаяла, абярнуўшыся да іх спінаю. Францал звярнуў яе ўвагу на сваю прысутнасць звыклым для той мясцовасці спосабам: яго кастлявая рука стукнула яе па самай шырокай частцы яе цела.

— Хто з мярзотнікаў! — ускрыкнула Марыяна і абярнулася рэзка. Убачыўшы Францала, яна прыгразіла яму кулаком, але пасля гэтага прыветліва і лагодна яму ўсміхнулася.

— Ну, хай Бог цябе прывітае, Марыяна, — сказаў Францал, падаючы ёй руку і смеючыся, — я ўжо і не памятаю, калі цябе бачыў. Усё добра. Ці не так? Чаго ў цябе няма? Квітнееш, на маю думку, як сланечнік. Калі б не быў жанаты, то ажаніўся б толькі з табою.

— Твая віна? Чаму ты мяне не пачакаў?

— Ну, так здарылася! — была ты тады з тым музыкантам. Але, каб ты ведала, я заўсёды цябе прыгадваю, вяду да цябе жаніха, які будзе цябе насіць на руках, калі ты пагодзішся пайсці за яго замуж. Ці ведаеш яго, гэтага?

Ён паказаў на Аўгусціна, які стаяў у двух кроках ад іх і любезна ўсміхаўся, пры гэтым з вачэй яго цяклі слёзы. Трое дзяўчат, што стаялі побач з Марыянай, узарваліся нястрыманым гучным смехам. Вочы Марыяны спыніліся доўім позіркам на Аўгусціне, які, працягваючы ўсміхацца, абдымаў сваім позіркам яе магутную фігуру. На яе твары з'явіўся выраз, які характэрны для чалавека, што выконвае напружаную разумовую працу, яна ўспаміінала, ці ведае яго, ці бачыла калі і дзе. Намаганні былі марнымі, бо нічога не ўспомніла. Затое адна з дзяўчат сказала:

— Я яго ведаю. Гэта Якуб Марцін Аўгусцін са Жданава.

— Так? Гэта той! Чула я пра яго, — сказала Марыяна.

— Ну, безумоўна, чула, — сказаў Францал, — хто пра яго не чуў? У Аўгусціна лепшая гаспадарка ва ўсім Жданаве, і ў лесе і на гары ён, як гэта кажуць, гаспадар. Перш, чым разважаць, хто яго хоча, неабходна дзесяць

разоў падумаць, ці патрэбны ён. Калі б меў добрую жонку, то грошы б клаў у банк. Акрамя таго, Аўгусцін настолькі добры, што няма яму роўні. Жанчына, што пагодзіцца пайсці за яго, будзе жыць як на небе. Гэта табе кажу я, Марыяна. А мяне ты ведаеш, і ведаеш, што не кажу пустое…

— Гэта святая праўда, — падтрымала яго адна з дзяўчат, — як у небе будзе яго жонка, таму што да неба ёй ужо не будзе далёка. Але да пекла таксама не, ажно пакуль усе не прападуць у нейкай там шахце разам з хатай і ўсёй гаспадаркай, як карова, што ў яго прапала…

— Маўчы, ты з тых, хто кажа пустое! — абурыўся Францал, — ты нічога не разумееш! Хто табе казаў, што ў яго прапала карова? — яна правалілася ў шахту, але ж не прапала! Што ты да нас прыліпла? Пра цябе, вясковая прыгажуня, Аўгусцін ніколі б і не падумаў, бо сухая, як дошка, што выдралі з плоту. Ідзі дахаты і залезь у свой склеп, каб сонца не высушыла цябе яшчэ болей!

Дзяўчаты зноў засмяяліся і разам з імі тая, якую прабралі. Смяялася і Марыяна, смяяўся ўвесь у слязах Аўгусцін і нарэшце Францал засмяяўся таксама, пасля чаго зноў пачаў хваліць Аўгусціна.

— Марыяна, паслухай! — сказаў ён, — я табе кажу, што Аўгусцін надзвычай добры, але ён болей, чым проста добры, ён, як гэта кажуць, шчодры кавалер, якога не знойдзеш на адлегласці пяці міль у акрузе. Ці ведаеш ты, што як толькі цябе ўбачыў, то нават мне сказаў, што цябе так пачастуе, як ты ў жыцці не ела? Бачыш там таго каўбасніка? — дык з'ясі сасіску і каўбасу, ён за ўсё заплаціць, каб ты наелася, як патрэбна. — Ну. што я казаў? — звярнуўся ён да Аўгусціна і мігнуў яму так моцна і выразна, што гэта ўбачылі людзі, якія стаялі за дваццаць крокаў ад іх. — Давай! Пакліч яе, каб не падумала, што я нашу вецер або нават, што манюка!

Пры гэтых словах Францала твар Аўгусціна выцягнуўся і яго нізкі лоб нахмурыўся. Аўгусцін вагаўся, але нарэшце змог прадраць сваё сціснутае горла.

— Ну — і-о-о-о, — сказаў ён, — пайшлі, Марыяна. На нейкую сасіску чалавек заўсёды знойдзе грошы.

— Ты чула, Марыяна, — зноў узяў слова Францал, — а цяпер бачыш, што я табе не маніў, калі казаў, што Аўгусцін кавалер. Гэта кавалер ад нараджэння, а што ён не ведаў, яго навучыў залужскі пан ляснічы, з ім ён адно цэлае. Пайшлі, можа, зможам і мы там паесці, бо народу, як вераб'ёў на смецці.

Яны пайшлі наперад, тры дзяўчыны за імі.

— За мяне Вы таксама заплоціце, хросны, ці не так? — спытала адна з дзяўчат.

— А за мяне таксама, — азваліся абедзьве гучна, і скокі вакол і сярэбраны смех, але Аўгусціну было не да смеху.

— Ну, — зарохкаў і працёр слязлівыя вочы рукавом ён, — то б… сказаў бы…

Але Францал не даў яму скончыць, ён схапіў Аўгусціна за палу і зашаптаў яму ў вуха:

— Калі наважышся зрабіцца скнарай і зрабіць з мяне манюку, я ў момант ад цябе адыду, і ручаюся, што Марыяна пойдзе за мной. Ты настолькі зняславіш сябе, што будзеш памятаць да смерці, ты, дурны няўклюда!

І тут жа, павярнуўшыся да дзяўчат, сказаў смеючыся:

— Вы нават казаць яму гэтага не павінны, дурныя індычкі! Само сабой зразумела, што ён заплаціць за вас столькі, наколькі вы зможаце паесці. Вы яго не ведаеце, думаеце пра яго не тое і гэтым яго прыніжаеце!

І пачалося вялікае баляванне ля стала каўбасніка, зубы і страўнік усіх частаваных незвычайна сябе засведчылі, асабліва Марыяна ўсіх здзівіла, калі ўсе яе пажаданні былі выкананы, то яна паставіла рэкорд усім будучым пакаленням. Толькі Аўгусцін быў на бяду памяркоўным, у яго трэсліся рукі, нават было дзіўна, як з іх не выпала адзіная сасіска, якую еў. Канец быў, калі ён заплаціў каўбасніку і яго суседу пекару разам больш за палову трэці залатога, бо сасіскі і каўбасы былі на чатыры крэйцары, а таварыства, добра паеўшы, весела разышлося. Развітваючыся з Аўгусцінам, Марыяна падала яму руку з салодкай, шматабяцаючай усмешкай і тым самым трошкі заспакоіла боль ад растання з грашыма.

Так Аўгусцін пазнаёміўся з Марыянай з Чэрвэна, але напачатку яго вельмі прыгняталі думкі пра грошы, якія патраціў у гэтым выпадку, аднак ішлі дні і вобраз гэтай дзевы зноў і зноў узнікаў у яго памяці, суцяшаў яго боль, а заляцанні, калі ён наведваў Чэрвэна, прынеслі яму столькі задавальнення, што ён у хуткім часе ўсё дрэннае забыў. Наогул, па прычыне вялікай аддаленасці ён не мог яе наведваць часта, затое іх сустрэчы былі для яго святам і было дастаткова, каб ён з ёю добра пазнаёміўся і зразумеў, што яна вясёлая, працуе за траіх і не ведае ані фальшу, ані крывадушша. Усё, што ён у яе бачыў, што чуў з яе вуснаў і з расказаў пра яе, сведчыла пра тое, што крыўды і нягоды, якія выпалі на яе долю, не толькі яе не надламілі, але ў барацьбе за жыццё яе загартавалі, абудзілі праніклівасць, вышкалілі, і гэта Аўгусціну вельмі спадабалася. Ён убачыў яе самастойнай жанчынай, якая спалягала на сябе, умела працаваць, калі гэта было патрэбна, і з усяго, што яе напаткала, злога і добрага, магла атрымаць выгоду. Сваіх двух сыноў — старэйшаму было восем, малодшаму — пяць гадоў — яна выхоўвала, як умела і магла. Іх знешні выгляд сведчыў пра тое, што не ведалі нястачы, кіпелі здароўем і выглядалі, як пара бычкоў; яна дакладна яму расказала пра тое, што шмат цяжкасцей з імі зведала, да прыкладу, калі ў хаце нешта пашкодзілі або адзенне на сабе падралі, што яму таксама падабалася і адпавядала яго педагагічным прынцыпам, хоць павінен быў прызнацца, што мала ў гэтай галіне цяміў. Даведаўся ён і пра гісторыю гэтых хлопцаў. Старэйшага ёй пакінуў калісьці музыкант, на якога яна патрапіла, калі ёй было дваццаць год, з ім яна паехала ў шырокі свет, дзе і пражыла два гады. Калі дзіця нарадзілася ў маленькім гарадку Баворжых, каханы яе кінуў, знік як камень у моры, і яна засталася з дзіцем у вялікай бядзе і несла дадому на руках сынка, якому было толькі пяць тыдняў, прайшоўшы за шэсць дзён трыццаць міль. Бацькі ўжо не было на свеце, а брат, які жыў у хаце, яе сустрэў дрэнна і нават хацеў выгнаць з дзіцем. Але яна пры гэтым запытала:

— Ты хочаш мяне выгнаць? — Дык трэба выганяць з хаты абодвух: аднаго, якога выганяюць, і другога, што застаецца. Спачатку заплаці мне маю долю, сто залатых, якія мне належаць, і нават тады мяне яшчэ не зможаш выгнаць, таму што я не да цябе прыйшла і не да гэтай скнары, тваёй жонкі, якая выглядае, як брудны венік, і прынесла табе ў пасаг дваццацігадовую карову і два дрэнныя кавалкі поля, каб угнаенне ты бясконца насіў на спіне, трэба каб яна яго насіла, гэтая здохлая лінь! Я прыйшла да матулі, каб ведаў! Матулі яны адвялі чорную свяцёлку, там я цяпер жыву. Не трэба баяцца, што мы цябе будзем аб'ядаць, бо я ведаю, што ты і без гэтага бядуеш і маеш самае горшае, што ты, небарака, сам не наешся і што ты скнара! Я палепшыла тваё жыццё, бо мне не трэба клапаціцца пра муку, мы намалолі яе шмат рознай, а таксама маем усялякіх вотрубяў больш за жыта, так што ні тваю зеляніну, ні тваю бульбу мы не елі б!...

Калі Марыяна перамагла варожыя сілы, ёй хацелі зрабіць немагчымым вяртанне дадому, каб яна засталася са сваім дзіцем, а маці схілялі на бок брата, які сястру не прыняў, але маці пацвердзіла ў хуткім часе, што дачка для яе важней за сына і нявестку. Аднавяскоўцы, у якіх не хапала маладых, працавітых рабочых, бо тыя паехалі з вёскі ў гарады, пераканаліся ў тым, што Марыяна здатная да любой працы, і дзяўчына працавала добра і нястомна, тым больш, што ёй не перашкаджала дзіця, якое даглядала маці.

Марыяна хутка забылася пра каханага, які яе пакінуў. Іншыя хлопцы яе зацікавілі, сярод якіх быў сын селяніна з суседняй вёскі, малады хлопец, якому ледзьве споўнілася васемнаццаць гадоў, і праз некаторы час пасля яго вяртання з Бавор яна даведалася, што нашчадак музыканта не будзе адзіным яе дзіцем, яна смела сышлася са сваім каханкам і пыталася без страху, што ён збіраецца рабіць. Будучы малады бацька заявіў, што ён з ёю ажэніцца, але трэба пачакаць, пакуль не высветліцца, што будзе з пагражаючай яму ваеннай службай. Гэтым адказам Марыяна не задаволілася, бо яна практычна глядзела на свет і людзей, таму і звярнулася да яго, кажучы:

— Ты што, сапраўды думаеш, што я буду чакаць цябе пяць або шэсць гадоў, пакуль ты не вернешся са службы, каб урэшце рэшт ты са мной не ажаніўся? Як вернешся, то знойдзеш нявесту з грашыма, або цябе прыжэняць там, дзе добрая гаспадарка. Мы з табой дамовімся інакш. Ідзі дахаты і скажы ўсё бацькам. Калі гэтага не зробіш, то зраблю я сама. У мяне будзе пратакол, які падпіша суддзя, і тады паглядзім. Ажэнішся потым з той, якая табе спадабаецца або якую табе знойдуць бацькі, а я ўсё зраблю так, як захачу.

Пасля гэтых слоў стала зразумела: бацька хлопца паабяцаў, што возьме на сябе ўсе матэрыяльныя клопаты, звязаныя з нараджэннем яго ўнука, больш таго, як толькі немаўля ўбачыць белы свет, то атрымае ад дзядулі дзвесце залатых, а таксама выплаціць ўсё, што трэба, маці дзіцяці, пасля чаго яна заявіла, што задаволеная і ніякіх перашкод бацьку свайго дзіцяці чыніць не будзе. Усе былі задаволеныя і ўсе выканалі свае абавязкі: Марыяна праз тры дні пасля нараджэння свайго другога сына пайшла працаваць у добрым і вясёлым настроі.

Пра ўсё гэта даведаўся Аўгусцін, як і пра шматлікія іншыя падрабязнасці жыцця Марыяны, і не было нічога, што магло б выклікаць недавер, расказы Марыяны акраплялі яго душу, як асвяжаючая вільгаць расы на сухую зямлю яго роднага наваколля, і ўсё паступова прыводзіла яго да практычнай думкі пра тое, што было б добра, каб яна стала яго сяброўкай жыцця, і такім чынам целам і душой звязала сябе з яго домам. Асабліва яго ўсцешыла, пра што даведаўся ад яе, што схавала і сёння трымае ў сябе дзве сотні, якія ёй даў бацька яе былога каханка. Гэтыя дзве сотні мелі для яго столькі прывабнасці, як магутныя дзве вяршыні гары Кармэл, што апяваліся ў Песні песняў каралеўскага паэта Саламона.

Так сталася, што Аўгусцін адчуваў сябе нейкі час па-сапраўднаму шчаслівым і з асалодай чакаў тое, што павінна было прыйсці да яго і пазалаціць яму ўвесь божы свет. Але ж, на жаль! Зайздросны лёс не прыносіць ніякаму смяротнаму бязвоблачнага шчасця.

У адзін з прыгожых летніх вечароў, калі Аўгусцін знаходзіўся ў сваёй абранніцы, яна яму паведаміла, што ў наступную нядзелю яна збіраецца пагасцяваць у яго на гары, каб паглядзець месца і дом, душой якога яна павінна стаць.

І прыйшла. Аўгусцін чакаў яе ўнізе, на месцы, дзе, збочыўшы ад асноўнай дарогі, сцежка вяла ў бок вяршыні. Ён стаяў у святочным уборы, горда ўскінуўшы галаву, і ўзрадаваўся той нагодзе, што прывяла сюды дзвюх суседак, а тыя, спаткаўшы яго з нявестай, застылі на месцы і вылупілі вочы. “Будзе гаворкі! — падумаў ён, — але ўсё, што яны могуць сказаць, звядзецца да таго, што яго Марыяне няма роўнай ані ў Жданаве, ані ў Ідэрцы, ані ў Каўрліку, ані ў Злібсіх. А што, хай убачаць яе Нездычцы!”

Толькі калі яны падняліся на гару, яму стала надзвычай балюча. Статная Марыяна, убачыўшы яго хату, пляснула ў далоні і сказала пра яе без усялякай пахвальбы:

— Што? Я сюды павінна перабрацца? Тут жа ў сцяне расколіна аж да зямлі! Гонта на даху жахліва прагнулася! Колькі жыву, ніколі не бачыла такой лядашчай хаты!

Аўгусцін куды менш спалохаўся б, калі б грымнуў гром, чым такой крытыкі яго спадчыны, калісьці атрыманай ад бацькі.

— Ну, бачыш, — залямантаваў ён, — сапраўды... скажам... спарахнела, гэта праўда, але ж, каб Бог дапамог... яна яшчэ б дваццаць гадоў прастаяла б... Страху мы абнавілі б... гонту дастану, бо пан лясьнічы з Залужжа дасць мне ўсё, што я папрашу...

— Не, не, — перапыніла яго Марыяна, — нават не думай, што я перайду ў такую развалену хату! Яшчэ, хвала Богу, людзі мяне паважаюць, і як бы яны маглі паважаць мяне далей, калі б даведаліся, што я атрымала... І потым, няхай хто-небудзь пагладзіць на гэта!...

Яна падышла да дзвярэй, што вялі да стайні. Яны былі спарахнелыя і ледзьве з вушака не выпадалі. Адчыніўшы іх, яна зазірнула ўнутр.

— Гэта хлеў! — сказала. — Гусей я сюды не пусціла б, а тым больш жывёлу! Перагародкі зусім пагнілі, уласна кажучы, іх зусім няма, а чаму

такая нізкая падлога, гной не можа сцякаць. Жывёла стаіць па шчыкалатку ў брудзе і ў брудзе таксама ляжыць. Вось чаму цяляты здаюцца аблезлымі, нібы спарахнелі.

— Зробім новыя перагародкі і вычысцім усё, — кажа Аўгусцін.

— А столь пакідаеш, ці не так? Столь з напалову спарахнелых бярвёнаў, якія яшчэ сёння могуць абваліцца! А якія вузкія гэтыя дзверы! Я праз іх не прайду... а якія нізкія. Не, не, Аўгусцін, — працягвала яна далей, — дарэмна дамаўляешся са мной! Нават калі б мяне цягнулі два валы, то і тыя не змаглі б выцягнуць. Калі хочаш, каб я ў цябе тут вяла гаспадарку, то перасып гэтыя спарахнелыя пабудовы і зрабі новыя. Калі зробіш гэта, добра! Пайду за цябе. Калі не, то заставайся з Богам! Прыводзь сюды жонку, якая пажадае тут застацца, а я ёй зайздросціць не стану. Пакуль усё не зменіцца, маёй нагі тут не будзе. Бо я так хачу!

І нават не ўвайшла ў святліцу, нават кавалка хлеба ў яго не з'ела, нават з яго дзецьмі не паразмаўляла, што прыйшлі ў хату на яе паглядзець і селі напалохана ў кутку, каб убачыць яе здалёк. Яна пайшла ў хуткім часе ў надзвычай дрэнным настроі і нават не падала яму руку пры развітанні.

Калі праз тыдзень ён з'явіўся да яе, то спытала яго адразу замест прывітання, калі пачнецца будаўніцтва. Ён адказаў, што цяпер няма часу, бо ідзе нарыхтоўка сена і пачынае займацца жытам.

— Ну дык неабходна адбудаваць стадолу, каб там усё змясціць, а што тычыцца перабудовы дома і хлява, то патрэбна ўжо цяпер пачынаць іх перасыпаць, каб да зімы скончыць усю работу.

— Гэта немагчыма, — адказаў ён, — бо няма дзе падзецца з дзецьмі і жывёлай, а акрамя таго няма грошай.

— А ці многа на гэта патрэбна?

— Я палічыў, але недакладна, бо калі пагаварыў з будаўнікам, то ён сказаў шэсцьсот і нават болей, але гэта пакуль размовы.

На гэта яна:

— Ведаеш што? Каб ты зразумеў, што я цябе не ганю, скажу табе нешта. Калі гэта не будзе каштаваць больш за шэсцьсот, то можаш пачынаць працу. Я дам табе дзвесце сваіх і акрамя таго яшчэ сотню, якую павінен мне выплаціць брат, а трыста я пазычу ў касе. Але на гэтым тыдні пачнеш працу. Перагавары з будаўнікам і прыйдзі сюды, раскажы мне, як вы з ім дамовіліся. Але калі не хочаш нічога рабіць, то паміж намі ўсё скончана і сюды больш не прыходзь.

Назаўтра Аўгусцін накіраваўся да Кашперскіх Гор, каб пагаварыць з будаўнікам і прывесці яго да сябе на гару. Будаўнік усё прагледзеў, узяў у руку ручку і паперу, усё палічыў і праз паўгадзіны цяжкай разумовай працы падзяліўся з Аўгусцінам яе вынікамі. І той даведаўся, што нават калі купіць танна дрэва, то будаўніцтва будзе яму каштаваць васемсот пяцьдзесят залатых. Аўгусцін страшна напалохаўся і сказаў, уздыхнуўшы:

— Калі я столькі пазычу, то застануся без жывёлы.

Калі ён гэтым падзяліўся са сваёй багатай Марыянай, і дадаў толькі, што не знойдзецца чалавек, які яму падпісаў бы вексель на 550 залатых, вось

чаму няма магчымасці пачаць перабудову гаспадарскага двара, яна страшна разгневалася, кінула яму ў твар некалькі абразлівых слоў і выразаў, і акрамя таго сапраўднае палена, каб памятаў, як хацеў ён зацягнуць яе ў жыццёвы бруд, і заявіла, што ні пры якіх умовах не пагодзіцца жыць у мізэрнай і разваленай хаце, якую ён атрымаў у спадчыну ад бацькі.

— Прэч з маіх вачэй, небарака, — гэтымі словамі яна скончыла сваю прамову, — і больш тут не паказвайся! Я шкадую пра кожную хвіліну, што правяла з табою! Такіх, як ты, я кожны дзень дзесяць знайду. Але ж калі ёсць такі, то лепей застацца самотнай. Дзеля цябе я не ператваруся ані ў мыш, ані ў крата, каб жыць у бруднай дзіры.

Усялякія размовы, просьбы і абяцанні Аўгусціна, каб крыху мела цярпенне і з часам нешта палепшыцца, былі дарэмнымі: рашучая Марыяна стаяла на сваім, што не хоча яго бачыць і хай шукае шчасце ў іншым месцы.

Зусім засмучаны Аўгусцін сабраўся нарэшце на зваротную дарогу да Жданава. Доўгім і цяжкім здаўся яму гэты шлях прыгожым цёплым летнім вечарам. Яго мары пра будучае шчасце ператварыліся ў нішто і расцякліся па днях і месяцах, поўных салодкіх падзей, а засталася толькі горыч, што запаланіла яго думкі. Чым далей ён разважаў пра тое, што з ім адбылося, тым менш разумеў упартасць Марыяны, таму і сказаў сам сабе:

— Ліха яго бяры, хай гром грымне! Я ў тым доме жыву колькі гадоў, бацька жыў і нічога не звалілася на нас! І раптам, гэта зваліцца!... Няма ў гэтай бабы розуму, а толькі мае ўпартую мазгаўню!... Ніводная з баб не мае розуму! Яна ж магла б пяць або шэсць гадоў жыць са мной там, дзе я цяпер жыву!... Прынесла б мне дзве сотні і мы разам працавалі б і гаспадарылі, а потым нешта было б. Дзеці паступова б падрасталі і таксама працавалі... Так мы б нешта сабралі б і збераглі б, але яна кажа "не" і не хоча чакаць!... а я мусіў такую пазыку ўзяць, каб уваліць грошы ў нішто і за нішто! Яна хоча жыць, як прынцэса, пад новым гонтам!... Узяў бы чорт гэтую жаночую пыху!... Толькі парады дае, і нічога акрамя парад, а муж слухаў бы гэтыя парады і рабіў пазыкі для яе!

Ён сплюнуў, хвіліну пастаяў і выцер сіняй бруднай насоўкай пот, які сцякаў з ілба, потым зноў пайшоў цяжкай дарогай, працягваючы размову сам з сабой:

— Для сваёй душы, Пан Бог ведае, я ўжо не знайду чалавека. Як прыгадаю той момант, калі я з ёю пазнаёміўся ў горадзе, дык злосць мяне бярэ! У касцёл хаджу, Богу малюся, каб душу маю захаваў! Чорт прывёў на мае вочы гэтага Францала з Аплатэнца!... Ён на маё вяселле прыйдзе, а я яму авечку паабяцаў за тое, каб нас звёў!... Ёо-о-о — на вяселле прыйдзеш хлопец і авечку павядзеш дахаты! Толькі з'явіся тут, як я табе так дам той вяроўкай, на якой ты хацеў весці авечку! Як успомню пра сасіскі і каўбасы, што вы жэрлі і за якія я вымушаны быў заплаціць палову трэці залатога, дык мне і цяпер шкада грошай да смерці... Толькі Марыяна іх з'ела дзесяць, ды яшчэ ўзяла з сабой для маці і дзяцей!...

Ужо змяркалася, калі ён дайшоў да Ідэрца. Аўгусцін адчуваў, нібы велізарная, падобная на конус макаўка ўзгорка, што быў злева ад яго, чарнее

і пагражае зваліцца і што цёмны хрыбет высокай гары Гайдэльскай, які ўзвышаўся за яго спінай, пахіліўся і кінуўся за ім, каб назаўжды пахаваць яго ў сваім чэраве. Калі праходзіў праз вёску, то яму ўсміхнуўся святлом вокнаў мясцовы шынок, і Аўгусціну здалося, што ён знайшоў надзейны прытулак, і нават думкі не было, што гэта можа быць небяспечным, бо звычайна ў цяжкія часы звыкся запіваць півам душэўныя пакуты і ўсю горыч, што прыносілі людзі і абставіны.

Ён увайшоў у шынок і сеў сярод гучна размаўляючых знаёмых і радні з адзіным жаданнем утапіць гора. Працягвалася гэта не доўга, бо піў піва хутка, а потым развязаўся яго язык і паведаміў Аўгусцін дзіўныя рэчы.

— Што? Ліха яго бяры! Каб паслухаўся яе і разбурыў гэтую праклятую хату! І гэта пры тым, што мяне ніхто не наведвае, нават яна!.. Кажа мне: разбуры гэтую і пабудуй новую, нібы я Ротшыльд, і магу рабіць глупствы!... Мне не падабаецца гэтая хата, так, гэта праўда, і хай чорт яе возьме... Як гэта разбурыць? Лепей хай згарыць, чортава хата, хай выгарыць аж да падмурка! Нам бы далі грошы на дом, за які я плаціў бы дзесяць гадоў. Аднак пакуль не згарэла! Д'ябал на яе! Каб Пан Бог даў!... Я б за васемсот залатых пабудаваў такі дом, што людзі прыходзілі б з горада на яго паглядзець!...

— Што ты такое кажаш, асёл! — перапыніў яго сусед і прыяцель, — трымай пры сабе свае мары! Калі раптам у цябе згарыць хата, то людзі прыгадаюць твае словы і скажуць, што ты сам падпаліў свой дом.

Аўгусцін некалькі разоў кіўнуў галавой, прычым стукнуўся носам два разы аб край сваёй шклянкі, памахаў рукамі ў мазалях, нібы хацеў схапіць густое паветра, аднак піва працягвала аповед далей:

— Скажу, дык скажу, і-о-о-о! Скажу вам такое! Я ведаю ***нешта***! Памятай пра гэта, Вінцэк, што калі аднойчы загарыцца хата, ты не будзеш казаць, што я вол. Згарыць, кажу табе, усё знікне з усім, што ёсць у хаце, усё возьме чорт! Чалавек не страціў галаву і ведае нешта, за што заплацяць удвая больш, чым за добры ўраджай. То табе кажу я... і калі б гэта здарылася, то ты б зразумеў, што іншыя пра гэта нічога не ведаюць. Чаго Бог не даў, тое за грошы не купіш!.. Але бурыць гэта, гм, не! І калі б прыехаў з Сушыцэ пан, павятовы начальнік і сказаў: "Аўгусцін, патрэбна хату разбурыць! — то я б яму адказаў: "Міласэрны пане, вельмі Вас прашу, не трэба! Няма на свеце закона і няма чалавека, які б мог мне загадаць, каб я яе разбурыў!..."

Гэтыя словы чула некалькі мужчын, якія смяяліся, бо яны іх забаўлялі. А прыяцель Вінцэк сказаў:

— Няўжо вы не бачыце, што ён перабраў, што за яго гаворыць піва. А ты, Аўгусцін, калі не можаш трымаць язык за зкубамі, то ідзі дахаты. Я пайду таксама.

Аўгусцін трошкі паўпарціўся, але нарэшце пайшоў, не перастаючы па дарозе гаварыць пра ***нешта***, пра што ён ведае, што можа здарыцца, а калі здарыцца, то ён атрымае добрыя выгоды. Але хату разбіраць ён не будзе, а калі Марыяна хоча, каб ён знішчыў свой дом, то хутчэй яе кіне. Так трэцюю частку дарогі Аўгусцін наўзрыд плакаў па Марыяне.

Прайшло чатырнаццаць дзён. Быў прыгожы летні вечар, сонца схілілася над чорным з выступаючымі вершалінамі лесам, якім парасла Гайдэльская гара; невыказна прыгожае фасфарысцуючае ззянне нібы пералівалася праз яе выцягнуты хрыбет, і з глыбокага стромкага схілу, што спадаў да Выдры ракі, успыхнуў захад сонца ў сакавітых рудых, агнявых, фіялетавых і зялёных танах, які паступова ператвараўся ў цудоўны цёмнасіні, аблямаваны залатым вэлюмам, што зграбнымі, мяккімі складкамі абдымаў чорныя дрымучыя лясы, якімі параслі то тут, то там шэрыя скалы, і зялёныя пожні; а блакітны небакрай, што распасцёрся над лясамі, хрыбтамі і вострымі вяршынямі гор, напоўніўся лёгкім ружовым і фіялетавым паветрам, і сярэбраныя хмаркі, што плылі па небе, палалі асляпляльным золатам.

Аўгусцін вяртаўся з палявых работ, і ледзьве цягнуў ногі, бо быў надзвычай стомлены. У гэты дзень ён касіў авёс з ранку аж да другой паловы дня, потым паабедаў і працягваў працу аж да змяркання. Касіў ён сярпом, бо ведаў па ўласным вопыце, што касой нельга добра скасіць авёс. У двары ён паклаў мсерп на сухое галлё і падняўся наганак сваёй хаты-развалiны, пацягнуўся, нібы хацеў разагнуць стомленую спіну, загледзеўся на гульню колераў на захадзе сонца, панюхаў тытунь і прабурчаў:

— Няхай праваліцца гэтая катарга! Я цалкам зламаны! Ці мужчынская гэта работа жаць! Серп падыходзіць толькі жанчыне. Гэта не жыццё! Ах, каб была тут Марыяна!… Але не, хай будзе праклятая гэтая баба!

Ён выцер брудным рукавом засмяглыя вусны і слёзы з вачэй і твару, панюхаў яшчэ раз тытунь, высыпаўшы яго з бутэлькі з каляровага шкла на сваю шырокую далонь, і зноў паглядзеў на пакрытую шэрым змрокам раўніну, дзе жылда тая, па якой столькі тужыў, потым правёў позіркам вяршыні ўзгоркаў на захадзе.

— Ну, — сказаў ён ужо больш задаволена, чым хвіліну перад гэтым, — Бог дасць, папрацую яшчэ так два дні і ўсё будзе ў парадку па гаспадарцы. Хвалда Богу, ураджай сёлета добры і кармоў хопіць на зіму…

Хлопец Філіп прыгнаў скаціну з поля і загнаў яе ў стайню, гаспадар увайшоў за ім у стайню, даў валам і каровам перад вячэрай накошанай ў лесе травы, цялятам наліў ў карыта ашпараных і перамяшаных з вадой да рэдкай кашы вотрубяў, паклаў туды таксама лясной травы, пры гэтым пра сябе пракляў свайго сына Філіпа, які хуценька збег са стайні. Выканаўшы гэтую справу, Аўгусцін вярнуўся ў святліцу, дзе сеў за стол. Адэла наліла ў вялікую міску аж да краёў гарачага кіслага супа з зеляніны і пакраіла разам з бацькам на дробныя кавалкі самаробны хлеб, настолькі цвёрды, што яго трэба было спачатку размачыць, каб з'есці. Тут прыгнаны, няйначай, голадам, прыйшоў Філіп і ўсеўся на значнай адлегласці ад бацькпі і скоса на яго паглядаў. Але бацька еў, нібы нічога не адбылося, і хлопец калека, які сядзеў разам з ім зап сталом, еў таксама, таму нарэшце і Філіп пацягнуўся за ежай. Праз хвіліну Аўгусцін скончыў есці і пайшоў да дзвярэй, але як толькі дайшоў да іх, рэзка павярнуўся і, паглядзеўшы на Філіпа, як кот на мыш, схапіў яго за чупрыну левай рукой, а правай два разы моцна ўдарыў, сказаўшы пры гэтым:

— Каб ты больш не ўцякаў ніадкуль, лайдак няшчасны, палена гнілое! Гэта табе за тое, каб больш не рабіў так, як сёння!... Потым людзі будуць казаць, што ў мяне жывёла стаіць і ляжыць у багне. А мне гэта не ўсё роўна, каб ты ведаў, небарака!

І ўдарыў сына трэці раз па галаве.

— Гэта добра, што ты атрымаў, — азвалася Адэла, — а то я павінна даіць карову ў мокрым стойле.

— Ты сама магла б ёй падаслаць сена, — адказаў хлопец, плачучы, але ўсё ж задаволены тым, што на гэты раз абышлося без вяроўкі, якую ў падобных выпадках выкарыстоўваў бацька, — чалавек не можа ўзсё зрабіць, калі яму патрэбна пасвіць жывёлу...

— Ціха і дастаткова! — загадаў бацька, — вы абодва неданоскі!

Праявіўшы такім чынам свой бацькоўскі аўтарытэт, Аўгусцін лёг, а дзеці таксама пайшлі спаць. А дзевятай гадзіне ўжо ўсе спалі, і дзеці, што налёталіся за дзень, і людзі, якія шмат напрацаваліся...

Аднойчы апооўначы, гадзіны ў дзве ночы малодшае дзіця паклікала:

— Тата, Адэла! Я баюся, нешта трашчыць!

Ніхто яму не адказаў, бо бацька храпеў так, нібы працавала піла.

— Тата, тата! — зноў пачало крычаць дзіця, страшна напалоханае.

— Ну, што здарылася? — спытаў бацька, прачнгуўшыся, — які чорт цябе ўзяў, гаўнюк?

— Я баюся! Вы што не чуеце, як трашчыць...

Калека, які таксама прачнуўся, пацвердзіў, што таксама чуе нейкі трэск і грукаі.

Аўгусцін устаў з олжка і прыслухаўся... Сапраўды, дзеці не памыліліся... Нейкі глухі грукат чуўся ў яго вушах.

— Пэўна, навальніца пачалася, — сказаў, — хто б мог падумаць? Сонца так прыгожа заходзіла.

Але грукат усё узрастаў... і шыпела і ляскатала.

— Гарым! — закрычаў Аўгусцін і саскочыў з ложка.

— Гарым! Гарым! — завылі дзеці і пачалі крычаць. І тут руды жар паліўся звонку ў святліцу...

Аўгусцін схапіў на рукі скалечанае дзіця і кінуўся да дзвярэй. Адчыніў іх і спыніўся — едкі дым паваліў яму насустрач, полымя знішчала ўсё навокал, над ім гарэла столь з бярвёнаў у калідоры, гарэлі прыступкі, што вялі ў двор. Закрыўшыся палою адзення ён выбег у двор і пасадзіў дзіця на траву, а потым пабег за наступнымі дзецьмі. Але ўвайсці ў дом было немагчыма, бярвёны, з якіх была зроблена столь, паваліліся з грукатам і калідар знік у полымі. Тут ён, не разважаючы ніводнай хвіліны, падскочыў да аднаго з вокнаўдома і разбіў некалькімі ўдарамі ў шыбу.

— Сюды! Сюды! — клікаў ён шалёна дзяцей.

Адэла пралезла праз шчыліну, за ёй Філіп падаў самае малодшае дзіця і нарэшце выскачыў сам. Яны былі выратаваны ўсе, бо праз імгненне столь абвалілася, а агонь ахапіў святліцу...

Толькі цяпер да яго слыху даляцеў жудасны роў жывёлы, зачыненай у стайні. Усхваляваны і напалоханы, ён кінуўся яе адвязваць і выпускаць з памяшкання. Страха над стайняй палала, як вогнішча, вялікі слуп белаватага дыму ўздымаўся аж да неба, а ў густых яго клубах палыхаў руды агонь; гарэла цэлая капна сена, нарыхтаваная ў гэтым годзе.

Ён адчыніў дзверы стайні. Жывёла страшна раўла, жудасна ўздымаючыся і падскокваючы, рвала вяроўку, якой была прывязана да жолабу; частка столі ўжо згарэла, і дождж палаючага сена сыпаўся на бедную жывёлу, пад імі пачала гарэць сухая падасланая салома, якую гаспадар з вечара пад яе накідаў. Увайшоўшы ўнутр ён змог адвяхзаць гадавалага бычка, які знаходзіўся бліжэй да дзвярэй, але дым перахопліваў дыханне, і ён вымушаны быў выйсці з хлява, каб не задыхнуцца. Яшчэ раз Аўгусцін паспрабаваў увайсці ў памяшканне і пад страшным дажджом з агню і з вялікімі намаганнямі, рызыкуючы жыццём, бо на яго налятала звар'яцелая ад агню жывёла, адвязаў аднаго вала і той выскачыў са стайні і пабег у поле, а гаспадар за ім, каб глынуць паветра.

Прыбег сусед, які хацеў разам з ім увайсці ў хлеў, але ўжо не было магчымасці.

На іх палыхнуў агонь, як з пекла, чуўся жудасны роў жывёлы, пранізлівы бразгат ланцугоў, якія тыя моцна трэслі. І з віру гэтай геенны вогненнай выскачыла раптам карова, якая, ашалеўшы парвала ланцуг, адштурхнула ўбок Аўгусціна, які стаяў у яе на дарозе, прабегла дваццаць крокаў, потым павалілася на зямлю і здохла. Яе шкура была абпалена агнём, задняя частка цела напалову абгарэла, абодва рагі абламаныя а з нагі цякла кроў. Страшная, жудасная карціна!

У гэты момант абвалілася страха над стайняй, велізарны слуп агню ўзняўся да неба, шырока разлілося рудое зарыва і роў жывёлы заціх, толькі трашчаў агонь і падаючыя з даху бярвёны глуха грукаталі.

Праз некаторы час усё скончылася — ад хаты, стайні і стадолы засталася куча абгарэлых руін.

Толькі цяпер Аўгусцін зразумеў, што страціў. Ён стаяў, заламіўшы рукі і паўтараў:

— Мая жывёла! Мая бедная жывёла!... Мае бедныя дзеці! Хто вас накорміць, калі не будзе малака!...

Толькі цяпер прыбеглі суседзі, калі ўжо не было магчымасці дапамагчы, не было нават вады, каб заліць полымя. У гэты момант Аўгусцін зусім не памятаў, што зусім нядаўна казала выпітае ім піва ў Ідэрэцкім шынку, затое сусед гэта прыгадаў.

— Што? Гэты? — спытаў ён, — гэты яшчэ будзе скардзіцца? Ён сам сябе падпаліў!

Слова было сказана і знайшло свой водгук у натоўпе. Рукі сціснуліся ў кулакі і здзіўленыя, пагражаючыя погляды звярнуліся да Аўгусціна. Той толькі цяпер прыгадаў, усё успомніў і адвёў вочы.

— Яго таксама ў агонь! — крыкнуў хтосьці... Міагчыма так бы і зрабілі, але яго ўжо нідзе не было. Ён усхапіўся і пабег, нібы гнаны ветрам,

у бок лесу, развіваючы хуткасць, але ніхто і не паглядзеў на яго каржакаватую, нязграбную постаць, на яго вялізарныя ногі. Аўгусцін пераскочыў цераз агароджу з грубага, цяжкага каменя, якая аддзяляла ў гэтых мясцінах поле і луг хутчэй, чым гэта зрабіў бы ганчак. Два-тры чалавекі за ім пабеглі, але як яго дагнаць? Вядома, што страх мне больш хуткія ногі, чым гнеў і помста.

Аўгусцін дабег да лесу і ўкрыўся ў гушчары, дзе сеў на зямлю амаль нежывы ад стомы. Хто яго імкнуўся дагнаць, той вярнуўся назад да астатніх, якія ніяк не маглі супакоіцца. Усім было зразумела, што чалавек, які запаліў агонь, каб атрымаць страхоўку, найперш падумае пра захаванне сваёй жывёлы, бо на яе страхоўка не распаўсюджваецца. Вінцэк, прыяцель Аўгусціна, звярнуў нагэта ўвагу і з ім ніхто не стаў спрачацца. Акрамя таго нікому нічога не пагражала, бо ў гапрах гаспадаркі знаходзяцца на значнай адлегласці і акрамя таго не было ветру. Калі ж нехта пашкадаваў страхавую кантору, то гэта іншае, але людзі разважалі цвяроза і ніхто не звяртаўся да пытанняў маралі.

Яны стаялі і глядзелі, як дагарае апошняе, бо што яшчэ маглі зрабіць? Гэта не трывала доўга, бо азваліся бедныя, напалову распранутыя дзеці, якія змерзлыя ад начнога холаду і надзвычай напалоханыя туліліся адзін да аднаго і плакалі.

— Трэба нешта рабіць з імі, — сказаў нехта. Дзяцей узяла ў свой дом удава з васьмю дзецьмі, каханнем якой Аўгусцін пагрэбаваў. Яна іх адагрэла, паклала ў ложак, накарміла, іншыя суседзі прынеслі дзецям адзенне, кожны прынёс тое, што змог.

Амаль праз гадзіну прыехалі з горада пажарныя з помпай; Вінцэк па іх паслаў свайго хлопца, бо згодна з прадпісаннем, патрэбна вызначыць, што адбылося, акрамя таго неабходна патушыць пажар і зрабіць усё, каб нешта захаваць. Хлопец сустрэй пажарных ужо ў дарозе, але зрабіць нічога нельга было, бо ўсё згарэла. Пажарныя, якія позна прыехалі, вылілі ваду на руіны, што яшчэ курэлі, а то з аднаго, то з другога боку яшчэ былі бачны языкі полымя. Вады ў пажарных больш не было, але суседзям Аўгусціна нічога не пагражала, таму пажарныя ў хуткім часе паехалі.

Раніцай, калі сонца ўжо было высока на небе, вярнуўся з лесу Аўгусцін, які прамок ад расы і змерз у ранішнім холадзе, бо на ім нічога не было, акрамя разадранай кашулі і ўсім добра знаёмых брудных цалкам у рознакаляровых лапіках штаноў, гэта было ўсё, што ў яго засталося. Ён быў падобны да Лазара, твар, рукі і ногі былі сінімі, грудзі і плечы абпаленыя і разадраныя да крыві. Сусед убачыў, як ён ламае рукі над тым, што засталося ад гаспадаркі, паклікаў Аўгусціна і растлумачыў, што не патрэбна нічога баяцца, што ніхто яго не выдаў, што дзеці ў бяспецы. Бедны Аўгусцін заплакаў: "Я бяднейшы за сабаку!"

— Не бядуй, — суцешыў яго сусед, — атрымаеш страхоўку, пабудуеш усё нанова, бо даўно паьрэбна было нешта зрабіць. Радуйся, што так скончылася, што дзеці твае жывыя, што знайшлі твайго вала і цяля, што Віцэк іх даглядае.

— Што з гэтага? Усё загінула! Згарэлі мае сорак залатых, якія я атрымаў за двух парасят…

— Ну, ну, усё будзе добра. Чаго ты баішся? Заўсёды атрымаеш страхоўку…

Га, атрымаць страхоўку, як мае быць! У гэтым і заключана гэтае таемнае "нешта", пра што ён казаў у свой час у Ідэрэцкім шынку. Гэта яго хутка супакоіла.

Аўгусцін з дзецьмі пасяліўся у свайго брата, які меў хату ў суседніх Жлібках. Ляснічыя князя і графа, даведаўшыся, што ён атрымаў страхоўку, далі яму столькі дрэва, колькі папрасіў. Прыйшоў будаўнік, змерыў месца, намаляваў чарцёж і за кароткі час узняўся падмурак новага дома і з бярвёнаў складзеныя сцены, а дзе-ндзе і дах паклалі там, дзе былі старыя разваліны.

Твар Аўгусціна з кожным днём набываў усё больш задаволены выраз, а вочы гарэлі ад радасці, бо ён бачыў, што будзе лепей, чым дагэтуль. І тут і там ён зноў пачаў казаць пра таемнае "нешта", як сведчанне таго, што ўсё не так проста. Суседзі цяпер казалі пра яго шчасце, і знайшліся нават такія, што яму зайздросцілі…

І тут раптам з'явілася "нешта", над чым усе, не выключаючы і Вінцка, яго прыяцеля, ламалі галаву. Аказалася, што Аўгусцін узяў страхоўку ў двух месцах, у Празе і ў Вене, і ніхто пра гэта не ведаў, бо страхоўку выдалі на двух асоб. Калі гэта стала ўсім вядома, то абедзьве канторы заявілі, што ён іх падмануў, а значыць, нічога не атрымае. Аднак гэта яшчэ не ўсё: справа разглядалася ў судзе, але, праўда, следчыя прыйшлі да высновы, што падсудны не меў злога намеру, а значыць, няма адпаведнага параграфу, толькі віною з'яўляецца чалавечая дурнота, бо падсудны ад страхавых кантор не ўзяў нават крэйцэра, на тым справа і скончылася.

У рэшце рэшт Аўгусцін прадаў сваё поле, месца пад дом і сцены дома, прадаў вала, а цяля аддаў брату за тое, што некалькі тыдняў карміў яго разам з дзецьмі, і паехаў некуды ў свет. Ніхто не ведае, куды падзеўся і нікому ён не пакінуў пра сябе ніякіх звестак, ані брату, ані прыяцелю Вінцку, ані ўдаве з васьмю дзецьмі, якая ў апошні час зноў пачала пра яго думаць, ані Марыяне з Чэрвена. Знік як камень, што кінулі ў мора.

Развітваючыся з Вінцкам, Аўгусцін сказаў: "Я пераканаўся, што ў страхавых канторах сядзяць злодзеі. Але няма нікога горшага за жанчыну. Ва ўсіх маіх няшчасцях вінавата жанчына. Толькі яна магла прымусіць столькі ёй набыць сасісак і каўбас! Ніколі ні на адну больш нават не пагляджу".

Магчыма, што ён, сын высокіх Жданаўскіх гор, як і шматлікія яго землякі, церпіць нястачу на поўдні Чэхіі або капае каменны вугаль недзе на поўначы краіны або ў Парынску. Ён, чыя калыска стаяла над калідорамі і шахтамі, дзе ў даўні час капалі бліскучае золата.

## АЛОІС ІРАСЕК
## (1851—1930)

Празаік, драматург, заснавальнік гістарычнага рамана ў чэшскай літаратуры

Алоіс Ірасек нарадзіўся ў Гронаве 23 жніўня 1851 года. Творчы шлях пісьменнік распачаў вершамі, якія пісаў пад уздзеяннем творчасці Карэла Гінэка Махі і Карэла Яраміра Эрбэна. Першы зборнік прозы пад назваю "Апавяданні з гор" выйшаў з друку ў 1878 годзе. Паступова Алоіса Ірасека ўсё больш і больш вабіць гістарычная тэматыка, і ён ад апавяданняў на гістарычную тэму пераходзіць да жанру рамана і раманных хронік, якія прысвечаны гусіцкім войнам і тэме нацыянальнага адраджэння. Найбольш вядомыя з іх "Скалы" (1886), "Псагалоўцы" (1884), "На ваяводскім двары" (1877), "Скарб" (1881), "Супроць усіх" (1893) і інш.

Вядомасць пісьменніку прынеслі і драматычныя дворы, напісаныя ў асноўным на гістарычную тэму. Сярод якіх "Калыска" (1891), "Ян Жыжка" (1903), "Ян Гус" (1911), "Ян Рогач" (1914) і інш.

Асаблівае месца ў творчасці Алоіса Ірасека належыць кнізе "Даўнія чэшскія паданні" (1894), дзе змешчаны таленавіта апрацаваныя мастаком слова матэрыялы старажытных чэшскіх хронік, твораў вуснай народнай творчасці. "Паданні" падзяляюцца на тры цыклы: даўнія чэшскія паданні, паданні пра старую Прагу, старажытныя паданні і легенды.

## Бланіцкія рыцары

Паслухайце апошняе даўняе паданне і прароцтва, якое паведаміў блазнаваты сляпы юнак каралю Карлу.

Паглядзі, гара Бланік у мантыі цёмнага лесу, якая сплывае з яе вяршыні па ўсіх баках. Важна і пахмурна глядзіць яна на краявіды, аддаленыя ад свету, на іх ўзгоркі і малаўрадлівыя палі. Шырока і далёка бачна яе вяршыня, і ўсе навокал пытліва ўглядаюцца ў яе. Калі яна ахутана хмарамі — дрэннае надвор'е, калі вакол блакітнае і яснае неба — дзень без дажджу або снегу. На вяршыні Бланіка згледзіш у ценю букаў, елак і соснаў старадаўнюю каменную агароджу, у асноўным разбураную. Мохам і кустамі яна зарасла, а ад драўлянага замка, які яна калісьці акружала, няма сёння і знака.

Але пад агароджай, у глыбіні гары дрэмлюць узброеныя рыцары, "святавацлаўскае войска", дрэмлюць і чакаюць, калі настане дзень і спатрэбіцца іх дапамога, калі іх паклічуць на бой.

Пад камяністай вяршыняй Бланіка, на ўсходнім баку, ёсць скала накшталт ламанай дугі. Там уваход у гару, там таксама б'е крыніца. З той крыніцы пояць бланіцкія рыцары сваіх коней, а калі надыходзіць час, то ў святле месяца выязджаюць яны з гары на паляну, што знаходзіцца паміж лесам і гарой. У такую ноч разносіцца па наваколлі глухі гром, прыглушаны грукат барабанаў і голас трубы. Да раніцы ўсё разам сціхае: рыцары, коні — усё праходзіць праз браму ў скале і знікае ў таемным улонні гары. На паляне застаецца толькі ўспамін пра начны конны рэй: сляды ад конскіх капытоў... У скальным падзямеллі, дзе дрэмле войска святога Вацлава пабываў ужо не адзін чалавек.

Так аднойчы нейкая дзяўчына касіла пад Бланікам траву. Раптам перад ёй узнік рыцар і прапанаваў ёй пайсці разам з ім у гару, каб там прыбраць. Дзяўчына не напалохалася і пайшла. Брама ў гару была адчынена. Яна ўбачыла скляпеністыя каменныя залы, магутныя калоны, на якіх была развешана зброя. Глыбокая цішыня, нібы ў касцёле, панавала ва ўсіх памяшканнях, асветленых таемным жаўтаватым святлом. Ля сцен і кармушак стаялі ў рад асядланыя коні, за каменнымі сталамі ў зале сядзелі рыцары, схіліўшы галовы на стол. Яны спалі, а коні стаялі нерухома, нават не павярнулі да яе галавы, не стукнулі капытом па зямлі, не памахалі хвастом.

Дзяўчына ўвайшла, агледзелася, ніхто не зварухнуўся, і пачала падмятаць. Работа гарэла ў яе руках і за хвіліну яна ўсё прыбрала. І цяпер перад ёй ніхто не з'явіўся, ніхто не сказаў ёй слова, ніхто не прачнуўся. Яна як зайшла, так і выйшла, а калі прыйшла дахаты, то ў яе пыталіся, дзе так доўга яна была.

Яна здзівілася і сказала, што заўсёды вяртаецца ў адзін і той жа час. Жахнулася, калі ёй расказалі пра тое, што яна вярнулася з касавіцы праз год, што цэлы год яе не бачылі. Дзяўчына прызналася, дзе была, і ўсе зразумелі, што год ёй здаўся хвілінай. На трэці дзень пасля свайго вяртання дзяўчына памерла.

Так, як і дзяўчыну, паклікаў рыцар у гару каваля з Лаўнёвіц, каб там падкаваў коней. Каваль пайшоў, і калі скончыў працу, далі яму ў мех смецце, якое ён ад злосці высыпаў ля гары. Дома ён даведаўся, што яго ўжо аплаквалі, бо знік бясследна і цэлы год не было пра яго ні гуку.

Каваль расказаў, што з ім адбылося, і калі мех вытрасаў, выпалі з яго тры дукаты. Цяпер ён зразумеў, што памыліўся. Імгненна кінуўся ён бегчы назад, да бланіцкай брамы, туды, дзе высыпаў смецце. Але дарэмна. Не было там ні смецця, ні дукатаў…

Раскажу таксама і пра пастуха, які шукаў заблукаўшую авечку і сам заблукаў да Бланіка, і пра юнака, які адсутнічаў дома, як і пастух, цэлы год, бо пабываў у гары, і ніхто пра гэта не здагадаўся.

Але было гэта даўно… Бланік зачынены, важна і пахмурна глядзіць ён на апусцелую, аддаленую ад свету мясцовасць і нібы думае сваю цяжкую думку. Спіць войска святога Вацлава. Яшчэ не прыйшоў час, каб яно прачнулася. Гэта здарыцца ў хвіліну вялікай небяспекі, калі на нашу зямлю прыйдзе так многа ворагаў, каб разнесці цэлае каралеўства на капытах сваіх коней.

Тады будуць бачны знакі: засохнуць верхавіны дрэў у бланіцкім лесе, на вяршыні гары зазелянее стары засохлы дуб, а крыніца ля скалы заб'е так моцна, што бурлівай ракой панясецца ўніз. І потым грымне вялікі і крывавы бой паміж Бланікам і Нагэрадцам. Высахне сажалка, і калі старое засохлае дрэва каля яе зазелянее, яна напоўніцца ручаямі пралітай крыві. І будзе плач і вялікі сум ад таго, што чэхам трэба гераічна змагацца ў надзвычай жорсткім баі з ворагам нашмат мацнейшым за іх. І ў вырашальную хвіліну Бланік адкрые сваю браму, і рыцары ў поўным ўзбраенні выйдуць з гары, а святы Вацлаў, едучы на белым кані, павядзе іх на дапамогу чэхам.

Вораг, ахоплены страхам, звар'яцела паляціць у Прагу, і там жорсткі бой завершыцца. І будзе ён такі люты, што кроў пацячэ ручаём ад Страгава аж да каменнага Карлава маста. Тут святы Вацлаў на белым кані з харугвай ў руцэ павядзе чэхаў наперад і чужаземцаў, а таксама ўсіх ворагаў Чэшскага каралеўства пагоніць за межы краіны. А святы Пракоп, ігумен Сазаўскі, са сваім посахам, будзе яму дапамагаць.

Потым настане святы спакой і чэшская зямля адпачне. Шмат чэхаў у тых баях загіне, але тыя, хто застанецца, будуць моцныя духам. Асэнсаваўшы памылкі сваіх продкаў і свае, яны будуць упэўнена стаяць на абароне радзімы і вораг іх не адолее.

# КАРЭЛ ЧАПЕК
## (1890—1938)

Празаік, драматург, публіцыст, перакладчык

Карэл Чапек нарадзіўся ў 1890 годзе ў мястэчку Малэ Сватонёвіцы. Навучаўся ў Градцэ Кралове, Брно і Празе.

У 1920—1921 гг. загадваў літаратурнай часткай у тэатры на Вінаградах. У далейшым прафесійны пісьменнік супрацоўнічае з газетамі і часопісамі.

Карэл Чапек пачаў друкавацца разам з братам Ёзафам Чапекам з 1907 года. Разам браты выдалі зборнікі апавяданняў, а потым п'есы. Першыя зборнікі апавяданняў Карэла Чапека "Укрыжаванне" і "Пакутлівыя апавяданні" выйшлі ў 1921 годзе.

У пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя К. Чапек актыўна перакладае французскую паэзію. Першы драматычны твор К. Чапека — драма "Разбойнік" (1920 г.). У далейшым работа над драматычнымі творамі актыўна працягвалася. Да пачатку 20-х гадоў можна аднесці і падарожныя нататкі пісьменніка "Лісты з Італіі" (1923 г.) і "Лісты з Англіі" (1924 г.). Работа над публіцыстычнымі жанрамі — адна з асноўных у творчасці К. Чапека.

З 1928 па 1934 год па частках пісьменнік выдае кнігу "Гутаркі з Т.Г. Масарыкам", першым прэзідэнтам Чэхаславакіі.

У 1933—1938 гг. з друку выходзіць шэраг аповесцей К. Чапека і раман "Вайна з саламандрамі" (1938 г.)

## Вайна з саламандрамі

*Кніга першая*
**AndrJas Scheuchzeri**

### Дзівацтвы капітана van Toxa

Калі б вы шукалі астравок Тана Маса на карце, то знайшлі б, пэўна, яго на экватары, крыху на захад ад Суматры; але калі б вы запыталіся на палубе карабля "Кандонг Бантунгу" капітана І ван Тоха, што гэта за Тана Маса, перад якім цяпер ён стаў на якар, дык той задумаўся б на хвіліну, а потым адказаў бы вам, што гэта самая брудная дзіра сярод усіх Сандскіх астравоў, яшчэ мізэрнейшая, чым Тана Бала і пры гэтым такая ж праклятая, як Піні або Баньяк; што адзіны нармальны чалавек, які там жыве (мы ніколі не лічылі колькасць вашывых батакоў) — гэта заўсёды п'яны гандлёвы агент, нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам, але яшчэ большы злодзей, самы паганы з усіх кубу і ўсіх белых у свеце, і калі ёсць у свеце нешта праклятае, то гэта - - праклятае жыццё на гэтай праклятай Тана Маса, пан. Потым вы ў яго запыталіся б, чаму ён менавіта тут кінуў свой праклятьі якар, нібы хацеў застацца ў гэтым месцы на праклятыя тры дні, і ён бы забурчаў раздражнёна і бурчэў бы менавіта ў тым сэнсе, што "Кандонг Бандунг" спыніўся толькі з-за таго, што трэба забраць гэты праклятьі копр або пальмавы алей, і гэта разумна, і ў рэшце рэшт вам гэта ўсё роўна, пан, гэта мне трэба выконваць праклятыя загады, а вы, будзьце так ласкавы, пан, займайцеся сваімі справамі. І так падрабязна і многа тлумачыў бы, як трэба слухацца старога, шмат зведаўшага, вопытнага капітана карабля.

Але калі б замест усіх пытанняў вы пакінулі б у спакоі капітана І ван Тоха, каб бурчэў і праклінаў усё моўчкі, то даведаліся б больш. Чаго ад яго не даведаешся, што ён паспрабуе схаваць? Толькі пакіньце яго ў спакоі, як прычына яго незадаволенасці выявіцца сама па сабе. "Паглядзіцеце, пан, — выгукне капітан, — гэтыя хлапцы ў нас з Амстэрдама, гэтыя праклятыя жыды, якія маюць уладу, успомнілі пра жэмчуг. Чалавеча, пашукайце сабе жэмчуг? Сёння людзі вар'яцеюць ад жэмчугу і наогул". Тут капітан з прыкрасцю сплюне: "Толькі тое і ведаюць, што гандляваць жэмчугам! Гэта таму, што вы, людзі, заўсёды імкнецеся да нейкай вайны або нечага падобнага. Клопат пра грошы - - вось асноўная мэта. Вось так узнікае крызіс, пан". Капітан І ван Тох трошкі завагаецца, ці трэба працягваць з вамі размову пра народнагаспадарчыя пытанні, бо сёння ні пра што іншае не гавораць. Аднак тады перад Тана Масай было залішне горача і ляніва, і капітан ван Тох махнуў рукою і прабурчэў: "Гэта толькі так кажуць, жэмчуг! Пан, на Цэйлоне яго забаранілі здабываць пяць год, на Формазе зусім забаранілі. І пры гэтым, глядзіце, капітан ван Тох, каб вы знайшлі новае месца, дзе можна здабываць жэмчуг. Зайдзіце на гэтыя д'ябальскія астраўкі, бо, можа, там вы знойдзеце месца, поўнае ракавін..." Капітан грэбліва пратрубіў у блакітна-сінюю насоўку. "Гэтыя пацукі ў Еўропе думаюць, што тут яшчэ можна нешта

знайсці такое, пра што ніхто не ведае! Хай Бог даруе, гэта ёлупні! Яны яшчэ не хацелі, каб я не набіў тым батакам морды, калі не аддадуць жэмчуг. Новае месца для лоўлі! У Падангу ёсць новы бардэль, гэта праўда, але ці ёсць новае месца для лоўлі? Пан, я ўсе гэтыя астравы ведаю, як свае штаны… ад Цэйлона да гэтага праклятага Кліпертон Ісланда… Калі нехта думае, што ён нешта знойдзе, што прынясе добры прыбытак, то шчаслівага шляху, пан! Трыццаць гадоў я плаваю тут, а цяпер ад мяне гэтыя дурні хочуць, каб я тут нешта адкрыў!" Капітан ван Тох проста задыхаўся ад гэтага патрабавання, якое яго крыўдзіла. "Калі я пашлю да іх нейкага зялёнага хлапца, той ім такога параскажа, што будуць лыпаць вачыма, але імкнуцца даведацца, хто гэта ведае так, як капітан І ван Тох… Дык будзьце ласкавы даведацца, пан! У Еўропе яшчэ можа нешта з'явіцца, але тут… Хутчэй людзі прыйдуць сюды толькі па тое, што можна зжэрці, а калі не зжэрці, дык купіць і прадаць. Пан, каб ва ўсіх праклятых тропіках было нешта, што магло б мець добрую цану, то там стаялі б тры агенты і махалі засмарканаю хусткаю караблям усіх краін, каб спыніліся. Вось так, пан. Я гэта ведаю лепей, чым каланіяльны ўрад Яе вялікасці каралевы, прашу прабачыць". Капітан ван Тох з намаганнем пераадолеў свой справядлівы гнеў, што дапамагло яму кіпець і далей. "Ці бачыце там двух мізэрных лайдакоў? Гэта лаўцы жэмчугу з Цэйлону, хай не карае мяне Бог, сінгалезцы, як іх Бог зрабіў, але навошта, то не ведаю. Цяпер я іх бяру з сабою, пан, а калі знайду кавалак узбярэжжа, на якім няма надпісаў "Агенцтва", альбо "Баця", альбо "Мытня", то скірую іх у ваду, каб шукалі ракавіны. Той меншы мярзотнік здольны нырнуць на восемдзесят метраў у глыбіню; цяпер на Прынцавых астравах вылавіў з глыбіні дзевяноста метраў ручку ад кінематаграфічнага апарата, пан, але жэмчуг — куды там! Ані намёку! Мярзотны зброд, гэтыя сінгалезцы. Вось такія ў мяне мярзотныя абавязкі, пан: рабіць выгляд, што набываю пальмавы алей, а сам у гэты час шукаю новыя месцы для лоўлі ракавін з жэмчугам. Магчыма будуць яшчэ пажаданні, каб адкрыў новы кантынент, ці не? Тут няма працы для паважанага гандлёвага капітана, пан. І ван Тох не з'яўляецца ніякім мярзотным авантурыстам, пан. Не, пан". І гэтак далей, мора вялікае і акіян часу не мае межаў, плыві па моры, чалавеча, і яно абмялее, наракай на свой лёс, але дарэмна; і ў выніку ўсіх разважанняў і назіранняў мы прыходзім да таго, што капітан галандскага карабля "Кандонг Бандунг" І ван Тох, уздыхаючы і пускаючы слязу, садзіцца ў шлюпку, каб выйсці на кампонгу[4] ў Тана Маса разам з п'яным мецісам, нечым сярэднім паміж кубу і партугальцам, з нейкімі гандлёвымі справамі.

— Sorry, Captain[5]? — сказаў нарэшце нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам, — але пан, на Тана Маса, ніякіх ракавін няма. Гэтыя брудныя батакі, — дадаў ён з невыказнаю агідаю, — жаруць і мядуз. Яны жывуць хутчэй у вадзе, чым на зямлі. Жанчыны настолькі смярдзяць рыбаю, што вы

[4] Кампонг — вёска (малайскае)
[5] Прабачце, капітан (англ.)

не можаце сабе нават уявіць. Што я хацеў сказаць? Ага, вы пыталіся пра жанчын".

— А ці няма там недзе хоць трошкі берагу, — запытаў капітан, — дзе такія батакі не лезуць у ваду?

Нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам пакруціў галавою: "Не, пан, магчыма, Дэвл Бэй, але гэта не для вас".

— Чаму?

— Таму што… Туды нікому нельга, пан. Ці дазволіце вам наліць, капітан?

— Thanks[6]. Мабыць там акулы?

— Акулы, і наогул, — мармытаў нешта сярэдняе, — дрэннае месца, пан. Батакам бы не спадабалася, калі б туды нехта палез.

— Чаму?

— … Там ёсць чэрці, пан. Марскія чэрці.

— Хто гэта марскі чорт? Рыба?

— Ніякая не рыба, — запярэчыў, ухіляючыся ад прамога адказу, нешта сярэдняе, — проста чэрці, пан. Марскія чэрці. Батакі іх называюць "тапа". Тапа. Яны там маюць свой горад, гэтыя чэрці. Ці дазволіце наліць?

— А як выглядае … той марскі чорт?

Нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам паціснуў плячыма.

— Як чорт, пан. Я яго аднойчы бачыў… дакладней сказаць, яго галаву. Я вяртаўся на шлюпцы з Кэйп Харлем… і раптам перада мною з вады выскачыла гэткая галава.

— Ну? На што была падобная?

— Мазгаўню мае, як батак, пан, але цалкам лысую.

— Ці не быў гэта на самой справе батак?

— Не быў, пан. На тым месцы ніводзін батак не палезе ў ваду. А потым… ён мяне ўразіў ніжнімі павекамі, пан. — Нешта сярэдняе нібы скінуў з сябе цяжар, — Ніжнімі павекамі, якія закрываюць цэлае вока. Гэта Тапа.

Капітан І ван Тох павярнуў тоўстымі пальцамі шклянку з пальмавым віном. — А ці не перабралі вы тады? Ці не былі п'яным?

— Быў, пан. Інакш бы адтуль не выплыў на шлюпцы. Батакі не любяць, калі нехта тых … чарцей патрывожыць.

Капітан ван Тох пакачаў галавою:

— Чалавеча, ніякіх чарцей не існуе. А калі б былі, то павінны былі б выглядаць, як еўрапейцы. Гэта, пэўна, была нейкая рыба, або нешта падобнае.

— Рыба, — заквахтаў нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам, — у рыбы няма рук, пан. Я не нейкі батак, пан, я хадзіў у школу ў Бад'енгу. Я ведаю дзесяць запаведзяў, іншыя навукі, у тым ліку дакладныя. Адукаваны чалавек заўсёды можа адрозніць, дзе чорт, а дзе звер. Запытайцеся ў батакоў, пан.

---

[6] Дзякуй (англ.)

— Гэта негрыцянскія забабоны, — заявіў капітан з пачуццём перавагі адукаванага чалавека. — Навукова гэта не дакажаш. Чорт не можа жыць у вадзе. Што б ён там рабіў? Не трэба казаць пустое, хлапец. Нехта даў той бухце назву "Чортаў заліў", і з таго часу батакі баяцца чарцей. Так і ёсць, — дадаў капітан і стукнуў тоўстаю далонню па стале. — Нікога там няма, хлопец, гэта навукаю даказана.

— Так, пан, — пагадзіўся нешта сярэдняе, які хадзіў у школу ў Бад'енгу. — Але ніводнага разумнага чалавека не знойдзеш у Дэвл Бэй.

Капітан І ван Тох пачырванеў. "Што? — раскрычаўся ён. — Ты, брудны кубу, лічыш, што я буду баяцца тваіх чарцей? Мы яшчэ паглядзім, — сказаў ён, уздымаючы сваё магутнае цела пад дзвесце фунтаў: — Я цяпер не буду з табою марнаваць свой час, бо маю клопаты з бізнесам. Але памятай: у галандскіх калоніях ніякіх чарцей няма, а калі ёсць, то толькі ў французскіх. Там яны маглі б быць. А цяпер пакліч да мяне старасту гэтага праклятага кампонга.

Вышэйназваную асобу не трэба было доўга шукаць; ён сядзеў на кукішках каля крамы меціса і жаваў цукровы трыснёг. Гэта быў голы стары пан, куды больш худы, чым бываюць старасты ў Еўропе. Недалёка ад яго, захоўваючы патрэбную дыстанцыю, сядзела на кукішках цэлая вёска з жонкамі і дзецьмі, бясспрэчна, чакаючы, што яе будуць здымаць для фільма.

— Паслухай, хлапец, — звярнуўся да яго капітан ван Тох па-малайску (ён мог звярнуцца таксама па-галандску або па-англійску, бо паважаны стары батак не ведаў ніводнага слова па-малайску і ўсю прамову капітана на мову батакоў павінен быў тлумачыць нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам. Але ж з нейкіх меркаванняў капітан палічыў патрэбным скарыстаць мову малайцаў). "Паслухай, хлопец, мне патрэбныя некалькі высокіх моцных мужных хлопцаў, каб пайшлі са мною на паляванне. Разумееш, на промысел".

Меціс гэта пераклаў, і стараста паківаў галавою, што разумее; потым ён звярнуўся да больш шырокай аўдыторыі і выступіў з прамоваю, якая мела відавочны поспех.

— Старэйшына кажа, — сказаў меціс, — што ўся вёска пойдзе з туанам[7] капітанам на лоў, калі туан пажадае.

— Ну, бачыш. Скажы ім цяпер, што пойдзем здабываць ракавіны ў Дэвл Бэй.

Пасля гэтых слоў чвэрць гадзіны доўжылася ўзбуджанае абмеркаванне, у якім узяла ўдзел уся вёска, асабліва старыя кабеты. Нарэшце нешта сярэдняе звярнуўся да капітана:

— Кажуць, пан, што ў Дэвл Бэй яны не змогуць пайсці.

Капітан пачаў чырванець:

— А чаму не?

Нешта сярэдняе паціснуў плячыма:

— Таму што там тапа-тапа. Чэрці, пан.

---

[7] Туан — пан (малайскае)

Капітан стаў рабіцца фіялетавым.

— Ну дык скажы ім, калі яны не пойдуць… я павыбіваю ім усе зубы… што я адарву ім вушы… што я іх павешу… што я спалю той вашывы кампонг, зразумела?

Нешта сярэдняе гэта дакладна пераклаў, пасля чаго зноў распачалася жывая нарада. Нарэшце нешта сярэдняе звярнуўся да капітана:

— Кажуць, пан, што пойдуць са скаргаю ў Паданг у паліцыю, бо ім туан пагражаў. На гэта ёсць артыкулы. Стараста кажа, што так справу не кіне.

Капітан І ван Тох пачаў сінець.

— Скажы яму, — зароў ён, — што я…

І без перапынку казаў добрых адзінаццаць мінут.

Нешта сярэдняе гэта пераклаў, пакуль яму дазваляў яго запас слоў, і пасля новай, больш доўгай нарады батакоў ён растлумачыў капітану:

— Кажуць, пан, калі вы жадаеце пазбегнуць суда, то важны капітан можа заплаціць штраф мясцовым уладам. Гэта, — завагаўся, — дзвесце рупій, але гэта зашмат. Прапануйце ім пяць.

Фарба на твары капітана ван Тоха пачала расплывацца барвовымі плямамі. Напачатку ён паабяцаў знішчыць усіх батакоў на свеце, потым зменшыў прысуд да трохсот выспяткаў і, нарэшце, задаволіўся тым, што зробіць са старасты чучала для каланіяльнага музея ў Амстэрдаме. Батакі ў сваю чаргу пажадалі набыць жалезную помпу за дзвесце рупій і нарэшце ўсё скончылася тым, што капітан даў старасце замест штрафу бензінавую запальнічку. ("Дайце ім гэта, пан, — даводзіў нешта сярэдняе паміж кубу і партугальцам, — у мяне ёсць тры запальнічкі на складзе, але без кнота") Так быў усталяваны мір на Тана Маса, але капітан І ван Тох ведаў, што гутарка ідзе пра прэстыж белай расы.

Пасля абеду ад галандскага карабля "Кандонг Бандунг" адышла шлюпка, у якой у прыватнасці знаходзіліся капітан І ван Тох, швед Енсэн, ісландзец Гудмундсон, фін Гілемайнен і двое сінгалезскіх шукальнікаў жэмчугу. Шлюпка накіравалася роўна да бухты Дэвл Бэй.

У тры гадзіны, калі адліў дасягнуў найвышэйшай ступені, капітан сышоў на бераг і крэйсіраваў шлюпку на адлегласці ста метраў ад узбярэжжа, каб можна было сачыць за акуламі, а абодва сінгалезскія вадалазы з нажамі ў руках чакалі на знак, каб скочыць у ваду.

— Так, цяпер ты, — казаў капітан наступнаму шукальніку жэмчугу. Сінгалезец скочыў у ваду, зрабіў некалькі крокаў і знік. Капітан паглядзеў на гадзіннік.

Праз чатыры хвіліны і дваццаць секунд вынырнула амаль за шэсцьдзесят метраў злева карычневая галава. Са здзіўляючым адчаем, як паралізаваны, бег сінгалезец да валуноў, у адной руцэ трымаючы нож, а ў другой — ракавіны з жэмчугам.

Капітан спахмурнеў.

— Ну, што там? — запытаўся раздражнёны.

Сінгалезец яшчэ доўга коўзаўся па валунах, гучна заікаючыся ад жаху.

— Што здарылася? — крычаў капітан.

— Саіб, саіб, — выціснуў з сябе сінгалезец, паваліўшыся на бераг і сіпла выдыхаючы: "Саіб, саіб".

— Акулы?

— Джыны, — застагнаў сінгалезец. — Чэрці, пан. Тысячы, тысячы чарцей! — Ён націснуў кулакамі вочы. — Сапраўдныя чэрці, пан!

— Пакажы гэтую ракавіну, — сказаў капітан і адкрыў яе нажом. Унутры ляжала малая, чыстая жамчужына.

— А большыя ты не знайшоў?

Сінгалезец дастаў яшчэ тры ракавіны з мяшка, які вісеў у яго на шыі.

— Гэта тыя ракавіны, пан, якія чэрці сцераглі. Яны глядзелі на мяне, калі я адразаў… — яго кучаравыя валасы ўзняліся ад жаху. — Саіб, мабыць, там нічога няма!

Капітан адкрыў ракавіны. Дзве былі пустыя, а ў трэцяй ляжала жамчужына падобная на гарох, круглая, нібы кропля ртуці.

Капітан ван Тох папераменна глядзеў на жамчужыну і на сінгалезца, распасцёртага на зямлі.

— Ты, — сказаў няўпэўнена, — ці не змог бы зноў скочыць яшчэ раз?

Сінгалезец без слоў пакруціў галавой. Капітан ван Тох адчуў на языку вялікае жаданне вылаяцца, але надзвычай здзівіўся, што гаворыць цішэй і мякчэй:

— Не бойся, хлопча. А як выглядаюць гэтыя… чэрці?

— Як малыя дзеці, — выдыхнуў сінгалезец, — маюць хвост, і ёсць сярод іх высокія, — ён паказаў на метр дваццаць ад зямлі. — Сталі вакол мяне і глядзелі, што я раблю… было вось такое кола… — Сенегалезец затросся. — Саіб, саіб, тут не!

Капітан ван Тох задумаўся.

— А што мігаюць ніжнімі вейкамі ці не?

— Не ведаю, пан, — хрыпеў сінгалезец. — Іх там…дзесяць тысяч.

Капітан пашукаў вачыма другога сінгалезец. Той стаяў на адлегласці сто пяцьдзесят метраў і абыякава чакаў каманды, абхапіўшы рукамі плечы. Праўда, калі чалавек голы, то няма куды пакласці рукі, як на плечы. Капітан яму моўчкі кіўнуў і дробны сінгалезец скочыў у ваду. Праз тры хвіліны і пяцьдзесят секунд ён вынырнуў і пачаў узбірацца на валуны, слізгаючы рукамі.

— Вылазь, — крыкнуў капітан, але, паглядзеўшы больш уважліва, ужо скакаў па валунах да рук, узнятых у жаху; ніхто не паверыў бы, што такое масіўнае цела так можа скакаць. У апошні момант ён схапіў адну руку, сапучы, выцягнуў сінгалезца з вады. Потым паклаў яго на валун і выцер пот з ілба. Сінгалезец ляжаў нерухома, адна нага яго была абадрана да касцей, пэўна аб камень, але ўсё было на месцы. Капітан прыўзняў яго павекі і ўбачыў, што бялкі яго вачэй закаціліся. У сінгалезца не было ні ракавін, ні нажа.

У гэтую хвіліну шлюпка наблізілася да берага для пасадкі.

— Пан, — паклікаў швед Енсэн, — тут акулы. Ці будзеце паляваць далей?

— Не, — адказаў капітан, — пад'едзьце сюды, каб забраць гэтых двух.

— Паглядзіце, пан, — звярнуў яго ўвагу Енсэн, калі яны вярталіся да карабля, — як тут мелка. І ідзе водмель адтуль аж да берага, — паказваў, шлёпаючы вяслом па вадзе. — Нібы тут пад вадою была нейкая дамба.

Нарэшце свядомасць вярнулася да малога сінгалезца на караблі; ён сядзеў, падпершы каленьмі бараду, і калаціўся ўсім целам. Капітан загадаў усім адысці і сеў насупраць яго, шырока расставіўшы ногі.

— Кінь ты, — сказаў. — Што ты там бачыў?

— Джынаў, саіб, — прашаптаў малы сінгалезец, вочы яго пачалі закатвацца, і ўсё цела пакрылася гусінай скурай.

Капітан ван Тох захрыпеў:

— А … як выглядаюць?

— Як … як … Вочы сінгалезца зноў зацягнуліся бялком. Капітан ван Тох нечакана груба стукнуў яго па твары далонню і тыльным бокам рукі, каб прывесці ў свядомасць.

— Thanks, саіб, — выдыхнуў сінгалезец, і зрэнкі яго выплылі з-пад павек.

— Ужо табе добра?

— Так, саіб.

— Ці былі там ракавіны?

— Так, саіб.

Капітан І. ван Тох працягваў перакрыжаваны допыт з вялікай цярплівасцю і грунтоўнасцю. Так, там чэрці. Колькі? Тысячы і тысячы. Ёсць высокія і падобныя на дзесяцігадовых дзяцей, пан, і амаль чорныя. Плаваюць у вадзе і па дне ходзяць на дзвюх нагах. На дзвюх, саіб, як вы або я, але пры гэтым ківаюцца целам, туды-сюды, увесь час туды-сюды. Так, пан, у іх рукі, як у людзей, не, не маюць кіпцюроў, хутчэй гэта дзіцячыя рукі. Не, саіб, не маюць ані рагоў, ані поўсці. Так, хвост у іх ёсць, трохі падобны да рыбінага, але без хваставога плаўніка. Маюць вялікую галаву, круглую як у батакоў. Не, нічога не казалі, пан, толькі улюкалі. Калі сінгалезец адразаў ракавіны на глыбіні шаснаццаці метраў, то адчуў на спіне дотык малых халодных пальцаў. Ён азірнуўся і ўбачыў вакол сябе іх сотні і сотні. Сотні і сотні, пан, яны плавалі і стаялі на камянях, і ўсе глядзелі, што робіць сінгалезец. Тут ён выпусціў з рук нож і ракавіны і паспяшаўся ўзняцца. Пры гэтым натрапіў на некалькіх чарцоў, якія плавалі над ім, а што было потым, то ўжо не ведае, пан.

Капітан І. ван Тох задумліва глядзеў на дрыжачага малога вадалаза. "Гэты хлапец ужо нічога добрага не зробіць, сказаў ён сам сабе, пашлю яго з Паданга дахаты на Цэйлон". Буркаючы і сапучы, ён пайшоў да сваёй кабіны. Там ён высыпаў з папяровага пакета на стол дзве жамчужыны. Адна была маленькая, як пясчынка, другая — велічынёй з гарох, яна блішчэла і адлівала срэбрам ажно да ружовага колеру. Капітан галандскага карабля фыркнуў і дастаў са скрынкі свой ірландскі віскі.

Каля шостай гадзіны шлюпка зноў падышла да кампонгу, і ён звярнуўся непасрэдна да нечага сярэдняга паміж кубу і партугальцам.

— Тоддзі, — сказаў ён, і гэта было адзінае слова, якое вымавіў. Ён сядзеў на верандзе з хвалістай ліставой сталі; трымаў у тоўстых пальцах

шклянку з тоўстага шкла і піў і пляваўся і пяліўся з-пад касматых броваў на жоўтых худых курэй, якія бог ведае як перад ім узніклі на брудным і запляваным двары паміж пальмамі. Нешта сярэдняе маўчаў і толькі наліваў. Памалу вочы капітана сталі наліваццa крывёю, і яго пальцы пачалі дрэнна падпарадкоўвацца яму.

Амаль сцямнела, калі ён устаў і падцягнуў свае штаны.

— Ужо пойдзеце спаць, капітан? — запытаўся ветліва нешта сярэдняе паміж чортам і д'яблам.

Капітан тыкнуў у паветра пальцам.

— Я б паглядзеў, — сказаў ён, — ці ёсць на свеце нейкія чэрці, якіх бы я яшчэ не ведаў. Скажы, дзе той праклятьі паўночны захад.

— Там, — сказаў нешта сярэдняе. — Куды вы пойдзеце, пан?

— У пекла, — прахрыпеў капітан І. ван Тох. — Паглядзець на Дэвл Бэй.

Гэтым вечарам і пачаліся дзівацтвы капітана І. ван Тоха. Да кампонгу ён вярнуўся на світанку, ні з кім не размаўляючы, ён дазволіў правесці сябе на карабель, дзе зачыніўся ў сваёй каюце ажно да вечара. Усё гэта нікому не кідалася ў вочы, бо на "Кандонг Бандунг" павінны былі пагружаць блаславлёныя дарункі вострава Тана Маса (карыцу, перац, камфару, гутаперчу, пальмавы алей, табак і працоўную сілу); але калі ўвечары капітану паведамілі, што ўвесь тавар пагружаны, ён засоп і сказаў:

— Шлюпку. Да кампонгу.

І вярнуўся зноў ажно на світанку. Швед Енсэн, які яму дапамагаў узняцца на борт, ветліва запытаўся:

— Сёння адплываем, капітан?

Капітан павярнуўся, нібы нехта стукнуў яго па спіне.

— Навошта табе? — адрэзаў. — Глядзі сваё праклятае дабро!

Цэлы дзень ляжаў "Кандонг Бандунг" на якары на адлегласці аднаго вузла ад узбярэжжа Тана Маса і не рабіў нічога. Увечары вываліўся са сваёй каюты капітан і загадаў:

— Шлюпку. Да кампонгу.

Мізэрны грэк Запаціс глядзеў на яго адным вокам сляпым, а другім касым.

— Хлопцы, — пракукарэкаў ён, — або там мае наш стары дзяўчыну, або зусім звар'яцеў.

Швед Енсэн пацямнеў з твару.

— Чаго табе? — адрэзаў ён Запацісу. — Глядзі сваё праклятае дабро! — Потым з ісландцам Гудмундсанам узяў малую шлюпку і павеславаў у кірунку Дэвл Бэй. Яны схаваліся са шлюпкай за валуны і сталі чакаць, што будзе далей.

У бухце хадзіў капітан і здавалася, што некага чакаў. часам ён спыняўся і клікаў прыкладна так: тс-тс-тс.

— Глядзі, — сказаў Гудмундсан і паказаў на мора, якое блішчэла ад чырвонага і залатога заходу сонца. Енсэн налічыў два, тры, чатыры, шэсць плаўнікоў, вострых, як лязо, якія накіроўваліся ў Дэвл Бэй.

— Гердот, — буркнуў Енсен, — гэта акулы!

Штохвіліны нейкае лязо хавалася, над вадой узнікаў хвост, а ў вадзе хутка вірылася. Тут пачаў капітан І. ван Тох на беразе шалёна скакаць, выкрыкваць праклянці і пагражаць акулам кулаком. Потым хутка надышоў трапічны змрок і над вострававам выплыў месяц. Енсэн сеў на вёслы і наблізіўся са шлюпкай да берагу на адзін фэрлонг. Капітан цяпер сядзеў на валуне і прамаўляў тс-тс-тс. Нешта каля яго выгіналася, але што, нельга было зразумець.

— Падобна на цюленяў, — падумаў Енсэн, — але цюлені лезуць па-іншаму. "Гэтае" вынырвала з вады паміж валунамі і топала па беразе, пераваліваючыся, як пінгвіны. Енсэн ціха завеславаў і спыніўся на палову фэрлонга да капітана. Так, капітан нешта кажа, але што, тут і чорт не зразумее, хутчэй па-малайску альбо тамільску. Разводзіць рукамі, нібы нешта хоча кінуць тым цюленям (але гэта не цюлені, пераканаўся Енсен), хутчэй brebenti кітайскія або малайскія. У гэтую хвіліну вясло выслізнула з рукі Енсэна і шлёпнулася аб ваду. Капітан узняў галаву, падняўся і зрабіў трыццаць крокаў да вады. Раптам тут пачало бліскаць і хлопаць, капітан пабег з браўнінгам у кірунку да шлюпкі. Хутка ў бухце зашумела, завірылася, запляскала, нібы тысячы цюленяў скочылі ў ваду, але гэтага ўжо Енсэн з Гудмундсанам не бачылі, бо абаперліся на вёслы і пагналі сваю шлюпку за бліжэйшы рог, ажно вецер свістаў у вушах. Калі яны вярнуліся на карабель, то нікому не сказалі ані слова. Толькі жыхары Поўначы ўмеюць так маўчаць. Пад раніцу вярнуўся капітан, ён быў спахмурнелы і раз'юшаны, але не сказаў ані слова. Толькі калі яму Енсэн дапамагаў падняцца на палубу, яго блакітныя вочы сустрэліся з халодным і дапытлівым позіркам.

— Енсэн, — сказаў капітан.

— Так, пан.

— Сёння адплываем.

— Так, пан.

— У Сурабаі атрымаеце свой разлік.

— Так, пан.

І кропка. У гэты ж дзень "Кандонг Бандунг" адышоў да Падангу. З Падангу капітан І. ван Тох паслаў сваім знаёмым у Амстэрдам пакет, ацэнены на тысячу дзвесце фунтаў стэрлінгаў. А таксама тэлеграфаваў прашэнне пра адпачынак на год. Прыводзіў разумныя доказы і г.д. Потым ён бадзяўся па Падангу, пакуль не знайшоў чалавека, якога шукаў. Гэта быў дзікун з Барнэа, даяк, якога час ад часу наймалі падарожныя англічане для палявання на акул. Ён здзіўляў тым, што працаваў яшчэ па-старому, узброіўшыся толькі доўгім нажом. Гэта быў, пэўна, людаед, але меў сваю цвёрдую таксу: пяць фунтаў за акулу, акрамя харчу. Глядзець на яго было страшна, бо абедзве рукі, грудзі і сцёгны яго былі абадраны скурай акулы, а нос і вушы аздоблены зубамі акулы. Клікалі яго Шарк.

З гэтым даякам капітан І. ван Тох накіраваўся на востраў Тана Маса.

## Пан Галомбэк і пан Валента

Стаяла спякотнае рэдакцыйнае лета, калі нічога, зусім нічога не адбываецца, калі не робіцца палітыка, калі няма ніякай еўрапейскай сітуацыі. І ў гэты час чытачы газет, лежачы ў агоніі нуды ля вады або ў рэдкім ценю дрэў, здэмаралізаваныя спёкай, прыродай, правінцыйным спакоем і наогул здаровым і простым жыццём у адпачынку, чакалі з надзеяй, хоць і былі расчараваныя кожны дзень, што, можа, у газетах з'явіцца новае і свежае, нейкая бойка або вайна або землятрус, карацей Нешта; а калі бачылі, што там гэтага няма, то махалі газетамі, засмучана канстатуючы, што ў тых газетах няма нічога, зусім Нічога няма і гэта ніякая не інфармацыя, і што больш не будуць іх купляць.

У гэты час у рэдакцыі сядзяць пяць альбо шэсць пакінутых людзей, бо астатнія калегі іх у адпачынку, дзе камячаць разззлавана газеты і робяць высновы, што цяпер у гэтых газетах нічога, зусім Нічога няма. А з наборнай выходзіць пан вярстальшчык і кажа з дакорам:

— Панове, панове, у нас яшчэ няма на заўтра перадавога артыкула.

— Ну дык дайце… той артыкул … пра эканамічную сітуацыю ў Балгарыі, — раіць адзін з тых, хто застаўся.

Пан вярстальшчык цяжка ўздыхае:

— А хто гэта будзе чытаць, пан рэдактар? Ужо сёння ва ўсёй газеце няма Нічога да Чытання.

Шэф тых, хто застаўся ў рэдакцыі ўзняў вочы да столі, нібы там можна было знайсці Нешта да Чытання.

— Калі б тут Нешта здарылася, — няўпэўнена прапануе адзін з іх.

— Альбо у нас… нейкі … цікавы рэпартаж, — выказвае думку другі.

— Пра што?

— Не ведаю.

— Альбо прыдумаем … нейкі новы вітамін, — бурчыць трэці.

— Цяпер, улетку? — здзіўляецца чацвёрты.

— Чалавеча, вітаміны — гэта прадукт навукі і ён падыходзіць хутчэй на восень.

— Калі такая гарачыня, — пазяхае пяты. — То павінна быць нешта з палярных краёў.

— Але што?

— Так. Нешта накшталт таго, як пра эскімоса Вельцля. Пальцы таго ўмерзлі ў лёд і падобныя рэчы.

— Лёгка сказаць, — скажа шосты. — Але дзе гэта ўзяць?

У рэдакцыі запанавала безнадзейная цішыня.

— Я быў у нядзелю ў Евічку… — азваўся нерашуча пан вярстальшчык.

— Ну?

— Там цяпер у адпачынку нейкі капітан Вантох. Ён там нарадзіўся, у тым Евічку.

— Які Вантох?

— Такі тоўсты. Ён маркі капітан, той Вантох. Казалі, што недзе здабываў жэмчуг.

Пан Галомбэк паглядзеў здзіўлена на пана Валенту.

— А дзе здабываў?

— На Суматры... і на Целебесу... наогул, там недзе. І там ён жыў трыццаць гадоў.

— Чалавеча, гэта ідэя, — сказаў пан Валента. — Гэта мог бы быць прамы рэпартаж. Галомбэк, паедзем?

— Ну, можам паспрабаваць, — скрывіўся пан Галомбэк і злез са стала, на якім сядзеў.

— Гэты пан тут, — сказаў адміністратар гатэля ў Евічку.

У садзе ля стала сядзеў тоўсты з шырока расстаўленымі нагамі пан у белай фуражцы; ён піў піва і задуменна крэсліў тоўстым указальным пальцам па стале. Абодва паны накіраваліся да яго.

— Рэдактар Валента.

— Рэдактар Галомбэк.

Тоўсты пан узняў вочы:

— What? Што?

— Я — рэдактар Валента.

— А я — рэдактар Галомбэк.

Тоўсты пан паважна прыўстаў.

— Captain van Toch. Very glad[8]. Сядайце, хлопцы.

Абодва паны з задавальненнем прыселі і паклалі перад сабою блакноты.

— І што будзеце піць, хлопцы?

— Малінаўку, — сказаў пан Валента.

— Малінаўку? — паўтарыў капітан недаверліва. — А чаму? Гаспадар, прынясіце ім піва. Дык што вы, уласна, хочаце? — спытаў і абапёрся локцямі на стол.

— Ці праўда гэта, пан Вантох, што Вы тут нарадзіліся?

— Ja[9]. Нарадзіўся.

— Калі ласка, раскажыце, як вы трапілі на мора?

—Ну, vJa Hambarg.

— А як доўга вы з'яўляецеся капітанам?

— Дваццаць гадоў, хлопец. У мяне тут дакумент, — сказаў, дакрануўшыся да сваёй нагруднай кішэні. — Магу паказаць.

Пан Галомбэк хацеў паглядзець, як выглядаюць дакументы капітана, але заглушыў жаданне.

— Напэўна, пан капітан, за гэтыя дваццаць гадоў Вы паглядзелі вялікі кавалак свету, ці не так?

— Ja. Вялікі кавалак. Ja.

---

[8] Капітан ван Тох. Вельмі прыемна (англ.)

[9] Так (ням.)

— І што канкрэтна?

— Ява. Барнэо. Філіпіны. Fidji Islands. Solomon Islands. Carolines. Samoa. Damned Clipperton Islands. A lot of damned islands[10], хлопцы. А што?

— Ды так, гэта вельмі цікава. Мы хацелі б ад Вас нешта даведацца болей, разумееце?

— Ja. Значыць проста так? — капітан узняў на іх свае светла-блакітныя вочы. — Ну, вы як гэта? З паліцыі? Ці не так?

— Не, пан капітан. Мы з газеты.

— Ах вось што, з газеты. Рэпарцёры, ці не? Тады пішыце: "Captain I. van Toch, капітан карабля "Кандонг Бандунг"..."

— Як?

— "Кандонг Бандунг", порт Сурабайя. Мэта падарожжа: vacunces — як гэта называецца?

— Адпачынак.

— Ja, ліха яго бяры, адпачынак. Ну дык і напішыце ў сваёй газетцы, хто прыплыў. А цяпер схавайце свае блакноты, хлопцы. Your health[11].

— Пан Вантох, мы прыехалі да Вас, каб Вы нам апавядалі пра сваё жыццё.

— Навошта?

— Напішам у газеце. Людзей гэта вельмі цікавіць, яны любяць чытаць пра далёкія астравы, пра тое, што там бачыў і што перажыў у гэтых краях іх суайчыннік, чэх, родам з Евічка...

Капітан паківаў галавою.

— Гэта праўда. Хлопцы, я адзіны Captain з усяго Евічка. Гэта так. Ёсць яшчэ адзін капітан ад ... ад каруселяў, але я думаю, — дадаў ён даверліва, — што гэта несапраўдны Captain. Усё вымяраецца па танажу, разумееце?

— А які танаж меў ваш карабель?

— Дванаццаць тысяч тон, хлопец.

— То вы былі самавітым капітанам, ці не так?

— Ja, паважны, — сказаў капітан з годнасцю, — хлопцы, ці ёсць у вас грошы?

Абодва паны паглядзелі адзін на аднаго трохі няўпэўнена.

— Ёсць, але мала. Вам патрэбны грошы, капітан?

— Ja. Мне ... патрэбныя.

— Ну дык бачыце. Калі Вы нам цікава раскажаце, мы напішам пра Вас у газету, і Вы атрымаеце грошы.

— Колькі?

— Магчыма ... нейкую тысячу, — паабяцаў шчодра пан Галомбэк.

— O pounds of sterling?[12]

— Не, толькі ў кронах.

---

[10] Астравы Фіджы. Саламонавы астравы. Караліны. Самоа. Прakляты востраў Кліпертона. Шмат праклятых астравоў (англ.)

[11] Ваша здароўе (англ.)

[12] Фунтаў стэрлінгаў? (англ.)

Капітан ван Тох пакруціў галавой.

— Тады не. У мяне гэтулькі ёсць, хлопцы.

Ён выцягнуў з кішэні штаноў тоўсты пакет банковак.

— See?[13]

Потым абапёрся локцямі на стол і нахіліўся да абодвух паноў.

— Панове, у мяне для вас мог бы быць big business. Як гэта сказаць, каб было зразумела?

— Буйная здзелка.

— Ja. Буйная здзелка. Вам трэба было б даць мне пятнаццаць ... пачакайце, пятнаццаць-шаснаццаць мільёнаў крон. Ну, як?

Абодва паны зноў пагледзелі адзін на аднаго няўпэўнена. У рэдактараў заўсёды ёсць вопыт зносін з разнастайнымі відамі вар'ятаў, аферыстаў і вынаходнікаў.

— Пачакайце, — сказаў капітан, — я вам нешта магу паказаць.

Ён парыўся тоўстымі пальцамі ў кішэні камізэлькі, выцягнуў нешта і паклаў на стол. Гэта былі пяць ружовых жамчужын, велічынёй з гарэшкі.

— Што гэта? — выдыхнуў пан Валента.

— Ja, lots of money[14], хлопцы. Але я пану толькі... каб паказаць, як узор. Ну дык што, па руках? — пытаўся ён, падаючы цераз стол сваю шырокую далонь.

Пан Галомбэк уздыхнуў.

— Пан Вантох, столькі грошай...

— Halt[15], — абарваў яго капітан. — Я разумею, што ты мяне не ведаў раней, але запытайся пра Captain van Tocha ў Сураваі, у Батавіі, у Падангу альбо дзе хочаш. Ідзі і спытай, і кожны табе скажа, што Captain van Toch, he is good as his word[16].

— Пан Вантох, мы Вам верым, — пратэставаў пан Галомбэк, — але ...

— Пачакай, — сказаў капітан. — Я ведаю, што ты не хочаш даць свае цудоўныя грошы проста так, за гэта цябе хвалю, хлопец. Але ці дасі іх на карабель, see? Ты купіш карабель, ты будзеш ship-owner[17] і мяне возьмеш з сабою, і пабачыш, як я на ім гаспадарнічаю. Але тыя грошы, што мы заробім, падзелім fifty-fifty[18]. Гэта сумленны бізнес, ці не?

— Але пан Вантох, — прамовіў нарэшце пан Галомбэк крыху сарамліва, — У нас няма столькі грошай!

— Ja, тады іншая справа, — сказаў капітан. — Sorry. Але я не разумею, панове, навошта вы да мяне прыйшлі.

— Каб Вы нам апавядалі, капітан. У Вас, пэўна, такі вялікі жыццёвы вопыт...

— Ja, гэта маю, хлопцы. Пракляты жыццёвы вопыт я маю.

---

[13] Бачылі? (англ.)

[14] Шмат грошай (англ.)

[15] Спыніцеся! (ням.)

[16] Капітан ван Тох заўсёды верны свайму слову (англ.)

[17] Гаспадаром судна (англ.)

[18] Пароўну (англ.)

— Перажылі некалі крушэнне карабля?

— What? Як ship-wreching? Не. Што думаеш? Калі мне дасі добры карабель, дык з ім не можа нічога здарыцца. Нарэшце можаш запытацца ў Амстэрдаме на маё reperences. Ідзі і запытайся.

— А што Вы скажаце пра туземцаў, Вы ж пазнаёміліся, пэўна, там з туземцамі?

Капітан ван Тох пакруціў галавой.

— Гэта не пра адукаваных людзей. Я не буду апавядаць.

— Ну дык раскажыце нам нешта іншае.

— Я раскажу, — прабурчэў капітан недаверліва. — А вы потым прададзіце гэтыя звесткі нейкай кампаніі, і яна пашле туды свае караблі. Я табе скажу, my lad[19], што людзі — вялікія злодзеі. А самыя вялікія злодзеі — гэта банкіры ў Каломбо.

— Ці часта вы бывалі ў Каломбо?

— Ja, часта. І ў Бангкоку таксама, і ў Маніле. Хлопцы, — спыніўся ён нечакана, — Я ведаў толькі адзін карабель. Надзвычай добры карабель і дастаткова танны. Ён цяпер у Ратэрдаме. З'ездзіце на яго паглядзець. Ратэрдам — гэта там, — паказаў ён пальцам цераз плячо. — Цяпер караблі надзвычай танныя, хлопцы. Як старое жалеза. Карабель мае шэсць гадоў і ў яго дызельны матор. Ці хочаце на яго паглядзець?

— Не можам, пан Вантох.

— Вы дзіўныя людзі, — уздыхнуў капітан і гучна высмаркаўся ў блакітна-сінюю насоўку. — А ці не ведаеце вы кагосьці, хто хацеў бы купіць нейкі карабель?

— Тут, у Евічку?

— Ja, тут або недзе паблізу. Я і хацеў бы, каб тыя буйныя даходы прыйшлі сюды, у my country[20].

— Гэта ж цудоўна, капітан…

— Ja. Яны, тыя спадарожнікі, вялікія злодзеі. І ў іх няма грошай. Вы як newspapers[21] павінны ведаць вялікую колькасць людзей, такіх, як банкіры і ship-owners, як пра іх кажуць, гаспадары караблёў, ці не?

— Гаспадары караблёў. Не ведаем іх, пан Вантох.

— Гэта шкада, — засмуціўся капітан.

Пан Галомбэк пра нешта прыгадаў.

— Ці не ведаеце Вы пана Бондзі?

— Бондзі? Бондзі? — перабіраў у памяці капітан ван Тох. — Пачакай, гэтае імя я павінен быў ведаць. Бондзі. Ja, у Лондане ёсць нейкая Bond Street, і там жывуць надзвычай багатыя людзі. Ці не мае там нейкую кантору на той Bond Street гэты пан Бондзі?

— Не, ён жыве ў Празе, але нарадзіўся, я думаю тут, у Евічку.

---

[19] Хлопец (англ.)

[20] Мая радзіма (англ.)

[21] Газетчыкі (англ.)

— Ліха яго бяры, — загудзеў капітан радасна, — ты маеш праўду, хлапец. Гэта той, хто трымаў на кірмашы мануфактурная краму. Ja. Бондзі... як жа яго клікалі? Макс Макс Бондзі. Дык ён цяпер гандлюе ў Празе?

— Не, гэта быў, пэўна, яго бацька. Цяперашняга клічуць G.H. Prezident G.H. Bondy, капітан.

— Г.Х., — пакруціў галавою капітан. — Г.Х. тады не быў ніякім Г.Х. Мабыць гэта быў Густль Бондзі... але гэта не быў ніякі прэзідэнт. Густль быў такім вяснушкаватым яўрэем. Гэта не можа быць ён.

— Гэта ён, пан Вантох. Прайшло шмат гадоў, як вы не бачыліся.

— Ja, кажаш праўду. Даўно гэта было, — пагадзіўся капітан. — Сорак гадоў, хлопча. Так што магчыма, што той Густль ужо вырас. А кім ён з'яўляецца?

— Ён — прэзідэнт управы MEAS, ведаеце, гэта буйныя заводы па вытворчасці катлоў і іншых падобных рэчаў. Ну, з'яўляецца старшынёй амаль дваццаці таварыстваў і карусляў... Вельмі важны пан, пан Вантох. Яго называюць капітанам нашай прамысловасці.

— Капітанам? — здзівіўся Captain van Toch. — Значыць я не з'яўляюся адзіным капітанам з Евічка! Ліха яго бяры, дык ён, Густль, таксама Captain. Трэба з ім сустрэцца. А ці ёсць у яго грошы?

— Але так. Шмат грошай, пан Вантох. Ён мае не адну сотню мільёнаў. Самы багаты чалавек у нас.

Капітан ван Тох адразу стаў сур'ёзным.

— І таксама Captain. Дзякую, хлопча. Ну і я да яго паплыву, да гэтага Бондзі. Ja, Густль Бонда. I know[22]. Такі быў маленькі яўрэйскі хлопчык. А цяпер гэта Captain G.H. Bondy. Ja, ia, як ляціць час, — уздыхнуў ён меланхалічна.

— Пан капітан, нам неабходна пайсці, а то мы спознімся на вячэрні цягнік...

— То я вас правяду да прыстані, — заявіў капітан і пачаў здымацца з якара. — Вельмі рады, што вы прыехалі, панове. Я знаёмы з адным рэдактарам у Сурабаі, добры хлапец, ja, a good friend of mine[23]. Страшэнны п'яніца, хлопцы. Калі б вы пажадалі, то я вам знайшоў бы месца ў газеце ў Сурабаі. Не? Ну, як хочаце.

І калі ўжо цягнік пайшоў, памахаў памалу і ўрачыста капітан ван Тох вялізнай сіняй насоўкай. Пры гэтым у яго выпала адна вялікая няправільнай формы жамчужына ў пясок. Жамчужына, якую ніхто ніколі не знайшоў.

**Г.Х. Бондзі і яго зямляк**

Як вядома, чым больш важны пан, тым менш ён мае напісанага на шыльдзе на сваіх дзвярах. Стары пан Макс Бондзі ў Евічку павінен быў мець над крамай, па баках дзвярэй і на вокнах вялікімі літарамі напісанае, што тут

---

[22] Я ведаю (англ.)
[23] Мой вялікі сябар (англ.)

Макс Бондзі мае краму з разнастайнымі мануфактурнымі таварамі — пасаг для маладой, пасцельную бялізну, рушнікі, рушнікі для посуду, абрусы і пакрывалы, сіцец і баціст, сукно, шоўк, гардзіны, ламбрыкены, махры і ўсялякія неабходныя прылады для шыцця. Заснавана ў 1885 годзе. Яго сын, Г.Х. Бондзі, капітан прамысловасці, прэзідэнт таварыства МЕАС, камерцыйны дарадчык, член біржавога камітэта, віцэ-старшыня саюза прамыслоўцаў, Consulado de la Republica Ecuador[24], член шматлікіх упраў і г.д., і г.д., мае на сваім доме толькі малую чорную шкляную шыльду з залатым надпісам:

**Бондзі**

Нічога болей. Толькі Бондзі. Няхай іншыя пішуць на сваіх брамах Юліус Бондзі, прадстаўнік фірмы General Motors, альбо "Доктар медыцыны Эрвін Бондзі", альбо "С. Бондзі і кампанія", але ёсць толькі адзіны Бондзі, які проста Бондзі, без усялякіх падрабязнасцяў. (Думаю, што Рымскі Папа мае на сваіх дзвярах напісана проста Пій, і ніякіх тытулаў або лічбаў. А Бог не мае ніякай шыльды ні на небе, ні на зямлі. Дык мусіш, чалавеча, даведацца сам, што Ён тут жыве. Але сюды гэта не мае ніякіх адносінаў і мы закранулі толькі мімаходзь.)

Перад гэтай шкляной шыльдай у адзін спякотны дзень спыніўся пан у белай марской фуражцы і выцер блакітнай насоўкай магутную шыю. Ён у думках праклінаў велічны дом, пакуль з няўпэўненасцю націскаў медную кнопку званка.

У дзвярах узнік швейцар Павондра, які вымераў вачыма тоўстага пана ад ботаў да залатога галуна на фуражцы і стрымана сказаў:

— Да вашых паслуг?

— Тут, хлопча, — прагрукатаў пан, — жыве нейкі пан Бондзі?

— Што патрэбна? — спытаў халодна пан Павондра.

— Скажыце яму, што з ім хоча пагаварыць Captain van Toch ze Surabaja. Ja, — успомніў ён, — вось мая картка. І ён падаў пану Павондры картку, на якой быў намаляваны якар і надрукавана імя:

▼

Captain I. van Toch
EI&P.L. CoS
Kandong Bandoeng
Surabaya Naval Club

Пан Павондра нахіліў галаву і вагаўся. Ці не сказаць яму, што пана Бондзі няма дома? Альбо: шкада, але пан Бондзі знаходзіцца на вельмі важным паседжанні? Ёсць візіты, якія трэба агучыць, а з іншымі тут разумны швейцар вырашае сам. Пан Павондра адчуваў інстынктыўна няёмкасць, звычайна ў падобных выпадках ён даваў сабе раду, але гэты тоўсты пан неяк не ўваходзіў у звычайную катэгорыю неаб'яўленых візітаў, ён не быў падобны ні на камівояжора, ні на прадстаўніка дабрачыннага таварыства. А капітан ван Тох у гэты час пыхкаў і выціраў насоўкай лысіну, пры гэтым

---

[24] Консул Рэспублікі Эквадор (ісп.)

так бясхітрасна мігаў светла-блакітнымі вачыма... Пан Павондра раптам вырашыў, што за гэты візіт ён цалкам ускладае на сябе адказнасць.

— Праходзьце далей, — сказаў ён, — я паведамлю пану саветніку пра вас.

Captain I. van Toch, выціраючы блакітнай насоўкай лоб, агледзеў вестыбюль. Ліха яго бяры, усё ў гэтага Густля схоплена, бо мае салон як на тых караблях, што прыходзяць з Ратэрдама ў Батавію. Жахлівую колькасць грошай гэта каштуе. А такі быў маленькі вяснушчаты яўрэйскі хлопчык, здзіўляўся капітан.

А ў гэты час Г.Х. Бондзі разглядаў задумліва ў сваім кабінеце картку капітана.

— Што ён хоча? — запытаўся падазрона.

— Не ведаю, прабачце, — мармытаў ветліва пан Павондра.

Пан Бондзі зноў патрымаў у руцэ картку. Намаляваны карабельны якар. Captain I. van Toch, Surabaja... дзе, уласна кажучы, знаходзіцца Сурабая? Мабыць, недзе на Яве? На пана Бондзі дыхнула далеча. "Кандонг Бандунг" гучыць нібы ўдар гонгу. Сурабая. І сёння такі трапічны дзень. Сурабая.

— Дык прывядзіце яго сюды, — кажа пан Бондзі.

У дзвярах стаіць магутны мужчына ў капітанскай фуражцы і салютуе. Г.Х. Бондзі ідзе яму насустрач.

— Very glad to meet you, Captain. Please, come in[25].

— Прывітанне, прывітанне, пан Бондзі, — радасна прамаўляе капітан.

— Вы чэх? — здзіўляецца пан Бондзі.

— Ja. Чэх. Мы ж знаёмыя, пан Бондзі. З Евічка. Гандляр мукой і крупамі Вантох, do you remember?[26]

— Праўда, праўда, — радуецца гучна Г.Х. Бондзі, але прытым адчувае сябе падманутым. (Дык ён не галандзец!)

— Гандляр крупамі і мукой на кірмашах, так? Зусім не змяніўся, пан Вантох! Усё такі, як быў! Ну дык што, як ідуць справы з продажам крупаў?

— Thanks, — адказаў капітан ветліва, — бацька ўжо даўно сканаў, як гэта кажуць...

— Памёр? Але, але! Праўда, дык Вы будзеце яго сынам...

Вочы пана Бондзі ажылі раптоўна успамінам.

— Дарагі мой, дык вы, пэўна, той Вантох, з якім я біўся, калі мы былі хлапчукамі?

— Ja, гэта я, пан Бондзі, — пагадзіўся капітан са значэннем. — Ва ўсякім разе за гэта мяне выправілі з дому ў Мараўскую Астраву.

— Мы часта біліся. Але Вы былі мацнейшым за мяне, — пагадзіўся пан Бондзі, як спартсмен.

— Ja, гэта быў я. Вы былі такім слабым яўрэйскім хлопчыкам, Бондзі. І добра атрымлівалі па заду. Шмат разоў.

---

[25] Вельмі ўсцешаны, што пазнаёміўся з вамі, капітан. Заходзьце, калі ласка (англ.)

[26] Памятаеце? (англ.)

— Атрымліваў, гэта праўда, — заглыбіўся ва ўспаміны Г.Х. Бондзі пакорліва. — Сядайце, зямляк! Як добра, што Вы пра мяне ўспомнілі! Адкуль Вы тут?

Капітан ван Тох з годнасцю ўсеўся ў скуранoе крэсла і фуражку паклаў на падлогу.

— Я ў адпачынку, пан Бондзі. Вось так. That's so[27].

— Ці памятаеце, — паглыбляўся ва ўспаміны пан Бондзі, — як Вы крычалі мне: яўрэй, яўрэй, ці чорт па цябе прыйдзе?

— Ja, — са штучнай важнасцю сказаў капітан і затрубіў з пачуццём у блакітную насоўку. — Ах, ja. Гэта быў добры час, хлопец. Што зробіш, ён застаўся ззаду. Цяпер мы абодва старыя і абодва Captains.

— Праўда, Вы капітан, — прыгадаў пан Бондзі. — Хто б пра гэта калі падумаў! Captain of Long Distances[28] — здаецца, так ці не?

— Yah, sir. A highscaer. East India and Pacific Lines, sir[29].

— Цудоўная прафесія, — уздыхнуў пан Бондзі. Сёння б я з вамі памяняўся, капітан. Вы павінны мне расказаць пра сябе.

— Гэта так, — ажывіўся капітан, — Я хацеў бы вам пра нешта расказаць, пан Бондзі. Вельмі цікавая рэч, хлопец.

Капітан ван Тох неспакойна азірнуўся.

— Нешта шукаеце, капітан?

— Ja. Ты не п'еш ніякага піва, пан Бондзі. А я на дарозе з Сурабаі адчуў такую смагу, — капітан пачаў выграбаць з вялікай кішэні штаноў і выцягнуў блакітную насоўку, палатняны мяшочак з нечым, кісет з табаком, нож, компас і пачак банкнотаў. — Я паслаў бы каго-небудзь за півам. Мабыць, таго сцюарда, што вёў мяне сюды, у тваю каюту.

Пан Бондзі зазваніў.

— Не турбуйцеся, капітан. А пакуль запаліце цыгару.

Капітан узяў цыгару з чырвонай і залатой палоскай і панюхаў яе.

— Гэта табак з Ламбока. Там жывуць вялікія злодзеі, што тут зробіш.

Потым да жаху пана Бондзі размяў каштоўную цыгару ў сваёй магутнай руцэ і насыпаў пакрошаны табак у люльку.

— Ja. Ламбок. Альбо Шумба.

У гэты час у дзвярах ціха з'явіўся пан Павондра.

— Прынясіце нейкага піва, — загадаў пан Бондзі.

Пан Павондра ўзняў бровы.

— Піва? А колькі?

— Галон, — буркнуў капітан, і, кінуўшы абгарэлую запалку на дыван, затаптаў яе.

— У Адэне было надзвычай спякотна, хлопец. — Дык вось, у мяне такія навіны, пан Бондзі. З Sunda Islands, see[30]? Там у мяне была казачная

---

[27] Вось так (англ.)

[28] Капітан дальняга плавання (англ.)

[29] Так, сэр. Плаваю ў адкрытым моры. Ост-Індыя і Ціхаакіянскія лініі, сэр (англ.)

[30] Зондскі архіпелаг, разумееце? (англ.)

здзелка, пан. A big business. Але калі б мусіў расказаць пра ўсё, то атрымалася б story, як гэта сказаць?

— Апавяданне.

— Ja. Вось якое апавяданне, пан. Пачакайце, — капітан узняў да столі свае незабудкавыя вочы. — Я не ведаю, з чаго пачаць.

(Зноў нейкая крама, падумаў Г.Х. Бондзі. Божа, як абрыдла! Ён мне раскажа, як прывезці швейныя машыны на Тасманію або паравыя катлы і шпількі на Фіджы. Цудоўная крама, я ведаю. Пра гэта я чуў шмат разоў. Але ў чорта на куліčках я гандляваць не буду. Я летуценнік. Я своеасаблівы паэт. Раскажы мне, марак Сіндзібад, пра Сурабаі або пра Феніксавы астравы. Ці не прыцягнула да сябе Магнітная гара, ці не знёс у сваё гняздо птах Нох? Ці не вяртаешся ты з грузам жэмчуга, карыцы і безоара? Ну так, чалавеча, пачні маніць!)

— Ну дык я пачну з гэтага яшчара, — заявіў капітан.

— З якога яшчара? — здзівіўся камерцыйны саветнік Бондзі.

— Ну, з тых скарпіёнаў. Як гэта кажуць, Lizards.

— Яшчаркі?

— Ja, ліха на яго, яшчаркі. Такія яшчаркі там, пан Бондзі.

— Дзе?

— На адным з тых астравоў. Я не магу назваць, хлопча. Гэта вялікі сакрэт, worth of millions[31]. — Капітан ван Тох выцер насоўкай лоб, — Ліха яго бяры, дзе тое піва?

— За хвіліну будзе, капітан.

— Ja. Ну добра. Каб Вы ведалі, пан Бондзі, наколькі гэта мілыя і паслухмяныя звяры, тыя яшчаркі. Я гэта ведаю, хлопча, — капітан хлопнуў рэзка па стале. — А тое, што гэта былі чэрці, гэта мана. A damned Lie, sir[32]. Хутчэй Вы або я чорт, я, Captain van Toch, пан. Можаце мне паверыць.

Г.Х. Бондзі напалохаўся. Белая гарачка, сказаў ён сам сабе. Дзе гэты праклятЫ Павондра?

— Іх там некалькі тысяч, тых яшчарак, але ж яны і добра жэрлі тых, як гэта кажуць, sharks.

— Акул?

— Ja, акул. Гэтыя яшчаркі надзвычай рэдка сустракаюцца, пан, і толькі ў тым самым месцы, у тым заліве, які я не магу назваць.

— Дык тыя яшчаркі жывуць у моры?

— Ja, у моры. Толькі ноччу вылазяць на бераг, але праз хвіліну яны зноў знікаюць у вадзе.

— А як выглядаюць? (Пан Бондзі не мог дачакацца, пакуль вернецца той праклятЫ Павондра.)

— Ну, вялікія, як цюлені, але калі ўздымаюцца на заднія лапы, дык выглядаюць вось такімі, — апісаў капітан. — Каб сказаць, што прыгожыя, дык не. У іх няма ніякага шалупіння.

---

[31] Цана яму — мільёны (англ.)

[32] Праклятая мана, сэр! (англ.)

— Лускі?

— Ja, шалупіння. Яны абсалютна голыя, пан Бондзі, як нейкія жабы або саламандры. А тыя іх пярэднія лапы, выглядаюць, як рукі дзяцей, але маюць толькі чатыры пальцы. Гэта такія бедныя, — дадаў капітан са спачуваннем, — Але вельмі кемлівыя і мілыя звяры, пан Бондзі. — Капітан стаў на кукішкі і ў гэтай пазіцыі стаў перавальвацца з нагі на нагу. — Вось так яны ходзяць, тыя яшчаркі.

Капітан паспрабаваў надаць свайму магутнаму целу на кукішках хвалістыя рухі, пры гэтым ён трымаў рукі перад сабой, як трымае лапы сабака, што стаіць на задніх лапах і "служыць", і глядзеў на пана Бондзі незабудкавымі вачыма, якія выказвалі просьбу аб сімпатыі. Г.Х. Бондзі быў надзвычай усхваляваны і па-чалавечы сканфужаны. Акрамя таго ў дзвярах ціха з'явіўся пан Павондра са жбанам піва і ўзняў з абурэннем бровы, назіраючы за непрыстойнымі дзеяннямі капітана.

— Пастаўце піва і ідзіце прэч, — выпаліў пан Бондзі паспешліва.

Капітан узняўся і сапеў.

— Вось такія гэтыя звяры, пан Бондзі. Your health, — сказаў і выпіў піва. — Піва ты маеш добрае, хлопча. Гэта праўда, такі дом, які маеш ты… — капітан выцер вусы.

— А як ты знайшоў гэтых яшчарак, капітан?

— Гэта і ёсць мой аповед, пан Бондзі. Гэта адбылося тады, калі я шукаў жэмчуг на Тана Маса… — капітан спыніўся. — Альбо там недзе. Ja, гэта быў нейкі іншы востраў, але гэта мой сакрэт, хлопец. Людзі вялікія злодзеі, пан Бондзі, і чалавек вымушаны трымаць язык за зубамі. А калі тыя два праклятыя сінгалезцы рэзалі пад вадой shells ад тых жамчужын…

— Ракавіны?

— Ja. Такія ракавіны, што прыліпаюць да камянёў моцна, як яўрэйская вера, і таму трэба іх адразаць нажом. Пры гэтым яшчаркі на тых сінгалезцаў глядзелі. А сінгальцы вырашылі, што гэта марскія чэрці. Гэта неадукаваныя людзі, сінгалезцы і батакі. Таму і кажуць, што там чэрці. Ja. — капітан гучна затрубіў у насоўку. — Ведаеш, хлопча, што чалавеку не хапае. Я не ведаю, ці толькі мы, чэхі, такі цікаўны народ, але дзе б я ні сустрэў нашага земляка, дык заўсёды паўсюль суне свой нос, каб даведацца, што за тым ёсць. Я думаю, што гэта адбываецца таму, што мы, чэхі, не хочам ні ў што верыць. Вось чаму я вырашыў сваёй старой дурной галавой, што павінен на тых чарцей паглядзець бліжэй. Я быў п'яны, праўда, але гэта таму, што цікаўнасць заўсёды для мяне была характэрнай. Там, унізе на экватары, гэта можна, чалавеча. Дык вось, пайшоў я ўвечары паглядзець на той Дэвл Бэй…

Пан Бондзі паспрабаваў уявіць гэтую бухту ў тропіках, якую акалялі скалы і першабытны лес.

— Ну, што?

— Дык сяджу там і раблю тс-тс-тс, каб тыя чэрці прыйшлі. І ведаеш, хлопча, праз хвіліну вылезла з мора адна такая яшчарка, стала на заднія ножкі і завярцелася ўсім целам. І зрабіла тс-тс-тс. Калі б я не быў п'яны, то

выстраліў бы ў яе, але я быў, дружа, наліты, як англічанін, і таму кажу: хадзі сюды, хадзі ты, tapa-boy, я не хачу цябе пакрыўдзіць.

— Вы з ім размаўлялі па-чэшску?

— Не, па-малайску. Там часцей гавораць па-малайску, хлопча. Ён нічога не робіць, толькі пераступае з нагі на нагу і круціцца, як дзіця, калі саромеецца. А вакол у вадзе было пару соцень тых яшчарак, і яны высунулі з вады свае мысы і глядзелі на мяне. А я, праўда, быў п'яны, таму сеў на кукішкі і пачаў круціцца, як яшчарка, каб яны мяне не баяліся. Потым з вады вылезла другая яшчарка, рост мела, як дзесяцігадовы хлопец, і таксама пачала так тупаць. А ў пярэдняй лапе ён трымаў жамчужную ракавіну. — Капітан адпіў піва. — Ваша здароўе, пан Бондзі. Праўда, я быў наліты цалкам, і таму кажу яму: — Ты, хітрун, ты хочаш, каб я гэтую ракавіну адкрыў, ja? Дык хадзі сюды, я табе магу яе сваім нажом адкрыць. Але ён нічога, увесь час не мог адважыцца. Дык я і пачаў зноў круціцца, нібы маленькая дзяўчынка, якая перад некім саромеецца. Тады ён прытупаў бліжэй, а ■ ціхенька працягнуў руку і ўзяў ракавіну з яго лапы. Шчыра сказаць, баяліся мы абодва, ты толькі ўяві сабе, пан Бондзі, але я быў п'яны, гэта праўда. Дык я ўзяў свой нож і тую ракавіну адкрыў, памацаў пальцам, ці не ляжыць там жамчужына, але яе там не было, а толькі слізь, такі слізкі малюск, якія і жывуць у тых ракавінах. Трымай, кажу, тс-тс-тс, зжары гэта, калі хочаш. І кідаю яму адкрытую ракавіну. Ты б паглядзеў, хлопча, як ён яе вылізаў. Гэта мусіць з'яўляецца для яшчарак выключным titbit, як гэта кажуць?

— Ласунак.

— Ja, ласунак. Толькі яны, бедныя малыя, не могуць цвёрдыя ракавіны пальцамі раскалоць. Гэта цяжкае жыццё, ja. — Капітан адпіў піва. — Я потым усё гэта расклаў у сваёй галаве, хлопец. Калі гэтыя яшчаркі бачылі, як сінгалезцы рэжуць ракавіны, дык яны вырашылі: ага, яны іх жаруць, і хацелі паглядзець, як сінгалезцы будуць іх адкрываць. Сінгалезец у вадзе здаецца падобным да яшчаркі, але такая яшчарка хітрэйшая за сінгалезца або батака, таму што нечаму хоча навучыцца. А батак ніколі не спасцігне нічога, акрамя ўмення рабаваць, — дадаў капітан І. ван Тох абурана. — І калі я на тым беразе рабіў тс-тс-тс і круціўся, як яшчарка, дык яны, пэўна, думалі, што перад імі нейкая вялікая саламандра. Менавіта таму яны мяне не баяліся і падыходзілі, каб я адкрыў ім ракавіну. Такія гэта разумныя і даверлівыя звяркі. — Капітан ван Тох пачырванеў. — Калі я з імі бліжэй пазнаёміўся, пан Бондзі, дык я распранаўся зусім, каб быць падобным да іх, але іх увесь час здзіўляла, што ў мяне валасатыя грудзі і такія гэтыя рэчы. Ja. — Капітан правёў насоўкай па пабарвавелай шыі. — Але я не ведаю, можа, мой аповед надзвычай доўгі. Пан Бондзі.

Г.Х. Бондзі быў зачараваны.

— Не, не. Працягвайце далей, капітан.

— Дык добра, я працягваю. Калі тая яшчарка вылізала ракавіну, то іншыя на яе глядзелі і лезлі на бераг. Некаторыя таксама трымалі ракавіны ў лапах, — гэта было дастаткова дзіўна, хлопча, што яны змаглі адарваць іх

ад гэтых clibts[33] такімі дзіцячымі ручкамі без пальца. Яны хвіліну саромеліся, а потым дазволілі ракавіны з лап узяць. Праўду сказаць, не былі гэта ракавіны з жэмчугам, такія абы-якія мне не падабаліся, запоўненыя нікуды не вартымі ўстрыцамі і без іх, таму я кідаў іх у ваду і казаў: "Не, дзеці, яны нічога не вартыя, і я іх вам сваім нажом адкрываць не буду". Але калі гэта была жамчужная ракавіна, дык я сваім нажом яе адкрываў і правяраў, ці няма там жамчужыны. І гэтую ракавіну я даваў ім, каб вылізвалі. Выкол мяне сядзелі дзве сотні тых lizards і глядзелі, як я адкрываю. А некаторыя спрабавалі самі, як раскалоць ракавіну нейкай скарлупкай, што там побач ляжала. Гэта мяне вельмі здзівіла, хлопча. Ніякая жывёла не можа працаваць з інструментамі: што паробіш, жывёлы, гэта закон прыроды. Праўда, у Байцензоргу я бачыў малпу, якая змагла адкрыць нажом такі tin, бляшанку з кансервамі, але малпа не з'яўляецца звычайнай жывёлай, пан. Праўда, дзіўна мне гэта было. — Капітан зноў выпіў піва. — За тую ноч, пан Бондзі, я знайшоў у тых shells васемнаццаць жамчужын. Былі яны маленькімі і большымі і тры былі, як вішнёвыя костачкі, пан Бондзі. З костачку. — Капітан ван Тох паківаў важна галавой. — Калі я раніцой вяртаўся на свой карабель, дык сказаў сам сабе: Captain van Toch, гэта табе толькі здалося, сэр, ты быў п'яны, і г.д.; але што з таго, тады ў кішэні маёй ляжала васемнаццаць жамчужын. Ja.

— Гэта найлепшы аповед, — выдыхнуў пан Бондзі, — які я калі-небудзь чуў.

— Як бачыш, хлопча, — сказаў капітан з задавальненнем, — праз дзень я ўсё абдумаў у сваёй галаве. Я буду тых яшчарак... прыручаць ці не? Ja, прыручу і навучу, а яны мне будуць насіць pearl-shells[34]. Такім чынам я кожны вечар ішоў туды зноў, але трохі раней. Калі пачынала заходзіць сонца, дык яшчаркі высоўвалі з вады свае мысы, то тут, то там, і было іх шмат. Я сядзеў на беразе і рабіў: тс-тс-тс. Раптам гляджу, акула, толькі яе плаўнік выглядае з вады. Потым у вадзе заплясала, і адна яшчарка знікла. Я тых акул налічыў дванаццаць, калі пры заходзе сонца плылі ў Дэвл Бэй.

Пан Бондзі, тыя мярзотнікі на маіх вачах за адзін вечар зжэрлі дваццаць *маіх* яшчарак, — выгукнуў капітан і раз'юшана высмаркаўся. — Ja, аж дваццаць! Зразумела, што такая голая яшчарка з тымі лапамі не ўратуецца. Чалавек бы заліўся слязьмі, калі б на гэта глядзеў. Гэта трэба бачыць, хлопча...

Капітан задумаўся.

— Я вельмі люблю жывёл, чалавеча, — сказаў нарэшце і ўзняў блакітныя вочы на Г.Х. Бондзі. — Я не ведаю, як Вы на гэта глядзіце, Captain Бондзі...

Пан Бондзі паківаў у знак згоды.

— Гэта добра, — узрадаваўся капітан ван Тох. — Яны вельмі паслухмяныя і разумныя, тыя tapa-boys; калі ім чалавек нешта апавядае, дык слухаюць уважліва, як слухае сабака свайго гаспадара. А яшчэ іх дзіцячыя

---

[33] Рыфаў (англ.)
[34] Жамчужныя ракавіны (англ.)

рукі… ведаеш, хлопча, я стары і сям'і ў мяне няма… Ja, стары і самотны, — бурчаў капітан, перамагаючы сваё хваляванне. — Надзвычай мілыя гэтыя яшчаркі, але ж нічога не паробіш. Толькі каб акулы іх так не жэрлі! Калі я па іх, як па тых sharks, кідаў каменнем, дык яны таксама *пачалі кідаць*, тыя tapa-boys. Ты ў гэта не верыш, пан Бондзі. Праўду сказаць, далёка не траплялі, бо маюць рукі надзвычай кароткія. Але дзіўна гэта, чалавеча. Калі вы такія здольныя, хлопцы, кажу, дык паспрабуйце маім нажом адкрыць нейкую ракавіну. І паклаў нож на зямлю. Яны хвіліну саромеліся, а потым адзін з іх паспрабаваў утыркнуць нож паміж створкамі ракавіны. То трэба ўзламаць, кажу, узламаць, see? Так гэтым нажом павярнуць — і будзе зроблена. А ён увесь час спрабуе, бедны, пакуль нешта не храбуснула і ракавіна адкрылася. Вось бачыш, кажу. Не так гэта ўсё і цяжка, як здаецца. Калі гэта можа зрабіць паганы батак або сінгалезец, дык чаму гэта не ўмее tapa-boy, ці не так?… Я гэтым яшчаркам, безумоўна, не буду казаць, пан Бондзі, што гэта казачны цуд і дзіўна, калі гэта робяць такія жывёлы. Але цяпер я магу сказаць, я быў … я быў, ну, сапраўдны tlunderstruck.

— Уражаны, — падказаў пан Бондзі.

— Ja, richtik[35]. Уражаны. Гэта ў мяне так засела ў галаве, што я там, на сваім караблі, затрымаўся яшчэ на дзень. А ўвечары я зноў быў у Дэвл Бэй і зноў глядзеў, як sharks жаруць маіх яшчарак. У тую ноч я пакляўся, хлопча, што так гэтага не пакіну. Я *ім* даў слова, пан Бондзі: *Tapa-boys, Captain I. van Toch абяцае вам пад гэтымі жахлівымі зоркамі, што дапаможа.*

[35] Правільна (ням.)

## КАМЕНТАР

У вучэбны дапаможнік увайшлі вяршынныя дасягненні чэшскай прозы XIX — першай паловы XX стагоддзя, якія вызначылі асноўныя тэндэнцыі ў развіцці нацыянальнай літаратуры.

**Карэл Гінэк Маха. Віясіл Віясіловіч** (с. 10)
Пераклад казкі зроблены па выданні: Karel Hynek Mácha. Marinka a jiné prozy. Praha, 2002.

**Бажэна Немцава. Прынц Баяя** (с. 20)
Пераклад зроблены па выданні: Kouzelné české pohadky. Praha, 2007.

**Ян Нэруда. Як пан Ворэл абкурыў сваю люльку** (с. 29)
Пераклад зроблены па выданні: Jan Neruda. Povidky malostranské. Praha, 2009.

**Якуб Арбес. Шэравокі дэман** (с. 34)
Пераклад зроблены па выданні: Jakub Arbes. Romaneta. Sivooký démon. Praha, 2006.

**Карэл Клостэрман. Нешта** (с. 115)
Пераклад зроблены па выданні: Karel Klostermann. Šumavská dramata. Praha, 2007.

**Алоіс Ірасек. Бланіцкія рыцары** (с. 137)
Пераклад зроблены па выданні: Alois Jirasek. Staré pověsti české. Praha, 2003.

**Карэл Чапек. Вайна з саламандрамі** (с. 140)
Пераклад зроблены па выданні: Karel Čapek. Válka s mloky. Praha, 1976.

# ЗМЕСТ



Вучэбнае выданне

**АД ПАДАННЯ ДА РАМАНА**

**Выбраныя творы чэшскай прозы XIX — першай паловы XX стагоддзя**

Вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічнага факультэта

Складальнік **Рашэтнікава** Ніна Барысаўна

Адказны за выпуск *Т. Я. Янчук*

Падпісана ў друк 03.03.2010. Фармат $60 \times 84^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 9,53. Ул.-выд. арк. 9,9. Тыраж 100 экз. Заказ 89.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага універсітэта».
ЛИ № 02330/0494361 ад 16.03.2009. Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве
«Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага універсітэта».
ЛП № 02330/0494178 ад 03.04.2009. Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.

